Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**В.В.Швед**

# МАСОНЫ І ЛОЖЫ НА ЗЕМЛЯХ БЕЛАРУСІ (КАНЕЦ XVIII – ПЕРШАЯ ЧВЭРЦЬ XIX СТ.)

Біябібліяграфічны слоўнік

Гродна 2007

УДК 947.6 «17/18»+27(476) «17/18»
ББК 63.3 (4 Беі)5 + 86.3 (4 Беі)
Ш34

Рэцэнзенты: доктар гістарычных навук, прафесар кафедры тэорыі і гісторыі права ПУА «БІП – Інстытут правазнаўства» *А.Ф. Смалянчук*;

кандыдат культуралогіі, дацэнт, намеснік дэкана гуманітарнага факультэта ГрДУ імя Я.Купалы *С.У. Данскіх.*

Рэкамендавана саветам гістарычнага факультэта ГрДУ імя Я.Купалы.

**Швед, В.В.**

Ш34 Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст.) : біябібліягр. слоўн. – Гродна : ГрДУ, 2007. – 275 с.

ISBN 978-985-417-866-0

У першай частцы кнігі падаецца нарыс гісторыі масонства на землях Беларусі, прыводзяцца спісы братоў масонскіх ложаў. На аснове сабранага матэрыялу з архіўных і бібліятэчных сховішчаў Беларусі, Польшчы, Літвы, Расіі, Германіі прадстаўлены браты масонскіх ложаў, якія дзейнічалі на землях Беларусі ў канцы XVIII – першай чвэрці XIX ст. У дадатках прыводзяцца спіс крыніцаў і літаратуры, тлумачальны слоўнік тэрмінаў, кароткая гісторыя патаемных таварыстваў на землях Беларусі.

Дадзенае выданне спатрэбіцца не толькі гісторыкам і краязнаўцам, але і спецыялістам па генеалогіі, літаратуразнаўцам, мастацтвазнаўцам, усім, хто цікавіцца гуманітарнымі навукамі.

**УДК 947.6 «17/18»+27(476) «17/18»**
**ББК 63.3 (4 Беі)5 + 86.3 (4 Беі)**

**ISBN 978-985-417-866-0**

# СЛОВА ДА ПРАФАНАЎ

У чым толькі не абвінавачваюць масонаў: у стварэнні патаемных палітычных арганізацыяў з мэтаю авалодвання сусветнай уладаю, у захопе ўплывовых пазіцыяў у дзяржаўных і грамадскіх органах кіравання, у сферы ідэалогіі і культуры, у развале дзяржаваў і эканамічным застоі. А хто такія масоны і што такое масонства? Як прафаны (тыя, хто не ведае масонскіх таямніцаў), мы амаль нічога не ведаем пра іх.

Легенда аб Хіраме даносіць нам пра карані стварэння масонскага руху. У легендзе распавядаецца пра тое, што Хірам (Аданірам), якога запрасіў Саламон для будаўніцтва храма Богу і палаца цароў Ізраілевых у Іерусаліме, быў забіты з-за таго, што не раскрыў падмайстрам патаемнае слова (пароль), якое ведалі майстры, для таго, каб атрымоўваць аплату за зробленую працу. Забойцы муляр Фанор, цясляр Амру і рудакоп Муфасаіл былі падгавораны Саламонам, пазайздросціўшым Хіраму, якога пакахала царыца Саўская. Забойцы сустрэлі Хірама ў храме каля ўсходняга, заходняга і паўднёвага ўвахода, прымушалі адкрыць слова майстра, а потым перарэзалі яму горла будаўнічым вугольнікам і забілі малатком, стукнуўшы яго па галаве. Труп вынеслі праз заходні ўваход і пахавалі на ўзвышшы, куды ўваткнулі галіну акацыі. Праз 7 дзён Саламон вымушаны быў паслаць 12 падмайстроў на пошукі Хірама. Адзін з іх, які накіраваўся на ўсход, знайшоў па галінцы акацыі магілу. Калі выкапалі труп, убачылі, што «цела адышло ад костак», і адзін з прысутных усклікнуў: «Брат забіты!» («Макбенак» – гэтае слова стала новым паролем для майстроў). У гэтым пераказе названа шмат сімвалічных рэчаў будучага масонства: Усход, вугольнік, малаток, акацыя, храм, патаемнае слова «Макбенак», колькасць падмайстроў, напрамкі ўваходаў.

Існуе шэраг стэрэатыпаў у вызначэнні масонства. Некаторыя прадстаўляюць яго ў выглядзе сусветнай патаемнай, злачыннай і ўсемагутнай арганізацыі, якая мае мэтай дасягненне сусветнага панавання на пачатках іудзейскага вучэння аб выбраным народзе («жыдамасонская змова»). Ёсць тыя, хто паказвае масонства як аб'яднанне атэістаў, якія выступаюць супраць царквы і рэлігіі, адмаўляюць мараль і права (разнавіднасцю з'яўляецца сцвярджэнне аб дэізме масонаў, за якім схаваны атэізм і матэрыялізм). Трэція прадстаўляюць дзейнасць масонаў як наддзяржаўную змову супраць народаў. Чацвёртыя паказваюць масонаў як падпольны рэвалюцыйны рух.

Дадзім слова спецыялісту, які прысвяціў сваё жыццё навуковаму даследаванню масонства – Людвіку Хасу. У кнізе «Вольна-

мулярства ў Сярэдне-Усходняй Еўропе ў XVIII і XIX ст.» (Вроцлаў, 1982) ён прывёў два значэнні масонства. У вузкім сэнсе масонства – геаграфічна распаўсюджаныя і ўплывовыя патаемныя аб'яднанні, арганізаваныя на аснове статутных дакументаў, выдадзеных «Вялікай ложай Англіі» ці ложамі, створанымі ёю, і якія маюць у якасці асновы арганізацыйнай структуры ложы, сябры якой надзелены вызначанымі ступенямі пасвячэння ў яе справы і праводзяць свае сходы ў адпаведнасці з рытуаламі, якія прадпісаны выбраным абрадам масонства. У шырокім сэнсе масонства – самакіруемы рух, у склад якога, акрамя масонскіх ложаў (стрыжня руху), уваходзяць разнародныя аб'яднанні (якіх часам называюць парамасонскімі): акультныя (марцiністы, розенкрэйцэры, тэасофы, антрапасофы), саюзы спірытаў і метафізікаў, групы з рысамі рэлігійных сектаў, рэлігійна-філасофскія секты і г. д.

Масон – удзельнік масонскага руху, сябра асобнай арганізацыі, таварыства (ложы), назва, структура і традыцыі якой пазычаныя ад сярэдневечных цэхаў будаўнікоў-муляроў і крыжацкага ордэна рыцараў Храма Іерусалімскага (тампліераў).

У прадстаўленай чытачу кнізе змешчана толькі частка матэрыялу, сабраная аўтарам: гістарычны нарыс пра масонства на землях Беларусі і біябібліяграфічны слоўнік беларускіх масонаў. Спадзяемся, што ў хуткім часе будзе магчымасць надрукаваць і іншыя цікавыя матэрыялы.



*Мал. 1.* Фартух масона

# Частка I. ВОЛЬНЫЯ МУЛЯРЫ

## 1.1. Масонскія ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст.)

Масонства нарадзілася на пачатку XVIII ст. у Англіі. 24 чэрвеня 1717 г. у Лондане арганізавалася першая ў свеце Вялікая ложа, якая і стала крыніцай масонства ва ўсім свеце. Спачатку яно перанеслася ў Германію (першая ложа ўзнікла ў 1733 г.), затым у Амерыку (1734 г.), Італію (1735 г.) і Францыю (1736 г.) [12, с. 102, 106; 36, с. 116].

Пад юрысдыкцыяй Вялікай ложы Англіі масонства ў XVIII ст. пранікла ў Расійскую імперыю. Згодна з дакументам, датаваным 1731 г., Вялікім майстрам у Расіі быў прызначаны капітан Джон Філіпс. У 1765 г. у Пецярбурзе была створана аўтаномная структура кіраўніцтва. Асобна падкрэслім, што ядром новай масонскай арганізацыі была група католікаў. Пры Кацярыне II масонства перажыло свой «залаты век», але гэтая ж імператрыца ўказам ад 1 жніўня 1792 г. забараніла яго [22, с. 121; 12, с. 119-120; 1, с. 142].

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, у кацярынінскія часы, з'явіліся першыя масонскія ложы на тэрыторыі Беларусі. На жаль, сведчанняў пра іх няшмат. 22 мая 1770 г. у Магілёве пачала свае працы ложа «Двух Арлоў». У 1776 г. ці 1777 г. прафесар Маскоўскага універсітэта І.Е. Шварц з дазволу гросмайстра расійскіх ложаў І.П. Ялагіна заснаваў у Магілёве ложу «Геркулес у Калысцы». Пазней майстрам яе быў А.І. Вяроўкін. Працавала ложа па ялагінскай сістэме[1]. У 1784 г. гэтая ложа ўвайшла ў Правінцыяльную ложу ў Маскве. У 1778-1779 г. у Магілёве дзейнічала ложа, назва якой пакуль невядомая (майстар У. Палянскі).

Другім цэнтрам распаўсюджвання масонства на Беларусі стаў Полацк. Сюды ў 1777 г. перанесла працу ложа «Талія», якую заснаваў у 1775 г. у Маскве Вердэрэўскі. Яна прытрымлівалася шведска-

[1] Ялагінская сістэма – масонства, створанае сенатарам І.П.Ялагіным па ўзору англійскай сістэмы: да трох янаўскіх ступеняў («адзіна сапраўдных») дабаўлена нявызначаная колькасць вышэйшых ступеняў. Браты апошняй займаліся працамі разумовымі на аснове герметычнай філасофіі або тэасофіі [9, т. 2, с. 78-79].

бярлінскай сістэмы[1] і падпарадкоўвалася Вялікаму майстру Правінцыяльнай ложы ў Пецярбурзе І.П. Ялагіну. У 1791 г. па ялагінскай сістэме працавала ў Шклове ложа «Мудрасць» [17, с. 501-502, 505, 508, 510, 521; 2, с. 17, 67]. Большасць названых ложаў існавала толькі да забароны масонства Кацярынай ІІ. У часы Аляксандра І на землях Беларусі ложаў пад кіраваннем расійскіх структур не было.

У Рэчы Паспалітай масонства стала распаўсюджвацца пры польскім каралі і вялікім князі літоўскім Аўгусце ІІІ. У кастрычніку 1738 г. ягоны натуральны[2] брат граф Рутоўскі заклаў у Дрэздэне ложу «Тры Белыя Арлы» («Trzy Bialy Orla»), якая стала прамацераю польскага і ліцвінскага масонства. Першая польская ложа сфармавалася ў 1739 г. на каралеўскім двары ў Варшаве як філіял названай ложы [9, т. 2, с. 227-228; 15, с. 79]. 10 снежня 1779 г. ложа «Добры Пастар» («du Bon Pasteor») у Вільні прыняла рашэнне ўтварыць loge de de'putation у Гродне. Туды паслалі вялікага суддзю Гурка. Ён жа правёў два пасяджэнні ложы «petite loge de de'putation» у Слоніме (12-13 лютага 1780 г.) [37, с. 167].

У 1781 г. Вялікі майстар (магістр) правінцыяльнага масонства Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага Ігнацы Патоцкі падрыхтаваў Статут Вялікага Усхода Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага. 26 лютага 1784 г. яго падпісалі дэпутаты ад адной вялікай, трох правінцыяльных і дзевяці сімвалічных ложаў. У іх ліку была правінцыяльная ложа пад назваю «Шчаслівае вызваленне» ў Гродне.

Яна ўзнікла ў 1781 г., працавала на французскай мове (адсюль па дакументах ложы яе назва «L' beureuse Delivrance»). Гэты скарочаны надпіс утрымліваецца і на авальнай пячатцы ложы (адбітак яе захаваўся на дакуменце ад 17 лютага 1782 г. у бібліятэцы Польскай Акадэміі Мастацтва). У бібліятэцы АН Літвы ёсць пергамент з подпісамі 17 братоў ложы «Шчаслівае вызваленне», якія даверылі А. Годзіну прадстаўляць іх у ложы «Дасканалай Еднасці» ў Вільні. Майстрам кафедры быў знакаміты Ж-Э.Жылібер, намес-

---

[1] Шведска-бярлінская сістэма – масонства, арганізаванае па сістэме «Строгай паслухмянасці», якое ўключае англійскае масонства для першых трох ступеняў і разэнкрэйцарства для вышэйшых. Тры янаўскія ступені дапаўняліся трыма вышэйшымі: 4-я Шатланскі майстар, 5-я Паслушнік, 6-я Рыцар храма трох аддзелаў (рыцар, сябра, збраяносец). Статут патрабаваў цалкага падпарадкавання малодшых братоў вышэйшым і ўсіх разам галаве ордэна. Братам мог стаць толькі багаты і радавіты дваранін-хрысціянін [9, т. 2, с. 75-76].

[2] Натуральны брат – інакш пазашлюбны.

нікам – Бекю, казначэем – Ж-Л. Бекю, сакратаром – Ф. Шрайбер [6, с. 483]. Колькі існавала ложа, сказаць цяжка, нават такі вядомы польскі даследчык, як Ст. Малахоўскі-Лямпіцкі, і той губляецца: то піша, што яна перастала працаваць яшчэ ў XVIII ст., то дае спіс братоў ложы на 1820-1821 г. Вядомы факт перадачы Вялікім Усходам назвы гродзенскай ложы нясвіжскім масонам 4 жніўня 1810 г. [36, с. 116–118; 37, с. 53].

Адпаведна Статуту 1784 г. існавалі тры масонскія правінцыі: вялікапольская, малапольская і ліцвінская, на чале якіх стаялі намеснікі Вялікага Магістра. Кожная правінцыя прадстаўляла быццам малы Вялікі Усход з прадстаўнікоў сімвалічных ложаў і мела вялікую правінцыяльную ложу. У ліцвінскай – гэта ложа «Дасканалая Еднасць» у Вільні (гл. схему ў дадатку 1). Прадстаўнікі ложаў меліся таксама пры Вялікім Усходзе Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага. Статут замацаваў незалежнасць польска-літоўскага масонства ад замежных масонскіх уладаў. Ён не прызнаваў першага падзелу Рэчы Паспалітай і падпарадкоўваў ложы-мацеры «Кацярыны пад Паўночнай Зоркай» «усе землі і краі, якія знаходзіліся пад польскім панаваннем, а таксама края і правінцыі, якія знаходзяцца за мяжою» [9, т. 2, с. 232; 37, с. 9]. У польскім і ліцвінскім масонстве гэтага часу адчуваліся прарасійскія настроі, але ў перыяд працы Чатырохгадовага сейма адбыўся пераход да незалежніцкага напрамку. Гэты працэс адлюстраваўся ў новай назве вялікай ложы – «Станіслаў Аўгуст пад Паўночнай Зоркай» [34, с. 25-26].

Пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай, разгрому паўстання А.-Т.Касцюшкі ў масонстве на тэрыторыі былых дзяржаваў Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага назіраецца развал. Толькі ў канцы 1809 г. пачынае працу ложа «Шчаслівае Вызваленне» ў Нясвіжы, а 22 сакавіка 1810 г. аднаўляецца Вялікі Усход Польскі. 17 сакавіка 1812 г. ствараецца Нацыянальны Вялікі Усход Кароны і Літвы, але ў сувязі з вайной 1812 г. масонскі рух ізноў згасае. Масоны адклалі свае працы да той пары, пакуль у краіну не прыйдзе спакой. У архівах не знойдзена ніводнага дакумента аб дзейнасці масонаў у гэты час.

У 1815 г. быў адноўлены Вялікі Усход Польскі і пачалося адраджэнне ліцвінскага масонства. У 1816 г. масоны Ян Норвід, Міхал Сабескі, Караль Гофман і Ян Ходзька прыехалі ў Вільню і пры дапамозе старэйшага масона прэлата Міхала Длускага пачалі працы ў ложах «Руплівы Ліцвін» і «Добры Пастыр». Яны ж адчынілі дзве новыя ложы: «Школу Сакрата» ў Вільні і «Палемон» у Расіенах

Ковенскай губерні. У 1818-1819 г. у ліцвінскай правінцыі мелася 12 ложаў: на Усходзе Вільні – правінцыяльная ложа «Дасканалая Еднасць» і сімвалічныя – «Руплівы Ліцвін», «Храм Мудрасці», «Добры Пастыр», «Школа Сакрата», «Славянскі Арол» [36, с. 120; 4, с. 103].

Росквіт масонства адбыўся на землях Беларусі ў 1816–1821 г. пад апекаю Аляксандра I, які сам быў масонам. Менавіта ў гэты час узніклі сімвалічныя масонскія ложы на тэрыторыі Гродзенскай і Мінскай губерняў: у Навагрудку – ложа пад назваю «Багіня Цэрэра», якая хутка змянілася на «Вузел Еднасці», у Гродне – «Сябры Чалавецтва» [23, с. 66, 70; 4, с. 103], у Мінску – «Паўночная Паходня», «Святыня Поўначы» і капітулярная (спачатку ніжэйшая, а з красавіка 1821 г. вышэйшая) ложа «Гара Табар». Акрамя таго, былі створаны сімвалічная ложа «Уладзіслаў Ягайла» ў Слуцку і ніжэйшая капітулярная ложа «Святыня Спакою» ў Нясвіжы. Пакуль невядома, калі ўзніклі ўзгадваемыя ў архіўных крыніцах ложы «Пераможаныя Забабоны» ў Нясвіжы і «Святасць Змовы» ў Мінску [38, ч. 2, с. 112–119; 13, ф. 1, воп. 1, спр. 2860, а. 3-3 адв.].

Арганізацыйная структура ліцвінскага масонства ў час росквіту была наступнай (глядзі дадатак 1). Ліцвінскія ложы падпарадкоўваліся Вялікаму Усходу Польскаму, у склад якога ўваходзілі капітулярныя ложы «Святыня Спакою» і «Гара Табар», а таксама правінцыяльная ліцвінская ложа «Дасканалая Еднасць». Апошняй падпарадкоўваліся пяць сімвалічных ложаў, якія мелі сваю нумарацыю ў пераліку ложаў, уваходзячых у Вялікі Усход Польскі, адпаведна часу ўзнікнення.

Ложа – гэта супольнасць абраных, аб’яднаных духоўнымі вузамі і адпаведнай клятваю, гэта ячэйка масонскага таварыства. Ложай таксама называлася памяшканне, у якім праходзілі пасяджэнні вольных муляроў. Вокны ў такіх памяшканнях выходзілі на тры бакі свету: усход, захад і поўдзень [28, с. 47-48]. Ложы, як мы ўжо ўказвалі, былі сімвалічныя і капітулярныя. У сімвалічных працы вяліся ў першых трох ступенях: вучня, чаляндніка (паўмайстра) і майстра. Інакш такія ложы зваліся янаўскімі («іаанаўскімі») у гонар свайго патрона св.Яна, якога Вялікі Будаўнік Свету Ягова паслаў да людзей з мэтай іх асветы, бо людзі гэтыя «знаходзяцца ў цемры і цені смерці». Яшчэ ложы першых дзвюх ступеняў называліся блакітнымі, бо сцены памяшканняў у ложах і фартухі братоў былі блакітнага колеру.

Сцены памяшканняў, дзе адбываліся пасяджэнні майстроў і абраных кавалераў, былі чорнага колеру. Для ступеняў ад 5 да 33 з сярэдзіны XVIII ст. прыняты чырвоны колер [36, с. 123-124; 21, с. 4].

Інтэр'ер памяшканняў пасяджэнняў масонаў таксама адпавядаў розным ступеням [38, ч. 2, с. 420; 14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 92, 92 адв., 318].

Масонскія працы адбываліся па ступенях. Напрыклад, у гродзенскай ложы «Сябры Чалавецтва» на працягу 1820 г. (па масонскаму каляндару 5820 г.) адбылося 37 пасяджэнняў у ступені вучня, 7 – у ступені чаляднікa, 8 – у ступені майстра [36, с. 210].

Ступені масонства называліся з першага па сёмы наступным чынам: вучань, чаляднік, майстар, кавалер абраны, кавалер шатландскі, кавалер Усходу, кавалер Ружовага Крыжа. Ступень залежала ад узроўню пасведчанасці ў масонскія таямніцы. Асноўная праца кожнай ступені складалася з падрыхтоўкі і прыняцця брата ў сваю ступень. Навука масонаў дзвюх першых ступеняў складалася з выпрацавання сямі абавязкаў: даверу, шчырасці, міласэрнасці да бедных, паслухмянасці, лагоднасці, адвагі і маўчання. Сімвалам вучня быў грубы прыродны камень, а галоўным заняткам – «апрацоўка» самаго сябе адносна дараванняў і сілаў. Абчэсаны кубічны камень – сімвал чаляднікa, які «да Адкравення, слова прарокаў і Евангелія адносіцца з глыбокай пашанай, не саромячыся розуму, і адносіць законы і дагматы, як апеку, да патрэб знешняй дысцыпліны думкі, пазбягае спрэчак і, не лічачы сябе замкнёным у вызначанае кола, не бачыць карысці ў фанатычнай прапагандзе, якая не стварае ўнутранай канцэнтрацыі і апірышча». Сімвалам майстра былі лічэбнікавая дошка з геаметрычнымі фігурамі і эстэтычнымі контурамі. Ён ведаў легенду пра забойства будаўніка храма Саламона Хірама (Адаранімa). Ягоная праца заключалася ў дапамозе вучням і чаляднікам дасягнуць сваіх мэтаў [36, с. 124–127; 10, с. 272, 274].

Ніжэйшыя капітулярныя ложы працавалі ў 4 і 5 ступенях, а вышэйшыя – у 6 і 7 ступенях і мелі права ствараць сімвалічныя ложы. Чацвёртая ступень называлася «Абраны кавалер». У ёй вучылі помсце за забойства Хірама. Ступень пятая (шатландскі кавалер) апісвала падарожжа шатландскіх майстроў у пошуках скарбаў, якія знаходзяцца ў труне Хірама. У навуцы шостай ступені (кавалер Усходу) таксама гаварылася пра Хірама і неабходнасці падтрымкі існуючай улады. Масон сёмай ступені (кавалер Ружовага Крыжа) ведаў, што «той, хто праз сваю працу і пошукі адкрые таямніцу, высокія праўды замыкаючую, будзе ўпэўнены, што знайшоў шчасце, па якому кожны смяротны ўздыхае, дні яго будуць шчаслівыя, рукі яго будуць чыстыя, а нястача і слабасць не будуць мець перавагі» [36, с. 127–132].

Кожны год 1 сакавіка (гэта першы дзень масонскага года) адбываліся выбары адміністратараў ложы. Абіраліся яны на адзін год: майстра кафедры, ягонага намесніка, дазорцы, прамоўцы, падскарбія, суддзі, ялмузніка[1] (літаральна «жабрака»). Майстар – адміністрацыйны кіраўнік ложы, які судзіць, падтрымлівае кантакты з правінцыяльнай ложаю і Вялікім Усходам, прадстаўляе братоў на вышэйшую ступень, падпісвае дакументы, зацвярджае рашэнне суддзяў. Другую пасаду пасля майстра займаў ягоны намеснік. Ён дапамагаў майстру, а ў яго адсутнасць кіраваў справамі ложы, вёў пасяджэнні.

Наступная пасада ў іерархіі ложы – прамоўца. Ён павінен быў добра ведаць Статут, звычаі і прадпісанні ордэна, каб іх адстойваць. Прамоўца выступаў па сутнасці кожнай справы, даваў заключэнне на пададзеныя справы адпаведна з правам масонаў. Звычайна пасля яго выступлення старшыня пасяджэння пачынаў дыскусію. Дзве наступныя пасады – падскарбі і суддзя. Пад апекаю першага знаходзіўся бюджэт ложы і фінансавыя разлікі. Другі вырашаў судовыя справы братоў. Апошняя выбарная пасада – ялмузнік. Ён збіраў і размяркоўваў грошы для дапамогі бедным, наведваў хворых братоў, на яго імя падаваліся прашэнні аб дапамозе.

Шэраг пасадаў прызначаўся майстрам тэрмінам на адзін год: сакратар, ягоны намеснік, майстар абрадаў, сцюарты (эканамічны і абрадавы), пячатачнік, архівіст, гасцёўнік, будаўнічы-рахункавод, мечнік, дырэктар гармоніі. Сакратар вёў справаводства і перапіску ложы. Майстар абрадаў рыхтаваў цырымоніі і сачыў, каб пад час іх кожны брат знаходзіўся на сваім месцы. Пячатачнік ахоўваў пячатку і штэмпелі, ставіў пячатку на дакументы і вёў іх улік. Архівіст вёў архіў, збіраў усе дакументы пра дзейнасць ложы, вёў вопіс справаў. Першы сцюарт (эканамічны) загадваў маёмасцю ложы і дапамагаў ялмузніку. Другі сцюарт (абрадавы) дапамагаў майстру абрадаў. Гасцёўнік быў памочнікам ялмузніка. Будаўнічы-рахункавод правяраў рахункі сакратара, падскарбія, сцюартаў і рабіў заключэнне пра стан даходаў і выдаткаў. У функцыі мечніка ўваходзіла нясенне мяча на падушцы перад майстрам на цырымоніях. Дырэктар гармоніі кіраваў музыкай і спевамі пад час працаў ложы, банкетаў і ўрачыстасцяў [23, с. 67–73]. Звычайна масонскія пасады адпавядалі свецкім, напрыклад, урачы сачылі за здароўем братоў і былі ялмузнікамі, юрысты – суддзямі і прамоўцамі, музыканты – дырэктарам ці братамі гармоніі, служачыя канцылярый – сакратарамі і г. д.

[1] Збіральнік міласціны.

Колькасць братоў у масонскіх ложах на землях Беларусі ў першай чвэрці XIX ст. дасягала 1 024 чалавекі (глядзі дадатак 3). Лічба прыблізная, бо адкрыццё новых крыніцаў павінна даць новыя прозвішчы. Але адсутнасць 1-2 дзесяткаў масонаў не скажае агульнай карціны ахопу насельніцтва масонскім рухам. Масоны былі дзейныя (дзяліліся на тых, хто прысутнічаў і хто непрысутнічаў) і ганаровыя. Першых налічвалася 672 чалавекі, апошніх – 284 чалавекі. Былі яшчэ служкі (18 чалавек), большая частка якіх таксама з'яўлялася братамі-масонамі. Нажаль, не атрымалася высветліць, да якой групы масонаў адносіліся 68 братоў. Немагчыма пакуль вызначыць колькасць масонаў-ураджэнцаў Беларусі ў віленскіх ложах. Для прыкладу назавем некаторых з іх: маршалак Навагрудскага павета Ю.Вайніловіч, прэзідэнт Мінскага галоўнага суда А.Гюнтар, князь К.Радзівіл, мастак Я.Дамель, гетман вялікі літоўскі М. – К. Агінскі, межавы суддзя Ашмянскага павета А.Дмухоўскі і іншыя.

Разгледзім якасны склад 672 дзейных беларускіх масонаў і служачых, улічваючы сённяшні стан крыніцаў (ганаровыя не ўлічваюцца, бо ў іншай ложы яны будуць дзейнымі, а значыць, будуць улічаны). Найбольшай па колькасці групай былі вайскоўцы – 122 чал. (гл. дадатак 4). Сярод іх было шмат тых, хто служыў у былых арміях ВКЛ і Кароны Польскай. Напрыклад, генерал-маёр Караль Мараўскі, генерал Фларыян Вайніловіч, палкоўнікі Дамінік Рэйтан і Ігнацы Антоніевіч Ляхніцкі, падпалкоўнік Адам Солтан, капітаны Франц Фрыбес і ЯнВаловіч, напалеонаўскі афіцэр Ян Канопка і іншыя. Былі ваеннаслужачыя Літоўскага асобнага корпуса, а менавіта Літоўскага, Татарскага, Валынскага і Конна-польскага уланскіх палкоў, 29 і 30 конна-артылерыйскіх ротаў. Тут, па прыблізных падліках, быў 51 масон, ва ўсіх палках Літоўскай уланскай дывізіі – 37 чалавек, у асобных артылерыйскіх батарэях – 8 чалавек, у Валынскім і Падольскім гвардзейскіх палках – 3 чалавекі, у Літоўскім піянерным батальёне – 1 чалавек (штабс-капітан К.Г.Ігельстром), у Гродзенскім гусарскім палку – 2 чалавекі [11]. Уваходзілі ў беларускія ложы і ваенныя з расійскіх часцей, якія знаходзіліся часова на тэрыторыі Беларусі. Напрыклад, ад'ютант генерала І.К.О'Рурка І.С.Бястужаў, палкоўнікі Густаў Бетхер, Эмануэль Рашэт, Павел Сцяпанаў і іншыя.

Другая па колькасці група масонаў налічвала 102 чал. – гэта былі шляхціцы і памешчыкі. Гэта даволі ўмоўная група, бо пры адшуканні пэўных крыніцаў браты, аднесеныя да яе, павінны перайсці па свайму прафесійнаму статусу ў адпаведныя групы. Такое невыразнае становішча адлюстравана і ў даследаваных крыніцах.

Напрыклад, Якуб Эстка паказаны як памешчык, былы падсудак земскага Ігуменскага суда; Вінцэнт Ляўковіч – як былы паручнік польскіх войскаў, памешчык; Дамінік Радзівіл – як палкоўнік былога польскага войска, памешчык розных губерняў і г. д.

Значная колькасць масонаў былі служачымі па «судовай частцы» – 97 чалавек. Гэта адвакаты, суддзі, рэгенты, асэсары і чыноўнікі з Гродзенскага і Мінскага галоўных судоў, межавыя і земскія суддзі. Напрыклад, старшыня (прэзідэнт) Мінскага галоўнага суда Ян Ходзька, адвакаты Гродзенскага галоўнага суда Ян Сержпутоўскі і Караль Эйсымонт, межавы суддзя Ігуменскага павета Казімір Касоўскі, гарадзенскі губернскі пракурор Юзэф Гарэгляд, гродскі Лідскі суддзя Ян Дзежыц і іншыя.

Чацвёртую па колькасці групу склала шматлікае чыноўніцтва мясцовай адміністрацыі і дваранскіх органаў кіравання – 78 чал. Напрыклад, гродзенскія губернатары М.Ф.Бутаўт-Анджэйкавіч і Станіслаў Урсын-Нямцэвіч, мінскі губернатар Казімір Сулістроўскі, сакратар Гродзенскай казённай палаты Станіслаў Далінскі і яе прэзідэнт Казімір Крэйбіх, маршалкі паветаў: Брэсцкага – Павел Ягмін, Вілейскага – Ян Аскерка, Навагрудскага – Юзэф Вайніловіч, Слуцкага – Адам Непакойчыцкі, стараста Нясвіжа Ян Флемінг, прэзідэнт Нясвіжа Франц Нолтэнмейер і іншыя служачыя губернскіх канцылярый і казённых палатаў, земскія пісары і спраўнікі, павятовыя і губернскія маршалкі, сябры розных губернскіх і павятовых камісіяў.

Вылучалася таксама група ўрачоў, дактароў медыцыны, аптэкараў – 25 чалавек, асабліва ў гродзенскіх і нясвіжскай ложах [17, с. 529; 27, с. 37–41]. Сярод іх успомнім інспектара Гродзенскай урачэбнай управы старшага дарадцу Берэнса Рэйнольдавіча (Бернарда Міхайлавіча) Міхельсана, гродзенскага аптэкара Фрыдэрыка Шэдэ, дывізіённага доктара Караля Бідэрмана, наглядальніка вайсковых лазарэтаў Яна Брандта, доктара Мінскага ваеннага шпіталя Аляксандра Генрыца, дактароў медыцыны Караля Юзэфа Вірыёна, Вінцэнта і Тэадора Эмэ.

З іншых катэгорыяў братоў успомнім, для прыкладу, настаўнікаў Мінскай гімназіі Яна Чачота, Вінцэнта Сянкевіча, Пятра Шнэйдэра; настаўніка музыкі Мінскага пансіёна Аўгусціна Дразда, музыкантаў Матэвуша Стравінскага, Вінцэнта Шалкевіча, Міхаіла Фрэйта; ксяндза-капелана Мінскай гімназіі Яна Жылінскага; доктара філасофіі Антонія Развадоўскага, прафесара кальвінісцкіх школаў у Слуцку Юзэфа Сяўрука.

Цікавую характарыстыку літоўска-беларускіх масонаў даў І.Ходзька ў сваіх «Літоўскіх замалёўках»: «Уступіўшы ў ложу,

польскі (чытай ліцвінскі. – В.Ш.) брат масон шукаў перш за ўсё навінаў, адкрыцця таямніцы, наўмысна зацямнёнай баламутнай сімволікай і яшчэ больш баламутнай масонскай легендай (...) Польскі брат масон зашмат не думаў. Не дакрануўшыся таямніцы так хутка, як таго прагнуў, угаворваў сябе, што яна ёсць, але так узвышана, высакародна і так глыбока ўкрыта, што ён яе адшукаць не здолее. Супакоіўшы сябе такім чынам, сядзеў у масонстве далей, пакуль яго адтуль не выгнаў аляксандраўскі ўказ» [38, ч. 2, с. 44-45].

Але не адна толькі цікавасць штурхала ў лона ложаў. Некаторых прываблівалі матэрыяльны інтарэс, перамяшчэнне па службовай лесвіцы, уваходжанне ў элітныя колы. І.Ходзька пісаў: «Слабы літаратар, журналіст і кнігавыдаўца ўступае ў ложу, бо «браты» яго літаратурныя і журналісцкія опусы як вяршыню мудрасці, ведаў і дасціпнасці разнясуць па свету і кнігі купяць у кнігарнях «брата», але дадуць і рэкамендацыю, а нават і грошы і дапамогуць да добрай кар'еры...» [38, ч. 2, с. 46; 19, с. 65].

Былі сярод масонаў і тыя, хто імкнуўся злучыць ідэю духоўнай працы па пабудове «Храма Божага» з пераўтварэннямі рэчаіснасці, але пра гэта скажам ніжэй. Звернем увагу на патаемны характар масонскай дзейнасці. Святы абавязак кожнага масона – захоўваць таямніцу рытуальных абрадаў і сімвалаў. Вось што казаў у сваёй прамове на ўрачыстым пасяджэнні ў гонар св.Яна другі дазорца ложы «Уладзіслаў Ягайла» Ян Садкоўскі: трэба і далей утрымліваць сакрэт і маўчанне пра сваю дзейнасць, бо гэта спрыяе да «пэўнасці ўсіх мэтаў, да якіх узносяцца намеры шляхетна згодных душаў». Парушэнне таямніцы каралася: плацілі грыўну ў касу ложы, давалася вуснае і пісьмовае ўпамінанне, адхіленне ад удзелу ў пасяджэнні ложы, паніжэнне ў ступені і г. д., уключна да змярцвення ў масонстве [37, с. 68; 14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 338].

Звернем увагу на погляды і грамадска-палітычную дзейнасць масонаў. Галоўнай іх мэтаю было самаўдасканаленне, самавыхаванне, «пераўтварэнне першапачаткова змарнаванай чалавечай натуры». Пра адкрыццё ложы «Уладзіслаў Ягайла на Усходзе Слуцка» Б.Квіналоўскі казаў, што гэта ўзыход сонца, «першыя прамяні якога выводзяць з начной цемры, усяму прыроднаму вяртаюць рух і жыццё (...) Утвараецца новая святыня, узносіцца новы алтар для Найвышэйшага Будаўніка Сусвету, а таму кожны з іх (братоў. – В.Ш.) павінен згодна з правам імкнуцца быць руплівым і паслухмяным, каб сусвет папярэджаны і аслеплены са здзіўленнем на яго глядзеў, і ў кожным масоне, хаця б і насуперак уласнаму жаданню, шанаваў і любіў дабрадзейнасць». У адной з прамоваў на пасяджэнні ложы

«Паўночная Паходня» ў Мінску невядомы брат казаў, што вольнамулярская навука «з'яўляецца вялікай, цяжкай і складанай, бо мае высокую мэту, а менавіта святую падрыхтоўку агульнага шчасця для народаў, навуку, якая звязвае вольных муляроў у адзінае цела, злучае іх сэрцы ланцугом братэрскага адзінства» [14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 226 адв., 340 адв.].

Масоны казалі пра роўнасць усіх людзей, пра неабходнасць жыць адзіным грамадствам. Першы дазорца на ганаровым пасяджэнні Вялікай ложы «Казімір Вялікі» сцвярджаў: «Недастаткова таго, каб прызнаваць роўнасць у свяцілішчы, а трэба, каб мы ва ўсіх людзях прызнавалі чалавека: чалавека ў барве ці лахманах, за плугам, з пяром, са зброяй, з пілою, са скіпетрам або з аршынам у руках; бо ён усюды ёсць адно і тое ж стварэнне, мае аднолькавую аснову, аднолькавае права на зямное шчасце і аднолькавае прызначэнне за труною...» [5, с. 548]. Масоны марылі аб стварэнні, а дакладней, аб вяртанні чалавецтва да «аднаго грамадства на правілах Ісуса Хрыста». Бог хацеў, каб людзі жылі «адным грамадствам, адно цела складвалі». Розныя прамоўцы з ложаў «Паўночная Паходня» і «Уладзіслаў Ягайла» прыйшлі да адзінай высновы – галоўнай перашкодай да дасягнення гэтага з'яўляецца «монстр эгаізму», які перамог і падзяліў людзей, унёс у іх жыццё сквапнасць, пагарду, несправядлівасць [14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 227 адв., 337 адв. – 338].

У святле вышэйсказанага незразумела, пра якое «расчленение территории» Расіі масонамі гаворыць сучасны расійскі даследчык А.А.Платонаў: «У 1807 г. частка заходніх губерняў была неправамерна аб'яднана ў так званае Царства Польскае, у якое трапілі і гістарычна рускія (малярускія і беларускія) землі» [16, с. 74]. У 1807 г. ніякага Царства Польскага не існавала, бо яно было створана пасля Венскага кангрэсу 1815 г., а так званыя «заходнія губерні» (былая тэрыторыя ВКЛ, а не «гістарычна рускія землі») увайшлі ў яе склад. Масоны да гэтага дачынення не мелі, хаця сам Аляксандр І належаў да іх. У 1807 г. Напалеон Банапарт арганізаваў Герцагства (Княства) Варшаўскае, ніякія рускія землі туды не ўваходзілі, а нават наадварот: Расія атрымала Беластоцкую акругу (вобласць), далучаную ў 1842 г. да Гродзенскай губерні [3, с. 125; 31, с. 29, 132-133, 136-137].

У Статуце сімвалічных ложаў шмат увагі надавалася праяўленню чалавечнасці. Адзін з абавязкаў масона сфармуляваны наступным чынам: «Любі бліжняга, як самага сябе, не рабі яму ніколі таго, што сабе не зрабіў бы. Скарыстай з раскошнага дару мовы,

гэтага знешняга знака твайго панавання над прыродаю, каб прадбачыць патрэбы чалавека і ў сэрцах усіх распаліць святы агонь дабрадзейнасці». Масон не павінен быў устыдацца на людзях чалавека нізшага, але пачцівага, якога абдымаў, як брата ў ложы; спяшацца на дапамогу брату, які патрабуе яе, са «светам розума, сэрцам і радаю» [37, с. 65, 67].

Роўнасць, якой імкнуліся дасягнуць масоны, павінна быць заснавана на панаванні закона. Л.Плятэр у адной са сваіх прамоваў на пасяджэннях мінскай ложы «Паўночная Паходня» ў 1817 г. казаў пра роўнасць, свабоду слова, панаванне права, перад якім роўныя і сын, і брат караля, і рамеснік, «вось тады і будзе сапраўдная ад вякоў уводзімая і захоўваемая, адзіная разумная і карысная роўнасць у абліччы закона» [14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 227].

Складанымі былі рэлігійныя погляды масонаў. З аднаго боку, статут патрабаваў: «Прысвяці Богу ў ахвярнасць волю і жаданне і паспрабуй быць годным Яго ажыўляючых уплываў. Здзяйсняй правы, якія Ён хоча, каб дапоўніў чалавек у гэтым тленным побыце на зямлі. Падабацца Богу – гэта тваё шчасце, злучыцца з ім назаўсёды – гэта найцудоўнейшае жаданне і канчатковая мэта тваіх учынкаў...» [37, с. 61-62]. Каталіцызм, успрыняты масонамі з малаком мацеры, і каталіцкія традыцыі пераважвалі веру ў Найвышэйшага Будаўніка Сусвету: яны хадзілі ў касцёл, дапамагалі каталіцкім шпіталям і таварыствам дабрачыннасці, спавядаліся перад смерцю. З другога боку, як піша польскі даследчык С.Заленскі, «нехрысціянская, наскрозь паганская атмасфера ложы, неверагодна, каб не ўплывала адмоўна на розум сваіх адэптаў; ігнараванне рэлігійнай практыкі і з часам поўнае іх занядбанне – гэта першыя вынікі ўплыву. За тым пайшла непавага да касцёла, ігнараванне дагматаў, агульны індыферэнтызм, а нарэшце сумненне і рэлігійны скептыцызм...» [38, ч. 2, с. 49].

Мэта сапраўднага масонства – маральнае ўдасканальванне, самавыхаванне. Але жыццё ўносіла карэктывы, асабліва на тэрыторыях, якія пазбавіліся свайго незалежнага дзяржаўнага развіцця. Былы масон віленскай ложы «Руплівы ліцвін» Ст.Міцканеўскі дакладаў ваеннаму генерал-губернатару Рымскаму-Карсакаву: «Галоўная тайна масонаў заключаецца ў наступным: усталяваць паміж людзьмі ўсіх станаў вольнасць і роўнасць, ліквідаваць дэспатызм або самадзяржаўнае праўленне. Яны схіляюцца да рэвалюцыі, падобнай на тыя, што былі ў Францыі, Іспаніі, Партугаліі, Неапалі і Турыне, а таму, зразумела, пагражаюць хваляваннямі народаў» [4, с. 130; 18, № 2, с. 36; 5, с. 540].

Палітычныя погляды масонаў былой Рэчы Паспалітай былі розныя, бо ложы складаліся з дробнай шляхты, з буйных магнатаў, мяшчанства, прыхільнікаў і праціўнікаў манархіі. Палітычная думка вагалася паміж спадчыннай канстытуцыйнай манархіяй і алігархічнай магнацкай рэспублікай, падобнай Венецыянскай, а самая смелая брала за ўзор дзяржаўнага будаўніцтва Вашынгтон ці Парыж. Нас цікавілі адносіны масонаў не толькі да асобы манарха наогул, але і да канкрэтнай асобы – Аляксандра І. Статут сімвалічных ложаў сцвярджаў: «Паняцце манарха, як памазаніка божага моцна звязана з паняццем Айчыны (...) Найвышэйшая істота бачным і ўпэўненым спосабам уклала ўладу сваю ў рукі Манарха. Таму шануй і любі яго павагу і начальніцтва ў кожным кутку зямлі, дзе жывеш» [37, с. 62].

У залежнасці ад рашэння Аляксандрам І польскага пытання змяняліся і адносіны масонаў да яго. У той час, калі расійскі імператар заляцаўся да жыхароў былой Рэчы Паспалітай, дык і на пасяджэннях мінскай ложы «Паўночная Паходня» можна было пачуць верш Ю.Рагозы, складзены на імяніны Аляксандра І, у якім усхвалялася яго «шырокая і прыгожая душа». Пасля Венскага кангрэсу некаторы час добрыя адносіны масонаў да Аляксандра І захоўваліся. На адным з пасяджэнняў слуцкай ложы «Уладзіслаў Ягайла» Ф.Пяткевіч выхваляў дабрату душы манарха (паводле масонскіх законаў іх брата), які дазволіў існаванне масонаў і стаў іх апекуном, уваскрасіў быт іх роднай Айчыны, захаваў яе назву, мову, права, звычаі, «тым самым загаіў раны, якія адкрыліся ад штогадовых няшчасцяў» [14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 225, 338]. Пасля сейма 1818 г. давер да Аляксандра І быў падарваны. Хаця Вялікі Усход у 1819 г. рэкамендаваў размясціць у ложах над тронамі майстроў партрэт манарха, але рабілася гэта выключна для адводу вачэй: незадаволенасць «дабрадзейнасцю» імператара пранікла ў грамадства і масонства. На польскім сейме 1820 г. масон В.Маеўскі выступіў з апазіцыяй да Аляксандра І і ўрада [38, ч. 1, с. 211].

У 1817 г. шубраўцы праз сваю газету «Брукавыя ведамасці» пачалі рыхтаваць літоўска-беларускае грамадства да адмены прыгонніцтва. Ідэю вызвалення сялянаў па прыкладу Остзейскіх губерняў[1] распаўсюджваў праз маршалкаў Ковенскай і Віленскай губерняў віленскі віцэ-губернатар масон Плятар-Зіберг. У снежні 1817 г. пытанне аб рэформе было ўзнята на дваранскіх выбарах у Вільні Ш.Завішай, які заявіў: «Мы абавязаны прыняць рашэнне не боль-

[1] Остзейскія губерні – сучасная тэрыторыя Латвіі і Эстоніі.

шасцю галасоў, але аднагалосна: адракаемся ад правоў і прывілеяў, якія маем над сялянамі!..». Не ўсе масоны яго падтрымалі. Напрыклад, тройчы супраць выступіў дэпутат з Ашмянскага павета М.Пашкоўскі. Было вырашана падаць «всеподданнейшее» прашэнне аб стварэнні камітэта для складання праекта паляпшэння становішча сялянаў. Падрыхтоўка да рэформы зацягнулася да 1819 г. У гэты час пачаўся раскол у масонстве, які скончыўся яго забаронай у 1821 г. [4, с. 111-112].

Некаторыя масоны пайшлі далей размоваў. Вядомы гродзенскі масон Ігнацы-Эмануіл Ляхніцкі апублікаваў у 1817 г. працу «Статыстыка Літоўска-Гродзенскай губерні», дзе, між іншым, паказаў цяжкае становішча сялян і зрабіў выснову пра неабходнасць ліквідацыі паншчыны. Слуцкі масон Ю.Вішчынскі 24 чэрвеня 1819 г. заявіў на пасяджэнні ложы, што вызваліў навечна ад падданства свайго селяніна з маёнтка Косажыцы М.Пуцяту з сям'ёй, бо той праз яго стаў масонам, а значыць, родным яго братам [35, с. 249; 14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 344 адв.].

Хвалявала масонаў і ідэя адраджэння Рэчы Паспалітай. Гэтаму спрыяла палітыка Аляксандра І: уладкаванне Каралеўства Польскага і наданне яму канстытуцыі ў 1815 г., арганізацыя польскага войска і Літоўскага асобнага корпуса. Гэтая ідэя прывяла рэвалюцыйна-дэмакратычную частку масонаў да рэфармавання масонства і стварэння тайных таварыстваў. У 1819 г. маёр польскай арміі В.Лукасінскі заснаваў арганізацыю «Нацыянальнае масонства» з мэтаю адраджэння Рэчы Паспалітай у былых межах. Звернем увагу на масонскую афарбоўку гэтай арганізацыі. Вучань павінен быў прапагандаваць навуковыя веды і знаёміць людзей з гісторыяй Польшчы. Чаляднік – апісваць дзеянні славутых палякаў, славіць польскасць, рыхтаваць грамадскасць да прысвячэння сябе барацьбе за айчынную справу. На пытанне майстра: «Як вялікая твая ложа?» чаляднік адказваў: «Высокія горы, два вольныя моры і дзве ракі служаць яе межамі». «Дзе знаходзяцца твае браты?», – пытаўся майстар і чуў у адказ: «Пры алтары Айчыны, які зверху пашкоджаны, але падмурак яго стаіць з надпісам «захаваўся да гэтага часу» [9, т. 2, с. 242; 38, ч. 1, с. 218].

У легенду аб Хіраме былі ўнесены карэктывы: ягоная смерць – гэта падзелы Рэчы Паспалітай; тры ягоныя забойцы – тры манархі, якія здзейснілі гэта; абавязак дзяцей Хірама – шукаць яго ўсюды і змагацца з ворагамі яго – абавязак адраджэння Рэчы Паспалітай; уваскрашэнне Хірама насуперак усім цяжкасцям – сімвал уваскрашэння былой польска-літоўска-беларускай дзяржавы [38, ч. 1, с. 219].

Беларуска-ліцвінскае масонства мела ўплыў на стварэнне тайных арганізацыяў сярод вучнёўскай моладзі і афіцэраў Літоўскага асобнага корпуса. Масон прафесар Віленскага універсітэта Я.Шымкевіч быў першым прэзідэнтам шубраўцаў. Філамат-масон Т.Зан стварыў таварыствы «Прамяністыя» і філарэтаў. Навагрудскія масоны К.Ігельстром і А.Вягелін арганізавалі Таварыства ваенных сяброў. У «Таварыстве сяброў» з 25 чалавек было 9 масонаў навагрудскай ложы. Сябры Патрыятычнага таварыства М.Ромер, Я.Вайніловіч, Л.Каменскі, К.Чапскі, А.Елец, П.Корбут, Ст.Маскевіч, Я.Сержпутоўскі, Я.Сабескі, А.Солтан, Я.Ходзька і іншыя [24–26; 7, с. 60; 20, с. 72–74]. Сувязь масонаў з тайнымі таварыствамі разумелі і царскія ўлады. Вось што пісаў мінскаму губернатару цэсарэвіч Канстанцін Паўлавіч 24 студзеня 1829 г.: «...Звесткі аб існаванні ў Мінску, Нясвіжы, Слуцку і іншых месцах давераной Вам губерні масонскіх ложаў я паслаў сапраўднаму стацкаму дарадцы сенатару Навасільцаву для прыняцця ў разлік у сувязі з разглядам справы аб тайных таварыствах» [14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 363].

Масоны прымалі ўдзел у паўстаннях. Касцюшкаўцамі былі П.Багурскі і Я.Лапэрэ. Пад час Лістападаўскага паўстання 1830-1831 г. улады звярнулі ўвагу на былых масонаў. Мінскі часовы ваенны губернатар Далгарукаў 2 мая 1831 г. пісаў выконваючаму абавязкі мінскага губернатара Малафееву: «Паводле атрыманых мною звестак, у канцылярыі грамадзянскага губернатара знаходзіцца спіс розных асобаў тутэйшай губерні, якія раней былі ў таварыстве масонаў, я прапаную Вашаму Высакароддзю даставіць мне з яго копію». Аб выкананні Малафееў данасіў праз 2 дні [20, с. 72, 73; 14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 365]. Па нашых дадзеных, у паўстанні ўдзельнічалі: навагрудскі масон К.Валовіч [14, ф. 31, воп. 2, спр. 86, а. 36 адв.]; масоны Я.Жылінскі, С.Незабітоўскі, А.Солтан, сын масона А.Валадковіч – камандзіры атрадаў у 1831 г.

У 1818 г. доктар філасофіі і медыцыны масон віленскай ложы «Руплівага ліцвіна» Я.Шымкевіч прапанаваў рэформу масонства з мэтаю наблізіць яго да шырокага грамадства. 16 сакавіка 1818 г. К.Кантрым замест хворага Шымкевіча выступіў на пасяджэнні ложы з прамоваю (аўтарам якой, па словах польскага даследчыка Гаса, быў ён сам), у якой крытыкаваў сімволіку і абраднасць, за якой крыецца ідэйная пустэча, казаў, што сярэдневяковая арганізацыйная форма не адпавядае рэчаіснасці XIX ст. і паралізуе дзейнасць. Кантрым выступіў за пераўтварэнне ложы ў «паўлегальнае навукова-дабрачыннае таварыства, падпарадкаванае адукацыйным уладам краю». Рэфарматары прапанавалі новы статут масонаў.

«1. Масонскі ордэн, агульны для ўсіх, распадаецца на асобныя таварыствы, незалежныя адзін ад другога, не звязаныя абавязкам грашовых узносаў і збораў.

2. Кожнае таварыства, якое фарміруецца ў выглядзе асобнага гуртка, прымае наступную назву: «Таварыства масонскае рэфармаванае №».

3. Мэта кожнага таварыства: мудрасць і дабрачыннасць, гэта значыць, удзел у справах міласэрнасці і асветы.

4. Кожная ложа выбірае сабе вызначаную спецыяльнасць, у межах якой і адбываюцца «працы».

5. Члены таварыства называюцца «сябрамі».

6. На працах ложы могуць прысутнічаць сябры іншых ложаў, нават нерэфармаваных, але толькі ў якасці гасцей.

7. Кожная ложа-таварыства вядзе свае заняткі пад наглядам той улады, якае кіруе народнаю асветаю ў краі. Яна можа змяніць свой статут, надрукаваць яго; працы вядуцца публічна і падлягаюць справаздачы» [37, с. 71–77; 32, с. 287; 4, с. 118–119].

Майстар гродзенскай ложы М.Бутаўт-Анджэйкавіч выступіў супраць праекта Шымкевіча і Кантрыма і прасіў пакінуць у спакоі «старое масонства», а калі ёсць моцнае жаданне, дык стварыць якую-небудзь новую арганізацыю. На публікацыю праекта ён адказаў запіскай, якая была зачытана на пасяджэнні 23 сакавіка. Усе, хто быў згодны з рэфарматарамі, былі выгнаны з ложы. Апошнія стварылі ложу пад назваю «Руплівы Ліцвін Рэфармаваны». Шымкевіч, відаць, хацеў заручыцца падтрымкаю ліцвінскіх ложаў і разаслаў ім лісты, у якіх пісаў, што правінцыяльная ліцвінская ложа вырашыла ўсталяваць у Вільні Вялікі Усход і таму запрашае прысылаць дэпутатаў. Але праз месяц браты слуцкай ложы «Уладзіслаў Ягайла» атрымалі ліст з адмовай, якая тлумачылася «забеспячэннем існавання і дабрабыту ад святовага ўрада» [14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, 327; 32, с. 287; 4, с. 119, 122]. Рэформа не адбылася, але яе ідэі, відаць, былі выкарыстаны пры стварэнні «Нацыянальнага масонства» В.Лукасінскага.

Гэтыя падзеі, несумненна, паўплывалі на тое, што 30 мая 1820 г. пасля доўгай спрэчкі і працы над удасканальваннем тэксту статут 1784 года быў заменены новым. Пра зацятую барацьбу прыхільнікаў і праціўнікаў новага статута сведчыць галасаванне: 20 галасоў – за, 11 – супраць. Вялікі магістр Ст. Костка Патоцкі гаварыў 21 чэрвеня 1820 г., што пратакол апошняга пасяджэння Вялікага Усхода стане «духоўнай памяццю, што значнай большасцю галасоў гэты канстытуцыйны статут быў прыняты» [14, ф. 694, воп. 1, спр. 517,

а. 13-14]. Перапіска паміж літоўска-беларускімі ложамі і Варшаваю, а таксама пасяджэнні ложаў паказваюць, што барацьба не закончылася і пасля прыняцця статута. Правінцыяльная ліцвінская ложа выслала сімвалічным ложам ліст, у якім асуджала яго, бо ён вядзе «да ліквідацыі брацтва і звяржэння вольнасці і роўнасці, якія служаць дэвізам іх саюза» [8, с. 542].

Справа ў тым, што новы статут абмежаваў правы правінцыяльных і сімвалічных ложаў, цэнтралізаваў іх і падпарадкаваў створанай Найвышэйшай Радзе з 7 чалавек пад старшынствам Вялікага Майстра Патоцкага. Праз Вялікага Намесніка А.Ражнецкага расійскі ўрад атрымаў магчымасць кантраляваць польскае і ліцвінскае масонства. У выніку 20 з 40 ложаў Вялікага Усхода Польскага прыпынілі свае працы на нявызначаны час. Браты з ложы «Сябры Чалавецтва» засталіся працаваць па «старых чарцяжах». Ложы «Вузел Еднасці», «Святыня Поўначы», «Гара Табар», «Уладзіслаў Ягайла» прызналі новы статут [4, с. 126; 8, с. 543; 36, с. 120-121].

Спісы масонаў ложаў на землях Беларусі паказваюць, што братамі былі людзі розных этнасаў. Мы ўжо ўзгадвалі аб удзеле ў іх рускіх афіцэраў. У Вільні працавала ложа «Славянскі Арол», сябрамі якой былі мясцовыя жыхары і рускія чыноўнікі і афіцэры. Трапна гаварыў на адным з пасяджэнняў ложы «Паўночная Паходня» нейкі брат з Вялікага Усхода: адзінай мэтай усіх нас з’яўляецца «распаўсюджанне сапраўднага святла на зямным шары, вывядзенне з глыбіні цемры цярплівых народаў, прышчапленне іх да добрага жыцця, і, калі сусвет стане адной грамадою, злучанай братэрскімі вузамі, тады існаванне людзей будзе сапраўдным» [14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 226 адв.].

Масоны на землях Беларусі мелі добра наладжаныя кантакты з ложамі Польшчы і Расіі. Напрыклад, мінская ложа «Паўночная Паходня» падтрымлівала сувязі з ложамі Кракава («Святыня Роўнасці»), Ломжы («Узыходзячае Сонца»), Пецярбурга («Астрэя», «Белы Арол», «Елізаветы»), Варшавы («Ізыс», «Казімір Вялікі», «Святло Мінервы»), Плоцка («Дасканаласць»), Седльца («Белы Арол»), Радома («Узыходзячая Заранка»), Любліна («Адшуканая Вольнасць») і г. д. Прыкладна такія ж сувязі былі ў ложаў «Шчаслівае Вызваленне» (Нясвіж) і «Уладзіслаў Ягайла» (Слуцк) [14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 218-219, 259–298; 4, с. 117].

За падпарадкаванне ліцвінскага масонства ішла барацьба паміж Вялікімі Усходамі Польскім і Пецярбургскім, якія ўсімі сродкамі хацеў прыцягнуць яго да сябе. У лісце ад 5 лютага 1818 г. ложа «Астрэя» (майстрам якой, дарэчы, быў граф А.-Ст.Ржэвускі) пра-

панавала беларускім ложам уступіць у залежнасць ад яе. Адказ іх у сакавіку і красавіку 1818 г. быў адмоўны. Польскі даследчык Л. Гас слушна лічыць, што падпарадкаванне не залежала ад нацыянальнага складу масонскіх ложаў, а большую ролю адыгрываў момант «прыцягвання дадзенага рэгіёну да аднаго з двух палітыка-эканамічных цэнтраў, якімі былі Варшава і Пецярбург, а таксама, можа, у ступені, прынамсі, роўнай – разнародныя кантакты, не толькі былыя вольнамулярскія, кіраўнікоў дадзенай тэрыторыі». 14 верасня 1818 г. ліст з Варшавы «ўхваляў цвёрдую рашымасць літоўскіх ложаў застацца ў саюзе з Варшаўскім Усходам, не ўступаючы ў залежнасць с.-пецярбургскую» [32, с. 276; 8, с. 542].

Барацьба паміж расійскім і польскім Усходам прывяла да таго, што ў 1820 г. сярод літоўска-беларускага масонства ўзнік праект утварэння самастойнага Вялікага Усхода Літоўскага. Былі зроблены і першыя практычныя крокі. Валынскі масон граф Н.Алізар выдаткаваў 15 тыс. на будаўніцтва будучай рэзідэнцыі. Рэалізацыі праекта перашкодзілі змена адносінаў уладаў да масонства і закрыццё ложаў [32, с. 275].

У жніўні 1821 г. выйшаў указ Аляксандра I аб закрыцці масонскіх ложаў і тайных таварыстваў. 25 верасня 1821 г. на апошняй сесіі Вялікага Усхода Польскага ўсе ложы павінны былі закрыць свае працы да 1 кастрычніка ў Варшаве і да 15 кастрычніка на тэрыторыі правінцыі. Пасля гэтай даты іх дзейнасць будзе лічыцца антызаконнай. У першай палове кастрычніка віленскі генерал-губернатар Рымскі-Карсакаў абвясціў жнівеньскі ўказ цара. Шостага лістапада на пасяджэнні Адміністрацыйнай рады прынята пастанова Намесніка Каралеўства Польскага Заёнчыка аб агульным, безумоўным і канчатковым закрыцці ўсіх тайных таварыстваў у Каралеўстве Польскім [38, ч. 1, с. 264, 272; 30, т. 2, с. 93]. Практычна ўсе ложы на землях Беларусі былі зачынены, іх архівы, грошы, рэчы, прадметы абраднасці і сімволікі па прадпісанню Майстра Вялікага Усхода А.Ражнецкага павінны былі быць сабраныя для захавання [14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 167].

Якраз у гэты час адбылася так званая «справа С.Міцканеўскага»: былы масон ложы «Руплівы Ліцвін» у ступені майстра пакінуў масонства. Ён патрабаваў, каб ложа вярнула яму 76 руб., якія ён ахвяраваў у касу ў выглядзе складак. А калі ложа адмовіла, дык звярнуўся з прашэннем у розныя ўстановы: Віленскі галоўны суд, губернскае праўленне, да генерал-губернатара. Паколькі справа не была вырашана, Міцканеўскі двойчы звярнуўся з прашэннем на імя імператара і адзін раз – да намесніка Канстанціна Паўлавіча. У ходзе

справы былы масон па сутнасці зрабіў данос на масонства, абвінаваціўшы яго ў падрыхтоўцы «народнага хвалявання» і вынішчэнні хрысціянскай веры. 8 лютага 1822 г. Рымскі-Карсакаў паслаў міністру ўнутраных спраў змястоўную запіску, а той далажыў аб гэтым цару [4, с. 126–134]. Несумненна, што гэта паскорыла забарону масонства. 1 жніўня 1822 г. царскі ўказ пастанавіў закрыць ложы па ўсёй Расійскай імперыі.

Усе дзяржаўныя чыноўнікі, настаўнікі школаў, прафесары, вайскоўцы павінны былі даць падпіску аб непрыналежнасці да масонскіх і іншых тайных таварystваў у краі ці за мяжой. У гродзенскім і віленскім архівах захавалася частка масонскіх распісак двух узораў: не належаў да масонскай ложы і належаў да пэўнай масонскай ложы, але цяпер і ў будучым не буду належаць ні ў краі, ні за мяжой [13, ф. 1, воп. 1, спр. 2860, а. 8, 15]. 14 лістапада 1822 г. каралеўскі намеснік Зайёнчык загадаў забраць ключы ад скрыні з дакументамі і рэчамі Вялікага Усхода Польскага [29, zesp. K.Nowosilcowa, sign. 565, s. 40].

У губернях заняліся ліквідацыяй масонскіх знакаў, дэкарацыяў, зборам архіваў, а ў Мінскай губерні нават вымаганнем «недаімак» з масонаў. Усё гэтае трэба было захоўваць па прадпісанню цэсарэвіча Канстанціна Паўлавіча ў «архіве грамадзянскага губернатара пры сакрэтных справах». Напрыклад, памешчык Адынец у 1827 г. здаў належачыя яму знакі ложаў «Сябры Чалавецтва», «Шчаслівае Вызваленне» і «Паўночная Паходня». Аднак, відаць, не ўсе аддалі масонскія рэчы. У 1830 г. пад час вобыску ў доме К.Валовіча знайшлі выдадзены яму патэнт, знак і фартух [14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 20, 32, 40, 98, 322, 350, 366; 13, ф. 1, воп. 1, спр. 2860, а. 51, 62, 71–72,83; 13, ф. 31, воп. 2, спр. 86, а. 36].

Большасць масонскіх ложаў спынілі свае працы, але ўрад адчуваў, што не ўсе. Тайны сенатар Навасільцаў пісаў гродзенскаму губернатару 24 мая 1823 г.: «...Майце пільны нагляд, ці не сходзяцца былыя масоны ў каго-небудзь са сваіх сяброў або ў трэцім месцы пад выглядам сяброўскіх размоваў, ці часта бываюць такія бяседы і сходы, ці запрашаюцца на іх староннія асобы, чым яны займаюцца, і ці не відаць уплыву якой-небудзь асобы на гэтыя сходы..?» [13, ф. 1, воп. 1, спр. 2860, а. 59]. Губернатар М.Бутаўт-Анджэйкавіч спраўна дакладваў пра выкананне розных распараджэнняў, але як былы масон, відаць, не вельмі стараўся, бо працягвалася дзейнасць «Сяброў Чалавецтва на Усходзе Гродна». Э.Ажэшка ў

сваіх «Успамінах» занатавала: «...Бацька мой быў вальнадумцам, як гэта тады называлася, вальтэрыянцам. Ведаю, што паміж 1825 і 1840 годам належаў да адной з масонскіх ложаў, якія існавалі ў Літве» [33, с. 21]. Дакладна вядома, што масон 3-й ступені Б.Паўлоўскі ў гродзенскай ложы ў 1821 г. займаў пасаду прамоўцы.

Другі факт, які пацвярджае існаванне ложы, звязаны з пісарам маршалка Гродзенскай губерні Пятром Сіманоўскім. У 1838 г., па паказаннях вучня гродзенскай гімназіі К. Бернарда, ён запрашаў яго ўступіць у масонскую ложу, гаворачы, што мэта масонства – «імкненне да свабоды і дапамога бліжнім», даваў зборнік масонскіх песень, якія «ўсхвалялі годнасць і шляхетныя мэты ложы». У сваім тлумачэнні Сіманоўскі напісаў, што ніякай масонскай ложы не існуе, а ён пажартаваў з Бернарда, каб паказаць спраўніку Кузіну, у якога той жыў, дурасць яго. Утаіў сваю прыналежнасць да таварыства, бо пісаў, што «все действия мои строились всегда к тому, чтобы быть на счету людей благонадежных, благонамеренных и не подвергающихся невыгодным со стороны правительства замечаниям» (НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 4462, а. 1 адв., 2 адв., 8, 11 адв., 12 адв.).

Мінскі гісторык М. Смяховіч знайшоў у НГАБ у Мінску дакумент, у якім распавядаецца пра падрыхтоўку схода кіраўнікоў масонскіх арганізацыяў у Рызе. Тайны агент на паштовай станцыі ў Оршы прачытаў ліст полацкага шляхціца Пятра Рамановіча да свайго дзядзькі Фартуната Хлюдзінскага, які жыў у Віцебскай губерні. Рамановіч даведаўся пра сход ад Шыдлоўскага, сябра Вялікага Усхода. Арыштаваны Рамановіч больш нічога не сказаў, Шыдлоўскага затрымаць не змаглі. Следчая справа не была завершана, а сход адбыўся пазней у Вільні. Смяховіч лічыць, што на ім быў створаны Цэнтральны паўстанцкі камітэт, які дзейнічаў пад час паўстання 1830-1831 г. [39, с. 223-224].

Такім чынам, на землях Беларусі ў канцы XVIII ст. – першай чвэрці XIX ст. дзейнічала да 16 масонскіх ложаў, якія налічвалі не меней за 1 060 братоў (гл. дадаткі 2 і 3). За іх вялі барацьбу Вялікі Усход Польскі і пецярбургская Вялікая Ложа «Астрэя», але літоўска-беларускія ложы засталіся ў падпарадкаванні Вялікага Польскага Усхода. Масонства згрупавала розныя часткі дэмакратычнага грамадства да вырашэння галоўнай задачы – адраджэння былой дзяржаўнасці. Яно ўнесла ў жыццё народа лозунгі роўнасці, вольнасці і братэрства, паўплывала на стварэнне і дзейнасць патаемных таварystваў.

## *Крыніцы і літаратура*


1. Башилов Б. История русского масонства. – Москва: МПКП «Русло», 1993. – 160 с.

2. Воспоминания прелата Будкевича: Польское восстание 1831 года // Русская старина. 1878. Т. 22, кн. 8. – С. 591–616; 1892. Т. 75, кн. 9. – С. 503–531.

3. Госцеў А.П., Швед В.В. Гродзенская губерня // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. – Мінск: БелЭн, 1996. – С. 125-126.

4. Добрянский С. Ф. Очерки из истории масонства в Литве // Записки северо-западного отдела императорского русского географического общества. – Вильна, 1914. Кн. 4. – С. 103–145.

5. К истории масонства в России / Н.М.Затворницкий // Рус. старина. – Т. 129. Кн. 3. – С. 539–549; Т. 130. Кн. 4. – С. 209–224; Кн. 5. – С. 409–430.

6. Каталог пергаментов / Сост. Р.Ясас. – Вильнюс: Масклас, 1980. – 610 с.

7. Ланда С.С. У истоков «Оды к юности» // Литература славянских народов: Адам Мицкевич: К столетию со дня смерти. – М., 1956. Вып. 1. – С. 5–64.

8. Ланской С. О литовских бывших масонских ложах // Русская старина. – 1907. – Т. 129. – С. 539–546.

9. Масонство в его прошлом и настоящем. – М., 1914. – Т. 1. – XII +255 с.; М., 1915. – Т. 2. – XI+267 с.

10. Материалы для истории масонских лож /Пыпин А.Н.// Вестник Европы. – 1872. – Т. 4, кн. 7. – С. 244–288.

11. Материалы по истории масонства в прежней русской армии / Т. Соколовская // Русская старина. – 1907. – Т. 130. Кн. 6. – С. 659–668; Кн. 7. – С. 197–216; Кн. 8. – С. 405–432; Кн. 9. – С. 643–653.

12. Морамарко М. Масонство в прошлом и настоящем. – М.: Прогресс, 1990. – 289 с.

13. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне, ф. 1, 4, 6, 17, 31, 332, 1168, 1783.

14. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску, ф. 136, 295, 299, 319, 320, 694, 1297, 1416, 1430, 2001, 2002, 2254, 2507, 2567, 2784, 3157.

15. Папюс. Генезис и развитие масонских символов. – СПб.: МИКО, 1992. – 79 с.

16. Платонов О. А. Терновый венец России: Тайная история масонства. 1731–1996. – М.: Родник, 1996. – 703 с.

17. Пыпин А.Н. Русское масонство. XVIII и первая четверть XIX в. / Ред. и прим. Г.В.Вернадского. – Петроград: Огни, 1916. – VII с.+575 с.

18. Семевский В.И. Декабристы-масоны // Минувшие годы. – 1908. – февраль (№ 2). – С. 1–50; март (№ 3). – С. 127–170; июнь (№ 6). – С. 379–433.

19. Серков А.И. Из истории русского масонства: Ложа трёх добродетелей и декабристы // Вестн. Моск. ун-та. Сер. 8. История. – 1988. – № 5. – С. 65–78.

20. Серков А.И. Масонские ложи на территории Белоруссии и движение декабристов // Декабристские чтения: Тезисы респуб. межвуз. науч. конф. / Под ред. Б.С.Клейна, Д.В.Карева, В.В.Шведа. – Гродно, 1990. – С. 71–75.

21. Соловьёв О.Ф. Масонство в России // Вопросы истории. – 1988. – № 10. – С. 3–25.

22. Уколова В. Под покровом масонской тайны // Наука и жизнь. – 1990. – № 12. – С. 116–123.

23. Швед В.В. Гродзенскія масонскія ложы (канец XIII – пач. XIX ст.) // Гарадзенскія запісы: Старонкі гісторыі і культуры. – Гароднія: ГрДУ, 1997. – Вып. 3. – С. 64–77.

24. Швед В.В. Высоцкі П.Я. // Беларуская энцыкл. – Мінск: БелЭн, 1997. – Т. 4. – С. 325.

25. Швед В.В. Ігельстром К.Г. // Бел. энцыкл. – Мінск: БелЭн, 1999. – Т. 7. – С. 161.

26. Швед В.В. Вягелін А.І. // Энцыкл. гісторыі Беларусі. – Мінск: БелЭн, 1994. – Т. 2. – С. 383-384.

27. Швед В.В., Ігнатовіч Ф.І. Урачы і аптэкары – члены гродзенскіх масонскіх ложаў (канец XVIII – пачатак XIX ст.) // История и современные проблемы лекарственного обеспечения населения. – Гродно: б.и., 2000. – С. 37–41.

28. Шустер Г. Тайные общества, союзы и ордена / Под ред. А.Погодина. – СПб., 1905. – Т. 1. – V с.+312 с.; Т. 2. – V с.+303 с.

29. Arhiwum Glownie Akt Dawnyh, z.k. Novosilcowa, zesp.arhiw. Tyzenhauzow.

30. Askenazy Sz. Lukasinski. – W-wa, 1908. – T. 1. – 417 s.; T. 2. – 421 s.

31. Encyklopedyczny slownik historii Polski / Pod red. J. Maciszewskiego. – W-wa: POW, 1998. – 396 s.

32. Hass Z.L. Wolnomularstwo w Europie srodkowo – wschodniej w XVIII i XIX w. – Wroclaw: Zaklad narodowy Ossolinskich, 1982. – 572 s.

33. Jankowski E. Eliza Orzeszkowa. – W-wa: PIW, 1966. – 667 s.
34. Kukiel M. Dzieje Polskie porozbiorowej 1795-1921. Wyd. 4. – Paris, 1984. – 743 s.
35. Lachnicki I. – E. Statystyka guberni Litewsko – Grodzienskiej. – Wilno, 1817.
36. Malachowski-Jempicki St. Wykaz Polskich lyz wolnomularskich oraz ih czlonkow w latach 1738-1821 // Archiwum komisji historycznej Polskiej akademii Umiejetnosi. – T. 14. – Krakyw, 1930 – № 14. – S. 112–430.
37. Malachowski-Jempicki St. Wolnomularstwo na ziemiach dawniego WKL (1776 – 1822). Dzie i materialy. – Wilno, 1930. – VIII+212 s.
38. Zaleski S. O masonii w Polsce od roku 1738 do 1822 na Їrydlach wyl№cznie masonskich. – Krakyw, 1908. – Cz. 1. Dzieje masonii w Polsce. – 274 s.; Cz. 2. Ryty i obrazy, spisy masonii polskiej. – 248 s.
39. Смяховіч М. У. Арганізацыі і асобы: Паўстанне 1830-1831 гг. на Беларусі // Полымя. – 1996. – № 4. – С. 218–234.




*Мал. 2.* Пячатка правінцыяльнай ложы «Дасканалая Еднасць» на Усходзе Вільні

а) 

б) 


*Мал. 3.*
а) Пячатка Вялікага Усхода Каралеўства Польскага і ВКЛ (1784–1794);
б) пячатка Вялікага Усхода Польскага (1815–1822)

# ДАДАТКІ

Дадатак 1

*Схема 1.* Арганізацыйная структура масонства на землях Беларусі*

Вялікі Усход Польскі (1815–1821)

К А П І Т У Л Ы :

Святыня Спакою (Нясвіж)

Правінцыяльная ліцвінская ложа «Дасканалая Еднасць» (Вільня)

Гара Табар на Усходзе Мінска

сімвалічныя ложы

№ 4 Шчаслівае Вызваленне (Нясвіж)

№ 19 Паўночная Паходня (Мінск)

№ 24 Вузел Еднасці (Навагрудак)

№ 25 Сябры Чалавецтва (Гродна)

№ 32 Уладзіслаў Ягайла на Усходзе Слуцка

*Складзена па: 13, ф. 1, воп. 1, спр. 2860, а. 3-4; 38, ч. 2, с. 112–119; Вернадский Г.В.Русское масонство в царствование Екатерины II. – Петроград, 1917. – С. 18, с. 68; 17, с. 501-502, 521-522; 4, с. 136; 36, с. 118, 160, 164; Уничтожение масонских лож в России 1822 г. // Рус. старина. – 1877. – Т. 28. – С. 664.

Дадатак 2

**Табліца 1**

**Колькасць братоў у масонскіх ложах на землях Беларусі (канец XVIII ст.)***

| № п/п | Назва ложы | Колькасць братоў |
|---|---|---|
| 1. | Шчаслівае Вызваленне (Гродна) | 20 |
| 2. | Геркулес у калысцы (Магілёў) | 9 |
| 3. | Двух Арлоў (Магілёў) | – |
| 4. | Назва ложы невядома (Магілёў) | – |
| 5. | Пераможаныя Забабоны (Нясвіж) | 6 |
| 6. | Талія (Полацк) | – |
| 7. | Добры Пастар (Слонім) | – |
| 8. | Мудрасць | 1 |
| | Усяго вядомых сяброў: | 36 |

* Складзена па: Гардзееў Ю. З гісторыі гарадзенскіх масонаў // Гістарычны альманах. – 2001. – Т. 5. – Гародня. – С. 78–104; Ён жа. Гарадзенскія масонскія прывілеі з мяжы XVIII-XIX ст. // Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVIII – пачатак XX ст. – Вільня: Grudas, 2005. – 280 с.; Каталог пергаментов / Сост. Р.Ясас. – Вильнюс: АН Лит. ССР, 1980. – 610 с.; Серков А.И. Русское масонство. 1731-2000 г.: Энциклопедический словарь. – М.: Российская политическая энциклопедия (РОССПЭН), 2001. – 1224 с., илл.

Дадатак 3

**Табліца 2**

**Колькасць братоў у масонскіх ложах на землях Беларусі (першая чвэрць XIX ст.)***

| № п/п | Назва ложы | Дзейныя | Ганаровыя | Невядомыя | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Сябры Чалавецтва (Гродна) | 100 | 64 | | 164 |
| 2. | Паўночная Паходня (Мінск) | 163 | 68 | | 231 |
| 3. | Гара Табар (Мінск) | 31 | | | 31 |
| 4. | Вузел Еднасці (Навагрудак) | 81 | 18 | | 99 |
| 5. | Шчаслівае Вызваленне (Нясвіж) | 132 | 87 | 25 | 244 |
| 6. | Святыня Спакою (Нясвіж) | 131 | | | 131 |
| 7. | Уладзіслаў Ягайла (Слуцк) | 32 | 47 | 43 | 122 |
| 8. | Саюз Справядлівасці (Шклоў) | 2 | – | | 2 |
| | Усяго | 672 | 284 | 68 | 1024 |

* Складзена па: 14, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 123-124, 129-130, 134–157, 163–166, 171–179, 238, 240–245, 308–311; 38, ч. 1, с. 180–187, 191–199, 204–210; 32, с. 297; 620, с. 53-54; Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (СПб.), ф. 156, воп. 1, спр. 91, а. 213; спр. 147, с. 116; ф. ВУА, т. 1, спр. 766, ч. 1; 301, ф. 147, № 304, а. 69, 80–84 адв.; № 61, а. 34; № 21, а. 488-489; № 20, а. 298 адв.; № 70, а. 3; № 38, с. 38–39, 47 адв. – 48; № 43, с. 28, 70; 20, с. 72–74; 11, кн. 7, с. 429; кн. 9, с. 646.

Дадатак 4

**Табліца 3**

**Сацыяльны склад масонскіх ложаў на землях Беларусі (першая чвэрць XIX ст.)***

| Сацыяльны статус | Колькасць** |
|---|---|
| Прыдворныя чыны | 1 |
| Вышэйшыя дзяржаўныя чыны | 7 |
| Грамадзянскія чыны | 78 |
| Служачыя па вучэбнай частцы | 18 |
| Служачыя па судовай частцы | 97 |
| Служачыя па паліцэйскай частцы | 5 |
| Вайскоўцы | 122 |
| Шляхта і дваранства | 102 |
| Каталіцкія святары | 3 |
| Прафесары і вучоныя | 6 |
| Урачы і медыцынскія служачыя | 25 |
| Кампазітары і музыканты | 10 |
| Мастакі і скульптары | 1 |
| Рамеснікі | 4 |
| Слугі | 10 |
| Асобы, прафесійны статус якіх невядомы, а таксама тыя, чый статус у ложах нявысветлены | 187 |
| Усяго | 672 |

*Складзена па: гл. крыніцы да дадатка 3.

**Указаны толькі дзейныя сябры. Асобы, якія ўзгадваюцца ў некалькіх ложах, лічацца як адзін чалавек.

## 1.2. Спісы масонскіх ложаў XVIII – першай чвэрці XIX ст.

### А. Спіс масонскіх ложаў XVIII ст.

1. Гродна. Шчаслівага вызвалення (1781 – 1809).
2. Магілёў. Геркулес у калысцы (1776/77 – ?).
3. Магілёў. Двух Арлоў (1770 – 1792).
4. Магілёў. Назва ложы невядома (1778 – 1779).
5. Нясвіж. Пераможаныя Забабоны (1784 – 1809).
6. Полацк. Талія (1777 – ?).
7. Слонім. Добрага Пастыра (1780 – ?).
8. Шклоў. Мудрасць (? 1791 – ? 1792).

Б. Спіс масонскіх ложаў першай чвэрці XIX ст.

1. Гродна. Сябры Чалавецтва (1817 – 1840-я г.).
2. Мінск. Паўночная Паходня (1816 – 1821).
3. Мінск. Гара Табар (Фавар) (1818 – 1821).
4. Мінск. Святасць Змовы (? – ?).
5. Мінск. Святыня Поўначы (не пазней 1820 – 1821).
6. Навагрудак. Багіня Цэрэра (1816 – 1817).
7. Навагрудак. Вузел Еднасці (1817 – 1821).
8. Нясвіж. Шчаслівага Вызвалення (1810 – 1821).
9. Нясвіж. Святыня Спакою (1819 –1821).
10. Слуцк. Уладзіслаў Ягайла (1818 – 1821).
11. Шклоў. Саюза Справядлівасці і Дасканаласці (? – ?).

## 1.3. Браты масонскіх ложаў канца XVIII ст.




*Мал. 4.* Пячатка ложы «Шчаслівага Вызвалення» на Усходзе Гродна

**XVIII: 1*. Гродна. Ложа Шчаслівага вызвалення (Szкњliwe Oswobodzenie, L’heureuse Delivrance).**

Заснавана ў 1781 правінцыяльнай ложай Дасканалай Еднасці. Працавала на французскай мове ў саюзе Вялікага Усхода Польшчы, верагодна, да 1809 г.

1) Бекю (Becu) Якуб.

Майстар кафедры пасля Гутакоўскага.

2) Бекю (Becu) Жан Луіс.

Казначэй.

* Указаны стагоддзе і нумар у спісе ложаў.

3) Бютнэр (Buttner) Захарыуш.
Сябра ложы.
4) Вальтэр (Walter) Жан (Ян) Гадэфрой.
Сябра ложы.
5) Вірыён (Wiryon, Virion) Юзэф Караль Янавіч.
Захавальнік пячаткі.
6) Вязоўскі, Вянзоўскі (Wiкzowski) Луіс.
Сябра ложы.
7) Гольц (Goltz) Чарльз Готліб. Сябра ложы.
8) Грабоўскі (Grabowski) Стэфан.
Майстар цырыманіяла.
9) Гутакоўскі.
Майстар ложы да Я. Бекю.



Людвік Гутакоўскі

10) Жылібер (Gilibert) Жан-Эмануэль.
Майстар стула.
11) Жымель (Gimel) (Гімель) Я.
1-ы сцюарт.
12) Каўц (Kaus) Ефраім Готліб.
Сябра ложы.
13) Мюнц (Muntz) Й.Х.
2-і сцюарт 1781 г.
14) Нарвойш (Narwoysz) Францішак Ксаверы Мілікант.
Прамоўца 1781 г.
15) дэ Сака (Sacco) Джузэпе (Юзэф).
Сябра ложы 1781 г.
16) Сухадолец Міхал Мацеевіч.
Майстар абрадаў у 1781 г.

17) Фэхнер (Fechner) Хрысціян Эрнэст.
Сябра ложы.
18) Шмідт (Schmidt) Зігфрыд.
Сябра ложы.
19) Шрэйбер (Schreiber) Фрыдэрык.
Сакратар.
20) Юрэвіч (Jurewicz) Тадэвуш.
Сябра ложы.

**XVIII: 2. Магілёў. Ложа Геркулес у калысцы (пялёнках).**

Заснавана ў 1776-1777 з дазволу І.П. Ялагіна. Пасля паездкі І.Я.Шварца ў Мітаву пераўтворана па сістэме «строгого наблюдения». «Магчыма, згаданыя ніжэй сябры належалі да дзвюх розных ложаў», – лічыць вядомы маскоўскі даследчык А.Сяркоў.

1) Алеяўцаў Васіль Іванавіч.
Сябра ложы.
2) Вяроўкін Андрэй Іванавіч.
Сябра ложы. Майстар стула.
3) Гамалея Сямён Іванавіч.
Сябра ложы.
4) Гірш.
Сябра ложы.
5) Дабрынін Гаўрыла Іванавіч.
Сябра ложы.
6) Палянскі Васіль Ігнацьевіч.
Майстар стула (другой ложы?) у 1778-1779.
7) Стражаў Іван Мартынавіч.
Пасведчаны ў гэтай ложы, выконваў функцыі ахоўніка, масон 2-й ст.
8) Шафрскі Фёдар.
Сябра ложы.
9) Шварц Іёган-Георг (Іван) Ягоравіч.
Сябра-заснавальнік ложы. Па вяртанні з Мітавы выбраны майстрам стула.

**XVIII: 3. Магілёў. Ложа Двух Арлоў.**

Ложа асаблівага абраду, заснавана 22.05.1770.

**XVIII: 4. Нясвіж. Ложа Пераможаныя Забабоны.**

Заснавана 30.07.1784. З 1809 г. называецца «Шчаслівае Вызваленне». Праіснавала да 1821 г.

1) Вірыён (Virion, Wiryon) Юзэф Караль. Захавальнік пячаткі ў 1781.

2) Кіцкі Аўгуст.

Прадстаўнік пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1784.

3) Мюнц Й.Х.

2-і дазорца ў 1781.

4) Сухадолец Міхаіл Мацеевіч.

Майстар абрадаў у 1781.

5) Шаняўскі Фабіян.

Прадстаўнік пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1784.

6) Шрэйбер Фрыдэрык.

Сакратар у 1781.

**XVIII: 5. Полацк. Талія.**

Сімвалічная ложа працавала ў 1777 г.

**XVIII: 6. Магілёў. Назва ложы невядома.**

Працавала да 1792 г.

**XVIII: 7. Слонім. Ложа Добрага пастыра.**

З'яўлялася філіялам аднайменнай віленскай ложы. Заснавана ў 1780. Працавала на французскай мове.

**XVIII: 8. Шклоў. Ложа Мудрасці.**

Працавала ў 1791 г. па ялагінскай сістэме.

1) Ільін Іван Ільіч.

Сябра ложы.

## 1.4. Браты масонскіх ложаў першай чвэрці XIX ст.

**XIX: 1. Гродна. Ложа Сябры чалавецтва (Pzyjaciele Ludzkosci).**

Заснавана 20.05.1817. Працавала ў саюзе Вялікага Усходу Польшчы пад № 25, падпарадкоўвалася капітулярнай ложы «Дасканалай еднасці» ў Вільні і малому капітулу ў Нясвіжы. Закрыта, як і іншыя ложы саюза, 25.09.1821; асобныя сябры ложы працягвалі сходы ў 1840-х гадах.

1) Адамовіч (Adamowicz) Якуб.

Пасведчаны каля 1819, сябра ложы 2-й ст. у 1821.

2) Адынец (Odyniec) Геранім.

Ганаровы сябра ложы ў 1821, масон 5-й ст.

3) гр. Алізар (Olizar) Нарцыз Піліпавіч.

Ганаровы сябра ложы.

4) Аляшкевіч (Oleszkiewicz) Юзэф Янавіч.

Ганаровы сябра ложы ў 1821, масон 3-й ст., прамоўца ложы «Белы Арол» у Пецярбурзе.

5) Анджэйкавіч (Бутаўт-Анджэйкавіч, Andrzeykowicz) Міхал Тадэвушавіч (Фадзеевіч).

Сябра ложы 4-й ст.; у 1820-1821 – 5-й ст., намесны майстар у 1818, майстар стула ў 1819–1822.

6) Анджэйкавіч (Andrzeykowicz) Фелікс Тадэвушавіч.

Масон 31-й ст.

7) Анджэйкавіч (Andrzeykowicz) Ян Тадэвушавіч.



*Мал. 5.* Пячатка ложы «Сябры Чалавецтва» на Усходзе Гродна

Пасведчаны каля 1816; сябра ложы 4-й ст. у 1819, 5-й ст. – у 1821.

8) Багурскі (Bogurski) Пётр.

Сябра ложы, масон 33-й ст. у 1821, прадстаўнік Амерыканскага Савета.

9) Бжэзіна (Brzezina) Юзэф.

Заснавальнік ложы, масон 3-й ст. у 1819–1821.

10) Блажэўскі (Biaïewski) Банавентура.

Ганаровы сябра ложы, яе прадстаўнік пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1821.

11) Бліёр (Bliore) Артур Караль.

Сябра ложы, брат-служачы ў 1819–1821, масон 2-й ст. у 1819, 3-й ст. – у 1821.

12) Блоцкі (Blocki) Станіслаў Міхайлавіч.

Сябра ложы, пасведчаны каля 1819, масон 1-й ст. у 1821.

13) Брадоўскі (Brodowski) Антоні (Антон) Марцінавіч.

Сябра ложы, пасведчаны каля 1819, масон 1-й ст. у 1819, 2-й ст. – у 1821.

14) фон Брэм Лорэнц Іёган Людвіг.

Ганаровы сябра ложы, пасведчаны ў красавіку 1815.

15) Бухавецкі (Bychowiecki) Людвіг.

Сябра ложы, пасведчаны каля 1819, масон 2-й ст. у 1821.

16) Бучынскі (Byczynski) Ян Юр'евіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст.

17) Быкоўскі (Bykowski) Канстанцін Фадзеевіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1821.

18) Быстры (Bystry) Каспар Станіслававіч.

Сябра ложы, пасведчаны каля 1819, масон 2-й ст. у 1821.

19) Бялоцкі (Biaiocki) Гжэгаж Іванавіч.

Заснавальнік ложы, масон 4-й ст. і скарбнік у 1819, масон 4-й ст. у 1821.

20) Вальтэр, Вольтэр (Wolter) Багуміл Янавіч.

Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1821.

21) Вайніловіч (Woyniiiowicz) Фларыян.

Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1820, 6-й ст. – у 1821.

22) Вайніловіч (Woyniiiowicz) Юзэф Мікалаевіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1821.

23) Валовіч (Woiiowicz) Ян.

Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1821.

24) гр. Валовіч (Woiiowicz) Яўхім Антонавіч.

Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 3-й ст.

25) Верашчака (Wereszczaka) Юзэф Антонавіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.

26) Вейсенгоф (Weysenhoff) Францішак.

Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.

27) Відацкі (Widacki) Якуб Піліпавіч.

Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1821.

28) Вірыён (Wiryon) Ян Юзэфавіч (Восіпавіч).

Заснавальнік ложы, масон 3-й ст. у 1819–1821.

29) Вітаноўскі (Witanowski) Дамінік Янавіч.

Сябра ложы, прамоўца ў 1818–1820, масон 4-й ст. у 1821.

30) Вітаноўскі (Witanowski) Міхал Янавіч.

Сябра ложы, 2-і дазорца ў 1818, 1-ы дазорца ў 1819; намесны майстар у 1820, па дазволу Нясвіжскага малога капітула ўведзены ў 4-ю ст. у 1821.

31) Галіцкі (Halicki) Якуб.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1821.

32) Гарабурда (Haraburda) Адам.
Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1821.
33) Гарэгляд (Horehlad) Юзэф Якімавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1819–1821.
34) Гарэцкі (Gorecki) Юзэф Валянцінавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1821.
35) Генч (Hentsch) Францішак.
Ганаровы сябра ложы ў 1821.
36) Герланд Фёдар Фёдаравіч.
Сябра ложы.
37) Гірс (Giers) Аляксандр Карлавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1819–1821.
38) Главацкі (Glowacki) Юзэф Антонавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
39) Гласка (Hiasko) Юльян Леапольдавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1819–1821.
40) Глінскі (Glinski) Аўгусцін.
Ганаровы сябра ложы ў 1821, масон 7-й ст.
41) Гофман (Hofman) Караль.
Ганаровы сябра ложы ў 1821, масон 7-й ст.
42) Грамыка (Грамыкін) Іосіф Станіслававіч.
Ганаровы сябра ложы.
43) Гродэк (Groddeck) Багдан (Эрнэст) Веніямінавіч.
Ганаровы сябра ложы.
44) Грэгаровіч (Hrehorowicz) Караль.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819–1821.
45) Губарэвіч (Hubarewicz) Станіслаў.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1819, 3-й ст. – у 1821.
46) Дабжанскі (Dobrzanski) Вінцэнт Антонавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 6-й ст.
47) Далінскі (Dolinski) Станіслаў Станіслававіч.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1819, 3-й ст. і абраданачальнік – у 1821.
48) Дамброўскі (D№browski) Міхал Лявонцьевіч.
Пасведчаны каля 1817, масон 1-й ст. у 1819, 2-й ст. – у 1821.
49) Дамброўскі (D№browski) Хрызастам.
Ганаровы сябра, масон 7-й ст. у 1820.
50) Данкевіч (Dankiewicz) Рамуальд Марцінавіч.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1819, масон 3-й ст. і ялмузнік у 1821.
51) Даўнаровіч (Downarowicz) Казімір.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
52) Дзежыц (Dzieїус) Ян.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1821.
53) Дзяконскі (Dziekonski) Юзэф Янавіч.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1819, 3-й ст. – у 1821.




*Мал. 6.* Пячатка ложы «Сябры Чалавецтва» на Усходзе Гродна

54) кн. Длускі (Dluski) Міхал Сцяпанавіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.

55) Дмухоўскі Міхал.

Ганаровы сябра ложы.

56) кн. Друцкі-Любецкі (Drucki-Lubecki) Ксаверы Францішак.

Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 7-й ст.

57) Елец (Jelec) Адам Юзэфавіч.

Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819, 3-й ст. – у 1821.

58) Елец (Jelec) Антоні Міхайлавіч.

Сябра ложы, масон 3-й ст. і суддзя ў 1819-1820, 4-й ст. і намеснік майстра кафедры ў 1821.

59) Ельскі (Jelski) Плацыд Юзэфавіч.

Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1821.

60) Ельскі (Jelski) Юзэф Юзэфавіч.

Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819, 2-й ст. – у 1821.

61) Жышкевіч (Ïyszkewicz) Антоні.

Сябра ложы, масон 3-й ст. і 1-ы сцюарт у 1819; правяраючы архітэктар, а затым сакратар у 1821.

62) Жукоўскі (Ïukowski) Шыман.

Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.

63) гр. Жэвускі (Rzewuski) Адам Станіслававіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.

64) гр. Жэвускі (Rzewuski) Генрых Адамавіч.

Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 5-й ст.

65) Завадскі Юзэф.

Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820-1821.

66) Загурскі (Zagorski) Ян Антоніевіч.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1819, 3-й ст. і будаўнічы рахункавод у 1821.

67) Задарноўскі (Zadarnowski) Станіслаў.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1819–1821.
68) Заха (Zacha) Ян Янавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. і ялмузнік у 1819, масон 4-й ст. у 1821.
69) Іваноўскі (Iwanowski) Юзэф.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
70) Івашкевіч (Iwaszkiewicz) Ян.
Ганаровы сябра ложы. Прадстаўнік ложы пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1821, масон 7-й ст.
71) Кайсараў (Kaysarof) Пётр Сяргеевіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1819–1821.
72) Казлоўскі (Kozlowski) Міхал.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
73) гр. Камароўскі (Komarowski) Бальтазар Іванавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1821.
74) Каменскі (Kamiecski) Казімір.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст.
75) Каменскі (Kamiecski) Людвік Юзэфавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.
76) Каменскі (Kamiecski) Юзэф Францавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
77) Камінскі (Kamicski) Ян.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1819.
78) Канюшэўскі (Koniuszewski) Ян Антоніевіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
79) Капроўскі Юзэф.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1821.
80) Кашуба Адольф Юльянавіч.
Сябра ложы.
81) Кожыц Якуб.
Сябра ложы.
82) Котвіч (Kotwicz) Ян.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
83) Крыдэл (Krydel) Аляксандр Антоніевіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1819–1821.
84) Крыдэл (Krydel) Ануфры Антоніевіч.
Сябра-заснавальнік ложы, масон 3-й ст. у 1819–1821.
85) Крэйбіх (Kreybich) Казімір.
2-і дазорца ў 1819–1821; масон 3-й ст. у 1819, 4-й ст. – у 1821.
86) Кузімовіч (Kuzimowicz) Тамаш.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
87) Кунцэвіч (Kuncewicz) Ежы Міхайлавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
88) Кунцэвіч (Kuncewicz) Юзэф Юр’евіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819, 2-й ст. – у 1821.

89) Ланскі (Jacski) Сяргей Сцяпанавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1821.
90) Ласковіч, Лясковіч (Laskowicz) Станіслаў Андрэевіч.
Сябра ложы, пасведчаны каля 1817, масон 2-й ст. у 1821.
91) Лыкаў (Jykow) Тэадор.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
92) Ляхніцкі (Lachnicki) Ігнацы Юзэфавіч.
Заснавальнік ложы, майстар стула да 1820, масон 4-й ст. у 1819, 5-й ст. – у 1820.
93) Ляхніцкі (Lachnicki) Ігнацы Эмануіл Антоніевіч.
Заснавальнік ложы, масон 4-й ст. у 1821.
94) Малеўскі (Malewski) Антоні.
Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820-1821.
95) Мараўскі (Morawski) Караль Дзям'янавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820-1821.
96) Марачэўскі (Moraczewski) Казімір Мацеевіч.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1821.
97) Марачэўскі (Moraczewski) Тэафіл Мацеевіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819, 3-й ст. у 1821.
98) Маркяновіч (Markianowicz) Юзэф Тамашавіч.
Ганаровы сябра ложы ў 1821.
99) Маркяновіч (Markianowicz) Міхал Тамашавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1821.
100) Мацкевіч (Mackiewicz) Міхал.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820-1821.




*Мал. 7.* Знак ложы «Сябры Чалавецтва» на Усходзе Гродна

101) Мержэеўскі (Mierziejewski) Антоні Янавіч.

Сябра ложы, масон 4-й ст. і падскарбі ў 1820.

102) Мержэеўскі (Mierziejewski) Калікст Юзэфавіч.

Майстар стула ў 1818, масон 4-й ст.; сябра ложы 5-й ст. у 1819, 7-й ст. – у 1821.

103) Мержэеўскі (Mierziejewski) Фелікс Янавіч.

Майстар абрадаў, масон 3-й ст. у 1819-1820, ганаровы сябра ў 1821.

104) Міхаеліс (Michaelis) Ян.

Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819; масон 3-й ст. і 2-і сцюарт у 1821.

105) фон Міхельсан (Michelson) Бернард (Берэнс) Міхайлавіч.

Сябра ложы, масон 4-й ст. у 1819-1820.

106) гр. Мусін-Пушкін-Брус (Mousin Puszkin) Васіль Валянцінавіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст.

107) Мухлінскі (Muchlicski) Ігнацы.

Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1820-1821.

108) Мэйнэ (Meine) Пілiп.

Сябра-заснавальнік ложы, 1-ы сцюарт у 1819, масон 3-й ст. у 1821.

109) Насаржэўскі (Nosarzewski) Юліян.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1819–1821.

110) Невядомскі (Niewiadomski) Якуб.

Ганаровы сябра ложы ў 1821, масон 4-й ст.

111) Незабытоўскі (Niezabytowski) Стэфан Янавіч.

Ганаровы сябра ложы ў 1821, масон 4-й ст.

112) Нелюбовіч (Nielubowicz) Юзэф.

Пасведчаны каля 1818, масон 2-й ст. у 1819, сябра ложы 3-й ст. і казначэй у 1821.

113) Нелюбовіч (Nielubowicz) Ян.

Пасведчаны каля 1818, масон 1-й ст. і захавальнік архіва і пячаці ў 1821.

114) Непакойчыцкі (Пацей-Непакойчыцкі) (Niepokoyczycki) Адам Варфаламеевіч.

Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 7-й ст. у 1818.

115) Нефел Фрыдрых.

Сябра ложы, масон 1-й ст. і брат-служачы ў 1821.

116) Нямцэвіч (Niemciewicz) Ян.

Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1819–1821.

117) Паўлоўскі (Pawiowski) Бенедыкт.

Сакратар у 1819-1820, масон 3-й ст.; прамоўца ў 1821.

118) Пахнеўскі (Pachniewski) Антоні.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1819–1821.

119) Пярфільеў (Perfiliew) Павел.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1821.

120) Патоцкі (Костка-Патоцкі) (Potocki-Kostka) Станіслаў Яўстаф'евіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1821.

121) Пуцілаўскі (Puciiowski) Бенедыкт.

Ганаровы сябра, масон 4-й ст. у 1821, прадстаўнік у ложы «Дасканалае адзінства» ў Вільні ў 1818–1820.

122) Плятэр (Plater) Людвік.

Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст.

123) Ражнецкі (Roïniecki) Аляксандр Аляксандравіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.

124) барон Разэн (Rozen) (Фрыдэрык) Фёдар Фёдаравіч.

Ганаровы сябра ложы ў 1821, масон 5-й ст.

125) гр. Рдултоўскі (Rduitowski) Казімір.

Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1820.

126) Робі (Robbi) Мікалай.

Сябра ложы, масон 3-й ст. і 2-і сцюарт у 1821.

127) Ромэр (Romer) Міхал Сцяпанавіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1820.

128) Ронге (Ronge) Караль.

Ганаровы сябра ложы, масон 6-й ст. у 1821.

129) Ружыц Якуб Шыманавіч.

Сябра ложы 1-й ст. у 1819.

130) Рымовіч (Rymowicz) Міхал.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1821.

131) Рымскі-Карсакаў (Rzymski-Korsakow) Андрэй Пятровіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 6-й ст.

132) Рэвель (Rewel) Юзэф.

Брат-служачы ў 1819–1821, масон 3-й ст. у 1821.

133) Рэмбелінскі (Rembielicski) Віктар.

Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. Прадстаўнік пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1817–1819.

134) Рэмбелінскі (Rembielicski) Раймонд.

Ганаровы сябра ложы ў 1821, масон 7-й ст.

135) Сержпутоўскі (Sierzputowski) Ян.

Сябра ложы, масон 4-й ст. у 1819, ганаровы сябра ложы ў 1821.

136) Сіманоўскі (Simanowski) Пётр.

Сакратар у 1818, масон 4-й ст. у 1819–1821.

137) Сіпайла (Sipaylo) Юзэф Міхайлавіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.

138) Скіндэр (Skinder) Ігнацы Міхайлавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1819–1821.
139) Смігевіч (Smigewicz) Себасц’ян.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1821.
140) Стычыньскі (Styczycski) Вінцэнт Ягоравіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. і 1-ы дазорца ў 1821.
141) Судхоўскі Пятро.
Сябра ложы.
142) Сядлецкі (Siedlecki) Казімір Мацеевіч.
Сябра ложы, масон 4-й ст., захавальнік архіва і пячаткі ў 1819-1820, ганаровы сябра ложы ў 1821.
143) Сядлецкі (Siedlecki) Фелікс Мацеевіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1821.
144) Фаленскі (Falecski) Антоні Юзэфавіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819, 2-й ст. – у 1821.
145) Філжан, Фільжан (Filsjan) Ян (Жан).
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1821.
146) Хабжынскі (Chobrzycski) Юзэф.
Сябра ложы, масон 5-й ст. у 1819.
147) Хлявінскі, Хлявіньскі (Chlewinski) Адам Тадэвушавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1821.
148) Хмялеўскі Ян.
Сябра ложы.
149) Ходзька (Ходзька-Барэйка) (Chodïko) Ян Юзэфавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.
150) Чачкоўскі (Czaczkowski) Міхал.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1819, 3-й ст. – у 1821.
151) Шпінгер.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1821.
152) Шукевіч (Szukewicz) Алаізы Антоніевіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819, 3-й ст. – у 1821.
153) Шуліпнікаў (Schoulipnikow) Рамуальд Сяргеевіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. – у 1821.
154) Шыц (Szyc) 1-ы Караль.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1819, ганаровы сябра ложы ў 1821.
155) Шышка (Szyszko) Леапольд Юзэфавіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819, 2-й ст. – у 1821.
156) Шэдэ (Schede) Фрыдэрык.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819, 3-й ст. – у 1821.

157) Эйсымонт (Эйсмант) (Eysymont) Караль.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1821.

158) Эйсымонт (Эйсмант) (Eysymont) Юзэф Мацеевіч.

Сябра ложы, масон 3-й ст. і майстар абрадаў у 1819.

159) Ютэйка (Joteyko) Палікарп.

Сябра ложы, масон 2-й ст., масон 2-й ст.

160) Ягалкоўскі Ежы (Рыгор).

Сябра ложы, масон 4-й ст., прадстаўнік пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1820.

161) Ягмін (Jagmin) Павел Каэтанавіч.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1819–1821.

162) Ягмін (Jagmin) Станіслаў.

Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819, 3-й ст. – у 1821.

163) Яноўскі (Janowski) Вінцэнт.

Сябра ложы, 1-ы дазорца ў 1818, намесны майстар у 1818, масон 4-й ст. і яе суддзя ў 1821.

164) Ясковіч (Jaskowicz) Станіслаў.

Сябра ложы.

**XIX: 2. Мінск. Ложа Паўночная паходня [Паўночнага шэсця пад паўночнай зоркай** (або Паўночнай Паходняй, Паўночнай Лямпай) Pochodnia Pylnocna]. Заснавана 05.06.1816, інсталявана 18.10.1816. Працавала пад кіраўніцтвам Вялікага Усходу Польшчы і правінцыяльнай ложы «Дасканалай еднасці» ў Вільні пад № 19. Была звязана з Нацыянальным масонствам і польскім Патрыятычным таварыствам. Браты ложы ўдзельнічалі ў вызваленчым руху на землях Беларусі.

1) Аборскі (Oborski) Гіляры.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.

2) Адынец (Odyniec) Геранім.

Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1820.

3) Азямблоўскі (Ozikblowski) Віктар.

Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.

4) Аксамітоўскі (Axamitowski) Юзэф.

Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.

5) Акушка (Okuszko) Юзэф.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.

6) Алеша (Olesza) Ігнацы Леапольдавіч.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.

7) гр. Алізар Нарцыс Піліпавіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст.




*Мал. 8.* Пячатка ложы «Паўночная Паходня»

8) Аляшкевіч (Oleszkiewicz) Ян.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
9) Арцымовіч (Arcimowicz) Гіляры-Ян Бенедыктавіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
10) Арцымовіч (Arcimowicz) Феліцыян Бенедыктавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. і падскарбі ў 1820.
11) Арцішэўскі (Arciszewski) Антон Казіміравіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
12) Асінскі (Osicski) Людвік.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.
13) Аскерка (Oskierka) Казімір.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
14) Аскерка (Oskierka) Ян.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
15) Багдановіч (Bohdanowicz) Ануфры.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
16) Багдановіч (Bohdanowicz) Вінцэнт.
Сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820.
17) Багдановіч (Bohdanowicz) Ігнацы.
Сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820.



*Мал. 9.* Пячатка ложы «Паўночная Паходня»

18) Багдановіч (Bohdanowicz) Казімір Карлавіч.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
19) Бардскі Матэвуш.
Сябра ложы.
20) Бачыжмалскі (Baczyïmalski) Тадэвуш-Тэадор Янавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
21) Беліковіч (Bielikowicz) Францішак.
Сябра ложы, перайшоў з пецярбургскай ложы, масон 1-й ст. у 1820.
22) Белінковіч (Bielinkowicz) Ян.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
23) Беліновіч (Bielinowicz) Цыпрыян Львовіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. і захавальнік пячаткі ў 1820.
24) Бетхер (Bether) Густаў Янавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
25) Бжастоўскі (Brzostowski) Аўгуст Рабертавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
26) Бідэрман (Biderman) Караль.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
27) Борсук (Borsuk) Ян.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.

28) Брадоўскі (Brodowski) Ігнацы.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1817.
29) Брант (Brant) Ян.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
30) Бургельскі (Burgielski) Альберт.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1818–1820.
31) Буцэвіч (Bucewicz) Ігнацы Антоніевіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
32) Буцэвіч (Bucewicz) Ян.
Ганаровы сябра, масон 3-й ст. у 1820.
33) Бярновіч (Bernowicz) Сэрвацы Міхайлавіч.
Сябра ложы, 2-і дазорца ў 1818, масон 4-й ст. у 1820.
34) Бястужаў (Bestuïew) Іван Сцяпанавіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
35) Б.Я. (B.I.)
Сябра ложы, масон 4-й ст., прамоўца ў 1820.
36) Вазніцкі Міхал.
Майстар стула да 1818.
37) Вайдзевіч (Woydziewicz) Люфтан-Арыст.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
38) Вайдзевіч (Woydziewicz) Фелікс Францавіч.
Сябра ложы, 1-ы дазорца ў 1817, масон 4-й ст. у 1820.
39) Вайніловіч (Woyniiiowicz) Казімір Юзэфавіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
40) Валадковіч (Wolodkowicz, Wolodkewicz) Вінцэнт.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
41) Валадковіч, Радван-Валадковіч (Wolodkowicz, Wolodkewicz) Мельхіёр Ксавер’евіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820.
42) Валасоўскі (Woiosowski) Канстанты.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
43) Валасоўскі (Woiosowski) Юзэф.
Сябра ложы, масон 1-й ст.
44) Ваньковіч (Wackowicz) Апалінары Янавіч.
Сябра ложы, 2-і дазорца ў 1817, 1-ы дазорца ў 1818, масон 4-й ст. і намесны майстар у 1820.
45) Ваньковіч (Wackowicz) Эдвард Станіслававіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст., 1-ы назіральнік у 1818, памочнік 1-га назіральніка ў 1820.
46) Ваньковіч (Wackowicz) Ян Адамавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.

47) Венгжэцкі (Wкgrzecki) Станіслаў.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1821.
48) Вейс, Вэйс (Weys) 1-ы Аляксандр Андрэевіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст., звольнены ў 1820.
49) Вілкашэўскі (Wilkoszewski) Валенты.
Ганаровы сябра ложы з 1819, масон 7-й ст.
50) Вільчэўскі (Wilczewski) Ежы.
Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 7-й ст.
51) Вішнеўскі (Wiszniewski) Фелікс Фадзеевіч.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
52) Вішнякоў (Wiszniakow) Іван Фёдаравіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст., звольнены ў 1820.
53) Выджга (Wydïga) Фларыян.
Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 7-й ст.
54) Выпыхоўскі (Wypychowski) Францішак.
Сябра ложы, масон 1-й ст., брат-служачы ў 1820.
55) Вяргун (Werhum) Ян.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1819-1820.
56) Вяржбіцкі (Wierzbicki) Казімір.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
57) Галаўня (Hoiownia) Алаізы.
Сябра ложы, масон 3-й ст., звольнены ў 1820.
58) Гарабурда (Haraburda) Адам.
Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 4-й ст.
59) Гаршкоўскі (Gorszkowski) Лаўрэнці Восіпавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820, брат пецярбургскай ложы «Белы Арол», прадстаўнік у Дырэктарыяльнай ложы «Астрэя» ў 1820-1821.
60) Гарэцкі (Gorecki) Юзэф Валянцінавіч.
Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 7-й ст.
61) Гатоўскі Мікалай.
Сябра ложы.
62) Гейдукевіч (Heydukiewicz) Іпаліт.
Сябра ложы, масон 3 ст. і 2-і сцюарт у 1820.
63) Гендэрсан (Henderson) Тамаш.
Сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.
64) Генрыцы (Henrycy) Аляксандр Фёдаравіч.
Пасведчаны ў 1819, сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
65) Герловіч Вінцэнт.
Сябра ложы.
66) Герман (Herman) Міхал.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.

67) Гілятэр Людвік.
Ганаровы сябра ложы.
68) Гінтэр (Ginter) Адам.
Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 5-й ст.
69) Гінэт (Ginet) Людвік.
Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 7-й ст.
70) Гольц (Holtz, Golc) Адам.
Ганаровы сябра ложы з 1820, масон 5-й ст.
71) Гофман (Hoffman) Караль.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.
73) Гофман (Hoffman) Якуб Фрыдрых.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст., прадстаўнік пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1819–1821.
73) Гродэк (Grodeck) Багдан Веніямінавіч.
Ганаровы сябра ложы з 1819.
74) Гродэк (Grodeck) Эрнэст Годфрыд.
Ганаровы сябра, масон 7-й ст. у 1820.
75) Грынеўскі (Hryniewski) Вінцэнт.
Пасведчаны ў 1819, масон 3-й ст. і сакратар ложы ў 1820.
76) Дабашынскі (Doboszycski) Каэтан.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
77) Дабжанскі (Dobrzacski) Вінцэнт Антонавіч.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 6-й ст.
78) Дамброўскі (Dombrowski) Тадэвуш.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
79) Дамброўскі (Dombrowski) Ян Хрызастам.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
80) Дамель Ян.
Сябра ложы.
81) Дваржэцкі Фердынант.
Сябра ложы.
82) кн. Длускі (Dluski) Міхал Сцяпанавіч.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
83) фон Дорнфельд (Dornfeld) Ксаверы-Францішак.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
84) Дростэ (Droste) Аўгуст.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
85) Дыбоўскі (Dybowski) Леапольд.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
86) Дэдэрка (Dederko) Барнаба Казіміравіч.
Сябра ложы, масон 3- й ст., звольнены ў 1820.

87) Дэдэрка (Dederko) Рох Казіміравіч.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
88) Еленскі (Jelecski) Павел Янавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
89) Есьман (Jeњman) Ігнацы.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
90) Есьман (Jeњman) Юстын.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
91) Ёдка (Jodka) Антоні.
Сябра ложы.
92) Жамойтэль (Ïamoytel) Адам.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 5-й ст.
93) Жылінскі Ян.
Сябра ложы.
94) Жэброўскі (Ïebrowski) Вінцэнт.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
95) З.Я. (Z.I.)
Сябра ложы, масон 4-й ст. і гасцёўнік у 1820.
96) Заблоцкі Юзэф.
Сябра ложы ў 1820.
97) Завадскі (Zawadzki) Юзэф.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820. Прадстаўнік у ложы «Дасканалай Еднасці» (Вільна) у 1820.
98) Загароўскі.
Сябра ложы.
99) Заманскі Тэадор.
Сябра ложы.
100) Замбжыцкі (Zambrzycki) Валенты.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
101) Замойскі (Zamoyski) Тадэвуш.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
102) Збарашэўскі (Zbaraszewski) Анджэй.
Сябра ложы 3-й ст., былы 2-і сцюарт у 1820.
103) Зелінгоўскі (Zelingowski) Юльян.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
104) Зяновіч (Zenowicz) Ігнацы.
Сябра ложы.
105) Зяновіч (Zenowicz) Міхал Антоніевіч.
Сябра ложы, прамоўца ў 1818, масон 4-й ст. і майстар стула ў 1819–1821.

106) Іваноўскі (Iwanowski) Ігнацы Антонавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
107) Іваноўскі (Iwanowski) Раман.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
108) Кабылінскі (Kobylinski) Ежы (Юры) Себасцьянавіч.
Сябра ложы, 1-ы сцюарт у 1817, масон 4-й ст. у 1820.
109) Калкоўскі (Koikowski) Васіль.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
110) Каменскі (Kamiecski) Казімір.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст. у 1820.
111) Каменскі (Kamiecski) Людвік Юзэфавіч.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
112) Карабічын (Karabiczyn) Васіль.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
113) Карказевіч (Korkozewicz) Міхал Валяр’янавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
114) Карказевіч (Korkozewicz) Януары Валяр’янавіч.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
115) Касоўскі (Kossowski) Казімір.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
116) Каstравіцкі (Kostrowicki) Самуэль.
Сябра ложы, масон 2-й ст., звольнены ў 1820.
117) Кватkoўскі (Kwiatkowski) Ян.
Сябра ложы.
118) Класоўскі (Kiossowski) Станіслаў.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.
119) Котвіч (Kotwicz) Ян.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 4-й ст.
120) Курчынскі (Kurczynski) Станіслаў.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
121) Лазінскі (Jozinski) Ян.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
122) Лангхамп (Longchamp) Ян.
Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1820.
123) Ландражын, Ландражэн (Landragin) Іван Якаўлевіч (Жан Франсуа).
Сябра ложы, масон 2-й ст., звольнены ў 1820.
124) Лапіцкі (Japicki) Міхал.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
125) Лапушынскі (Jopuszycski) Юзэф.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.

126) Лёншан Ян.
Сябра ложы.
127) Лібельт (Libelt) Якуб Герман.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.
128) Лыкаў (Jykow) Тэадор Міхайлавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст., звольнены ў 1820.
129) Любаньскі (Lubacski) Ян Гжымала.
Сябра ложы, масон 4-й ст., звольнены ў 1820.
130) Любаўскі (Lubawski) Тэадор.
Сябра ложы, масон 3-й ст. і намеснік майстра абрадаў у 1820.
131) Лянтоўскі (Jentowski) Шыман Францішак.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
132) Ляўковіч (Lewkowicz) Вінцэнт Юзэфавіч.
Сябра ложы, масон 5-й ст., звольнены ў 1820.
133) Мадзалеўскі (Modzolewski) Фердынант.
Брат-служачы ў 1819; сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
134) Мадоўскі Ігнацы.
Сябра ложы, сакратар у 1818.
135) Манцігранды Людвіг.
Сябра ложы.
136) Манюшка (Moniuszko) Дамінік Станіслававіч.
Сябра ложы, масон 7-й ст., намесны майстар у 1818, майстар стула ў 1820.
137) Манюшка (Moniuszko) Казімір Станіслававіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
138) Манюшка (Moniuszko) Чэслаў Станіслававіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
139) Манюшка (Moniuszko) Юзэф Станіслававіч.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
140) Мараўскі (Morawski) Караль Дзям'янавіч.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
141) Маркяновіч (Markianowicz) Юзэф Фаміч.
Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1820.
142) Марцыноўскі ((Marcinowski) Антоні Янавіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
143) Масыні (Massyni) Аўгуст.
Сябра ложы, масон 1-й ст., звольнены ў 1820.
144) Матушэвіч (Matyszewicz) Міхал.
Масон-служачы 1-й ст. у 1820
145) Мацкевіч (Mackiewicz) Міхал.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.

146) Мацкевіч (Mackiewicz) Стэфан Міхайлавіч.
Сябра ложы, масон 2-й ст., звольнены ў 1820.
147) Машынскі (Moszynski) Феліцыян.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
148) Міладоўскі (Miiadowski) Раман.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
149) Мірскі (Mirski) Ян.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
150) Навамейскі (Nowomieyski) Канстанты.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 5-й ст.
151) Навіцкі (Nowicki) Банавентура.
Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1820.
152) Навіцкі (Nowicki) Тыматэвуш.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 4-й ст.
153) Непакойчыцкі (Пацэй-Непакойчыцкі, Niepokoyczycki) Адам Варфаламеевіч.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
154) Норвід (Norwid) Ян.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
155) Нофак (Nofok) Ян Антоні.
Ганаровы сябра, масон 7-й ст. у 1820.
156) Оштарп (Osztorp) Леан (Леў) Францавіч.
Сябра ложы, майстар абрадаў, масон 4-й ст. у 1820.
157) гр. Патоцкі (Potocki Kostka) Station Станіслаў Костка.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820, Вялікі магістр Вялікага Усхода Польскага.
158) гр. Пацэй (Pociey) Аляксандр.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.
159) Пашкевіч (Paszkiewicz).
Брат-служачы ў 1820, масон 1-й ст.
160) Пашкоўскі (Paszkowski) Мікалай.
Сябра ложы, масон 3-й ст. і 1-ы дазорца ў 1820.
161) Пейкер 1-ы (Peykier) Аляксандр Эмануілавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
162) Петрыкоўскі Антоні.
Сябра ложы.
163) Пётух (Piotych) Юзэф.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
164) Пжыстаноўскі (Przystanowski) Пятро.
Сябра ложы, майстар стула
ў 1817, масон 5-й ст. і суддзя ў 1820.

165) Підат (Pidot) Мікалай.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
166) гр. Плятэр (Plater) Людвік Казіміравіч.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
167) Прушынскі (Pryszynski) Атаназі.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
168) Прушынскі (Pryszynski) Яўстахі.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
169) Рагоза (Rahoza) Юзэф.
Сябра ложы, прадстаўнік у капітулярнай ложы «Дасканалая Еднасць» у Вільні ў 1817, масон 4-й ст.
170) Ражанскі (Roïanski) Францішак.
Брат-служачы, масон 1-й ст. у 1820.
171) Ражнецкі (Roïnecki)Аляксандр Аляксандравіч.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
172) Развадоўскі (Rozwadowski) Ян.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
173) Ракіцкі (Rokicki) Людвік Міхайлавіч.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
174) Ракіцкі (Rokicki) Міхал.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
175) Раманус (Romanus) Аляксандр.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
176) Ратынскі (Ratycski) Антоні.
Сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820.
177) Рашкоўскі (Roszkowski) Серафін.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
178) Рашэт (Raszet) Эмануіл Якаўлевіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
179) Сабескі (Sobeski) Міхал.
Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст., прадстаўнік ложы пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1817, 1820.
180) Сабескі (Sobeski) Ян.
Ганаровы сябра ложы, прадстаўнік пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1818.
181) гр. Салагуб (Solohub) Антоні.
Ганаровы сябра ложы ў 1820, масон 7-й ст.
182) Свентажэцкі (Swiktorzecki) Станіслаў.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
183) Свянціцкі (Swikcicki) Юзэф.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.

7) Баранцэвіч (Barancewicz) Ігнацы.

Сябра ложы 2-й ст. у 1818, сябра ложы 3-й ст. у 1820.

8) Беліковіч (Bielikowicz) Ігнацы.

9) Бернард (Bernard) Герман Іванавіч.

Пасведчаны каля 1815, ялмузнік і сябра ложы 3-й ст. у 1818–1820.

10) Бістром.

Пасведчаны ў Слуцку (магчыма, што і не ў гэтай ложы), шатландскі майстар.

11) Болтуць (Boituc) Бенедыкт (Бенуа) Феліксавіч.

Сябра ложы 2-й ст. у 1818, 3-й ст. – у 1820.

12) Болтуць (Boituc) Пятро.

13) Брадовіч Макар.

14) Букініч Якаў.

15) Булгарын (Bulharyn) Вінцэнт.

16) Булгарын (Bulharyn) Міхал Людвікавіч.

Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1818, 3-й ст. і майстар абрадаў у 1820.

17) Буцэвіч Ігнацы.

Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.

18) Быкоўскі (Bykowski) Людвіг.

19) Быкоўскі (Bykowski) Міхал.

Ганаровы сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.

20) Ваджбун (Wodïbun) Антоні.

Ганаровы сябра ложы, масон 1-й ст. у 1818–1820.

21) Ваджбун (Wodïbun) Леан (Лявон).

22) Вайніловіч (Woyniiiowicz) Аўгуст Фларыянавіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820.

23) Вайніловіч (Woyniiiowicz) Фларыян.

Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. і майстар абрадаў у 1818, 5-й ст. – у 1820, 6-й ст. – у 1821.

24) Вайніловіч (Woyniiiowicz) Юзэф Мікалаевіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820.

25) Вайніловіч (Woyniiiowicz) Ян.

Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.

26) Ваньковіч (Wackowicz) Антоні.

Сябра ложы.

27) Ваньковіч (Wackowicz) Казімір.

28) Венцлавовіч Ксаверы.

29) Вішнеўскі (Wisznewski) Павел.

Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.

30) Вішнякоў (Wiszniakow) Юзэф Ян (Фёдаравіч).
Ганаровы сябра ложы 3-й ст. у 1820.
31) Вольскі (Wolski) Мікалай.
Ганаровы сябра ложы з 1818, масон 4-й ст. у 1820.
32) Вышчынскі Юзэф.
33) Вянцкоўскі Матэвуш.
Сябра ложы ў 1820–1822.
34) Гантарскі Антоні.
35) Гарабурда (Haraburda) Адам.
Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1821.
36) Гардзенін 1-ы.
37) Гатоўскі Мікалай Паўлавіч.
Ганаровы сябра ложы.
38) Гендэрсан (Henderson) Тамаш.
Сябра ложы 7-й ст. і суддзя ложы ў 1818.
39) Гітль Каэтан.
40) Давідоўскі Уладзіслаў Адамавіч.
41) Дамбкоўскі (D№bkowski) Адам.
Сябра ложы, масон 2-й ст. у 1818, 4-й ст. і прамоўца ў 1820.
42) Даўгяла Шымон.
Ганаровы сябра ложы.
43) кн. Длускі (Diuski) Міхал Сцяпанавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.
44) Елец (Elec, Jelec) Міхал Юзэфавіч.
45) Ёдка (Jodko) Антоні Ежавіч.
46) Ёдка (Jodko) Ануфры.
Ганаровы сябра ложы.
47) Забароўскі (Zaborowski) Вінцэнт.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
48) Завадскі (Zawadzki) Казімір.
Ганаровы сябра ложы, масон 2-й ст. у 1818, 3-й ст. – у 1820.
49) Замойскі (Zamoyski) Тадэвуш.
Ганаровы сябра ложы, масон 2-й ст. у 1820.
50) Збарашэўскі (Zbaraszewski) Анджэй.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
51) Званцоў 1-ы Іван Паўлавіч.
Сябра ложы.
52) Зяновіч (Zenowicz) Міхал Антоніевіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1819-1820.
53) Ігельстром (Igelstrom) 2-і Аляксандр Густававіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820.

54) Ігельстром (Igelstrom) Густаў.
Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820.
55) Каменскі (Kamiecski) Аляксандр Людвікавіч.
Ганаровы сябра ложы 2-й ст. у 1818; 3-й ст. і намеснік сакратара ў 1820.
56) Каменскі (Kamiecski) Канстанты Львовіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1818–1822.
57) Каменскі (Kamiecski) Людвік Юзэфавіч.
Сябра-заснавальнік ложы, масон 7-й ст. у 1820, майстар стула ў 1818–1820.
58) Камаеўскі Караль.
59) Клімантовіч Ян.
Сябра ложы.
60) Корвін-Красінскі.
Пасведчаны ў сябры ложы каля 1818.
61) Крушчынскі Тамаш.
62) Кузьма Станіслаў.
63) Кунцэвіч Ігнацы Антоніевіч.
64) Курнатоўскі (Kurnatowski) Багуслаў Уладзіслававіч.
Сябра ложы 4-й ст. і прамоўца ў 1818–1820.
65) Курнатоўскі (Kurnatowski) Людвіг.
Сябра ложы, масон 4-й ст., прамоўца.
66) Лапіцкі (Japicki) Юзэф.
67) Ласка Мікіта.
68) Лютніцкі Антоні.
69) Ляўковіч (Lewkowicz) Міхал.
70) Маліноўскі Юліян.
71) Мамярзускі Т.
72) Маркевіч (Markiewicz) Францішак Пятровіч.
Сябра ложы ў 1822.
73) Марцінкевіч (Marcinkiewicz) Алэн.
74) Мержэеўскі (Mierziejewski) Антоні Янавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. і падскарбі ў 1818, 4-й ст. – у 1820.
75) Мірскі, Святаполк-Мірскі (Mirski) Станіслаў.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
76) Мітарноўскі (Mitarnowski) Антоні.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. і архітэктар-рахункавод у 1818, 4-й ст. – у 1820.
77) Навакоўскі (Nowakowski) Тадэвуш.
78) Непакойчыцкі, Пацэй-Непакойчыцкі (Niepokojczycki) Адам Варфаламеевіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 7-й ст. у 1820.

79) Непакойчыцкі (Niepokojczycki) Міхал Ігнатавіч.

Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. і сакратар у 1818.

80) Непакойчыцкі (Niepokojczycki) Ежы.

Ганаровы сябра ложы.

81) Петрашкевіч (Pietraszkiewicz) Юзэф.

82) Пуцята (Puciata) Мікалай.

Служачы ў ложы.

83) Пясецкі Людвік.

Сябра ложы, 2-і дазорца ў 1818; масон 4-й ст. і суддзя ложы ў 1820.

84) Пяткевіч Францішак.

Ганаровы сябра ложы.

85) Пятроўскі (Piotrowski) Васіль.

Сябра ложы.

86) Пятроўскі (Piotrowski) Фелікс.

Масон 5-й ст., прадстаўнік пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1819-1820.

87) Ратомскі-Кміта (Кміта) Вінцэнт.

Сябра ложы.

88) Рэйтан (Reytan) Дамінік.

Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1818, 5-й ст. – у 1820.

89) Садкоўскі (Sadkowski) Ян.

Сябра ложы, масон 3-й ст. і майстар абрадаў у 1818; сябра ложы 4-й ст. і 2-і дазорца ў 1820.

90) Саецкі Банавентура.

Сябра ложы.

91) Саковіч Юзэф.

92) Сержпутоўскі (Sierzputowski) Ігнацы.

Захавальнік пячаці і архіва ў 1818.

93) Сержпутоўскі (Sierzputowski) Казімір.

94) Сержпутоўскі (Sierzputowski) Ян.

Сябра ложы, масон 3-й ст. і захавальнік пячакі і архіва ў 1819-1820.

95) Солтан (Soitan) Ігнацы.

96) Стацэвіч (Stacewicz) Ян.

Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820.

97) Страхоўскі Людвіг.

98) Сяўрук (Siewruk) Юзэф Сямёнавіч.

Сябра ложы, 2-і сцюарт у 1818, масон 3-й ст. у 1820.

99) Талькоўскі Юзэф.

Ганаровы сябра ложы.

100) Тарнезы (Tornezy) 1-ы Цэзары (Сямён Якаўлевіч).
Ганаровы сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
101) Тоўсцік Вінцэнт.
102) Турскі (Turski) Антоні.
Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1820.
103) Тыльчэўскі Дыанізі (Дзяніс) Ігнатавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1818–1820.
104) граф Тышкевіч (Tyszkiewicz) Вінцэнт.
Ганаровы сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820.
105) Фальскі Юзэф.
Ганаровы сябра ложы.
106) Федаркевіч Сільверст.
Служачы ў ложы.
107) Філімонаў (Filimonow) Мікалай Гаўрылавіч.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820-1821.
108) Фоўх Фердынанд.
109) Фрыбес (Fribes, Frybes) Вінцэнт.
Ганаровы сябра ложы, масон 4-й ст. у 1820-1821.
110) Фукс.
Сябра ложы, масон 1-й ст. у 1820, узведзены ў 2-ю ст. у лістападзе або снежні 1820.
111) Хрсцішэўскі А.
112) Цэлчэўскі (Telczewski) Дыянісі Ігнатавіч.
Сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
113) Чэхоўскі (Czechowski) Станіслаў.
Ганаровы сябра ложы, масон 3-й ст. у 1820.
114) Чыбісаў Іван.
115) Шмігельскі (Szmigielski) Геранім.
116) Шчэнсновіч (Szczksnowicz) Юліян.
Сябра ложы, масон 3-й ст. і 1-ы сцюарт у 1818.
117) Шыманскі (Szymanski) Вінцэнт.
118) Шымковіч (Szymkowicz) Юзэфат.
Масон 3-й ст., прадстаўнік у віленскай ложы «Дасканалай Еднасці» ў 1820.
119) Яблонскі (Jabionski) Віктарын Юзэфавіч.
Сябра ложы, масон 4-й ст., 1-ы дазорца ў 1818.
120) Ягалкоўскі Гжэгаж.
Прадстаўнік пры Вялікім Усходзе Польшчы ў 1820.
121) Язерскі (Jezierski) Оттан.
Ганаровы сябра.
122) граф Язерскі (Бібесцеў-Язерскі, Jezierski) Станіслаў.
Ганаровы сябра ложы, масон 5-й ст. у 1820.

**XIX: 8. Шклоў. Ложа «Саюза Справядлівасці і Дасканаласці» (de l'union juste et parfaite).**

Магчыма, працавала ў XIX ст.

1) Інард Леў.

Майстар ложы.

2) Шмерль Ізраэль.

Сябра ложы.

*** Спісы масонаў складзены па:**


1. Добрянский С.Ф. Масонские ложи в Литве // Записки Северо-Западного отдела Императорского русского географического общества. Кн. 2. – Вильно. – С. 231–262.

2. Каталог пергаментов / Сост. Р.Ясас. – Вильнюс: Б.и., 1980. – 610 с.

3. Ланда С.С. У истоков «Оды к юности» // Литература славянских статей. – М.: Изд-во АН СССР, 1956. – С. 5–64.

4. Материалы по истории масонства в прежней русской армии / Собщ. Тира Соколовская // Русская старина. – 1907. – Т. 130. – Кн. VI. – С. 659–668; Кн. VII. – С. 197–216; Кн. VIII. – С. 405–432; Кн. IX. – С. 643–653.

5. Платонов О.А. Терновый венец России. Тайная история масонства. 1731–1996. – М.: Родник, 1996. – 703 с.

6. Пыпин А.Н. Русское масонство. XVIII и первая четверть XIX в. / Ред. и прим. Г.В.Вернадского. – Петроград: Огни, 1916. – 575 с.

7. Рыбчонак С. Менскія варштаты ў 1-й чвэрці XIX стагоддзя: (Нарысы з гісторыі вольнамулярскага руху на Беларусі) // Годнасць. – 1994. – № 1(2). – С. 3–14.

8. Серков А.И. Русское масонство. 1731 – 2000: Энциклопедический словарь. – М.: Российская политическая энциклопедия, 2001. – 1224 с.

9. Hass Ludwik. Wolnomularstwo w Europie srodkowo–wshodniej w XVIII i XIX w. – Wroclaw: Zaklad Narodowy im. Ossolinskih, 1982. – 572 s.

10. Malachowski-Jempicki St. Wykaz Polskich loz wolnomularskich oraz ich czlonkow w latach 1738-1821. // Archiwum Komisji Historycznej Polskiej Akademji Umietnosci. T. XIV. – Krakow, 1930. – S.112–430.

11. Zaiкski S. O masonii w Polsce od roku 1742 do 1822 na ïrodlach wylocznie masonskich. – Krakow, 1899. – S. I–II, VII-IX, XX–XXVIII dodatek.

12. Zaiкski S. O masonii w Polsce od roku 1738 do 1822 na ïrodlach wylocznie masonskich. – Krakow, 1908. Cz.1. – 274 s.; Cz. 2. – 248 s.

# Частка 2. БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК МАСОНАЎ

## 2.1. Прадмова

У беларускай гістарыяграфіі спробаў стварэння энцыклапедычнага слоўніка масонаў Беларусі не было, таму ў аўтара дадзенага выдання была складаная задача. За ўзор былі ўзяты слоўнікі, якія выдаваліся ў Польшчы і Расіі. Напрыклад, Людвіка Гаса «Вольнамуляры польскія ў краі і ў свеце. 1821–1999», Станіслава Малахоўскага-Лямпіцкага «Спіс вольнамулярскіх ложаў і іх членаў у 1738–1821 гадах», А.І. Сяркова «Рускае масонства. 1731–2000».

Для складання слоўніка былі выкарыстаны ў першую чаргу архіўныя дакументы і матэрыялы рукапісных аддзелаў бібліятэкаў: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску і Гродне, Нацыянальны гістарычны архіў Літвы, Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (СПб), аддзел старадрукаў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, аддзел старадрукаў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Літаратура вывучалася ў кнігасховішчах бібліятэкаў Гродна, Мінска, Вільні, Пецярбурга, Беластока, Варшавы, Брэмена.

Значная частка знойдзеных матэрыялаў упершыню ўводзіцца ў навуковы зварот. Напрыклад, фармулярныя спісы некаторых братоў, генеалагічныя і біяграфічныя дадзеныя, паперы дзейнасці масонаў (пратаколы пасяджэнняў, прамовы і інш.), справаздачы аб закрыцці масонскіх ложаў, падпіскі аб неўдзеле ў масонскіх ложах ці іншых патаемных таварыствах.

Структура слоўніка прыстасавана да вышэйназваных замежных слоўнікаў. Такая уніфікацыя патрэбна для таго, каб даследчыкі маглі лёгка знайсці адпаведную інфармацыю па розных слоўніках. Біяграфіі складаліся па наступнаму «фармуляру».

**1. Прозвішча, імя, імя па бацьку**. Часам яны прыводзяцца з рознымі варыяцыямі, якія сустракаюцца па крыніцах. У некаторых выпадках прыйшлося абмежавацца толькі прозвішчам, бо не ўдалося знайсці імя ці імя па бацьку.

**2. Тытул**. Звычайна ўказваўся ў біяграфічнай частцы, калі прысвойваўся ў перыяд службы, ці перад прозвішчам.

**3. Умоўныя нумары ложаў**, сябрам якіх з’яўляўся дадзены масон. Па іх можна адшукаць гэтую асобу ў спісах братоў ложаў, дзе прыведзены дадзеныя масонскага стану.

**4. Даты** нараджэння і смерці з указаннем месца (калі яны вядомы). Прыводзяцца адпаведна з былым тэрытарыяльна-адміністрацыйным падзелам. На жаль, у значнай колькасці масонаў дадзены пункт

або цалкам, альбо часткова застаўся нявысветленым па сённяшняму стану крыніцаў. Калі вядома, дык указвалася месца пахавання.

**5. Біяграфічныя дадзеныя.** У асноўным прыводзяцца адпаведна прынцыпу «фармулярнага спісу», таму па стылю вызначаюцца «сухасцю» і напісаны «па-канцылярскі». У творчых дзеячоў указваюцца творчыя працы.

**6. Бліжэйшыя сваяцкія сувязі.** Паколькі сваяцкія сувязі адыгрывалі значную ролю пры фарміраванні складу ложаў, таму прыводзяцца звесткі пра бацьку, маці, братоў, сясцёр, жонку, дзяцей масона.

**7. Бібліяграфія.** Прыводзяцца крыніцы і літаратура, у якой ёсць дадзеныя пра апісваемую асобу. Яны падаюцца скарочана, а поўны спіс публікуецца пасля слоўніка.



*Мал. 15.* Масонская сімволіка

Агульным прынцыпам адбору масонаў для ўключэння ў слоўнік быў іх дзейны ўдзел у ложы (сапраўдны брат). Ганаровыя браты змяшчаліся толькі ў тым выпадку, калі яны былі прадстаўнікамі ложы ў Вялікім Польскім Усходзе ці ў правінцыяльнай ложы, а таксама сваякамі дзейных братоў.

Дадзенае выданне, спадзяемся, стане падмуркам для далейшага даследавання гісторыі масонства на землях Беларусі. Яно спатрэбіцца не толькі гісторыкам і краязнаўцам, але і спецыялістам па генеалогіі, літаратуразнаўцам, мастацтвазнаўцам, усім, хто цікавіцца гуманітарнымі навукамі.

## 2.2. Слоўнік масонаў Беларусі

### А

**Аборскі Гіляры.** XIX:2

У 1820 г. – падкаморы мінскі. Аборскія мелі спадчынныя землі ў Мінскім (Пярэжыны, Бялорышча, Гаяны, Бесяды, Далькевічы, Горкі) і Навагрудскім (Баравікі, Кормуж) ваяводствах.

[Серков, с. 602; Niesiecki, t. VII, s. 15]

**Абуховіч Піліп Юзэфавіч.** XIX:5 (нар. каля 1758).

Спачатку судовы падстараста мазырскі, потым харунжы Стваловіцкага (Сталавіцкага) пав. Згодна з падзелам спадчыны атрымаў маёнтак Канцэвічы Мазырскага пав. і фальваркі Янаў-Казлоўшчына (ці Міхалоўшчына) і Жукаўшчына, выдзеленая з маёнтку Сваятычы Навагрудскага пав., а таксама 19 валок 15 моргаў лесу ад Астроўскае пушчы. У 1818 г. былы віцэ-маршалак Мазырскага пав. У 1823 – мазырскі маршалак.

Бацька: Юзэф – навагр. ваявода, пасол на сейм.

[НГАЛ, ф. 1283, воп. 1, спр. 1, с. 74-75; Серков, с. 602; Рыбчонак, Свяжынскі. Абуховічы, с. 217]

**Агінскі Габрыэль Юзэф Анджэй Ігнатавіч.** XVIII: 1 (1788 ці 1784 – 1843 ці 1842, Вільна).



Габрыэль Агінскі

Князь, сын брата Міхаіла Клеафаса Агінскага (дэпутаваны вялікі майстар). Прэзідэнт 2-га дэпартамента Віленскага галоўнага суда. У 1812 г. – шэф ганаровай гвардыі літоўскай, атрымаў крыж Ганаровага Легіёна, удзельнік кампаніі 1813-1814 г. Быў пры штабе Напалеона, суправаджаў яго ў Парыж у 1814 г. Па ўказу ад 31.03.(12.04).1814 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму з-за мяжы. Займаўся гаспадарчай і культурнай дзейнасцю, будаваў школы, прамысловыя прадпрыемствы (у тым ліку самую буйную ткацкую мануфактуру). Добра ведаў музыку і граў на скрыпцы. Пад час Лістападаўскага паўстання 1830-1831 г. займаў пасаду начальніка Віленскага пав. Быў віцэ-старшынёй Часовага Літоўскага ўрада. Пад час яго пошукаў за інфармацыю аб яго знаходжанні расійскі ўрад абяцаў некалькі тысяч дукатаў. 07.06.1831

злучыўся з Д.Хлапоўскім (на гэты час атрад Агінскага налічваў каля 350 віленскіх студэнтаў і выкладчыкаў і каля 200 сялянаў). Пасля разгрому паўстання выехаў у Прусію, а потым у Францыю. Заснаваў тут вядомае інтралігатарскае прадпрыемства. Вярнуўся на радзіму ў 1842 г. па дазволу расійскіх уладаў. На мяжы быў арыштаваны і знаходзіўся ў Віленскай турме, дзе і памёр. Пахаваны на могілках Росі ў Вільні.

Бацькі: Ігнацы і Юзэфа з Агінскіх.

Жонка: пасля смерці мужа ёй не дазволілі вярнуцца ў Францыю, і яна засталася жыць у Вільні. Пасля доўгага судовага працэсу вярнула сабе частку ўласнага пасага і падзяліла яго з беднейшымі сваякамі.

[Агінскі М.-К. Мая біяграфія; Виленский Временник. Кн. 5, ч. 2, с. 108, 252, 319; Protokoly, c. 246; Puzynina, c. 155, 331; Sowinski, c. 294; Chlopowski, s. 68-69; Powstanie 1831 na Litwe, s. X; Materialy do biografij, s. 392].

**Адамовіч Якуб.** XIX: 1 (нар. каля 1780).

Вывадовы дэпутат Гродзенскага пав. Быў у Гродзенскім таварыстве дабрачыннасці (разам з Б.-Анджэйкавічам). Магчыма, быў лекарам.

[Серков, с. 44; Гардзееў. З гісторыі, с. 91; Янкоўскі. 110-lecie Pol. t-wa Dobroczinnosti]

**Адынец Геранім.** XIX: 1, XIX: 7 (нар. каля 1777).

У 1821 г. у Вільні выдаткаваў М.Ромеру (гл.) 6,20 злотых на кракаўскі помнік Касцюшку. У 1822 г. – памешчык Слуцкага пав.

[Lista imenna, s. 144; Серков, с. 605; Гардзееў. З гісторыі, с. 91]

**Адынец Караль.** XIX: 5 (нар. каля 1777).

Памешчык Слуцкага пав. У 1827 г. здаў свае масонскія знакі ложаў «Сябры Чалавецтва», «Шчаслівае вызваленне», «Паўночная Паходня».

[НГАБ у Мінску, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 1; Серков, с. 605]

**Ажароўскі Войцэх.** XIX: 4

У 1820 г. – афіцэр, у 1822 г. – ротмістр Валынскага ўланскага п.

[Серков, с. 605; Maiachowski-Jempicki]

**Ажэровіч Ільдэфонс.** XIX: 5

У 1820 г. – настаўнік.

[Серков, с. 606; Maiachowski-Jempicki]

**Азямблоўскі Віктар.** XIX: 2
У 1820 г. – адвакат Ігуменскіх прысутных месцаў.
Сын: Генрык, дэпутат шляхты Ігуменскага пав. у 1858 г.
[Uruski, t. XIII, s. 146; Серков, с. 606]

**Акушка Юзэф.** XIX: 2
Жыхар Дзісенскага пав.
[Maiachowski-Jempicki]

**Алеша Ігнацы Леапольдавіч.** XIX: 2
Шляхціц. У 1814 г. – пінскі павятовы падкаморы. У 1820 г. яшчэ быў жывы.
[Серков, с. 607; Niesiecki; Uruski]

**Алеяўцаў Васіль Іванавіч.** XVIII: 2
З обер-афіцэрскіх дзяцей. Унтэр-афіцэрам (1758) ваяваў з 1759 у дзеючай арміі пад Пальцыхам і Франкфуртам. Удзельнічаў у паходах рускай арміі ў Прусію і Польшчу. З 28.12.1764 – прапаршчык. У 1770 знаходзіўся ў войсках на Дняпроўскай лініі. З 10.06.1770 – аўдзітар Ваеннай калегіі. З 19.11.1772 па 18.07.1775 – губернскі сакратар пры Магілёўскім губернатары Кахоўскім. У 1777 – кіраўнік канцылярыі беларускага губернатара, у 1778 – асэсар казённай палаты ў Магілёве.
[Серков, с. 49]

**Алізар Нарцыз (Нарцыс) Піліпавіч.** XIX: 1 (1794, Забарова на Валыні – 1862, Сады пад Познанню).


Нарцыз Алізар

Вучыўся ў Крамянецкай гімназіі і Віленскім ун-це. Студэнтам пачаў пісаць вершы і з 1819 друкавацца ў «Віленскім тыднёвіку». Пад час вайны 1812 г. – афіцэр напалеонаўскай арміі. Пад час паўстання 1830-1831 г. быў старшынёй грамадзянска-вайсковай рады Валынскай губ., сенатарам-кашталянам Каралеўства Польскага. Пасля паражэння паўстання арыштаваны, але збег з Жытомірскай турмы і выехаў у Францыю. У эміграцыі – дзеяч арыстакратычнага асяроддзя Вялікай Эміграцыі. Быў першым старшынёй «Таварыства трэцяга мая» (1843 г.), якое вяло барацьбу за адраджэнне Польшчы і яе развіццё на аснове канстытуцыі 1791 г. Публіцыст, сябра Віленскага тапаграфічнага таварыства, Таварыства капіталаў падтрымкі «Dziennika Wilenskiego».

Творы: Размовы аб суседстве. – Парыж, 1840 (на пол. мове); Успаміны. – Парыж, 1845 (на французскай мове, перакладзены на нямецкую мову у 2 тамах); Успаміны арыгінала. – Ліпск, 1853, Бруксель, 1862 (на польскай мове); З псалмоў Давіда. – Ліпск, 1857, Бруксель, 1862.

Бацькі: Піліп – Нерыуш (1750–1816), падчашы ВКЛ, маці – Людвіка Немяровіч-Шчыт. Малодшы брат Густаў-Генрык-Атаназы Алізар – сябра Патрыятычнага таварыства, які меў сувязі з дзекабрыстамі, сябраваў з А.С. Пушкіным, пісаў вершы.

Жонка: Герждрофува. Дзеці: Марыя (09.05.1828–20.09.1886), у замужжы Крамер.

[Декабристы. Биографический справочник, с. 133-134; Кушаков, с. 21-22; Серков, с. 608; Гардзееў. З гісторыі, с. 91; Bajkow, s. 112, 116; Bielicski, t. III, s. 459]


Юзэф Аляшкевіч

**Аляшкевіч Юзэф Іванавіч (Антонавіч).** XIX: 1 (1777, мястэчка Радашковічы, Мінская губ. – 05.10.1830, С.-Пецярбург).

Мастак. Жывапісец і партрэтыст. З ліку бедных дваран. Сын музыканта. У 1800 г. паступіў у Віленскую галоўную школу. Дзякуючы гр. А.Хадкевічу вучыўся ў прафесара Смуглявіча. З 1803 г. вучыўся жывапісу ў Вільні, у Дрэздэне і Парыжы. Затым жыў на Валыні. Рыхтаваўся да атрымання кафедры жывапісу ў Віленскім ун-це. У 1810 г. пераехаў у С.-Пецярбург. У 1811 г. – сябра Імператарскай Акадэміі мастацтва, аўтар партрэтаў А.Чартарыйскага, А.Міцкевіча, Л.Сапегі і Г.Жэвускага. У 1812 г. атрымаў званне акадэміка гістарычнага жывапісу Акадэміі мастацтваў. Афіцэр напалеонаўскай арміі, сенацкі сакратар. У 1822 г. сябра Акадэміі мастацтва па жывапіснаму майстэрству, чыноўнік 10-га класа. З 1831 г. – старшыня грамадзянска-вайсковай рады Валынскай губ., дзеяч арыстакратычнага асяроддзя Вялікай Эміграцыі. Публіцыст, сябра Віленскага тапаграфічнага таварыства, Таварыства капіталаў падтрымкі «Dziennika Wilenskiego». Пахаваны на Смаленскіх праваслаўных могілках у С.-Пецярбурзе.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 92; Серков, с. 608]

**Аляшкевіч Ян.** XIX: 2
У 1820 г. – радашковіцкі гараднічы.
[Серков, с. 608; Maiachowski-Jempicki]

**Анджэйкавіч (Бутаўт-Анджэйкавіч, Бутаўт-Андрэйкавіч) Міхал Тадэвушавіч (Фадзеевіч).** XIX: 1, XIX: 6 (1778 – 1830)

З ліку дваран Гродзенскай губ., герба «Грыф». Сын пісара і падстарасты гродзенскага. У 1794 г. быў маёрам кавалерыі і прымаў удзел у паўстанні, «прысутнічаў» у бітве пад Слонімам, пры захопе Вільні і Прагі (прадмесце Варшавы). У 1795–1797 г. служыў у наварасійскага губернатара Туталміна па сакрэтных справах «французскага дыялекта». У 1800 – засядацель гродзенскага гродскага суда, у 1805–1808 – засядацель у 1-м дэпартаменце Літоўска-Гродзенскага галоўнага суда. У 1807 – асэсар, у 1808–1810 – старшыня 2-га дэпартамента Літоўска-Гродзенскага галоўнага суда. У 1809–1810 па заданню міністра фінансаў займаўся абменам казённых асігнацыяў на залатыя і сярэбраныя манеты. За добрае выкананне справы атрымаў два староствы ў Віленскай губ. на 12 гадоў без выплаты падаткаў. З 1810 быў гарадзенскім павятовым маршалкам і на гэтай пасадзе сустракаў у 1812 спачатку французаў і палякаў, а пазней партызан Д.Давыдава. У 1813–1817 – гродзенскі віцэ-губернатар, стацкі дарадца (1813). З 22.11.1817 па 05.02.1819 выконваў абавязкі губернатара, а затым да 30.10.1824 быў грамадзянскім губернатарам. Стаў першым прэзідэнтам Гродзенскага таварыства дабрачыннасці (12(24).12.1819). Ініцыятары выдаткавалі яму 5 тыс. руб. серабром, і ён атрымаў 10 тыс. польскіх злотых ад ваеннага губернатара Рымскага-Карсакава. Выдаў загад аб даплаце да тэатральных білетаў, якая ішла ў касу таварыства. У 1820 садзейнічаў адкрыццю губернскай друкарні, пры ім пачалося будаўніцтва Аўгустоўскага канала. У 1822 выдаткаваў 10 дукатаў на кракаўскі помнік Касцюшку. У 1826 прызначаны валынскім грамадзянскім губернатарам, узнагароджаны чынам сапраўднага стацкага дарадцы. У 1827 атрымаў адстаўку ў сувязі з находжаннем пад следствам за няправільнае расходванне земскіх грошаў. З 1830-х гадоў жыў у Пецярбурзе.

Творы: Пра школу Ланкастара. – Гродна, 1819 (на пол. мове); у Бібліятэцы АН Літвы захоўваецца зялёны рукапісны сшытак, у якім па-польску на 189 старонках напісаны «Нарысы Каўказа» М.Б-Анджэйкавіча.

Жонка: дваранка С.Ланцэвіч. Дзеці: Яраслаў-Алаізы-Тадэвуш (1811), Меланія (1815) грала на фартэп'яна дабрачынныя канцэр-

ты, Леанціна-Разалія (1817), Уладзіслаў (1818), Міхаліна-Марыяна (1819), Аляксандр-Тадэвуш-Валянцін (1820), Вольга-Багуміла (1822).

Бацька: Тадэвуш, удзельнік паўстання 1794 г., падпісаў акцэс пад № 306, суддзя крымінальнага суда парадкавай камісіі Гродзенскага пав.

[Grodno w XVIII w., s. 71; Jista imenna, s. 143; Jodkowski. Dobroczynnosti; Серков, с. 59; БАНЛ, аддзел старадрукаў, ф. BF 1443].

**Анджэйкавіч Фелікс Тадэвушавіч (Фадзеевіч).** XIX: 1

У 1812 г. – маршалак Кобрынскага пав. У 1817 г. суддзя апеляцыйнага межавага суда Кобрынскага пав., маршалак кобрынскі. У 1821–1824 г. – старшыня Гродзенскага губернскага межавага апеляцыйнага суда.

[Серков, с. 59; Гардзееў. З гісторыі, с. 92]

**Анджэйкавіч Ян Фадзеевіч.** XIX: 1 (нар. каля 1784).

З ліку дваранаў. Ведаў французскую і нямецкую мовы. 20.10.1803 прыняты на службу унтэр-афіцэрам у Валынскі мушкецёрскі п. З 03.02.1804 – падпаручнік. 02.11.1804 пераведзены ў л.- гв. Ізмайлаўскі п. Удзельнік баявых дзеянняў супраць напалеонаўскіх войскаў у 1805–1807 г. (Аўстэрліц, Прэйсіш-Эйлаў, Фрыдланд). З 27.04.1806 – прапаршчык. 27.07.1806 пераведзены ў л.-гв. Егерскі п. З 23.10.1807 – падпаручнік. З 14.01.1808 – паручнік. З 14.09.1810 – штабс-капітан. Удзельнік вайны 1812 г. У 1812–1817 г. ад’ютант ген. Л.Л.Бенігсена. З 15.07.1813 – капітан, з 23.09.1813 – палкоўнік. З 03.05.1818 – флігель-ад’ютант. З 01.01.1821 – ген.-маёр 1-й брыгады 3-й грэнадзёрскай дывізіі. У 1819 г. – флігель-ад’ютант ЯІВ, палкоўнік гвардыі. Затым генерал-маёр расійскага войска. З 1822 г. брыгадны начальнік 13-й пяхотнай дывізіі. Бацька меў 100 душаў сялянаў у Гродзенскай губ.

Браты: Міхал (гл.); Фелікс (гл.). Жонка – дачка Л.Л. Бенігсена.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 92; Серков, с. 59]

**Арлоўскі (? Ежы).** XIX: 4

Магчыма, паручнік Валынскага ўланскага п., ад͗ютант ген.-маёра Ігельстрома (1822 г.); з 1826 г. у адстаўцы.

Ёсць яшчэ Арлоўскі – арганіст у Крошыне. Ён пасля 1812 г. ад невядомага салдата польскіх войскаў атрымаў «Размову сялян», даваў перапісваць іншым (у тым ліку П.Багрыму). Працаваў на працягу 5-6 гадоў выкладчыкам у Крошынскай парафіяльнай школе.

Пад час следства па справе выступлення крошынскіх сялянаў, 16.06.1828, дырэктар вучылішчаў Гродзенскай губ. рэкамендаваў рэктару Віленскага ун-та звольніць Арлоўскага. 05.07.1828 той даў падпіску вучыць вучняў па «патрабуемых кіраўніцтвам вучылішча прадметах і спрабаваць накіроўваць іх маральнасць да дабрадзейнасці і паслухмянасці».

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 2341, а. 3 адв. – 4, 18, 20; Серков, с. 613]

**Арцымовіч Гіляры-Ян Бенедыктавіч.** X1X:2 (28.06.1796, Валянцінавічы, Мін. пав. і губ. – не пазней 1854 г.).

У 1812 скончыў Мінскую гімназію, паступіў у Віленскі ун-т. Дыплом доктара медыцыны атрымаў 18.05.1819. Пасля абароны працы аб выпадках кровацячэння з носа уступіў у службу. Упамінаецца ў спісах лекараў 1840-1841 г. У 1854 у спісе яго ўжо няма. Пісаў вершы, напрыклад, на дзень нараджэння брата Феліцыяна 03.02.1825 г. напісаў вершы «Радасны» і «Спеў».

Творы: Lithnanus, sejntnsis. De epistaxi. – Vilnae, 1819, 8-ка, s. 33. Diss. Inaug.

[БАНЛ, F 9–1594; а. 1–3; Серков, с. 71; Коњmicski, s. 10; Szarejko, t. III, s. 11]

**Арцымовіч Феліцыян Бенедыктавіч.** XIX: 2, XIX: 6

У 1820 г. – сакратар мінскага суда. У 1821 г. – тытулярны дарадца, сакратар Мінскага губернскага праўлення. У 1825 – кавалер ордэна св. Ганны, сакратар мінскай губ. палаты.

Жанаты, меў дзяцей. Верагодна, брат папярэдняга А. (гл.).

[БАНЛ, F 9–1594, а. 1-2; Серков, с. 71]

**Арцішэўскі Антоні Казіміравіч.** XIX: 2, XIX: 4 (1786–1845).

Удзельнік вайны 1812 г. У 1820–1822 г. – падпалкоўнік Літоўскага ўланскага п., у 1825 г. палкоўнік. У 1826–1827 г. палкоўнік лейб-гв. Гродзенскага гусарскага палка.

[Серков, с. 72]

**Аскерка Казімір.** XIX: 2, XIX: 6

У 1820 г. межавы суддзя Вілейскага пав. Удзельнік паўстання 1830-1831 г. Меў маёнтак Цераздвор.

Жонка: 1) Т.Прушаноўская, 2) П.Бжастоўская. Дачка: Эвеліна, замужам за К.Пілсудскім. Сын: Уладзіслаў, жанаты на М. Бусоўнай.

[Uruski, t. XIII, s. 47; Серков, с. 614]

**Аскерка Ян.** XIX: 2, XIX: 6

Удзельнік вайны 1812 г., ваяваў у арміі Напалеона, не вярнуўся з-за мяжы, таму яго маёнтак у Ігуменскім пав., паводле царскага маніфеста, быў канфіскаваны ў казну. У 1820 г. – маршалак Вілейскага пав. Меў маёнтак Будслаў. У 1822 г. выдаткаваў мінскай губернатаршы А. Сулістроўскай 2 дукаты на кракаўскі помнік Касцюшку. Войскі мазырскі. Паручнік Войска Польскага ў 1831 г.

Жонка: Т.Мікульская. Дачкі: Гелена, замужам за А.Урублеўскім; Алімпія, замужам за М.Свентажэцкім. Сын: Зыгмунт, жанаты на З.Корсак, меў дачку Марыю і сына Яна.

[Кур’ер Літоўскі. – 1813. – № 53. – 02.07; Uruski, t. XIII, s. 46; Lista imienna, s. 175; Niesiecki, t. VII, s. 145; Серков, с. 614]

## Б

**Багданаў 1-ы [Аляксандр Львовіч].** XIX: 4

У 1822 г. – паручнік Валынскага п. У 1825 – паручнік лейб-гв. Гродзенскага гусарскага п., у 1832 г. пераведзены ў Ніжагародскі драгунскі п., 20.04.1834 пераведзены ў Каргапольскі драгунскі п.

[Серков, с. 123-124]

**Багдановіч Ануфры.** XIX: 2

Паручнік ВП. У 1822 г. выдаткаваў дачцы мінскага губернатара А.Сулістроўскага Антаніне 1 дукат на кракаўскі помнік Касцюшку.

[Lista imienna, s. 174; Maiachowski-Jempicki]

**Багдановіч Вінцэнт.** XIX: 5, XIX: 6 (нар. каля 1792).

Шляхціц Навагрудскага пав. Удзельнік Лістападаўскага паўстання 1830-1831 г., падпаручнік Аўгустоўскай кавалерыі. У 1831 дэмабілізаваўся.

[Серков, с. 124; Bielecki, oficerow, t. 1, s. 224]

**Багдановіч Ігнацы.** XIX: 2, XIX: 6

Чыноўнік 10-га класа, служыў у камісарыяцкім дэпартаменце Ваеннага міністэрства ў 1822 г. У гэтым жа годзе выдаткаваў дачцы мінскага губернатара А.Сулістроўскага Антаніне 1 дукат на кракаўскі помнік Касцюшку.

[Серков, с. 124; Lista imienna, s. 174]

**Б.І.** XIX: 2

Магчыма, гэта той самы **Багдановіч Ігнацы** (гл.).

**Баргановіч Казімір Карлавіч.** XIX: 2
Жыхар Вілейскага пав.
Бацька: Караль. Брат: Міхал. Абодва атрымалі дваранства ў 1862 г. і былі запісаны ў дваранскую кнігу Мінскай губ.
[Uruski, t. I, s. 265; Серков, с. 125]

**Багдановіч Юзэф.** XIX: 7
Гувернёр.
[Maiachowski-Jempicki]

**Багурскі (Багорскі) Пятро.** XIX: 1
Маёр ВП, удзельнік паўстання 1794 г. У 1805–1808 г. быў прысяжным 2-га дэпартамента Гродзенскага галоўнага суда, апеляцыйным суддзёй Кобрынскага пав. Палкоўнік Войска Польскага. Кур'ер расійскага пасла ў Парыжы. У 1812 г. прымаў удзел у кампаніі на баку Напалеона, быў радцам Кобрынскай падпрэфектуры. За тое, што не вярнуўся ў прызначаны тэрмін з-за мяжы, належачае яму Старое Сяло (108 душ муж. пола) у маёнтку Равіны Кобрынскага пав. падлягала канфіскацыі.
Дзеці: Аляксандр у 1836 г., Юзэф у 1847 г. прызнаны ў дваранстве і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.
[Именной список, с. 370 адв.; Гардзееў. З гісторыі, с. 92; Uruski, t. 1, s. 276]

**Бараноўскі 1-ы Юзэф.** XIX: 5, XIX: 6
Удзельнік вайны 1812 г. У 1815 г. – ротмістр, у 1822 г. – падпалкоўнік Татарскага ўланскага п.
[Серков, с. 85; Maiachowski-Jempicki]

**Баранцэвіч Ігнацы.** XIX: 6, XIX: 7
Адвакат. У 1820 г. – земскі рэгент Слуцкага пав.
[Серков, с. 85; Maiachowski-Jempicki]

**Бардскі Матэуш (Мацвей).** XIX: 2
Падсудак Вілейскага павятовага суда.
[Maiachowski-Jempicki]

**Бачыжмалскі Тэадор (Тадэвуш) Янавіч (?).** XIX: 2
Удзельнік вайны 1812 г. на баку Напалеона, не вярнуўся з-за мяжы, таму яго маёнтак у Барысаўскім пав. паводле царскага маніфеста быў канфіскаваны ў казну. У 1820 – адстаўны капітан ВП.

Быў падпалкоўнікам РВ, ляснічым Ковенскай губ. Атрымаў пацвярджэнне ў дваранстве ў 1844 г.

[Кур’ер Літоўскі. – 1813. – № 53. – 02.07; Uruski, t. I, s. 40]

**Бекю (Becu) Якуб Якубавіч.** XVIII: 1

Прамысловы дзеяч другой паловы XVIII ст., супрацоўнік падскарбія А.Тызенгаўза. Малодшы брат Яна Людвіка Бекю (гл.). З прускага Памор’я прыехаў у Варшаву, дзе пачаў працаваць бухгалтарам у кампаніі шэрсцяных мануфактураў. У 1771 г. запрошаны А.Тызенгаўзам у Гродна, дзе атрымаў пасады генеральнага інспектара гродзенскіх фабрыкаў і дырэктара мануфактурнага кантара (бюро), які кіраваў мануфактурамі ў каралеўскіх эканоміях на Літве. У 1772–1775 г. быў у камандзіроўцы з мэтаю агляду развіцця фабрыкаў у Прусіі, Чэхіі, Італіі, Швейцарыі, Францыі, Галандыі. Завербаваў тут значную колькасць майстроў для мануфактураў у Гродне, наладзіў гандлёвыя сувязі. Да 1780 г. кіраваў гродзенскімі фабрыкамі як інспектар, а ў 1780–1787 г. апекаваў іх, будучы «маёрам». Далейшы лёс яго невядомы.

Жонка: Цэцылія. Сын: Генрых – Якуб (нар. у 1779).

Тв.: Мемарыял аб стане гродзенскіх фабрыкаў «Uber die Fehler welche bei anlage der Fabrignen zu Grodno gemacht worden und in Administration derselben noch gemacht werden».

[Koscialkowski, t. 2, s. 382; Maiachowski-Jempicki. Wykaz, s. 61; PSB. – T. 1. – S. 392]

**Бекю Жан Луіс (Ян Людвік) Якубавіч.** XVIII:1 (каля 1741 – ?)

Прамыслова-гандлёвы дзеяч 2-й паловы XVIII ст., супрацоўнік падскарбія А.Тызенгаўза. Старэйшы брат Якуба Бекю (гл.). У 1771 г. прыбыў з Берліна ў Гродна, дзе працаваў бухгалтарам мануфактурнага кантара. Пад час замежнай камандзіроўкі брата (1772–1775 г.) кіраваў мануфактурамі. На сейме 1773–1775 г. атрымаў набілітацыю. З 1775 па 1780 г. кіраваў гандлем каралеўскіх мануфактур, наладжваў гандлёва-банкаўскія сувязі з Рыгай, Гамбургам, Крулеўцам, Лонданам, Брэменам, вербаваў людзей на мануфактуры. З 1778 г. быў таксама кантралёрам Скарбовай камісіі літоўскай. Пасля адстаўкі Т. разам з братам сведчылі на судовых працэсах супраць свайго былога працадаўцы. У 1794 г. быў экспедытарам Скарбовага дэпартамента Найвышэйшага Літоўскага ўрада (расійскага). У 1796 г. – дырэктар памежнай мытнай каморы ў Гродне, у 1797 г. – дарадца ў Літоўскай скарбовай палаце. Далейшы лёс яго невядомы.

Жонка: 1) Караліна, памерла ў Гродне ў 1782 г.; 2) Амалія Бернатовіч (з 1794 г.). Ад першай меў сына Аўгуста, які быў доктарам,

айчымам Юліюша Славацкага, як жыхар Гродна ў 1794 г. падпісаў пад № 232 акцэс да паўстання. Меў 3-павярховы дом з афіцынамі і гаспадарчымі пабудовамі. У 1796 г. прадаў яго купцу Л.Маўшовічу за 16 тыс. злот. (знаходзіўся на месцы, дзе сёння дом Мураўёва на Савецкай пл.).

[Grodno w XVIII w., s. 67; Koscialkowski, t. 2, s. 89, 342; PSB, t. 1, s. 393]

**Беліковіч Ігнацы.** XIX: 7

Адвакат у Бабруйску.

[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Беліковіч Францішак.** XIX: 2

Пад час вайны 1812 быў сябрам падпрэфектуры Барысаўскага дыстрыкта (пав.). У 1822 г. выдаткаваў мінскай губернатаршы А.Сулістроўскай 66 злотых на кракаўскі помнік Касцюшку.

[Lista imienna, s. 174; Ерашэвіч, с. 155; Серков, с. 99]

**Белінковіч Ян.** XIX: 2

Падкаморы полацкі.

Жонка: А.Мірская (каля 1830 г.). Дачка: Т.Норніцка.

[Uruski, t. I, s. 130; Серков, с. 99]

**Беліновіч Цыпрыян Львовіч.** XIX:2

У 1820-1821 г. – настаўнік лацінскай і грэчаскай моваў мінскай гімназіі. Кандыдат філасофіі.

[Серков, с. 99]

**Бернард Ян Герман Іванавіч.** XIX:7 (нар. каля 1787).

Доктар медыцыны. Першы ўрач, які ў Літоўскай губ. вынайшоў сродак і ўвёў у карыстанне прышчэпкі кароўей воспы ў 1801 г. У 1802 г. атрымаў узнагароду за выдадзены твор. У 1820 г. – слуцкі павятовы лекар, у 1826 г. – слуцкі павятовы штаб-лекар. Інспектар літоўска-віленскага медыцынскага нагляду, з 1817 – сябра Віленскага таварыства лекараў.

Сын: Карл у 1839 г. меў 17 гадоў і быў вучнем VII кл. гродзенскай гімназіі, падазраваўся ў прыналежнасці да масонства. Паказаў, што запрашаў яго ў ложу Сіманоўскі, што сам чытаў А.Міцкевіча (3 тамы вершаў і яго забаронены верш «Маладых лях»). Падтрымлівалі яго жаданні стаць масонам бацька і палкоўнік Вульмер, які знаходзіўся пад следствам.

Творы: Betrachtungen uber das fruhe Beerdigen der Juden und die Mittel es zu verhindern. Dritte vermehrte und verbesserte Auflage. – Wilno, 1819 (першае выданне на франц. мове ў 1798 г., 2-е на ням. – у 1802 г., абодва ў Мітаве); Observatio de hydrops anasarca (1818); Mysli o moцnosci zapiydnienia mкïczyzn zwanych hypospadiae, we wzglкndzie lekarsko-s№dowym (z niemieckiego) // Pamietnik Towarzystwa Lekarskiego Wilenskigo. T. II, 1821, s. 215–333.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 4462, а. 1, 3, 4, 6; Крючок. Очерки, с. 82; Серков, с. 110; Koњmicski, s. 27]

**Бетхер Густаў Іванавіч.** XIX: 2

У 1813 пераведзены ў чыне палкоўніка ў лейб-гвардыі Сямёнаўскі п. з Таўрычаскага грэнадзёрскага п. У 1815 прызначаны камандзірам 31 Егерскага п. У 1820 – палкоўнік.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Серков, с. 114]

**Бідэрман Караль.** XIX: 2

Доктар медыцыны. Надворны дарадца, дывізіённы лекар.

[Серков, с. 116; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Бістром.** XIX: 7

Пасведчаны ў Слуцку шатландскім майстрам, былым сябрам ложы «Бессмяротнасць» у С.-Пецярбурзе.

[Серков, с. 119]

**Блажаеўскі Банавентура.** XIX: 1

Генеральны зборшчык падаткаў Каралеўства Польскага, прадстаўнік Гродзенскай ложы ў Польскім нацыянальным Усходзе.

[Серков, с. 119; Гардзееў. З гісторыі, с. 92]

**Бліёр Артур Караль.** XIX: 1

Служачы ложы.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 92; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Блоцкі Станіслаў Міхайлавіч.** XIX: 1 (нар. каля 1794)

У 1814 і 1821 г. – межавы суддзя Кобрынскага павятовага суда.

[Серков, с. 120; Гардзееў. З гісторыі, с. 92; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Болтуц (Болтуч) Бенуа (Венедыкт, Бенедыкт).** XIX: 6, XIX: 7

Суддзя. У 1814 г. – натарыус, у 1812 і ў 1821 г. – пісар слуцкага павятовага земскага суда. Памешчык Слуцкага пав.

[Серков, с. 129; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Болтуц (Болтуч) Пятро.** XIX: 7
Рэгент слуцкі.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Борсук Ян.** XIX: 2
У 1820 – ігуменскі межавы суддзя. У 1821 – суддзя земскага суда Ігуменскага пав.
[Серков, с. 134; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Бохвіц Адам.** XIX: 5
У 1820 г. – суддзя апеляцыйнага межавага Мінскага суда.
Бацька: уладальнік маёнтка Студзянцы Наваград. пав. Маці: А. Барзабагатая.
Жонка: Е.Троска. Сын: Рамуальд, якому належаў бацькавы маёнтак у 1854.
[Памяць. Нясвіжскі р-н; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. III, s. 257]

**Брадовіч Макар.** XIX: 7
Губернскі сакратар.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Брадоўскі Антоні Марцінавіч.** XIX: 1 (нар. каля 1781)
У 1798 г. – чыноўнік скарбовай палаты Лідскага пав. У 1800 г. – бухгалтар скарбовай палаты Гродзенскага пав. У 1807 г. скарбнік Ваўкавыскага пав. У 1819–1821 г. – страпчы (судовы абаронца) Ваўкавыскага пав.
[Серков, с. 141; Гардзееў. З гісторыі, с. 92; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Брадоўскі (Брадаўскі) Ігнацы Марцінавіч.** XIX: 2
У 1821 г. – прэфект (памочнік) дырэктара Мінскай гімназіі, настаўнік гісторыі і права, магістр філасофіі, калежскі асэсар.
[Серков, с. 141; Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Брант Ян.** XIX: 2
Вайсковы камісар. Даглядчык вайсковых лазарэтаў.
[Серков, с. 137; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Бржастоўскі (Брастоўскі) Аўгуст Робертавіч.** XIX: 2 (1768 – ?)
З 1773 г. – у службе, лейб-гв. капрал, 01.01.1777 г. звольнены ў чыне падпаручніка. З 26.09.1805 па 12.09.1807 г. – фаршмайстар

Вілейскага і Дзісенскага паветаў Мінскай губ., тытулярны дарадца са старшынствам (31.12.1806). Граф, памешчык, меў маёнтак Мосар разам з братам Вінцэнтам (614 дзесяцін). У 1814 і 1817 выбіраўся старшым Дзісенскага межавага апеляцыйнага суда. У чэрвені 1827 г. прызначаны ганаровым дазорцам вучылішчаў Дзісенскага пав.

Бацька: Роберт.

Маці: Ганна. З шостага пакалення Бржастоўскіх з Міхаліцкай і Мосарскай галінаў.

Жонка: 1) Кубліцкая, 2) Грэбніцкая Барбара (не раней за 1807 г.).

Дзеці: сыны Эдуард (нар. 1805), Абадон (нар. 1809), Канстанцы; дачкі Паўліна (1810), Ванда (1814).

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 1820, а. 1 адв. – 2, 4 адв., 5, 6; Brzostowski P., s. 99, 100, 110]

**Бржэзіна Юзэф.** XIX: 1

Капітан былога ВП у 1819, заснавальнік ложы.

Дзеці: сын Калікст, зацверджаны ў дваранстве і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 92; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. II, s. 27]

**Буджынскі (Будзінскі) Тадэвуш.** XVIII: 1, XIX: 5

[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Букаты Алаізы.** XIX: 4

У 1820 г. – староста Навагрудка.

[Ланда. У истоков, с. 60; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Букініч Якаў.** XIX: 7

Былы сакратар ніжняга земскага суда.

[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Булгарын Вінцэнт.** XIX: 7

Можа, той самы, які быў гродскім пісарам Упіцкага пав. і каля 20 гадоў меў доўг у Я. Янушэўскага (у 1823 г. 1 567 руб. серабром).

[БАНЛ, F 12 – 4046, а. 1; 4047, а. 1 адв.; 4060, а. 1]

**Булгарын Міхал Людвігавіч.** XIX: 6, XIX: 7

У 1814 г. – прысяжны Слуцкага земскага суда Мінскай губ. Шляхціц, у 1820 г. – былы асэсар Слуцкага пав. У 1838 – маршалак шляхты Пружанскага пав. Загадам ад 17(29).10.1850 звольнены з

пасады ганаровага дазорцы вучылішчаў Мінскага пав., сапраўдны стацкі дарадца.

Дваюродны брат: вядомы расійскі літаратар Ф.В.Булгарын.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 6297, а. 1; Серков, с. 149]

**Бургельскі Альберт.** XIX: 5, XIX: 6

Доктар медыцыны. У 1820 г. – памешчык Мінскага пав.

Сын: Ігнацы запісаны ў дваранскую кнігу Віленскай. губ. у 1802 г.

[Серков, с. 150; Uruski, t. II, s. 85]

**Бухавецкі (Людгард) Людвіг.** XIX: 1 (нар. каля 1791).

У 1811 г. – юнкер 2-й запасной брыгады артылерыі. У 1812 г. – харунжы расійскага войска. У 1813 г. – падпаручнік, прымаў удзел у кампаніі ў Сілезіі, у Саксоніі і Францыі. У 1816 г. – паручнік. У 1818 г. – кандыдат на пасаду прысяжнага Гродзенскага галоўнага суда, асэсар гэтага ж суда.

[Серков, с. 154; Гардзееў. З гісторыі, с. 93]

**Буцэвіч (Бучэвіч) Ігнацы Антонавіч.** XIX: 2, XIX: 6

У 1814–1821 г. – падсудак Мінскага павятовага земскага суда. У 1821 – гродскі сакратар.

Дзеці: сын Валерыян, чыноўнік Мінскай губ. у 1856 г.

[Серков, с. 154; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. III, s. 49]

**Бучынскі (Тучынскі, Бушынскі, Ручынскі) Ян Юр'евіч.** XIX:1 (к. 1763–12.9.1860).

Перакладчык на польскую мову. У 1817-1818 г. – сенацкі сакратар. У 1821-1822 г. – тытулярны дарадца. У 1814–1822 г. – сакратар 1-га аддзялення 3-га дэпартамента канцылярыі кіруючага Сената. Пахаваны на каталіцкіх могілках на Выбаргскай старане ў С.-Пецярбурзе.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 93; Серков, с. 154]

**Быкоўскі Канстанцін Фадзеевіч.** XIX: 1

Памешчык, харунжы Ковельскага пав., былы правадыр дваранства. Віцэ-маршалак Ковельскага пав. Сябра польскага Патрыятычнага таварыства і Саюза тампліераў Валыні.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 93; Серков, с. 155]

**Быкоўскі Ксаверы Ігнатавіч.** XIX: 5

Шляхціц герба «Грыф», жыхар Навагрудскага пав. У 1821 г. – суддзя Навагрудскага межавага апеляцыйнага суда.

Бацька: рэгент земскі навагрудскі, уласнік маёнтка Падлессе (1790).
Брат: Міхал (гл.).
[Гербоўнік наваградскай шляхты, с. 25; Серков, с. 155]

**Быкоўскі Людвіг.** XIX: 7
Суддзя Бабруйскага межавага суда, памешчык Бабруйскага пав.
[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Быкоўскі Міхал Ігнатавіч.** XIX: 7
Шляхціц герба «Грыф», памешчык Бабруйскага пав., у 1820-1821 г. паручнік расійскіх войскаў, у 1822 г. – адстаўны паручнік.
[Гербоўнік наваградскай шляхты, с. 25; Серков, с. 155]

**Былеўскі Антоні Маўрыцыевіч.** XIX: 5
Былы слуцкі земскі спраўнік. У 1821 г. меў маёнтак Гай у Пінскім пав. У 1824 быў у камісіі, створанай Віленскім універсітэтам для даследавання фактаў прымусовага пераходу з праваслаўя ў каталіцтва вучняў Пінска.
[Beauvous, t. II, s. 200; Uruski, t. II, s. 110]

**Былецоскі Антоні.** XIX: 5
Шляхціц.
[Серков, с. 155]

**Быстры Каспар Станіслававіч.** XIX: 1 (нар. каля 1797).
Музыкант. У масонства ўступіў у 1819-1820 г. Разам з сынамі ў 1849 г. прызнаны ў дваранстве і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.
Дзеці: сыны Станіслаў, Ян, Юзэф.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, т. II, с. 115]

**Бычкоўскі Міхал.** XIX: 5
Памешчык Бабруйскага пав.
[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Бютнэр Захары (Захарыюш).** XVIII: 1
Касір Гродзенскай эканоміі пры А.Тызенгаўзе. Узгадваецца як уладальнік нерухомасці ў гарадзенскіх актах пачатку XIX ст.
[Гардзееў. Гарадзенскія, с. 133]

**Бялапятровіч Караль (ці Павел) Яжэевіч (Юрыевіч, Юзэфавіч).** XIX: 4

Узгадваецца ў спісе Гродзенскай камісіі аб продажы казённых маёнткаў, «отлучившихся самовольно из Гродненской губ. за границу и не вернувшихся в 2-месячный срок по Манифесту 12.12.1812 г.»: маёнтак Валейшы ў Лідскім пав. (30 д. м. п.), які належаў сваячніцы Бялапятровіч, маёнткі Брыцянка (116 д. м. п.) і Сончыцы (20) у Навагрудскім пав. Гродзенскай губ. У 1820 г. – капітан ВП. Удзельнік паўстання 1830-1831 г. Сябра канспірацыйнай арганізацыі, якая з 04.1831 склалася ў Белавежскай пушчы. Капітан навагрудскай кавалерыі, потым 13-га пях. корпуса А.Гелгуда, пазней Г.Дэмбінскага, з якім дайшоў да Варшавы. Атрымаў дыплом «Добра заслужаны для Айчыны», а 15.09.1831 г. – залаты крыж № 2696. Атрымаў усеміласцівейшае дараванне, як бачна з прапановы генерал-губернатара ад 05.04.1833 г., яму вернуты маёнткі на падставе рашэння Камітэта, высачайша зацверджанага 07.11.1833 г. Пацверджана дваранства ў 1839 г. у Каралеўстве Польскім.

Бацька: Ежы (Юры), пісар войска літоўскага ў 1783–1787 г., удзельнік паўстання 1794 г. (сябра Найвышэйшай Літоўскай Рады).

Маці: Кунегунда.

[НГАБ у Гродне, ф. 4, воп. 1, спр. 192; Именной список, с. 366, 366; ЭГБ, т. 1, с. 345; Швед. По следам, с. 46; Серков, с. 156; Bielecki. Oficerom, t. 1, s. 190; Uruski, t. I, s. 160]

**Бялапятровіч Ян Юзэфавіч.** XIX: 4 (пам. у 1820).

У 1820 – старшыня гродскага суда ў Навагрудку. Магчыма, той самы, якога не зацвердзілі на пасаду старшыні судова-адукацыйнай камісіі, створанай у 1818 для выкарыстання паезуіцкай маёмасці на мэты адукацыі. Туды выбіралі «найзнатнейшых суайчыннікаў», якім і быў Б., але ён «незаможны», а гэты факт мог паўплываць на жаданне прыбраць што-небудзь у свае рукі.

Браты: Юры, Марцін, Станіслаў, прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

[Гербоўнік наваградскай шляхты, с. 26; Beauvous, t. II, s. 102]

**Бялоцкі Гжэгаж Янавіч.** XIX: 1, XIX: 6 (нар. каля 1777).

У 1795 г. – пісар Валынскага губернскага праўлення. У 1802 г. – рэгістратар Гродзенскай скарбовай палаты і перакладчык Гродзенскага галоўнага суда. У 1819 г. – сакратар Гродзенскага губернскага праўлення, у 1821-1822 г. – асэсар, тытулярны дарадца. У 1823-

1824 г. – дарадца віленскага губернскага праўлення (яго месца ў Гродне заняў другі масон – Кузімовіч (гл.)).

Дзеці: сыны Фердынант, падпалкоўнік РВ; Эдвард, чыноўнік да асаблівых даручэнняў пры віленскім губернатары; Уладзіслаў і Яраслаў, пацверджаны ў дваранстве Расіі, у 1852 г. запісаны ў дваранскую кнігу Віленскай губ.

[Серков, с. 156; Гардзееў. З гісторыі, с. 93; НГАЛ, ф. 378, 1822 г., спр. 234, а. 14; Uruski, t. I, s. 158]

**Бярновіч Сэрвацы Міхайлавіч.** XIX: 2; XIX: 5, XIX: 6

Старшыня межавага апеляцыйнага мінскага суда. Уладальнік маёнтка Гожув.

Бацька: абозны навагрудскай шляхты, суддзя земскі навагрудскі (1787), актыўны дзеяч Чатырохгадовага сейма, пазней маршалак шляхты Слуцкага пав., уладальнік маёнтка Стараселле.

Маці: К.Валовіч.

Жонка: А.Абуховіч. Сыны: Уладзіслаў, жанаты на М.Зубко, Мечыслаў, жанаты на В.Шемеш.

[Гербоўнік наваградскай шляхты, с. 35, 51; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. I, s. 146]

**Бястужаў Іван (Ян) Сцяпанавіч (Паўлавіч).** XIX: 2 (нар. 13.10.1788 – ?)

У 1816 – ротмістр лейб-гвардыі Уланскага п., жыў у доме кн. Валконскага ў Санкт-Пецярбурзе. У 1820 – ад’ютант генерала О’Рурка.

[Серков, с. 113; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Б. Я.** XIX: 2

Магчыма, гэта вышэйназваны І.(Я).Бястужаў.

## В

**Ваджбун (Водзьбун) Антоні.** XIX:5

У 1808 – паручнік 5-га кавалерыйскага п. у Бабруйску. У 1818 – адстаўны капітан ВП.

[Серков, с. 187; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Ваджбун (Водзьбун) Леан (Лявон).** XIX:7

Памешчык Бабруйскага пав. у 1820.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вайдзевіч Люфтан-Арыст.** XIX:2
Юнкер уланскага п. у 1820 г.
[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Вайдзевіч Фелікс Францавіч.** XIX:2, XIX:6
З маладосці служыў у судовых установах Мазырскага пав. У 1812–1814 г. – прысяжны 1-га і 2-га дэпартаментаў Мінскага галоўнага суда, у 1820 г. – былы асэсар гэтага суда, аштрафаваны і звольнены з працы. У 1821, пад час «італьянскага паходу» гвардыі, у сям'і В. жыў дзекабрыст А.А. Бястужаў-Марлінскі. У 1822 выдаткаваў 2 дукаты мінскай губернатаршы А.Сулістроўскай на кракаўскі помнік Касцюшку.
Бацька: на працягу 20 гадоў быў наместнікам брыгады гусарскай кавалерыі народных войскаў літоўскіх, дэпутат Літоўскага трыбунала, атрымаў ад караля маёнтак Кучкуны, фальварак Светна-Гурка і в.Слабодку (Сляпянку) у Мінскім ваяводстве.
Жонка: Марыя Ксавер'еўна. Дзеці: дачкі Сіцылія і Феліцыя.
[Серков, с. 189; Швед. Беларускія старонкі, с. 29; Lista imenna, s. 176]

**Вайніловіч (Вайнілловіч) Аўгуст Фларыянавіч (Фларанавіч).** XIX:4, XIX:5, XIX:6
У 1812 г. – прысяжны 1-га дэпартамента Гродзенскага галоўнага суда. У 1821 г. – падкаморы Навагрудскага пав., былы асэсар галоўнага суда Гродзенскага.
[Серков, с. 189; Моњжicki. Wilno i Warszawa, s. 177]

**Вайніловіч Дыянісі (Іянісі).** XIX:5
Шляхціц. У 1820 г. – асэсар Навагрудскага пав. Магчыма, гэта яму даручыў у маі 1823 г. гродзенскі губернатар М.Бутаўт-Анджэйкавіч (гл.) даведацца пра тое, дзе знаходзяцца масонскія дэкарацыі пасля закрыцця масонскіх ложаў.
[НГАЛ, ф. 378, 1821 г., спр. 338, а. 174 аб.; Серков, с. 189]

**Вайніловіч Ежы.** XIX:6
У 1820 – былы генерал ВП.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вайніловіч Казімір Юзэфавіч.** XIX:4
У 1822 г. – унтэр-афіцэр Польскага ўланскага п. Літоўскай уланскай дывізіі. У 1825 г. – карнет лейб-гв. Гродзенскага гусарскага п.

Меў маёнтак Парэчча з фальваркамі Падлужжа, Наркаўшчына, Мар'янполь (усе да 1826 г.), Яловікі і Гарадзішча ў Слонімскім пав. Практыкаваў прадстаўленне некаторым сваім прыгонным сялянам вольнасці. Пад час Лістападаўскага паўстання 1830-1831 г. разам з А.Бронскім стварыў атрад колькасцю да 100 чалавек, а каб набыць зброю і амуніцыю, залажыў свой маёнтак у Пецярбургскую Захоўную казну за 30 150 руб. Разам з Г.Дэмбінскім адышоў да Варшавы, потым перайшоў у Прусію і выехаў у Францыю. Завочна Гродзенскай губернскай следчай камісіяй у 1832 г. аднесены да злачынцаў 2-й катэгорыі. Пры вобыску ў яго доме знайшлі масонскі патэнт (ад 27.04.1819), медны пазалочаны знак і тафтэнавы блакітны фартух; у бібліятэцы з 429 тамоў літаратуры 163 былі прысвечаны масонству. Фальваркі Яловікі і Гарадзішча былі канфіскаваны.

Жонка: Мар'яна з Фэлькерзамбаў. Дзеці: дачкі Ганна і Паўліна; сын Міхал, удзельнік паўстання 1830-1831 г. і экспедыцыі Ю.Заліўскага ў 1833 г. на Беларусь.

[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1. спр. 2860; ф. 31, воп. 2, спр. 86, а. 36; Талерчык, с. 19–23, 28, 31-32; Серков, с. 190]

**Вайніловіч Леон (Лявон).** XIX:5, XIX:6

У 1820 – жыхар Слуцкага пав.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вайніловіч Мельхіёр.** XIX:3

Былы маршалак віленскі.

[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Вайніловіч Фларыян.** XIX:3, XIX:4, XIX:6

Масонскі патэнт на 4-ю ступень выдадзены 12.08.1817. Маёр гусараў. У 1820-1821 г. – былы генерал ВП. Падкрэсліваў сваю палітычную лаяльнасць, што бачна са зместу яго запісаў.

Жонка: дачка віленскага губернскага пракурора Г.Батвінкі, які адыграў ролю кбта філаматаў і філарэтаў у 1823.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 93; Ланда. У истоков, с. 48; Моњжіскі. Wilno i Warszawa, s. 47; Maiachowski-Jempicki. Wolnomularstwo na ziemiach, s. 51]

**Вайніловіч 2-гі Юзэф Мікалаевіч.** XIX:3, XIX:4, XIX:5, XIX:6

Ротмістр расійскага войска. У 1805 г. – харунжы, у 1814–1819 г. – маршалак Навагрудскага пав. У 1821 выдаткаваў у Вільні М.Роме-

ру 10 злотых на кракаўскі помнік Касцюшку. У 1830 жыў у Бабруйскім пав.

Браты: Аўгусцін, Караль, Уладзіслаў, Тадэвуш.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 93; Гербоўнік наваградскай шляхты, с. 27; Lista imenna, s. 96]

**Вайніловіч Ян.** XIX:4

У 1820 г. – былы межавы суддзя Навагрудскага пав. Сябра Нацыянальнага масонства і польскага Патрыятычнага таварыства (кіраўнік віленскай гміны). У 1821 выдаткаваў у Вільні М.Ромеру 10 злотых на кракаўскі помнік Касцюшку. Магчыма, быў сябрам Радзівілаўскай камісіі, а ў 1826 яе старшынёй. Пад час следства ўзяў на парукі філарэта Э.Палякоўскага 13.11.1823.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 1322, а. 1 а, 1 адв.; Серков, с. 190; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Моњжicki. Wilno i Warszawa, s. 14]

**Валадзько (Валодзік) 1-ы.** XIX:4

У 1822 г. – прапаршчык конна-артылерыйскай роты № 30(29).

[Серков, с. 196]

**Валадзько (2-гі) Юзэф.** XIX:4, XIX:5

Карнет Валынскага ўланскага п., у 1822 г. – прапаршчык таго ж палка. У 1826 г. – паручнік Літоўскага ўланскага п. Сябра Таварыства сяброў. Падпаручнік расійскай конна-артылерыйскай роты № 29, дзекабрыст.

[Ланда. У истоков, с. 60; Серков, с. 196]

**Валадковіч (Валадкевіч) Вінцэнт [Міхайлавіч**]. XIX:2, XIX:6

Магчыма, той самы, які быў вілейскім павятовым маршалкам, уваходзіў у патаемнае таварыства «Асацыяцыя» і падпісаў петыцыю да расійскага цара Паўла І. У 1806 г. – шамбелян, барысаўскі павятовы маршалак. Пад час вайны 1812 г. уваходзіў спачатку ў Камісію Часовага кіравання Мінскай правінцыі (аддзел паліцыі), потым – у склад адміністрацыйнай камісіі Мінскага дэпартамента, дзе быў сябрам аддзела паліцыі. У 1820 г. – падкаморы вілейскі. Партрэт яго, дзе ён разам з жонкай, намаляваў Я. Дамель (гл.). У 1821 выдаткаваў 5 дукатаў мінскай губернатаршы А.Сулістроўскай на кракаўскі помнік Касцюшку.

Дзеці: сын Аляксандр, удзельнік паўстання 1830-1831 г.

Брат: Юзэф (гл.), мінскі губернскі маршалак.

[Ерашэвіч, с. 148; Краснянский. Минский департамент, с. 10, 12-13; Ляўшэвіч. Першая тайная, с. 383; Серков, с. 196; Lista imenna, s. 176; Rastawecki, t. 1, s. 134]

**Валадковіч (Валадкевіч) Мельхіёр Ксавер'евіч.** XIX:2, XIX:3, XIX:5, XIX:6 (1784–?)

У 1798 скончыў Віленскае вучылішча і паступіў у Віленскі універсітэт, які скончыў 12.07.1802 г. Дэпутат Мінскага дваранскага сходу (22.08.1802 – 19.08.1808). У 1808 г. падараваў Мінскай гімназіі сваю бібліятэку. Дваранскі камісар па нагляду за будаўніцтвам шляхоў зносінаў (19.08.1808 – 28.08.1811). З 1811 – галоўны наглядальнік вучылішчаў Вілейскага пав. Пад час вайны 1812 г. (з 05.08) быў прэфектам падпрэфектуры Мінскага дыстрыкта (пав.). З 02.08.1814 г. – маршалак вілейскі. З 10.11.1832. ізноў выбраны вілейскім маршалкам. У 1835 г. – ганаровы наглядальнік вучылішчаў Вілейскага пав. Меў маёнтак Новы Двор у Вілейскім пав. (497 муж. душ). Актыўна працаваў у прысутнасці для ваенных павіннасцяў. Прашэнне В. ад 25.01.1835 г. аб звальненні з пасады галоўнага назіральніка вучылішчаў Вілейскага пав. было задаволена Міністэрствам народнай асветы 01.05.1835 г.

Узнагароды: ордэны Св. Ганны (20.04.1817, відаць, не атрымаў), Св. Уладзіміра 4-й ст. (21.11.1822), Св. Іаана Іерусалімскага.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 3768, а. 1–5; спр. 1939, а. 4 адв. – 5, 8; Ерашэвіч, с. 155; Серков, с. 196]

**Валадковіч (Валадкевіч) Юзэф Міхайлавіч.** XIX:6

Выхадзец са старажытнай беларускай шляхты XVI ст. У 1778 – пісар гродскі мінскі, у 1795–1800 – маршалак шляхты Мінскага пав. У 1787 прадаў свой маёнтак Скробава. Пад час вайны 1812 г. уваходзіў у склад адміністрацыйнай камісіі Мінскага дэпартамента (01.07), узначальваў аддзел харчавання.

Дзеці: сын Аляксандр, адзін з кіраўнікоў паўстання 1830-1831 г. у Мінскай губ., эмігрант у Парыжы, сябра Таварыства літоўскіх і рускіх зямель.

Брат: Вінцэнт (гл.).

[Гербоўнік наваградскай шляхты, с. 94; Краснянский. Минский департамент, с. 14-15; Памяць. Мінск, кн. 1, с. 484; Damejko. Listy, s. 668]

**Валасоўскі Канстанты.** XIX:2

У 1820 г. – памешчык, падкаморы Дзісенскага пав.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Валасоўскі Юзэф.** XIX:2 (нар. 24.01.1790, Мінск).

У 1820 г. – памешчык Дзісенскага пав. Магчыма, удзельнік паўстання 1830-1831 г., у 1832 г. – маёр, жыў у Безансоне (Францыя).

[Серков, с. 196; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Валовіч Іаахім Антоніевіч.** XIX:1

Граф. Дзяржаўны дарадца. У 1814–1817 г. – маршалак дваранства Беластоцкай вобласці. У 1819–1821 г. – стацкі дарадца, з 1819 г. па 26.04.1831 – кіраўнік Беластоцкай вобласці. З 26.04.1831 – сенатар, з 20.02.1833 выйшаў у адстаўку ў чыне тайнага дарадцы. У Беластоцкай ложы «Залаты пярсцёнак» быў у 1819-1820 намеснікам майстра.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 93; Серков, с. 196; Hass L. Wolnomuliarstwo w Biaiymstoku, s. 110]

**Валовіч Казімір.** XIX:4, XIX:6 (13.10.1797 ?, Парэчча, Слонімскі пав. – 27.03.1849, Парыж)

Памешчык Гродзенскай губ., уладальнік маёнтка Парэчча з фальваркамі Падлужжа, Наркаўшчына, Мар'яполь, Яловікі і Гарадзішча. У 1790-х гадах – слонімскі падкаморы. У 1812 – суддзя. Пад час вайны 1812 года падпісаў акт Слонімскай канфедэрацыі аб далучэнні да Генеральнай канфедэрацыі Княства Варшаўскага. У 1820 г. – падкаморы слонімскі. Удзельнік Лістападаўскага паўстання 1830-1831 г., разам з А. Бронскім стварыў партызанскі атрад, для набыцця зброі і амуніцыі залажыў свой маёнтак з землямі ў Пецярбургскай Захоўнай казне за 30 150 руб. У службу ўступіў 08.07.1831, 03.08.1831 стаў паручнікам, а 03.10.1831 – капітанам 13-га палка ўланаў. У складзе корпуса Дэмбінскага дайшоў да Варшавы, а затым перайшоў у Прусію і выехаў у Францыю. Узнагароджаны крыжам Віртуці Мілітары. У 1830 г. пры вобыску ў доме В. знайшлі яго масонскі патэнт ад 27.04.1819, знак і блакітны фартух. Гродзенскай губернскай следчай камісіяй 19.10.1832 быў залічаны разам з сынам да ліку злачынцаў другой катэгорыі. Маёнтак Парэчча (у гэты час належаў сыну), фальваркі Яловікі і Гарадзішча з вёскамі Шундры, Паўлавічы і Ферадкі былі канфіскаваны. Забралі 163 тамы кніг на масонскую тэму на польскай, нямецкай і французскай мовах, якія пазней вывезлі ў Пецярбургскую публічную бібліятэку.

Бацькі: маці Людвіка з Шэметаў.

Жонка: Мар'яна з Фэлькерзамбаў.

Дзеці: сын Міхал Валовіч, павешаны ў 1833 г. у Гродне як удзельнік экспедыцыі эмісара польскай эміграцыі Ю.Заліўскага.

[НГАБ у Мінску, ф. 31, воп. 2, спр. 86, а. 36 адв; НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 19, спр. 1141, а. 88-89; воп. 1, спр. 2860, ф. 31, воп. 2, спр. 86, а. 36; Серков, с. 196; Талерчык. Парэчча, с. 19–23, 28, 31-32; Materialy do biografij, s. 462; Niesiecki, t. IX, s. 423]

**Валовіч Ян.** XIX:1

Пад час напалеонаўскіх войнаў ваяваў у войску Княства Варшаўскага. У 1821 г. – адстаўны капітан.

[Серков, с. 196; Гардзееў. З гісторыі, с. 93]

**Вальтэр Жан (Ян) Гадэфрой.** XVIII:1

Панчошнік, які пачаў працаваць на Гарадніцы з 1768 г. Бухгалтар гандлёвага кантару часоў А.Тызенгаўза.

[Końсiaikowski S. Antoni, t. 1, s. 497]

**Ваньковіч Антоні Тадэвушавіч.** XIX:6 (к. 1758 – 1812, Мінск).

Меў маёнтак Відагошч на Міншчыне (3,5 тыс. дзесяцінаў з млынам, прапінацыяй, лясамі, ацэньваўся ў 8 млн. злот.). У 1807 – маршалак шляхты Ігуменскага пав., а потым Мінскага пав. У Вільні меў палац, называемы Ваньковічскім. З 19.07 да 16.08.1812 г. быў сябрам Камісіі Часовага кіравання Мінскай правінцыі, потым – наглядальнікам ваеннага шпіталя Вялікай арміі ў Мінску. Захварэў тыфам, памёр у 1812 г.

Бацька: Тадэвуш-Казімір. Маці: Ганна Свентажэцка.

Жонка: Ганна Солтан.

Дзеці: дачка Клемянціна, замужам за гр. Мастоўскім; Валерыя (нар. у 1805), замужам за Канст.Тызенгаўзам (1821), вядомым археолагам; Ванда (1808–1842), замужам за гр. Бенедыктам Тышкевічам (1825).

[Konarski. Wackowiczy, s. 4-5]

**Ваньковіч Апалінары Янавіч.** XIX:2, XIX:3, XIX:6 (? – 15.06.1857, Дрэздэн)

З 01.07 па 05.08.1812 г. быў сябрам аддзела харчавання ў адміністрацыйнай камісіі Мінскага дэпартамента. У 1814–1818 г. – мінскі павятовы маршалак. Купіў ад Ст.Ратынскага в. Востраў над Бярэзінкай у Ігуменскім пав., якую потым пакінуў сыну (у 1860 было 2 747 дзесяцінаў зямлі, 328 муж. і 355 жан. душ). Памёр у Дрэздэне, там пахаваны.

Бацька: Ян Адамавіч (гл.).

Жонка: Ізабэла Абуховіч. Дзеці: сын Леан (Лявон, нар. 21.07.1831), камер'юнкер двара расійскага і маршалак шляхты Мінскага пав., жонка П.Манюшка.

[Konarski. Wackowiczy, s. 5; Kuszelewski; Maiachowski-Jempicki S. Wykaz; Серков, с. 162]

**Ванькові Казімір (Юзэфавіч).** XIX:6 (нар. 01.04.1796)

Былы суддзя Мінскага галоўнага суда 2-га дэпартамента ў 1820-х г. У 1821 – у Віленскім універсітэце выдаткаваў 6,20 злотых на кракаўскі помнік Касцюшку. Прысяжны ў 1830-х г.

Бацька: Юзэф, маршалак шляхты Мінскага пав. Маці: Марыяна.

Жонка: Н.Любошчынская.

Дзеці: сыны Юзэф-Герард-Антоні (1837); Аляксандр-Ян-Антоні (1841), Вінцэнт-Каэтан-Антоні (1843). Усе 22.02.1845 г. былі запісаны ў дваранскую кнігу Мінскай губ.

[Konarski. Wackowiczy, s. 11; Lista imenna, s. 96-97]

**Ванькові Эдвард-Станіслаў-Антоні-Лукаш Станіслававіч.** XIX:2, XIX:6 (? – 1872)

У 1814 г. – падсудак Мінскага павятовага суда. У 1820 г. – харунжы Мінскага пав. У 1821 г. – старшыня Мінскага губернскага апеляцыйнага межавага суда. Вядомы і добры гаспадар, перш усяго Сляпянкі Вялікай, дзе вёў узорную гаспадарку, а таксама Камароўкі і Зазерж (Зарэчча ?) над Свіслаччу. Маршалак шляхты Мінскага пав.

Жонка: Міхаліна Манюшка (сястра Чэслава, бацькі музыканта Станіслава Манюшкі).

Дзеці: Станіслаў (нар. у 1819); Зыгмунт-Аляксандр (1823); Адам (1828), які меў маёнтак Князеўка ў Ігуменскім пав.; Казімір (1831); Тадэвуш (нар. у 1834); Ян-Эдвард (1835–1885), які быў вядомым энтамолагам, меў вялікую бібліятэку і калекцыю, трапіўшую ў Музей прыроды ў Варшаве; Ядзвіга, замужам за Рэвеньскім; Зоф'я-Пелагея (1837); Уладзіслаў-Антоні-Вільгельм (1839); Валерыя; Габрыэля; Ганна, замужам за А.Вайніловічам, яе сын – вядомы аўтар успамінаў Эдвард Вайніловіч.

Брат: Мельхіёр, бацька мастака Валенція В.

[Konarski. Wackowiczy, s. 12; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Серков, с. 162]

**Ванькові Ян Адамавіч.** XIX:2

У 1820 г. – мінскі межавы суддзя.

Бацька: Адам, брат масона Ваньковіча А.Т. (гл.).

Жонка: Тэадора Пюра (герба Бонча).
Дзеці: сын: Апалінары, масон (гл.).
[Konarski. Wackowiczy, s. 5; Серков, с. 162]

**Васнеўскі Юзэф.** XIX:5
Шляхціц Мінскага пав.
[Серков, с. 166]

**Вейс 1-ы Аляксандр Андрэевіч.** XIX:2 (нар. каля 1789)
З ліку дваран Падольскай губ. На службе з 1807 г. у кадэцкім корпусе. З 02.02.1809 – карнет Елісаветградскага гусарскага п., 02.02.1812 пераведзены ў л.-гв. Уланскі п. Удзельнічаў у бітвах пад Вільнам, Смаленскам, Барадзіном, Таруцінам, Малаяраслаўцам, Красным. З 23.09.1813 – паручнік, удзельнічаў у замежным паходзе расійскай арміі ў 1813-1814 г., пад час якога быў двойчы паранены. З 1820 – ад'ютант вялікага князя Канстанціна Паўлавіча. У 1821-1822 – ротмістр, затым – палкоўнік л.-гв. Уланскага п.
Бацька: віленскі паліцмайстар.
Сёстры: Кацярына, замужам за Дзякавым; Соф'я, замужам за кн. Трубяцкім.
Жонка: англічанка (пам. у 1824), у першым замужастве Фрыдрыхс, фаварытка вял. кн. Канстанціна Паўлавіча, ад якога мела сына, у 1816 атрымала дазвол узяць прозвішча Аляксандравай У.М. па назве маёнтка.
[Серков, с. 169]

**Вейсенгоф (Войсенгоф, Вейсангоф, Вейссенгофф) Франц.** XIX:1
У 1819 г. – вількамірскі падкаморы, затым – віцэ-маршалак, у 1821-1822 г. – маршалак Вількамірскага пав. Сябра Нацыянальнага масонства і польскага Патрыятычнага таварыства. Паручнік Літоўскага ўланскага п., ротмістр.
[Серков, с. 170; Гардзееў. З гісторыі, с. 93]

**Венцлавовіч Ксаверы.** XIX:7
Былы суддзя Мінскага галоўнага суда 2-га дэпартамента, памешчык Бабруйскага пав.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Верашчака Міхал Антоніевіч.** XIX:5, XIX:6 (1795 – пасля 1846).
Вучыўся ў мінскай гімназіі, Віленскім універсітэце, дзе быў сябрам Таварыства прамяністых. Старшыня Навагрудскага межавага суда, уладальнік маёнтка Плужыны ці Дварэц са 160 рэвізскімі


Міхал Верашчака

душамі муж. полу (1838 г.). Сярод яго сяброў былі Тамаш Зан, Ян Чачот, Ігнацы Дамейка, Адам Міцкевіч. Я.Чачот успамінае яго ў баладзе «Калдычэўскі шчупак». А.Міцкевіч, які прыязджаў у Туганавічы і Плужыны, прысвяціў яму баладу «Свіцязь», пісаў, што «Міхал адукаваны, начытаны і заўзяты рамантык». І.Дамейка таксама ўспамінаў: «Пан Міхал аб'ядноўваў у сабе забыткі былой шляхецкай ганарлівасці з найчысцейшым каханнем народа. Любіў размаўляць аб старажытных польскіх родах, якіх быў хадзячым гербоўнікам, аб бляску дамоў, аб велічы і моцы Рэчы Паспалітай, аб Баляславах і часах жыгімонтаўскіх... Жыў на версе мураванай афіцыны, дзе на сценах былі змешчаны старажытныя зброя, шлемы, шаблі і некаторыя памяткі з крыжацкіх паходаў». Гэтыя рысы В. увасобіліся ў вобразе Графа ў паэме А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

Бацька: маршалак Наваградскага пав., дзедзіч фальварка Туганавічы (1774), уладальнік фальварка Плужыны (1797).

Брат: Юзэф (гл.).

Сястра: Марыля (Марыя), знакамітая каханая А.Міцкевіча.

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 29; Рыбчонак, Свяжынскі. Heroes, с. 67; Філаматы і філарэты, с. 199, 202, 228; Podhorski. Realia, s. 125, 139, 161–317]

**Верашчака Юзэф (Мікалай-Амбросі-Францішак-Ксаверы) Антоніевіч.** XIX:5 (1796, Туганавічы – памёр не раней за 1857).

Хрышчаны 11 снежня 1796 у Варанчанскім касцёле. Вучыўся разам з братам і Т.Занам у мінскай гімназіі, потым – у Віленскім універсітэце, належаў да Таварыства прамяністых. Уладальнік маёнтка Смольчыцы (121 душа ў 1838), які вымяняў у Туганоўскіх на дзедзічны маёнтак Туганавічы, таксама атрымаў у пасаг за жонкай маёнтак Райца з фальваркам Сегда, а пазней і маёнтак Міратычы. У 1814 г. – дэпутат шляхты на гродзенскіх губернскіх выбарах. У 1821 г. – харунжы. Сябраваў з А.Міцкевічам, які прыязджаў да яго ў Туганавічы, у 1819 размаўляў з Ю. і М.Верашчакамі пра масонаў. Жыццё туганаўскага двара Міцкевіч адлюстраваў на прыкладзе Сапліцова ў «Пане Тадэвушы». У 1826 г. маршалак Навагрудскага пав. У 1833 – эмісар польскай эміграцыі М.Шыманскі прыбыў да Марылі Вера-

шчака з адрасам яе брата Юзэфа. У в. Райца Карэлічскага р-на захаваўся яго сядзібны дом (цяпер будынак шпіталя).

Брат: Міхал (гл.). Сястра: Марыля (Марыя), знакамітая каханая А.Міцкевіча.

Жонка: Людвіка з Раецкіх.

Дзеці: сыны Міхал-Францішак-Канстанцін-Стэфан-Казімір (1831 – не раней за 1876) і Францішак-Людвік-Аляксандр (1839 – не раней за 1876); дачка Соф'я, замужам за паўстанцам 1863 г. К.Туганам.

Узнагароды: ордэн Св. Уладзіміра 4-й ст. паводле ўказа імператара Аляксандра I ад 27.12.1825.

[Рыбчонак, Свяжынскі, с. 67–70; Серков, с. 176; Гардзееў. З гісторыі, с. 93; Збор помнікаў. Гродз. вобл. с. 221; Філаматы і філарэты, с. 199, 202; Podhorski. Realia, s. 125, 160, 227, 301, 302, 368, 370]

**Вержбіцкі Казімір.** XIX:2

Музыкант. Магчыма, маецца на ўвазе танцоўшчык Слонімскага балета. У 1821 выдаткаваў, будучы ў Віленскім універсітэце, 6,20 злотых на кракаўскі помнік Касцюшку.

[Цеханавецкі. М.К.Агінскі, с. 157; Lista imenna, s. 97; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Відал Юзэф.** XIX:5

Служачы ў масонскай ложы ў 1821 г.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Відацкі Якуб (Якаў) Піліпавіч.** XIX:1

У 1809 г. – дазорца вясковых складоў Гродзенскай губ. У 1813 г. – прысяжны (камісар) Кобрынскага ніжняга земскага суда. У 1821 г. – кобрынскі земскі спраўнік. У 1837 г. – прысяжны Кобрынскага павятовага суда. У 1840 г. – кобрынскі павятовы суддзя.

Брат: Ян, ганаровы апякун Гродзенскай гімназіі, у 1839 г. прапанаваў сваю дапамогу ў адкрыцці прыходскага вучылішча ў Кобрыне (пабудаваць драўляны дом і прадаставіць неабходныя рэчы) з умовай прызначэння яго ганаровым наглядальнікам вучылішчаў Кобрынскага пав.

[НГА Літвы, ф. 567, воп. 2, спр. 4194, а. 12; Гардзееў. З гісторыі, с. 93; Серков, с. 179]

**Вілямоўскі Юліян.** XIX:5

У 1820 – чыноўнік архіва кн. Радзівілаў. У 1821 у Вільні выдаткаваў М.Ромеру 6,20 злотых на кракаўскі помнік Касцюшку. У 1826 – архіварыус пракураторыі маёнткаў і справаў княжны Стэфаніі Радзівіл.

[НГАЛ, ф. 49, воп. 1, спр. 1894, а. 37 адв.; Lista imenna, s. 91–96; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]



Караль-Юзэф Вірыён (фота з архіву Ф.І.Ігнатовіча)

**Вінел Юзэф.** XIX:5
Служачы ў масонскай ложы ў 1821 г.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вірыён (Вірыян) Караль-Юзэф Янавіч.** XVIII:1, XVIII:5, XIX:5 (? – 1815, Нясвіж)

Прыехаў з Францыі. Спачатку быў доктарам у радзівілаўскім Нясвіжы. У 1778 г. быў доктарам гарадзенскай скарбовай харугвы. Потым – настаўнікам анатоміі ў медыцынскай школе (Каралеўскай медыцынскай акадэміі) у Гродне. Жылібер у сваёй кніжцы «Аўтакратыя Прыроды» пісаў, што «пан Вірыён – французскі хірург, былы прафесар анатоміі з Нансі і доктар медыцыны, быў разам з Хінсельманам адказным за хірургічную частку...». З 1781 г. па просьбе Ст.Пачобута-Адляніцкага і І.Храптовіча працаваў выкладчыкам анатоміі ў Віленскай галоўнай школе. У 1785 г. атрымаў там пацвярджэнне ступені доктара медыцыны. У 1793 г. быў доктарам расійскага пасла Я.Сіверса ў Гродне. Жыў на вул. Маставой. У 1803–1806 г. – інспектар Літоўска-Гродзенскай урачэбнай управы. З 1806 г. – сябра Віленскага лекарскага таварыства.

Дзеці: сын Ян (гл.), і трое іншых.

[Мілінкевіч. Першы беларускі прыродазнаўца, с. 3; Серков, с. 183; Siewers, s. 222; Bielinski, s. 69; Kosminski, s.532; Koњsciaikowski. Antoni, t. 1, s. 390, 402; Maiachowski-Jempicki. Wykaz, s. 299]

**Вірыён (Вірыян) Ян Юзэфавіч.** XIX:1. (каля 1795 – ?)

У 1813 г. – сябра камісіі для секвестра маёнткаў, у 1814 г. – старшыня Гарадзенскага гродскага суда. У 1817 г. – старшыня Гарадзенскага межава-апеляцыйнага суда, гарадзенскі падкаморы. У 1819 г. – прэзідэнт Гродзенскага суда і межавага суда Гродзенскага пав. У 1821-1822 г. – падкаморы таго ж павета.

Жонка: Марыяна з баронаў Брунаў.

Дзеці: сын Уладзімір, гаспадар маёнтка Лішкі ў Гродзенскай губ., маршалак Гродзенскага пав., падазраваўся ў спачуванні ўдзельнікам паўстання 1863, таму знаходзіўся пад следствам.

[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 13, спр. 1399, а. 171; Гардзееў. З гісторыі, с. 93; Серков, с. 183; Damejko. Listy, s. 623; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вітаноўскі Дамінік Янавіч.** XIX:1, XIX:6

У 1808 г. – канцылярыст Крамянецкай камісіі па пытаннях школьных фундушаў Валынскай, Падольнай і Кіеўскай губерняў.

У 1811 г. – памочнік старшага настаўніка літаратуры Валынскай гімназіі. У 1813 г. – настаўнік лацінскай і польскай моваў Луцкай павятовай школы. У 1815 г. – сакратар маршалка Гродзенскай вывадовай дэпутацыі. У 1818 г. – архівіст па пытаннях шляхецкіх сходаў і вывадовых дэпутацыяў, прысяжны Гродзенскага галоўнага суда. У 1819-1820 г. – асэсар гэтага ж суда. У 1821 г. – калежскі сакратар, страпчы па казённых справах Гродзенскай губ. Па заданню майстра ложы Анджэйкавіча ўвёў у яе К.Эйсымонта (гл.).

Брат: Міхал (гл.).

[БАНЛ, аддзел старадрукаў, F. 275–605, а. 1; Гардзееў. З гісторыі, с. 94; Серков, с. 184]

**Вітаноўскі Міхал Янавіч.** XIX:1, XIX:6

Памешчык. У 1812 г. – генеральны сакратар французскай адміністрацыі Гродзенскага пав. У 1817–1819 г. – сакратар Гродзенскага дваранскага сходу. У 1826 г. – чыноўнік 8-га класа, камісарыяцкі камісіянер у канцылярыі грамадзянскіх спраў царэвіча Канстанціна Паўлавіча.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 94; Серков, с. 184]

**Вішнеўскі Павел.** XIX:4

У 1820 г. – капітан Валынскага ўланскага п.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вішнеўскі Фелікс Фадзеевіч.** XIX:2

У 1820 г. – пісар земскі мазырскі. У 1821 г. – суддзя Мазырскага павятовага земскага суда.

[Серков, с. 186; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вішнякоў Ян Фёдаравіч.** XIX:2, XIX:6

У 1806 г. – калежскі асэсар, мінскі губернскі страпчы казённых справаў. У 1820 г. – тытулярны дарадца Мінскага галоўнага суда 2-га дэпартамента.

[Серков, с. 187; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вішчынскі Юзэф.** XIX:7

Генерал-маёр былых польскіх войскаў. Падараваў вольную свайму селяніну з маёнтка Касаржыцы М.Пуцяту (гл.) і яго сям'і.

[НГАБ у Мінску, ф. 295, воп. 1, спр. 344; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Волк Адольф.** XIX:4, XIX:6

У 1820 г. – капітан былога ВП.

[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Вольскі Мікалай.** XIX:5, XIX:6 (1762 – 1802/3, Беласток)

Пасля заканчэння Галоўнай літоўскай школы ў Вільні быў бібліятэкарам у І.Хрэптовіча ў Шчорсах. З'яўляўся сябрам камісіі па ўкладанню цывільных і крымінальных правоў. У канцы жыцця быў шамбелянам Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які яго вельмі любіў і паважаў. Пасля смерці апошняга караля РП выехаў з Пецярбурга ў Беласток, дзе жыў у палацы Браніцкіх у пані Кракаўскай.

Творы: Мова, якая надае ўвагу старажытнаму Егіпту, Асірыі, Медыі і Персіі. – Вільна, 1784; Пусты дзень, альбо Жаніцьба Фігаро, пераклад з Бомаршэ. – Варшава, 1786; Дзве ночы, альбо Роздумы пра зорную справу, паэма надрукавана ў часопісе «Варшаўскі дзённік» (1804, усё на польскай мове); у рукапісным выглядзе захаваўся дзённік, у якім па просьбе караля В. апісаў ягоныя апошнія гады жыцця.

[Bielicski, t. III, s. 493; Encykiopedyja powszechna, t. 27, s. 729–730; Orgelbrand, t. XV, s. 478]

**Вольтэр Багуміл Янавіч.** XIX:1

У 1811 г. – суддзя Ваўкавыскага межавага суда. У 1817 і 1821 г. – прэзідэнт (старшыня) Ваўкавыскага гродскага суда.

[Серков, с. 160; Гардзееў. З гісторыі, с. 93]

**Выпыхоўскі Францішак.** XIX:2

У 1820 – прыватны служачы.

[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Вэйс (Вэйсэ) Аляксандр Андрэевіч.** XIX:2 (нар. 24.08.1764, Ліфляндыя).

Лютэранін. З ліку дваранаў. У 1785 г. – прапаршчык Разанскага пяхотнага п. У 1820 – ад'ютант цэсарэвіча вял. кн. Канстанціна Паўлавіча.

[Серков, с. 169; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вягелін Аляксандр Іванавіч.** XIX:4 (1801 – восень 1860, Адэса)

З ліку дваранаў. Выхоўваўся ў 1-м кадэцкім корпусе, па заканчэнні якога быў накіраваны прапаршчыкам у 7-ы піянерны батальён (26.07.1818). З 01.2.1820 – падпаручнік, з 25.03.1822 – паручнік. 30.06.1823 пераведзены ў Літоўскі піянерны батальён, служыў у 3-й роце. Сябра Таварыства ваенных сяброў, арганізатар выступлення Літоўскага піянернага батальёна. Арыштаваны 26.12.1825. Ваенным судом пазбаўлены дваранства і чыноў і прыгавораны да смяротнага пакарання. Па канфірмацыі сасланы на 10 гадоў на катаржную працу. 15.02.1828 дастаўлены ў чыцінскі астрог, з верасня 1830 г.



А.І.Вягелін

знаходзіўся на Пятроўскім заводзе. 08.11.1832 накіраваны на пасяленне ў слабаду Срэценскую Нерчынскай завадской ваколіцы Іркуцкай губ. 18.08.1837 прызначаны радавым у Кабардзінскі егерскі п. Асобнага Каўказскага корпуса. 18.08.1837 пераведзены ў унтэр-афіцэры. З 06.12.1839 – юнкер, з 22.07.1842 – прапаршчык. 27.01.1843 звольнены ў адстаўку. Жыў паслядоўна ў Палтаве, Новай Празе Херсонскай губ., Адэсе. Загадваў у апошнім горадзе мінеральнымі водамі.

Бацька: Іаган-Хрыштоф, доктар медыцыны. Маці: Ігельстром Фрыдэрыка-Аўгуста (другая жонка бацькі), сястра Г.Ігельстрома, бацькі К.Г.Ігельстрома (гл.), валодала 600 душамі сялянаў.

Брат: Эмілі.

Сёстры: Марыя, Соф'я, Юлія.

[Серков, с. 167; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т. 2, с. 383-384]

**Вянзоўскі Луіс (Людвік).** XVIII:1

Прафесар у Гарадзенскім кадэцкім корпусе, дзе выкладаў механіку, алгебру, геаметрыю. З 1780 г. – аўдытар у чыне капітана Гарадзенскага каралеўскага батальёна. Пазней – каралеўскі маёр.

[Końsciaikowski. Antoni, t. 1, s. 247, 484; Гардзееў. Гарадзенскія, с. 132]

**Вянцкоўскі Матэвуш.** XIX:7

У 1822 – ротміст Літоўскага ўланскага п.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вяргун Ян.** XIX:2

У 1820 – ротмістр уланскага Конна-Польскага п. У 1822 – маёр польскага ўланскага п.

[Серков, с. 174; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Вяроўкін Андрэй Іванавіч.** XVIII:2

Службу пачаў у 1761. У 1776-1777 – павятовы камісар у Чачэрску, у 1778 – у Чавусах Магілёўскай губ. У 1779–1881 – дарадца, з 03.02.1783 па 1796 дырэктар эканоміі ў Магілёўскім намесніцтве. У 1776–1780 – секунд-маёр, у 1781–1783 – калежскі асэсар, у 1784 – надворны дарадца.

Брат: Міхаіл.

[Серков, с. 174]

# Г

**Гадлеўскі Францішак.** XIX:4, XIX:6

У 1809 – прапаведнік у Віленскай гімназіі. У 1820 г. – ксёндз, канонік дзятлаўскі, пробашч.

Творы: Святочныя казанні кс. Францішка Гадлеўскага. Т. 1. – Вільна, 1806. – 345 с.; Новыя святочныя казанні кс. Францішка Гадлеўскага, прапаведніка ў Віленскай гімназіі. – Вільна, 1809. – 345 с.; Нядзельныя казанні кс. Францішка Гадлеўскага. – Вільна, 1817–1819, ч. 1–4 (усе на польскай мове).

[БАНЛ, аддзел старадрукаў, назваными кнігі Гадлеўскага; Серков, с. 245]

**Гайля (Гайль) Адольф.** XIX:5, XIX:6

У 1822 г. – штаб-лекар Татарскага п. Літоўскай уланскай дывізіі, калежскі асэсар.

[Серков, с. 216; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Галаўня Алаізы.** XIX:2

Магчыма, у 1815 – падпаручнік 3-га лінейнага пяхотнага п., выкрэслены з яго за непрыбыццё. У 1820 – жыхар.

[Серков, с. 257; Uruski, t. V, s. 171]

**Галіцкі Якуб.** XIX:1

У 1797 г. – «люстратар харчавання, дэпутат па пытаннях геаграфічнага апісання». У 1808 г. – межавы, земскі дэкрэтавы і актавы рэгент Лідскага пав. У снежні 1812 г. на працягу тыдня выконваў абавязкі лідскага маршалка на падставе ліста генерала А.П.Ажароўскага. У 1815 – лідскі земскі пісар. У 1821 г. – земскі пісар Лідскага пав.

[Серков, с. 217; Гардзееў. З гісторыі, с. 94]

**Гамалея Сямён Іванавіч.** XVIII: 2 (1743 – 1822)

Са старажытнага рускага дваранскага роду XVII ст. З 1755 па 1763 вучыўся ў Кіеўскай Магілянскай акадэміі, у 1764 – у Акадэмічным ун-це. Потым працаваў настаўнікам лацінскай мовы ў Сухапутным шляхецкім корпусе, Марскім шляхецкім корпусе. З 1770 перайшоў канцылярыстам у Сенат. З 26.06.1774 – кіраўнік канцылярыі намесніка Полацкай і Магілёўскай губ. графа З.Г.Чарнышова, перакладчык, сакратар. З 1781 – калежскі асэсар. З 1782 па 1784 у Маскве служыў у канцылярыі Чарнышова. Надворны дарадца. Адзін з заснавальнікаў Сяброўскага вучонага таварыства. Паплечнік М.І. Навікова і з 1780-х г. жыў у ягоным маёнтку Аўдоціна. Быў вядомы як бяссрэбранік і аскет, за што атрымаў назву «Божы чалавек».


С.И.Гамалея

Творы: пісаў вершы духоўнага зместу. Пасля смерці яго перапіску з Навіковым, Лапухіным, Тургеневым, Карамзіным і іншымі выдалі сябры ў 1832, 1836–1839 г.

Бацька: святар з ліку бедных дваранаў, стаў багатым памешчыкам Чарнігаўскай губ, генеральным суддзёй.

Браты: Міхал (нар. 1746), калежскі асэсар; Мікалай.

Сястра: Алена, у замужжы Палетыка.

[Серков, с. 219; Словарь исторический, т. 1, с. 313; Энцикл. словарь. – Биографии, т. 3, с. 604-605]

**Гантарскі Антоні.** XIX:7
Памешчык Слуцкага пав.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Гарабурда Адам Казіміравіч.** XIX:5, XIX:6

Са старажытнага шляхецкага роду XVI ст. Суддзя гродскі наваградскі (1798), прызнаны ў дваранстве. У 1818 г. – прэзідэнт трыбунала 1-й інстанцыі, выступіў з прамовай на ўрачыстым ушанаванні А.-Т.Касцюшкі 21-22.02.(7-8).1818 – у Мінскім кафедральным касцёле. У 1820 г. – старшыня Слуцкага земскага суда. Кандыдат у Камісію для ўладкавання радзівілаўскіх справаў (1826).

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 36; Гардзееў. З гісторыі, с. 94; Саітава, с. 3; Серков, с. 221; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Гарайскі Якуб.** XIX:5, XIX:6

Доктар медыцыны. Паходзіць са старажытнага шляхецкага роду Гарайскіх гербаў «Корчак» і «Орля». Запісаны ў VI частку радаслоўных кнігаў Валынскай губ. Магчыма, гутарка ідзе пра Я.Гарайскага, які з 1829 г. быў утрымальнікам аптэкі, якая належала двараніну Люлевічу ў Навагрудку, а з 1835 меў там уласную аптэку.

[НГАБ у Мінску, ф. 295, воп. 1, с. 286, л. 300–302 аб.; Серков, с. 261; Энциклопедический словарь Брокгауза и Ефрона, т. IX (17), с. 209-210]

**Гардзенін 1-ы.** XIX:7
У 1822 – падпаручнік конна-артылерыйскай роты № 29.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Серков, с. 262]

**Гарловіч Вінцэнт.** XIX:2
Юнкер Татарскага ўланскага п.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Гарэгляд (Выласкі-Гарыгляд) Юзэф (Восіп) Якімавіч.** XIX:1
У 1804 г. – чыноўнік канцылярыі Сената (перапісчык, канцылярыст, памочнік метрыканта). З 1806 г. вучыўся ў Віленскай юрыдычнай школе. У 1810 г. – перакладчык Статута ВКЛ на рускую мову, у 1817 г. – пракурор Гродзенскай губ. У 1819 г. – калежскі асэсар, у 1821 г. – надворны дарадца. У 1819–1821 г. – гродзенскі губернскі пракурор. Прыкладна ў 1831 запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.
Творы: Российское уголовное право. – Спб., 1815 (2-е выданне на польскай мове ў Вільні, 1817).
Брат: Карл, у 1822 г. – адстаўны калежскі асэсар.
[Гардзееў. З гісторыі, с. 94; Серков, с. 262; Uruski, t. V, s. 185]

**Гарэцкі Восіп (Юзэф) Валянцінавіч.** XIX:1
Адстаўны капітан Польскай грэнадзёрскай гв. У 1820 г. – віленскі віцэ-маршалак.
[Серков, с. 262; Гардзееў. З гісторыі, с. 94]

**Гатоўскі Мікалай Паўлавіч.** XIX:2
У 1822 г. – карнет Літоўскага ўланскага п. У 1825–1828 г. – паручнік лейб-гв. Гродзенскага гусарскага п., знаходзіўся ў Варшаве.
[Серков, с. 265]

**Гацыскі (Гацыцкі) Бенедыкт (Венедыкт) Андрэевіч.** XIX:4
Земскі суддзя, удзельнік паўстання 1794 г., быў дэпутатам у Літоўскую Раду ад Навагрудскага пав. У 1814–1819 г. – прэзідэнт Навагрудскага павятовага суда.
Бацька: будаўнічы Навагрудскага пав.
[Серков, с. 224; Швед. Паміж Польшчай і Расіяй, с. 231; Uruski, t. V, s. 87; Zytkowicz. Litwa i Korona, s. 544–546]

**Гацыскі (Гацыцкі) Тадэвуш (Фадзей) Янавіч.** XIX:4, XIX:5
У 1814 г. – суддзя Навагрудскага гродскага суда. У 1818 г. – прэзідэнт трыбунала 1-й інстанцыі ў Навагрудку. У 1821 г. – старшыня земскага суда Навагрудскага пав.
[Серков, с. 224; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Гейдукевіч Гіпаліт.** XIX:2

У 1820 – памешчык, абывацель.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Zaikski, cz. 2, s. 181]

**Гендэрсан Тамаш.** XIX:2, XIX:3, XIX:6, XIX:7

Былы канюшы маёнтка Радзівіла, памешчык Слуцкага пав., адвакат. У БАНЛ захавалася распіска Г. аб атрыманні 500 чырвоных злотых. Ад Я.-Ю. Піска 28.10.1800 г.

[БАНЛ, аддзел старадрукаў, F 273–2656; Серков, с. 224; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Генрыцы (Генрыцкі) Аляксандр Тадэвушавіч (Фёдаравіч)** XIX:2 (каля 1787 г. – кастрычнік/лістапад 1861 г., Кунцаўшчына, Слуцкі пав. Мінск. губ.).

Пасля заканчэння Медыцынска-хірургічнай акадэміі ў Пецярбурзе пачаў службу вайсковым лекарам. У 1821 – доктар мінскага гарадскога лазарэта. У 1822–1826 г. – палкавы штаб-лекар (старшы лекар) лейб-гв. Літоўскага п. 1-й коннай дывізіі. Пазней калежскі асэсар. П.Раманоўскі пакінуў пра яго ўспаміны, надрукаваныя ў «Kurier Warszawski» («Варшаўскім кур'еры», 1862 г.).

Жонка: імя невядома.

Дзеці: Зоф'я, Ян, Аляксандр.

Узнагароды: ордэны Св. Уладзіміра 4-й ст., Св. Ганны 2-й ст., Св. Станіслава 2-й ст.

[Серков, с. 232; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Szarejko, t. 5, s. 166]

**Герланд Фёдар Фёдаравіч.** XIX:1

У 1808 г. – упаўнаважаны гандлёвага дома «Эбергард і Бульмерынг». Адстаўны капітан. У 1810 – кансулент, тытулярны дарадца, служыў у Камісіі складання законаў. Століначальнік, княжацка-стольбергскі дарадца С.-Пецярбургскай губ. У 1822 – кансулент па Дзяржаўнай юстыц-калегіі Ліфляндскіх і Эстляндскіх справаў. Калежскі дарадца, служыў у Міністэрстве замежных справаў.

[Серков, с. 233]

**Герловіч Вінцэнт.** XIX:2

У 1822 – юнкер Татарскага уланскага п. Быў яшчэ Герловіч 2-гі, паручнік конна-артылерыйскай роты № 29, сябра Таварыства сяброў.

[Ланда. У истоков, с. 44, 60; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Герман Міхал.** XIX:2

У 1820 г. – землямер, каморнік у Ашмянскім пав. Запісаны ў дваранскую кнігу Віленскага пав.

[Серков, с. 233; Uruski, t. V, s. 135]

**фон Гірс Аляксандр Карлавіч.** XIX:1 (07.03.1785 (1789) – 29 (19).11.1859, С-Пб.).

У 1819 г. – паручнік лейб-гв. Гусарскага п., у 1822 – падпаручнік Гродзенскага гусарскага п. Пазней генерал-маёр, інспектар памежнай аховы. Пахаваны на смаленскіх евангеліцкіх могілках.

Бацька: К.Лаўрэнцэвіч (1748 – пасля 1805), надворны дарадца.

Браты: Фёдар (нар. у 1776), сапраўдны стацкі дарадца; Карл-Фердынант (1777–1835), стацкі дарадца; Канстанцін (нар. у 1782), стацкі дарадца.

Сястра: Ганна, замужам за Майетам.

Жонка: фон Цыфенбах Лізавета (1802–1861).

Дзеці: Аляксандр, кантралёр Дэпартамента мытных збораў; Канстанцін (пам. у 1888), контрадмірал; Мікалай, калежскі дарадца; Уладзімір, калежскі асэсар; Міхал, калежскі асэсар; Фёдар (1835–1906), адмірал; Павел, маёр; Карл (пам. у дзяцінстве); Зоф'я; Вольга; Лізавета (пам. у 1877), замужам за Румелем; Валерыя, замужам за Страмілавым.

[Серков, с. 241; Гардзееў. З гісторыі, с. 94]

**Гірш.** XVIII:2

[Серков, с. 241]

**Гітль Каэтан.** XIX:7

Мэтр музыкі.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Главацкі (Главацкіс) Юзэф Гіляры, Іосіф (Юзас) Антонавіч.** XIX:1 (14.01.1789, Мінск – 21.12.1858, Варшава).

У 1810-х г. вучыўся ў Віленскай мастацкай школе, у тым ліку ў Я.Рустэма. Мастак, літограф, дэкаратар Мінскага, Варшаўскага і Віленскага тэатраў, аўтар выяў св. Пятра і св. Паўла ў Віленскім кафедральным касцёле, дэкаратар палаца Паца ў Варшаве. У 1821–1825 г. выкладаў у Віленскай мастацкай школе перспектыву і кіраваў літаграфічнымі майстэрнямі.

Бацька: Антон (каля 1750–1811), мастак.

[Серков, с. 244; Гардзееў. З гісторыі, с. 94]

**Гласка Юліян Леапольдавіч.** XIX:1

У 1819 г. – суддзя Гродзенскага павятовага суда. У 1821 г. – у адстаўцы. У 1827 пацверджаны ў дваранстве і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ. Пахаваны на Францішканскіх могілках у Гродне.

[Серков, с. 242; Гардзееў. З гісторыі, с. 94; Uruski, t. V, s. 154]

**Глінка Іван Мікалаевіч.** XIX:5 (1777–1834)

У 1801 г. знаходзіўся у адстаўцы. Капітан. У 1818 г. – палкоўнік 1-га Марскога п., знаходзіўся ў Цверы. У 1826 г. – памешчык Духоўшчыцкага пав. Смаленскай губ., у 1832 г. – правадыр дваранства гэтага ж пав. У 1834 г. жыў у сваім маёнтку.

Брат: Фёдар.

[Серков, с. 243]

**Глінскі (Гліньскі) Аўгустын.** XIX:1

У 1782 г. – чыноўнік канцылярыі маршалкоўскай юрысдыкцыі. У 1791 г. – сакратар камісіі паліцыі. У 1793 г. – генеральны сакратар Кароннай Камісіі. Падчас паўстання 1794 г. асэсар паліцыі Часовай Рады, сакратар аддзела бяспекі Найвышэйшай Нацыянальнай Рады ВКЛ. У 1807 г. – чыноўнік паліцыі ў перыяд Варшаўскага каралеўства, кіраўнік Міністэрства паліцыі. У 1812 г. – сябра ўрадавай Дырэкцыі Нацыянальнага тэатра. У 1818 г. – дзяржаўны рэферэндары. У 1823 г. – дзяржаўны дарадца.

Творы: пераклаў 14 тэатральных твораў.

[Серков, с. 244; Гардзееў. З гісторыі, с. 95]

**Гольц Адам.** XIX:3, XIX:5

Доктар медыцыны.

Творы: магчыма, наступныя публікацыі яго аўтарства – Erysipelas gangraenosum vagum // Tygodnik lekarski. R. V, s. 41–43; Zimnica ukryta // Tygodnik lekarski. R. II, s. 702.

[G№siorowski, t. III, s. 702; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Гольц (Гаўрыла, Гаўрыель) Габрыель.** XIX:5, XIX:6

Выхаванец Віленскай медыцынска-хірургічнай акадэміі. Доктар медыцыны, хірург. У 1807–1812 быў празэктарам пры прафесары анатоміі Ж.-А.Лабенвэйне ў Віленскім ун-це. Першым пачаў тут праводзіць са студэнтамі рэпетыцыі па анатоміі на польскай мове. Пазней пераехаў у Мінск (1815).

Творы: Гісторыя аперацыі кастрацыі, Гісторыя герніатоміі, Гісторыя ампутацыі; рукапіс у БАНЛ «Тры гісторыі хваробаў».

[Bielicski, t. III, s. 197, 248; G№siorowski, t. IV, s. 194, 197, 215; Koњmicski, s. 175; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Гольц Чарльз Готліб.** XVIII:1
[Каталог пергаментов, с. 483]

**Гонтарскі Антоні.** XIX:7
Памешчык Слуцкага пав.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Готліб Эфраім.** XVIII:1
Магчыма, гэта рахункавод мануфактурнага кантару на Гарадніцы часоў А.Тызенгаўза Хрысціян ці Іаган Готліб, які ўпамінаецца ў кнігах Гарадзенскага магістрата з 1780-х гадоў.
[Гардзееў Ю. Гарадзенскія, с. 133]

**Гофман Караль.** XIX:1, XIX:5
У 1816 быў аднавіцелем прац віленскіх масонскіх ложаў «Руплівы ліцвін», «Добры пастар». Як прадстаўнік літоўскіх ложаў у Варшаве звярнуўся да Л.Каменскага (гл.), А.Непакойчыцкага (гл.), Фл.Вайніловіча (гл.) і Хр.Дамброўскага (гл.) з лістом ад 21.09.1821 г., у якім перадаў загад намесніка Каралеўства Польскага аб закрыцці масонскіх ложаў і іх пасяджэнняў на правінцыі да 15.10.1821 г., засцерагаў іх ад працягу масонскіх прац на землях, якія не знаходзяцца пад уладай цэсарэвіча: «Не рабіце, аднак, таго, не звязаўшыся спачатку з гмінамі Вялікага Урада, каб не падстаўляць сябе асабіста на якую-небудзь непрыемнасць, а Таварыства – на публічнае пасрамленне». Член Таварыства «Панта коіна», Саюза вольных палякаў, польскага Патрыятычнага таварыства. У 1826 г. атрымаў дваранскую набілітацыю з гербам «Дзеяслаў». У 1828 г. стаў дарадцам Польскага банка, а ў 1830 – адным з яго дырэктараў. Генеральны кантралёр манетнага двара. У 1828–1830 г. быў выдаўцом часопіса па праблемах права «Themis Polska». Удзельнічаў у Лістападаўскім паўстанні 1830-1831, пасланы ўрадам у Дрэздэн за фінансавай падтрымкай. Эмігрыраваў з Дрэздэна пад прымусам расійскага пасла ў Парыж. Падтрымліваў прыхільнікаў А.Чартарыйскага. У 1837–1839 г. – рэдактар «Kroniki Emigracii Polsiej». З 1848 г. – сябра Камітэта Польскай эміграцыі. Выдаў працу аб паўстанні ў 1839 г. – каштоўны збор матэрыялу аб Вялікай Эміграцыі. У сваіх гістарычных працах спецыфіку польскага гістарычнага працэсу бачыў у слабасці каралеўскай улады і няразвітасці гарадоў. З 1848 г. жыў у Дрэздэне, адкуль пасылаў карэспандэнцыю ў Кракаўскі «Czas».

Творы: у 1827 выдаў пераклад з Франкліна; Wielki tydzien Polcakyw (Вялікі тыдзень палякаў, пераклад на нямецкую, фран-

цузскую і шведскую мовы) (1830); La nationalite polonaise detrujte (Парыж, 1832); Cztery powstania (greckie, holenderskie, portugalskie, polskie) (1837); Vademecum Polskie (1839); Kryl wygnanec. Obrazek historyczny z lat 1714–1735 (1856, 1861); O panslawizmie zachodnim (1863); Historja reform politycznych w dawnej Polsce (1867, 1869); Przyczyny podzialu monarchji polskiej po Boleslawie Krzywoustym w w. XII (Кракаў, 1872).

Жонка: пісьменніца Клемянціна Таньская.

[НГАЛ, ф. 378, 1821 г., спр. 338, а. 4 адв.; Гардзееў. З гісторыі, с. 95; Серков, с. 260; Orgelbrand, t. 7, с. 111; Uruski, t. V, s. 157; Wielka EP PWN, 1964, t. 4, s. 70; WIEP Gutenberga, t. 6, s. 189]


С. Грабоўскі

**Грабоўскі Стэфан Тамашавіч.** XVIII:1 (26 ці 24.06.1767, Асташын пад Навагрудкам – 10.05 ці 04.06.1847).

У 1781 г. – капітан. Пад час кампаніі 1792 г. быў падпалкоўнікам, камандзірам 7-га пяхотнага палка. Вызначыўся ў баях пад Мірам і Цярэспалем. 18 красавіка 1794 г. у Смаргоні заклікаў свой полк да выступлення супраць рускіх, непадпарадкавання здраднікам-братам Касакоўскім. Праз два дні на чале 800-асабовага атрада, маючы 2 гарматы, ужо ішоў на Вільню. Дапамог сваімі рашучымі дзеяннямі прымусіць батарэю Тучкова адысці на Гродна. Кіраваў паўстанцкімі атрадамі ў бітвах пад Нямеччынам, Палянамі, Соламі. Ажыццявіў дыверсійны рэйд на тэрыторыю Міншчыны: 15 жніўня перамог рускіх каля Іўя і спаліў масты праз Нёман. 24 жніўня адбыўся бой у 10 вярстах ад Мінска на Ракаўскім гасцінцы – паўстанцы вымушаны былі павярнуць на Койданава – Пухавічы, а потым на Глуск – Любань – Слуцк. Генерал П.Цыцыянаў перагарадзіў Г. шлях і 4 верасня даў бітву пад Любанню, дзе акружыў яго і прымусіў капітуляваць. Г. трапіў у палон і Смаленскай следчай камісіяй быў сасланы ў Кастрамскую губ. Павел І вызваліў яго 29.11.1797 г. У Княстве Варшаўскім быў сакратаром агульнай Рады міністраў. Зімою 1811-1812 г. Грабоўскі разам з А.Чартарыйскім распрацоўваў праект аднаўлення ВКЛ. У жніўні 1812 г. быў маршалкам Брэсцкага ваяводства, займаўся аднаўленнем войска ВКЛ, у званні генерал-маё-

ра ўзначальваў вайсковы камітэт у Вільні. 03.07 быў абраны дэлегатам на Генеральную Канфедэрацыю Каралеўства Польскага ад Брэсцкага пав. За тое, што адбыў за мяжу і не вярнуўся, яго маёнткі Дзяргелі (369 душ м.п.) у Ваўкавыскім пав. і Церабунь (347 душ) у Брэсцкім пав. падлягалі канфіскацыі. Пасля амністыі жыў у Пецярбурзе. У 1815 г. стаў дырэктарам ваеннага дэпартамента, у 1818–1825 г. – статс-сакратар, міністр Каралеўства Польскага, у 1825 г. падтрымаў на Сенацкай плошчы Мікалая І. У 1826–1829 г. Грабоўскі ў чыне генерала дывізіі ўдзельнічаў у руска-турэцкай вайне. У 1832 – 1839 г. – сябра Дзяржаўнай рады Расійскай імперыі.

Па ініцыятыве Чартарыйскага падрыхтаваў мемарандум аб арганізацыі Ваеннай Камісіі (1815) і ў 1816 г. увайшоў у яе як кіраўнік III секцыі. У 1820 г. стаў сябрам Дзяржаўнай рады, падрыхтаваў праект аб вольнасці друку. У 1822 г. стаў міністрам, статс-сакратаром КП і з сакавіка стаў кіраваць з СПб., спачатку як намеснік, а з 13.04.1825 г. з тытулам міністра. Ахоўваў інтарэсы краю перад рускай манархіяй. Усталёўваў кантакты паміж каралём і народам: адстойваў у 1822–1825 г. права Ваяводскай рады калішскай, затрымаў увядзенне Генеральскай Кураторыі, выступіў у абарону вольнамулярства, адкрытасці соймавых абрадаў, супраць пашырэння правоў епіскапата, удзельнічаў у змягчэнні прыгавораў Соймавага суда ў 1825 г., дапамагаў Любецкаму ў яго планах адраджэння эканомікі Польшчы, у 1823 г. прыклаў намаганні да паспяховых перамоваў з рускім міністрам фінансаў Канкрынам, якія далі польскай прамысловасці ўсходнія рынкі; супрацьстаяў інтрыгам імперскага камісара Навасільцава ў СПб. Пад час паўстання дзекабрыстаў на Сенацкай плошчы быў у свіце Мікалая І і, відаць, схіліў яго да выкарыстання артылерыі. У 1826 г. атрымаў чын генерала дывізіі і ўдзельнічаў у руска-турэцкай кампаніі 1828-1829 г. У 1829-1830 г. часта браў доўгія адпачынкі па хваробе. Пасля Лістападаўскага паўстання заставаўся на сваёй пасадзе, але нічым не змог дапамагчы Любецкаму ў яго перамовах з Мікалаем І. Быў адхілены ад справаў і толькі контрасігноўваў царскія ўказы. Спрабаваў адстойваць Канстытуцыю КП, але без поспеху. Заставаўшыся на пасадзе сябра Дзяржаўнай рады, у чыне сапраўднага тайнага дарадцы толькі падтрымоўваў сваёй асобай у Еўропе фікцыю асаблівасці КП. У 1839 г. выйшаў у адстаўку ў чыне генерала лейб-гвардыі, узнагароджаны вышэйшымі царскімі ордэнамі. Вярнуўся ў свой маёнтак Церабунь, які перадаў свайму пляменніку Вільгельму, бо сам не быў жанаты. Памёр у Варшаве пасля кароткай хваробы.

Бацька: Тамаш Грабоўскі, генерал войск ВКЛ, прадстаўнік вядомага ў ВКЛ пратэстанцкага «дэсідэнцкага» роду і сябра масон-

скай ложы ў Вільні. Крайчы літоўскі дапамагаў тайнаму таварыству, падтрымліваў ягоныя кантакты ў Польшчы і з эміграцыяй у Дрэздэне.

Брат: Павел, граф староства Ваўкавыскага, удзельнік вайны 1812 на баку Францыі, куды эміграваў разам з братам.

[Гужалоўскі, с. 52; Емяльянчык. Паланэз, с. 12, 41; Именной список...1813, с. 369–370 адв.; Крывальцэвіч, с. 21–22; Швед. Падзеі і постаці, с. 103–105; Monografia domu hrabiow z Konopnicy, s. 49–50; PSB, t. VIII, s. 512–513]

**Грамыка (Грамыкін, Грамякін) Іосіф Станіслававіч.** XIX:1, XIX:4

У 1822 г. – юнкер Літоўскага ўланскага п.

[Серков, с. 274]

**Грахольскі Рафал.** XIX:4

У 1820 г. – ад' ютант уланскай брыгады расійскіх войскаў.

[Серков, с. 276]

**Гродэк Готфрыд Эрнст (Эрнэст) Багдан Веніямінавіч.** XIX:1 [1786 (1762) – 1825 (1826)].


Готфрыд-Эрнэст-Багдан Гродэк

Нарадзіўся ў Гданьску. Адукацыю атрымаў у Гецінгенскім (ці Гейдэльбергскім) універсітэце. Доктар філасофіі. У 1803–1821 г. ардынарны прафесар грэчаскай мовы і славеснасці (грэчаскай і рымскай літаратуры) Віленскага універсітэта, у 1806–1822 г. дэкан аддзялення славесных і вытанчаных мастацтваў, член універсітэцкага цэнзурнага камітэта (1806–1814), бібліятэкар гэтага ж ун-та, выкладчык. Карэспандэнт Гецінгенскага таварыства навукаў. Сябра Каралеўскага таварыства ў Гецінгене, майстар ложы «Zum Guten Hirten». Як вучоны і педагог аказаў вялікі ўплыў на фарміраванне поглядаў І.Лялевеля і філаматаў.

Творы: Jak naleųу pisaж o przedmiotach mitologicznych // Dzennik Wilecski. – 1805. – Т. 1. – № 1 (Як трэба пісаць на міфалагічныя тэмы); De religionum Hellenicorum natura et indole // Gazeta Literacka Wilecska. – 1806. – № 42 (Аб сутнасці і характары рэлігійнасці грэкаў).

[Серков, с. 273; Гардзееў. З гісторыі, с. 95; Очерки истории философской и социологической мысли, с. 260–261, 546]

**Грыгаровіч Карл.** XIX:1 (нар. каля 1785)
Былы паручнік ВП.
[Гардзееў. З гісторыі, с. 95; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Грыневіч Антоні.** XIX:4
У 1821, будучы ў Віленскім ун-це, выдаткаваў 6,20 злотых на кракаўскі помнік Касцюшку. У 1822 г. – паручнік Валынскага ўланскага п. Сябра Таварыства сяброў.
[Серков, с. 273; Lista imenna, s. 97]

**Грыневіч Вінцэнт.** XIX:5
У 1821 г. выдаткаваў на кракаўскі помнік Касцюшку 6,20 злотых. У 1822 – адстаўны паручнік Валынскага ўланскага п. У 1826 – архіварыус ардыната кн. А.Радзівіла.
[НГАЛ, ф. 459, воп. 2, спр. 1894, а. 97а; Ланда. У истоков, с. 47; Lista imenna, s. 96; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Грынеўскі Вінцэнт.** XIX:2
Адвакат 2-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда.
[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Грынцэвіч Вінцэнт.** XIX:4, XIX:5
У 1820 г. – паручнік.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Грэгаровіч Караль.** XIX:1
Былы паручнік ВП. У 1812 ваяваў на баку Напалеона. У 1831 г. яшчэ жыў.
Жонка: Ю.Гілеўская.
Дзеці: сыны Караль, Аляксандр, Уладзіслаў.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. IV, s. 208]

**Губарэвіч Станіслаў.** XIX:1
У 1810 г. – чыноўнік канцылярыі Гродзенскага галоўнага суда. У 1819 г. – межавы суддзя Лідскага пав. У 1823 г. – дэлегат у межавы суд Гродзенскай губ. У 1829 г. – асэсар 1-га дэпартамента галоўнага межавага суда. У 1837 г. разам з сынам прызнаны ў дваранстве і запісаны ў дваранскія кнігі Віленскай губ.
[Uruski, t. V, s. 219; Серков, с. 279; Гардзееў. З гісторыі, с. 95]



Адам Гюнтэр

**Гюнтэр (Гінтэр) Адам Міхайлавіч.** XIX:5, XIX:6 (02.01.1782 – 25.08.1854, Вільна).

Вучыўся ў Віленскім ун-це, належаў да Таварыства шубраўцаў. У 1808 г. атрымаў пацвярджэнне графскага тытула (фон Heidelsheim – Хэйдэльхейм). Напярэдадні вайны 1812 г. быў старшынёй цывільнага дэпартамента галоўнага суда Мінскай губ. У чэрвені 1812 г. працаваў у створаным рускімі ўладамі Віленскім Галоўным камітэце для ваенных павіннасцяў [разам з І.А.Ляхніцкім (гл.)]. 7 ліпеня 1812 г. стаў сябрам адміністрацыйнай камісіі Мінскага дэпартамента, узначальваў аддзел паліцыі. У 1813 г. засядаў у камітэце рэгістрацыі стратаў, панесеных пад час вайны 1812 года жыхарамі Літвы (Беларусі). Быў сябрам Цэнтральнай камісіі вайсковай павіннасці для літоўскіх і беларускіх губерняў. З 1818 г. – старшыня (прэзідэнт) 1-га дэпартамента Галоўнага суда Мінскай губ., дарадца. Камісіянер Радзівілаўскай камісіі. Пасля набыцця маёнтка Дабраўляны пабудаваў трохпавярховы палац, гаспадарчыя пабудовы, пасадзіў парк. Дубраўляны сталі культурным цэнтрам: тут была мастацкая галерэя, багатая бібліятэка, у капліцы сабрана калекцыя ваеннай зброі і амуніцыі XIII – XIX ст.: шлемы, кірасы, латы, парахоўніцы, бердышы, алебарды, чаканы, стрэлы, баявыя сякеры, лукі, даспехі крыжакоў і інш. Створаны музей народнага побыту (старыя хаты, аборы, борці і інш.). Цяпер большая частка экспанатаў знаходзіцца ў Варшаве. Пахаваны на Росі ў Вільні.

Бацька: Міхал, навагрудскі стольнік, уладальнік Пухова, Старыцы, Пакошава і Запосця Мін. губ. Род паходзіць з Ніжняга Рэйна.

Жонка: Аляксандра з Тызенгаўзаў (з 1810 г.).

Дзеці: дачкі Мацільда Бучыньска; Ідалія Мастоўская; Габрыэлія Пузыня, паэтка, аўтар успамінаў.

[PSB, t. IX, s. 199–200; Puzynina G. W Wilnie, s. 377; Краснянский. Минский департамент, с. 14–15; ЭГБ, т. 3, с. 185; Серков, с. 286]

## Д

**Дабашынскі Каэтан.** XIX:2.

У 1812 – дарадца Калпеніцы, прывёў у Навагрудак 15 кантаністаў, добра вымуштраваных і апранутых. У 1821 – землеўладальнік.

Дзеці: сын Юзэф, пад час следства над філаматамі і філарэтамі прасіў 21.04.1824 г. аддаць на парукі Я.Чачота, быў рэгентам Радзівілаўскай камісіі, прадаў свой маёнтак Прэпунты на Беларусі.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Pawlowicz. Nowogrydek w XIX w., s. 26; Uruski, t. III, s. 184]

**Дабрачынскі (Дабачынскі).** XIX:4.

Сябра ложы ў Вільні. У 1822 г. паручнік Валынскага ўланскага п.

[Серков, с. 305]

**Дабржанскі Вінцэнт Антоніевіч.** XIX:1 (нар. у 1775).

У 1818–1821 г. – сакратар 2-га дэпартамента Галоўнага суда Літоўска-Віленскай губ. У 1821 г. – калежскі сакратар.

[Серков, с. 305; Гардзееў. З гісторыі, с. 95]

**Дабрынін Гаўрыла Іванавіч.** XVIII:2 (1752, с. Радагож, Сеўскага пав. Арлоўскай губ. – 07.1824, Віцебск).

Пасля смерці бацькі Д. выхавалі дзяды ў Радагожскім, а потым Сеўскім манастыры. З 1765 г. Сеўскі архірэй узяў хлопчыка ў пеўчыя. Пры архірэі Кірыле Фларынскім ён стаў келейнікам. У 1777 г. пакінуў духоўную службу і паступіў канцылярыстам у Магілёўскае намесніцтва. Апошнія гады пражыў у Магілёўскай і Віцебскай губ. За свае погляды быў абвешчаны «бязбожнікам і неслухам». У 1824 г. атрымаў чын губернскага сакратара, у ліпені памёр.

Творы: запіскі «Истинное повествование, или Жизнь Гавриила Добрынина, им самим писаная в Могилеве и Витебске» // Русская старина (асобнай кніжкай выдадзена ў Спб. у 1871 і 1872 г.). Першая частка кніжкі апавядае пра духоўнае жыццё Д. У другой і трэцяй апісваецца грамадзянская дзейнасць (быт чыноўніка, нашэсце французаў у 1812 г.).

Бацька: праваслаўны святар.

[РБС, т. 6, с. 485; Очерки истории философской, с. 191-192]

**Давідоўскі (Давыдоўскі) Уладзіслаў Адамавіч.** XIX:7

Адвакат слуцкі. Напэўна, з Навагрудчыны, уладальнік фальварка Парадневічы. Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798.

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Далінскі (Даліньскі, Даміньскі) Станіслаў Станіслававіч.** XIX:1 (06.04.1793–26.07.1873).

У 1819 г. – сакратар разліковай палаты. У 1821 г. – сакратар Гродзенскай скарбовай палаты, выдаткаваў гродзенскай губерна-

таршы Анджэйкавіч 1 дукат на кракаўскі помнік Касцюшку. У 1835 прызнаны ў дваранстве. У 1846 – чыноўнік у Віленскай губ. Пахаваны на каталіцкіх могілках на Выбаргскай старане ў С.-Пецярбурзе. У БАН Літвы захоўваецца рукапісны сшытак, у якім пад 1854–1863 г. запісаны вершы А.- Е.Адынца, А.С.Пушкіна, А.Някрасава, Жукоўскага, Э.Васілеўскага аб каханні, смутку і апошніх днях жыцця.

Дзеці: сын Францішак, прызнаны ў дваранстве ў 1863 г. і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.

[БАНЛ, аддзел старадрукаў, F. 9 – 1738; Серков, с. 311; Гардзееў. З гісторыі, с. 95; Lista imenna, s. 143]

**Далубоўскі Аляксандр.** XIX:4

У 1820 г. – адвакат грамадзянскага дэпартамента Гродзенскага галоўнага суда.

[Серков, с. 311; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Дамбкоўскі Адам.** XIX:7

У 1820 г. – адвакат Слуцкага суда.

[Серков, с. 311; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Дамброўскі Міхал Лявонц'евіч.** XIX:1 (нар. каля 1792).

У 1814 г. – гарадзенскі гродскі суддзя. Да 1819 г. – харунжы Гродзенскага пав. У 1819 г. – суддзя Гродзенскага гродскага суда.

[Серков, с. 311; Гардзееў. З гісторыі, с. 95; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Дамброўскі Тадэвуш.** XIX:2

У 1820 – адстаўны ротмістр.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Дамброўскі Хрызастом.** XIX:2, XIX:5, XIX:6

У 1818 г. – слуцкі межавы суддзя. У 1820 г. – памешчык.

[Серков, с. 311; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Дамброўскі Ян Хрызастан.** XIX:3, XIX:5, XIX:6 (нар. каля 1778).

Ксёндз. У 1818 г. – канонік у Вільні, у 1819 г. – у Брэсце. Канонік брэсцкі, асэсар Мінскай рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыі і правізар семінарыі, пробашч нясвіжскі. 15.02.1829 з Мінска паслаў прашэнне ў Віленскую навучальную акругу, у якім прасіў прызначыць яго дазорцам Нясвіжскай павятовай школы без аплаты

працы. У гэтым садзейнічаў яму масон К.Чапскі (гл.), які зацвердзіў Д. на гэтай пасадзе ў кастрычніку 1829 г. Але заняты пасадамі ў Мінску Д. не змог выконваць свае абавязкі дазорцы. У красавіку 1830 г. улады адказалі згодай на звальненне Д. з гэтай пасады.

[БАНЛ, аддзел старадрукаў, F. 75–134, а. 7; НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 2556, а. 1, 4, 8 адв. – 9, 11 адв.; Серков, с. 312]



Ян-Крыштаф Дамель

**Дамель Ян-Крыштаф Хрыстафоравіч.** XIX:2 [1780, Мітава (Елгава, Латвія) – 30.08.1840, Мінск]

Са шляхецкага роду. Скончыў школу ў Мітаве, затым Віленскі універсітэт, дзе 18.07.1809 атрымаў ступень магістра мастацтва. Быў вучнем Яна Рустама і Францішка Смуглевіча, стаў ад'юнктам кафедры мастацтва Віленскага універсітэта. Пры Радзівілах з 1809 да 1820 г. У 1812 г. служыў у літоўска-беларускім войску Напалеона. Па ўспамінах пра гэты час намаляваў акварэлі «Уваход французаў у Вільню ў 1812 г.», «Вяртанне войскаў французаў у 1812 годзе на плошчы перад ратушай у Вільні», маляваў салдатаў Вялікай арміі, ваенныя сцэны, перад смерцю збіраўся намаляваць пераход Напалеона праз Бярэзіну (зрабіў маслам замалёўкі). Ашмянскі шляхціц І.Цэйзік, рысавальшчык і рэзчык, пачаў рабіць фальшывыя асігнацыі і пад час вобыску ў яго знайшлі ліст Д. За дачыненне да справы ці за ўдзел у працах масонскай ложы яго саслалі ў Табольск на два гады. Тут ён маляваў партрэты прадстаўнікоў мясцовых уладаў, абразы да евангельскага касцёла. Вядомы наступныя карціны гэтага часу: Хрыстос, які нясе Крыж, зняцце з Крыжа, Палажэнне ў гроб, Узнясенне, Уваскрашэнне, Панна з дзіцяткам Хрыстом, Вызваленне Касцюшкі з нявол і царом, Смерць Глінскага ў турме, Ночы ва Уральскіх гарах – усяго даследчык Раставецкі назваў 57 карцінаў. Д. пабываў у Іркуцку, Енісейску. Губернатар Сібіры М.М.Сперанскі да яго добра ставіўся, бо Д. быў чалавекам светлым, шырокаадукаваным, лагодным, дабрачынным, вясёлым. З Сібіры ў 1822 г. паехаў у Пецярбург, а потым у Мінск. А.Шэмет назваў 27 працаў, напісаных Дамелем у Мінску з 1823 па 1840. Сярод іх: Імператар Аляксандр падпісвае амністыю 1812 г.,

Смерць кн. Юзафа Панятоўскага, Заход сонца ў Табольскай губерні, Хрыстос і самарыцянка, 12 апосталаў, Марыя Магдалена. Яго працы арыгінальныя, простыя, эфектныя, асветлены народжаным пачуццём прыгажосці, слабым бокам іх быў каларыт. Д. гэта добра разумеў. Маляваў рэлігійныя карціны, гістарычныя падзеі і партрэты: гр. Рудольфа Тызенгаўза, маршалка Ясінскага, прафесара універсітэта Ю.Франка, Я.Рустэма, мінскага губернатара Гіцэвіча, праваслаўнага біскупа Ніканора, каталіцкага біскупа Ліпскага. Маляваў масонаў Е.Кабылінскага (гл.), А.Гюнтара (гл.). Добра ведаў польскую, рускую, французскую, нямецкую мовы, любіў музыку. Быў добрым сябрам, дапамагаў людзям, часам аддаючы апошнія грошы. У 1822 г. выдаткаваў губернатаршы А.Сулістроўскай на кракаўскі помнік Касцюшку 6,20 злотых. Памёр ад апаплексічнага ўдару. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках г. Мінска. У капліцы замест помніка была змешчана яго любімая карціна «Маленне збавіцеля».

Бацька: палкоўнік саксонскіх войскаў, нядрэнны жывапісец, майстар мініяцюры.

Творы: Дзённік ад выезду з Мінска 13.07.1820 г. да вяртання ў Мінск 05.10.1822 г., дзе напісаў пра тое, што бачыў, перадаў свае пачуцці: сляды знішчэнняў па 1812 г. ад Барысава да Мінска ўключна; Макар'еўскі кірмаш, апісанні месцаў, дзе быў (Казань, Перм, Екацерынбург, Табольск, Омск (захаваўся ў Каўнаскім гарадскім музеі); Дзённік з падарожжа па Сібіры (неапублікаваны, калісьці захоўваўся ў гр.Тышкевіча К.), у якім шмат малюнкаў.

[Дробаў. Беларускія мастакі, с. 7–17; Памяць. Мінск, кн. 1, с. 471; Bajkow, s. 248–249; Bielicski, t. II, s. 745–747; Rastawecki, t. 1, s. 128–135; Szemesz.Wspomnienia, s. 172–173, 181–185; Sliwowska. Zeslancy, s. 121]

**Данкевіч Рамуальд Марцінавіч (Мартынавіч).** XIX:1

У 1815 г. – сакратар апеляцыйнага межавага суда Гродзенскай губ. У 1819 г. – гродзенскі гродскі пісар. У 1821–1822 г. – суддзя Гродзенскага губернскага межавага апеляцыйнага суда.

[Серков, с. 291; Гардзееў. З гісторыі, с. 95]

**Даўгяла Шыман.** XIX:5

Адвакат слуцкі.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Даўнаровіч (Даўноравіч) Казімір.** XIX:1

Памешчык, да 1820 г. – маршалак шляхты Сакольскага і Беластоцкага пав. У беластоцкай ложы «Залатога пярсцёнка» быў у

1819 наменснікам майстра, у 1819–1822 – майстрам. Сябра польскага Патрыятычнага таварыства.

[Серков, с. 307; Гардзееў. З гісторыі, с. 95; Hass L. Wolnomuliarstwo w Bialymstoku, s. 109]

**Дваржэцкі Фэрдынант.** XIX:2
У 1820 – падсудак Вілейскага павятовага суда.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Дзежыц (Дзежыш) Ян.** XIX:1
У 1821 г. – суддзя Лідскага пав. Дваранін герба «Любіч».
[Серков, с. 300; Гардзееў. З гісторыі, с. 95]

**Дзенеў Ян.** XIX:5
Настаўнік князя Радзівіла.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Дзердзееўскі Ян Міхайлавіч.** XIX:5, XIX:6
Шляхціц. Па прывілею караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага шамбелян Польскага Двара (1779). У 1820 г. – памешчык Навагрудскага пав. Спадчыннік разам з братам маёнтка Гяловічы, прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.
Брат: Юзэф, ротмістр (1792).
[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 47; Серков, с. 300]

**Дзічкоўскі Ян.** XIX:5
Адвакат Слуцкага суда.
[Серков, с. 300; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Дзяконскі Юзэф Янавіч.** XIX:1
У 1781–1793 – ваўкавыскі скарбнік і літоўскі фінансавы камісар. У 1819 г. – прэзідэнт Ваўкавыскага гродскага суда.
[Серков, с. 300; Гардзееў. З гісторыі, с. 96; Uruski, t. III, s. 343]

**Длускі Міхал Сцяпанавіч.** XIX:1
Віленскі прэлат. З 1800 г. – архідз'якан Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай калегіі. У 1795 г. – дэпутат духоўнага трыбунала ў Гродне. У 1797 г. – сябра літоўскай Адукацыйнай камісіі. У 1801 г. – доктар тэалогіі. З 1808 г. да 1811 г. – чыноўнік і правізар семінарыі. Аўтар гістарычных і філасофскіх працаў. Збіральнік прадметаў мастацтва. Займаўся дабрачыннасцю. Сябра масонскіх

ложаў на працягу 37 гадоў, майстар ложаў «Дасканалая Еднасць» і «Школа Сакрата».

[Серков, с. 302; Гардзееў. З гісторыі, с. 96]

**Дмухоўскі (Дмахоўскі) Міхал.** XIX:1

У 1821 г. – віленскі судовы пісар літоўскай Адукацыйнай камісіі.

[Серков, с. 305; Гардзееў. З гісторыі, с. 96]

**Драздовіч Станіслаў Севярынавіч.** XIX:5

Межавы рэгент. Дэпутат у судах Віленскага пав. у 1844 г.

[Uruski, t. III, s. 260]

**Дрозд Аляксандр.** XIX:2

Настаўнік музыкі ў мінскай гімназіі.

[Анішчанка. Мінская ложа, с. 192]

**Дростэ Аўгуст.** XIX:2, XIX:6

У 1820 г. – настаўнік музыкі, гаспадар жаночага пансіёна.

[Серков, с. 315; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Дучынскі Эдвард Юзэфавіч.** XIX:5

У 1822 г. – ротмістр Татарскага ўланскага п. Пазней падпалкоўнік, генерал-маёр РВ. Пацверджаны ў дваранстве ў 1848 г. і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.

Бацька: Юзэф.

[Серков, с. 318; Uruski, t. III, s. 282]

**Дыбоўскі Леапольд.** XIX:2

У 1820 г. – памешчык Ваўкавыскага пав.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Дэдэрка Барнаба Казіміравіч.** XIX:2

У часы ваеннага губернатара М.І.Кутузава служыў у крымінальнай палаце Віленскай губ. У 1820 г. – былы старшыня Мінскага галоўнага суда. Памешчык. Пацверджаны ў дваранстве Расійскай імперыі герба «Дэдэркала» (1836) і запісаны ў дваранскую кнігу Віленскай губ.

Бацька: ашмянскі канюшы (1791–1795), брат першага мінскага біскупа Якуба Д., кавалер ордэнаў св. Станіслава і св. Ганны 2-й

ст. з брыльянтамі, Мальтыйскага Крыжа св. Яна Іерусалімскага. Маці: Вікторыя Каменская.

Брат: Рох (гл.).

[НГАЛ, ф. 387, 1821 г., спр. 213, а. 2, 4, 8, 19; Серков, с. 293; Swiкcki, t. 1, s. 300; Uruski, t. III, s. 126]

**Дэдэрка Рох Казіміравіч.** XIX:2

Паручнік былога ВП. Да яго былі прэтэнзіі адстаўнога ротмістра Баніфацыя Дэдэркі – забраў 8 сялянаў з в. Капачы Ашмянскага пав. (палова яго належала брату Барнабэ). У 1820 г. – памешчык Вілейскага пав.

Жонка: В. Свентажэцкая, праз яе Рох быў сваяком філамата Т.Зана.

Сын: Казімір.

Брат: Барнаба (гл.).

[НГАЛ, ф. 387, 1821 г., спр. 213, а. 15, 17, 17 адв.; Серков, с. 293; Філаматы і філарэты, с. 202; Uruski, t. III, s. 126]

## Е

**Елец Адам Юзэфавіч.** XIX:1

У 1819 г. – гродзенскі межавы суддзя. У 1821–1822 г. – суддзя межавага апеляцыйнага суда ў Слоніме. Пацверджаны ў дваранстве Расійскай імперыі і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.

[Uruski, t. VI, s. 50; Серков, с. 323; Гардзееў. З гісторыі, с. 96]

**Елец Антоні (Антон) Міхайлавіч.** XIX:1, XIX:6

У 1794 г. – прысяжны надворнага літоўскага суда. У 1801 г. – рэгент галоўнага Літоўскага суда. У 1805 г. – судовы чыноўнік у Гродне. У 1812 – земскі спраўнік (камісар) Лідскага пав. У 1812–1814 г. – прысяжны 1-га дэпартамента Гродзенскага галоўнага суда. У лістападзе 1818 выконваў абавязкі гродзенскага губернатара. У 1819 г. – прысяжны Гродзенскага галоўнага суда. У 1820-1821 г. – прэзідэнт (старшыня) 2-га дэпартамента Гродзенскага губернскага галоўнага суда. У 1822 г. выдаткаваў 20 злотых на кракаўскі помнік Касцюшку. Сябра польскага Патрыятычнага таварыства. Пацверджаны ў дваранстве і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.

[Lista imenna, s. 144; Uruski, t. VI, s. 50; Серков, с. 323; Гардзееў. З гісторыі, с. 96]

**Елец Міхал Юзэфавіч.** XIX:7

Стараста клецкі. Пацверджаны ў дваранстве Расійскай імперыі, запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VI, s. 50]

**Елец Яўхім.** XIX:4

У 1820 г. – памешчык.

[Серков, с. 323; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Ельскі Плацыд Юзэфавіч.** XIX:1

У 1821 г. – дэпутат Ваўкавыскага пав. У 1851 – дэпутат судоў Гродзенскай губ.

Бацька: Юзэф (гл.). Маці: Ёанна з Вансовічаў.

Дзеці: сыны Юзэф і Руфін, пацверджаны ў дваранстве і запісаны ў дваранскія кнігі Гродзенскай губ.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 96; Серков, с. 324; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VI, s. 57]

**Ельскі Юзэф Юзэфавіч.** XIX:1

У 1778 – харунжы гродзенскі. У 1816 – 1820 г. – ваўкавыскі земскі спраўнік.

Жонка: Ёанна з Вансовічаў.

Сын: Плацыд (гл.).

[Гардзееў. З гісторыі, с. 96; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Niesecki, t. IV, s. 486]

**Есьмант Ігнацы**. XIX:2

Былы паручнік ВП.

Дзеці: сын Ярослаў, суддзя Быхаўскага пав. у 1859 г.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VI, s. 70]

**Есьман Юстын.** XIX:2

У 1820 – харунжы Ігуменскага пав., уладальнік в. Яўсыковічы Барысаўскага пав. У 1840 выдаткаваў грошы на рэстаўрацыю мясцовай царквы.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VI, s. 70]

## Ё

**Ёдка Антоні Ежэевіч.** XIX:7

У 1820 служыў у 2-м дэпартаменце Мінскага галоўнага суда. Памешчык Ігуменскага пав., у 1847 меў бацькоўскі маёнтак, а таксама маёнтак Воліца. Міравы суддзя Астрожскага пав.

Бацька: меў маёнтак Вялікая Бэмбнюўка на Валыні. Маці: А.Залеская.

Жонка: Г.Часноўская.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VII, s. 92]

## Ж

**Жукоўскі Шымон.** XIX:1

Прафесар Віленскага універсітэта.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 96; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]


Прафесар Ж.Э. Жылібер (1741–1814)

**Жылібер Жан (Ян) Эмануэль.** XVIII:1 (21.06.1741 в. Карэт каля Ліёна – 02.09.1812 ці 1814, Ліён).

Школу скончыў у 1757 г. З 1760 па 1763 вучыўся ва ун-це г. Мантпелье. На працягу 1764 здаў паслядоўна экзамены на ступені бакалаўра і доктара медыцыны. Вярнуўся ў Ліён, дзе выкладаў батаніку ў медыцынскай школе, збіраў гербарыі, даследаваў фальклор у Сярэдняй і Паўднёвай Францыі. З 1766 г. практыкаваў урачом у роднай вёсцы. З 1768 г. – прафесар анатоміі, хірургіі і натуральнай гісторыі медыцынскага каледжа ў Ліёне. За ўласны кошт пасадзіў батанічны сад, шмат часу прысвяціў гербарызаванню. Не атрымаўшы грошай за сад ад дзяржавы, збанкрутаваў. У гэты час атрымаў запрашэнне ад Т.Даўнаровіча, пасланніка старасты Гродзенскай каралеўскай эканоміі А.Тызенгаўза. 01.08.1775 г. пакінуў Ліён, забяспечаны багатым гербарыем з 300 раслін і бібліятэкай. Па дарозе Жылібер пазнаёміўся з выдатнымі батанікамі: з Банэ ў Жэневе, Хамерам у Берне, Жэснерам у Цюрыху, Жакэнам у Вене. Апошні даў насенне экзатычных раслінаў, якія пазней будуць пасаджаны ў Горадне (Гродне). У канцы 1775 г. Жылібер прыехаў на месца, а 9 мая 1776 г. падпісаў з Тызенгаўзам кантракт на 10 год. У ім ён абавязваўся закласці ў Горадне лекарную і ветэрынарную школы, займацца доктарскай практыкай, напісаць падручнік, закласці за кошт Тызенгаўза батанічны сад, які будзе прыстасаваны да навучальных патрэбаў школы, а таксама для гэтага ж музей натуральнай гісторыі, даследаваць літоўскую (беларускую) прыроду і пісаць аб вы-

ніках у «Ephemeridas», выкладаць у Гарадніцкай акадэміі, якую павінны адкрыць на гарадзенскім прадмесці. У батанічным садзе спачатку было толькі каля 500 раслін, а ў 1780 г. – больш за 2 000. Пад яго дырэкцыяй была каралеўская аптэка. У 1781 г. пераехаў са сваімі вучнямі ў Вільню і стварыў факультэт медыцыны ў Галоўнай Літоўскай школе. Стаў загадчыкам кафедры натуральнай гісторыі і батанікі, заклаў батанічны сад, выдаў наступныя два тамы «Флоры Літвы». У пачатку 1783 г. раптоўна пакінуў Вільню і выехаў у Варшаву, а адтуль у Францыю (магчыма, таму, што жонка разам са сваім каханкам хацелі яго атруціць). У Ліёне працаваў эпідэміёлагам у шпіталі Хостэль-Дэвё. Прыняў удзел у Вялікай Французскай рэвалюцыі, будучы мэрам г.Ліёна (1793-1794 г.). Пасля казні М.Рабеспьера цалкам аддаўся навуковай дзейнасці, выкладаў у якасці прафесара натуральных навукаў у Ліёне, стварыў тут батанічны сад, узначальваў таварыствы медыкаў і здароўя. Пасля яго смерці ў яго гонар назвалі новы від раслінаў – Жыліберцыя.

Творы: апублікаваў каля 140 невялікіх працаў і 20 буйных работаў па эпідэміялогіі, заалогіі, батаніцы. У тым ліку: Flora Lithuanica. Coll. I-II. – Grodnae, 1781 (Флора Літвы. Т. I-II. – Гродна, 1781); Coll. III. – Vilnae, 1782 (Т. II. – Вільна, 1782).

[Мальдзіс. На скрыжаванні, с. 239; Мілінкевіч. Першы, с. 3; Джус. Из истории, с. 118-119; Очерки истории философской и социологической мысли, с. 235, 547; Balicski. Dawna Academia, s. 257, 267; Bielicski, t. II, s. 111, 133, 369; t. III, s. 174-175; Daszkiewicz, s. 219-220]

**Жылінскі Ян Станіслаў.** XIX:2, XIX:6 (24.06.1806 – ?)

Меў маёнтак Навасёлкі ў Ваўкавыскім пав. (50 душ м. п.), які трапіў пад канфіскацыю за ўдзел у вайне 1812 г. на баку Напалеона і за ад'езд за мяжу. У 1813 г. – паручнік гвардыі. У 1822 г. – штабс-капітан Нашэбургскага пяхотнага палка, ад'ютант генерал-маёра Удама. Засядацель Гродзенскай грамадзянскай палаты. Скарбнік Мінскай гімназіі да 1824 г., калі звольніўся з прычыны хваробы. У Лістападаўскім паўстанні 1830-1831 быў сябрам патаемнага гродзенскага паўстанцкага камітэта, камандзірам атрада (40 чал.), які дзейнічаў у Белавежскай пушчы і ў памежных лясах на мяжы Беластоцкай вобласці, займаўся ваеннай арганізацыяй паўстанцаў, якія сабраліся ў пушчы. Дзейнічаў разам з К.Нямцэвічам, дэ Ронкам, Краскоўскім і іншымі. Следчая камісія не знайшла Ж., бо ён знаходзіўся ў «невядомай» адлучцы. Рашэннем Гродзенскай губернскай следчай камісіі ад 19.11.1831 аднесены да 1-га разраду злачынцаў, маёнтак Навасёлкі канфіскаваны. З 1832 жыў у эміграцыі

ў Францыі. Спачатку ў Шатэ, з 1834 у Маран. 14.05.1845 г. ажаніўся з францужанкай, меў сына. 01.01.1859 прызначаны памочнікам інспектара 1-га класа ў Суржэр.

[НГА Літвы, ф. 567, воп. 2, спр. 1583, а. 5 адв.; НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 27, спр. 64, а. 21, 214, 258 адв.; ф. 4, воп. 1, спр. 192, а. 61 адв., 62 адв.; 17, с. 250; Гарбачова. Удзельнікі паўстання, с. 141; Именной список...1813, с. 370; Серков, с. 332; Швед. По следам, с. 46]

**Жымель Я.** XVIII:1

У 1773 і 1777 г. – паручнік Шавельскага гарнізона, з 1780 г. – капітан (пазней маёр) каралеўскага батальёна ў Горадні.

[Końściaikowski. Antoni, t. 1, s. 464, 495; t. 2, s. 98; Гардзееў Ю. Гарадзенскія, с. 133]

**Жышкевіч Антоні.** XIX:1

Пісар Гродзенскага магістрата. У 1812 г. быў дазорцам у Гродне. У 1836 г. яшчэ быў жывы.

Сын: Антоні (1806–1856), закончыў Гродзенскую дамініканскую гімназію і паступіў у Віленскі ун-т (19.09.1822 г.), дзе 3 гады слухаў курсы на фізіка-матэматычным аддзяленні, атрымаў званне старшага кандыдата (23.07.1825). 23.07.1827 г. абараніў магістарскую працу. З 01.09.1827 г. працаваў настаўнікам фізікі і натуральнай гісторыі ў Нямераўскім павятовым вучылішчы. Зацверджаны ў званні сапраўднага настаўніка 01.09.1828 г., а 21.07.1829 г. пераведзены настаўнікам матэматыкі ў Гродзенскую губернскую гімназію ў Свіслачы. З 04.10.1834 г. – настаўнік фізікі і матэматыкі. Прасіў звольніць яго з пасады з прычыны «частых страданий от грудной болезни». Пры звальненні атрымаў чын 9-га класа са старшынствам. Пераехаў у Варшаву, дзе працаваў ад'юнктам дырэктара кабінета натуральнай гісторыі.

[НГАБ у Гродне, ф. 1168, воп. 1, спр. 5, а. 1; НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 3687, а. 1; Bielicski, t. III, s. 500-501; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Жэброўскі Вінцэнт.** XIX:2, XIX:4

Афіцэр Валынскага ўланскага п.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Жэвускі Адам.** XIX:1

Польскі пасол у Парыжы. У 1804 г. – сябра Варшаўскага Таварыства сяброў навук. У 1809–1812 г. – маршалак Кіеўскай губ., се-

натар. У 1818-1819 г. – майстар ложы «Белы Арол на Усходзе Пецярбурга». У 1819-1820 г. – вялікі майстар ложы «Астрэя», камер-юнкер імператарскага двара.
[Гардзееў. З гісторыі, с. 96; Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Жэвускі Генрых.** XIX:1
У 1841–1844 г. – жытомірскі маршалак. У 1858 г. – правадзейны дзяржаўны дарадца, публіцыст і пісьменнік.
[Гардзееў. З гісторыі, с. 96]

## З

**Забароўскі (Жэброўскі) Вінцэнт Антонавіч.** XIX:4, XIX:6
У 1815 г. – ротмістр Гродзенскага гусарскага п. У 1822 г. – маёр Валынскага ўланскага п.
[Серков, с. 335; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Заблонскі Антоні.** XIX:5
У 1818 г. – слуцкі суддзя.
[Серков, с. 335; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Заблоцкі Юзэф.** XIX:2
У 1820 – ротмістр уланскага п.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Завадзкі Казімір.** XIX:5 (пам. у 1820).
У 1820 – былы асэсар Слуцкага пав., адвакат. Памешчык.
[Серков, с. 336; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Завадскі Юзэф.** XIX:1 (1781–1838).
У 1819 г. – кнігар і друкар Віленскага універсітэта, выдавец, фінансаваў «Варшаўскі дзённік». Першы выдавец А. Міцкевіча.
[Серков, с. 336; Гардзееў. З гісторыі, с. 96]

**Загарэцкі.** XIX:4
У 1822 г. – калежскі асэсар, старшы лекар Ольнскага шпіталя.
[Серков, с. 336]

**Загурскі (Загорскі) Ян Антоніевіч.** XIX:1 (у 1821 г. меў 61 год)
На вайсковай службе з 1771. Ротмістр браслаўскі, дэпутат Галоўнага трыбунала ВКЛ. Служыў у войску Княства Варшаўскага

пад час напалеонаўскіх войнаў (1805–1815). У 1819 г. – адстаўны палкоўнік ВП. У ложу ўступіў у 1818 г.

Жонка: Ф. Крышалоўская, мела фальварак Русоцін у Навагрудскім пав.

Дзеці: сын Юстын, прызнаны ў дваранстве 19.(30).01.1799.

[Серков, с. 338; Гардзееў. З гісторыі, с. 96; Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 52-53]

**Задарноўскі Станіслаў.** XIX:1

Сябра Гродзенскай муніцыпальнай рады ў 1812 г. У 1819 г. – адвакат Гродзенскага галоўнага суда. У 1822 выдаткаваў губернаторшы Анджэйкавіч 13 злотых 10 грошаў на кракаўскі помнік Касцюшку.

Жонка: Ёанна з Грамыкаў.

[Серков, с. 338; Гардзееў. З гісторыі, с. 96; Iwaszkewicz, s. 50; Lista imenna, s. 145]

**Залеўскі Францішак.** XIX:5

Капітан кавалерыі. Прадстаўнік Д.Радзівіла па яго справах.

[НГАЛ, ф. 567, спр. 759, а. 4 адв. – 5; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Заманскі Тэадор.** XIX:2

У 1820 г. – памешчык Мінскага пав.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Замбжыцкі Валенты.** XIX:2

У 1820 г. – памешчык Мінскага пав.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Замойскі Тадэвуш.** XIX:2

У 1820 г. – памешчык.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Замойтэль Адам.** XIX:3, XIX:5, XIX:6

Памешчык правінцыі ў 1820 г.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Заха (Жаха) Ян Янавіч.** XIX:1

У 1802 г. – перапісчык Гродзенскай скарбовай палаты, памочнік канцылярыста Лідскага скарбовага камітэта. У 1803 г. – бухгалтар.

У 1804 г. – кіраўнік аддзела Гродзенскай скарбовай палаты. У 1819–1821 г. – тытулярны дарадца. У 1819 г. – гродзенскі павятовы, у 1821-1822 г. – губернскі скарбнік. У 1822 выдаткаваў І.Ляхніцкаму 6 злотых 20 грошаў на кракаўскі помнік Касцюшку. Відаць, хутка пасля гэтага трапіў у турму.

Дзеці: сын Прозар, студэнт Віленскага універсітэта, арганізатар патаемнага Таварыства сарматаў, аўтар пракламацыі, сасланы ў салдаты на іранскую мяжу.

[Серков, с. 341; Гардзееў. З гісторыі, с. 96; Bajkow, s. 162, 165; Lista imenna, s. 39]

**Збарашэўскі Анджэй.** XIX:2, XIX:4
Памешчык Навагрудскага пав., шляхціц.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Званцоў (Званцэў) 1-ы Іван Паўлавіч.** XIX:7
У 1822 г. – капітан, камандзір конна-артылерыйскай роты № 30. Памешчык Княгінінскага пав. Ніжагародскай губ.
[Серков, с. 342]

**Звяровіч (Звіровіч) Матэвуш.** XIX:5, XIX:6
Музыкант з-пад Нясвіжа. Артыст.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Зданкевіч Васіль.** XIX:5
Мастак. У 1820 – былы прэзідэнт г. Нясвіжа.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Зелеў Караль.** XIX:4
У 1822 г. – штабс-ротмістр Валынскага уланскага п.
[Серков, с. 343; Ланда, У истоков, с. 47, 60]

**Зелінгоўскі Юліян.** XIX:2
Памешчык у 1820 г.
[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Зяновіч Ігнацы.** XIX:2
З беларускага старажытнага шляхецкага роду XVIII ст. Вучыўся ў мінскай гімназіі, потым у Віленскім ун-це, дзе ў 1819 стаў адным з заснавальнікаў Таварыства Шасці ці Думаючай моладзі (мянушка Дамон). У 1820 – кандыдат філасофіі. Пісаў вершы.

Брат: верагодна, Міхал (гл.).

[Памяць. Мінск, кн. I, с. 484; Czarnocki, s. 156, 172, 173; Maiachowski-Jempicki S. Wykaz; Моњжіскі. Wilno i Warszawa, s. 13]

**Зяновіч Міхал Антоніевіч.** XIX:2, XIX:3, XIX:6

У 1803 г. – падкаморы Барысаўскага падкаморнага суда Мінскай губ. 20.02.1812 вызначаны Віленскім ун-там ганаровым дазорцам Барысаўскага пав. Пад час вайны 1812 г. быў сябрам Камісіі Часовага кіравання Мінскага дэпартамента (аддзел харчавання), з 15.07 да канца жніўня – прэфектам падпрэфектуры Барысаўскага дыстрыкта (пав.), пры Л.Н.Даву – генеральным камісарам. У 1814–1822 г. – маршалак Мінскай губ., тытулярны дарадца. 21-22.02 (07-08.03).1818 выступіў з прамовай на ўрачыстым ушанаванні А.-Т.Касцюшкі ў кафедральным касцёле Мінска. У 1822 г. – сапраўдны член Маскоўскага таварыства сельскай гаспадаркі, ганаровы наглядальнік вучылішчаў Барысаўскага пав.

[Ерашэвіч, с. 148, 155; Саітава, с. 3; Серков, с. 346; Beauvous, t. II, s. 86; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

## І

**Іваноўскі Ігнацы Антоніевіч.** XIX:2

Са старажытнага беларускага шляхецкага роду XVI ст. У 1778 – стараста мінскі. У 1820 г. – асэсар, у 1821 г. – старшыня 2-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда. У БАНЛ захаваўся інвентар юрысдыкі на беразе Свіслачы (Слабады Замкавай) ад 20.10.1762, якая належала ў пасэсіі Ігнацыю І. герба «Рагаля».

[БАНЛ, F 21-2111, a. 1; Памяць. Мінск, кн. 1, с. 484; Серков, с. 356; Niesiecki, t. IV, s. 409]

**Іваноўскі Раман.** XIX:2

У 1820 г. – адвакат 2-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Іваноўскі Юзэф.** XIX:1

У 1819–1822 г. – надворны дарадца.

[Серков, с. 356; Гардзееў. З гісторыі, с. 97]

**Івашкевіч Ян.** XIX:1 (? – каля 1821)

Сакратар аддзела справаў урадавай камісіі Каралеўства Польскага.

[Серков, с. 357; Гардзееў, З гісторыі, с. 97]

**Ігельстром 2-гі Аляксандр–Густаў Густававіч.** XIX:4 (10.06.1770–02.05.1855).

У 1793 г. служыў у лейб-гв. У 1794 г. – у арміі паручнік Валынскага ўланскага п., ад'ютант генерал-маёра Владэка. З 12.12.1808 – падпалкоўнік. З 1813 г. служыў у Валынскім уланскім п. У 1820 г. камандзір Літоўскага ўланскага п., палкоўнік. У 1826 г. – генерал-маёр, камандзір 2 брыгады Літоўскай уланскай дывізіі.

Бацька: Гаральд-Густаў (гл.).

Дзеці: сыны Аляксандр, Ежы, Гаральд, Пётр, Густаў, якіх зацвердзілі ў дваранстве РІ і графстве ў 1844 г.

[Серков, с. 357; Энцикл. словарь... Биографии, т. 5, с. 288; Uruski, t. V, s. 247]

**Ігельстром Артур Густававіч.** XIX:4 (пам. 28.11.1883). У 1822 г. – капітан піянернага батальёна асобнага Літоўскага корпуса. Пазней генерал-лейтэнант.

[Серков, с. 357]

**Ігельстром Гаральд–Густаў.** XIX:3, XIX:4, XIX:5, XIX:6

У 1792 атрымаў ад курфюста саксонскага Фрыдрыха-Аўгуста тытул графа Свяшчэннай Рымскай імперыі. Шамбелян польскага двара. Брыгадны генерал, падпалкоўнік Літоўскага ўланскага п. У 1844 зацверджаны ў графстве РІ.

[Энцикл. словарь...Биографии, т. 5, с. 288; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. V, s. 247]

**Ігельстром Канстанцін Густававіч (Яўстаф'евіч).** XIX:4 (08.05.1799, Шумск, Валынская губ. – 13.11.1851, ваенны пасёлак Крэменскі).



К.Г.Ігельстром

Выхоўваўся ў 1-м кадэцкім корпусе. Пасля заканчэння яго быў 22.12.1816 накіраваны прапаршчыкам у 1-ы піянерны батальён. З 19.02.1818 – падпаручнік, з 10.05.1820 – паручнік. 09.02.1823 пераведзены ў штабс-капітаны. 28.05.1825 пераведзены ў капітаны, служыў з 30.06.1823 у Літоўскім піянерным батальёне. Член патаемнага Таварыства ваенных сяброў, арганізатар выступлення Літоўскага піянернага батальёна. 27.12.1825 арыштаваны, пазбаўлены чыноў і дваранства, прыгавораны да дзесяцігадовай катаргі з наступным пасяленнем у Сібіры. 23.07.1827 прыбыў у Табольск, 15.01.1828 – у Іркуцк. З 15.02.1828 знаходзіўся ў чыцінскім астрозе. 08.11.1832 звернуты

на пасяленне, жыў у с. Тасееўскім Канскай ваколіцы Енісейскай губ. 03.03.1835 пераведзены ў слабаду Срэценскую да дваюроднага брата А.І. Вягеліна (гл.). 10.01.1836 дазволена паступіць у асобны Каўказскі корпус. 12.05.1836 залічаны піянерам 2-га класа ў Каўказскі сапёрны батальён. З 31.05.1837 – унтэр-афіцэр 4-га класа. 15.08.1838 пераведзены за поспехі ў прапаршчыкі. З 16.07.1840 – падпаручнік. 13.02.1843 звольнены ў адстаўку ў чыне паручніка. Жыў у станіцы Каменскай і быў кіруючым Данецкімі піцейнымі зборамі. З 31.05.1847 – чыноўнік асаблівых даручэнняў па берагавому нагляду Таганрогскай мытнай ваколіцы ў чыне губернскага сакратара. Сялянаў не меў.

Жонка: Эльзінгк Берта Барысаўна (з вясны 1842).

Дзеці: сын, памёр у дзесяцігадовым узросце.

[Серков, с. 357; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т. 3, с. 470]

**Ільін Іван Ільыч.** XVIII:8 (03.01.1764 – 23.11.1832)

З ліку дваранаў. Службу пачаў у 1787. Праз 10 гадоў быў губернскім регістратарам (сакратаром). У 1807 – тытулярны, у 1812 – надворны, у 1818–1820 – калежскі дарадца. Чыноўнік па асаблівых даручэннях пры А.Д.Балашове. У 1812 – сакратар дваранства С.-Пецярбургскай губ. У 1820 – сакратар ад медыцынскага дэпартамента ў 1-м аддзяленні канцылярыі міністра ўнутраных справаў. З 25.01.1816 – дзейны сябра С.-Пецярбургскага Вольнага таварыства любіцеляў расійскай славеснасці. Сябра Таварыства распаўсюджвання ланкастарскага навучэння.

[Серков, с. 360]

**Іпард Леў.** XIX:8

Майстар.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

## К

**Кабылінскі Ежы Себасцьянавіч.** XIX:2, XIX:6 (у 1853 яшчэ жыў)

Абозны мсціслаўскі ў 1784 г. У 1820 – памешчык Мінскага пав. Тытулярны дарадца. Сябра мастака Я.Дамеля ў 1822–1840 (ён намаляваў ягоны партрэт). К. меў яго малюнкі падзеяў 1812 г. У гэты час быў сакратаром Мінскага губернскага праўлення. У 1830 г. – бабруйскі гараднічы, капітан і кавалер К. Атрымаў падзяку ад Віленскага ун-та за падарунак (шоўкавае пакрывала на алтар вучылішча царквы) коштам 50 руб. асігнацыяў і ахову дамоў, дзе жывуць студэнты, ад вайсковых пастояў. Цікавіўся старажытнасцямі, меў калекцыю, якой зацікавіўся Яўстахі Тышкевіч. Сярод іх былі 3 фігуркі

з часоў паганскіх: Венера Ліцвінская, Геркулес (абедзве знойдзены на Камароўскіх балотах), каплан без галавы.

Браты: Юзэф і Францішак, прызнаны ў дваранстве 31.12.1798 (11.01.1799).

[БАНЛ, F 9–1992, а. 1–2; НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 2767, а. 1-2; Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 59; Rastawiecki, t. 1, s. 134]

**Казаржэўскі.** XIX:4

У 1822 – карнет Валынскага ўланскага п. З 1825 у адстаўцы. Сябра Таварыства сяброў.

[Ланда. У истоков, с. 44, 60; Серков, с. 406]

**Казлоўскі Міхал.** XIX:1

Чыноўнік Каралеўства Польскага. У 1821 г. – ураднік польскай камісіі.

[Серков, с. 407; Гардзееў. З гісторыі, с. 97]

**Кайсараў Пётр Сяргеевіч.** XIX:1 (07.04.1777, Разанская губ. – 27.02.1854, С.-Пецярбург).

Шамбелян расійскага двара, дзяржаўны дарадца. З ліку дваранаў Разанскай губ. 26.06.1787 запісаны на службу сяржантам у л.-гв. Прэабражэнскі п. З 1792 г. навучаўся ў Маскоўскім універсітэцкім шляхетным пансіёне. 22.01.1797 накіраваны ў Нашабургскі мушкецёрскі п. прапаршчыкам. 23.08.1801 пераведзены на службу ў С.-Пецярбургскі паштамп перакладчыкам з перайменаваннем у калежскія рэгістратары. З 16.04.1802 – губернскі сакратар, накіраваны ў канцылярыю галоўнага дырэктара поштаў. 16.08.1802 пераведзены да міністра ўнутраных спраў гр. Качубея. З 21.08.1803 – тытулярны дарадца, начальнік стала ў 3-м аддзяленні экспедыцыі дзяржаўнай гаспадаркі МУС. З 22.02.1804 – калежскі асэсар. Праз два дні пераведзены да таварыша міністра ўнутраных спраў гр. Страганава. 23.05.1805 накіраваны імператарам у Канстанцінопаль. З 01.01.1806 – надворны дарадца. У 1806 г. працаваў пры таварышы міністра «для выпраўлення справаў» па аддзяленню эканамічных справаў. З 07.11.1807 дарадца 3-й экспедыцыі МУС, з 18.08.1808 – кіраўніка канцылярыі Ліфляндскага камітэта. У 1808–1825 г. – член С.-Пецярбургскага Англійскага сходу. З 05.01.1809 – кіраўнік справаў Камітэта па яўрэйскіх справах. З 20.06.1809 – кіраўнік справаў Камітэта па справах Эстляндскіх. З 13.12.1810 – калежскі дарадца, камер-юнкер 5-га класа. З 16.07.1811 знаходзіўся за обер-пракурорскім сталом у 2-м дэпартаменце кіруючага Сената.

З 29.05.1813 – камергер. У 1814 г. – калежскі дарадца. У 1813-1814 г. – кіраўнік канцылярыі Камітэта для разгляду Ліфляндскіх, Эстляндскіх і Яўрэйскіх справаў. У 1819–1823 г. – пракурор 2-га дэпартамента Сената. З 30.04.1815 – обер-пракурор 5-га дэпартамента Сената, з 20.10.1817 – 2-га дэпартамента. З 22.03.1818 – стацкі дарадца і обер-пракурор 2-га дэпартамента Сената. З 31.12.1823 – обер-пракурор 4-га дэпартамента Сената. З 20.11.1817 – ганаровы сябра С.-Пецярбургскага Вольнага таварыства аматараў расійскай славеснасці. З 11.04.1827 – обер-пракурор у агульным сходзе 4-га, 5-га і Межавага дэпартаментаў. 03.06.1827 пераведзены на службу ў Варшаву. З 21.12.1828 –дырэктар дэпартамента розных падаткаў і збораў Міністэрства фінансаў. З 10.04.1832 – тайны дарадца. 05.05.1839 звольнены з пасады дырэктара дэпартамента з прызначэннем сенатарам. З 19.12.1841 прысутнічаў у Межавым дэпартаменце, з 09.10.1843 – у 2-м дэпартаменце Сената. З 01.01.1853 – сапраўдны тайны дарадца. Уладальнік у 1853 г. 450 душ сялянаў у Разанскай губ. Пахаваны ў Фёдароўскай царкве Аляксандра-Неўскай лаўры ў С.-Пецярбурзе.

Творы: усе ніжэйназваныя былі выдадзены ў 1802 г. у Смаленску – камедыя «Женский якобинский клуб»; «Письма двух любовников, рыбака Петра Окунькова и прачки Доротеи Мыльниковой»; «Излеченная мечтательница, справедливая повесть», «И малейшая ложь опасна, справедливое приключение», «Кто бы этому поверил? Несчастное, с одним случившееся приключение».

Жонка: Соф'я Платонаўна (1800–1880).

Брат: Паісій, генерал ад інфантэрыі (1783), у 1831 разбіў паўстанцаў у Люблінскай губ. (Каралеўства Польскае).

[Серков, с. 369; Гардзееў, З гісторыі, с. 97; Энциклопедический словарь, т. 26, с. 946]

**Каланкоўскі Пятро.** XIX:5

Са шляхты. У 1820 – падпаручнік Пскоўскага пяхотнага п. у Рызе.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Калкоўскі Базыль (Васіль).** XIX:2

У 1830 – дарадца Віленскай казённай палаты.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Камаеўскі (Камайеўскі) Караль.** XIX:5

У 1820 г. – паручнік, палкавы кватэрмайстар, у 1822 г. – штабс-ротмістр Літоўскага ўланскага палка. Генерал жандармскіх войскаў.

Жонка: першая А.Штакелаўна – сын Эдвард, палкоўнік РВ, дачка замужам за С.Паўлікоўскім; другая – Т.Высачанская, сын Анастазі.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VII, s. 121]

**Камароўскі (Камораўскі) Бальтазар (Валтасар) Іванавіч.** XIX:1

У 1818-1819 – прэзідэнт 1-га дэпартамента трыбунала Валыні. Сапраўдны стацкі дарадца, валынскі губернскі маршалак дваранства. Старшыня Магілёўскага галоўнага суда.

[Серков, с. 413; Гардзееў, З гісторыі, с. 97]

**Каменскі Аляксандр Людвікавіч.** XIX:5

Шляхціц. У 1822 г. – карнет л.-гв. Падольскага кірасірскага п. Пазней афіцэр-кірасір у ВП.

[Серков, с. 372; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Каменскі (Каміньскі) Казімір.** XIX:3, XIX:5, XIX:6

У 1818 г. – былы суддзя Гродзенскага трыбунала. У 1819 г. – памешчык і суддзя Лідскага пав.

[Серков, с. 372; Гардзееў, З гісторыі, с. 97]

**Каменскі Канстанты Львовіч.** XIX:7

У 1822 г. – юнкер л.-гв. конна-артылерыйскай лёгкай брыгады. У гэтым жа годзе партупей-юнкер. У 1826 г. – прапаршчык 1-й батарэйнай грэнадзёрскай роты. Магістр філасофіі са Слуцкага пав.

[Серков, с. 372]

**Каменскі (Каміньскі, Камінскі, Каменьскі) Людвік (Леў) Юзэфавіч.** XIX:3, XIX:6, XIX:7

Шамбелян Станіслава Аўгуста, эйшышскі харунжы, старшыня Галоўнага суда Віленскай губ. (1811). Старшыня 1-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда. Пад час вайны 1812 г. уваходзіў спачатку ў склад Мінскай Часовай рады, затым быў сябрам Камісіі Часовага кіравання Мінскай правінцыі (старшынёй аддзела харчавання), потым – адміністрацыйнай камісіі Мінскага дэпартамента, памочнікам старшыні аддзела паліцыі А.Гюнтара (гл.). Пасля вайны – генеральны паверэны Дамініка Радзівіла. У 1820-1821 г. – мінскі віцэ-губернатар і старшыня казённай палаты. Член польскага Патрыятычнага таварыства.

Творы: пераклаў на польскую мову «Вызвалены Іерусалім» Т.Тасо.

[НГАЛ, ф. 459, воп. 1, спр. 264, 3702; Гардзееў. З гісторыі, с. 97; Краснянский. Минский департамент, с. 14-15; Ерашэвіч, с. 148; Прокошина. Очерк свободомыслия, с. 59; Серков, с. 372; PSB, t. XI, s. 539; Uruski, t. VI, s. 172]

**Каменьскі Ян.** XIX:1
У 1819 г. – міравы (акружны) суддзя Каралеўства Польскага.
[Серков, с. 373; Гардзееў. З гісторыі, с. 97]

**Камінскі (Каміньскі) Юзэф.** XIX:1
Да 1820 г. – асэсар Гродзенскага галоўнага суда.
[Серков, с. 373; Гардзееў. З гісторыі, с. 97; Hass. Wolnomuliarstwo w Biaiymstoku, s. 110]

**Кандратовіч Леон (Лявон) Міхайлавіч.** XIX:4
У 1820 г. – памешчык.
Маці: М. Турска.
Браты: Адам, гусарскі маёр РВ; Антоні.
Жонка: Маркоўска.
[Серков, с. 414; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VII, s. 167]

**Канопка Вінцэнт Аляксандравіч.** XIX:4
У 1821 г. – справўнік ніжняга земскага суда ў Слоніме.
[НГАЛ, ф. 378, 1821, с. 307; Серков, с. 416]

**Канрадзі Ежы (Георг).** XIX:5
Аптэкар у С.-Пецярбурзе.
[Серков, с. 416]

**Канрадзі Карл Фрыдрых Георг.** XIX:1
У 1818-1819 г. – кандыдат тэалогіі. Затым – лютэранскі пастар. У Пецярбургскай ложы «Пламянеючай Зоркі» (1818-1819 г.) меў 1-ю ступень.
[Платонов. Терновый венок, с. 132; Серков, с. 416]

**Канюшэўскі Ян Антоніевіч.** XIX:1
У 1819 г. – адвакат Гродзенскага галоўнага суда. У 1828 – ваўкавыскі суддзя. Пасля смерці князя Ф.Пётраўскага быў ягоным душапрыказчыкам і сачыў за тым, каб працэнты з закладзенага капітала (1 500 руб. серабром) ішлі на ўтрыманне і выхаванне сямі бедных вучняў у Шчучынскім павятовым вучылішчы. Выдатнікі

маглі трапіць у Гродзенскую губернскую гімназію ў Свіслачы. У 1840 г. – дэпутат судоў Ваўкавыскага пав.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 2345, а. 1, 38 адв., 42 адв.; Серков, с. 417; Гардзееў. З гісторыі, с. 97; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VII, s. 177]

**Капроўскі Юзэф**. XIX:1
Кандыдат філасофіі.
[Серков, с. 417; Гардзееў. З гісторыі, с. 97]

**Карабічын Васіль.** XIX:2
У 1820 – паручнік РВ. У 1822 – штабс-капітан 2-га Марскога п.
[Серков, с. 376; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Каравайскі Канстанцін.** XIX:4
Служачы брат.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Ланда. У истоков, с. 60]

**Каратокцін Васіль.** XIX:2
Падпрапаршчык войскаў расійскіх.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Карказевіч Міхал Валяр'янавіч.** XIX:2

Маршалак шляхты Барысаўскага пав. У 1814 г. – барысаўскі павятовы суддзя. У 1820 г. – падсудак Барысаўскага пав. У 1821 г. – суддзя Барысаўскага павятовага земскага суда.

[Серков, с. 418; Uruski, t. VII, s. 213]

**Карказевіч Януары Валяр'янавіч.** XIX:2
Падсудак Барысаўскага павятовага суда.
[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Карпаў Дзмітры.** XIX:5
У 1820 – капітан артылерыі.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Касоўскі Казімір.** XIX:2
У 1820 г. – межавы суддзя Ігуменскага пав.
[Серков, с. 422; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кастравіцкі Самуэль.** XIX:2

У 1801 – пісар, у 1810, 1816 – суддзя земскага суда, у 1814 і 1820 – прэзідэнт (старшыня) межавага суда Мінскага пав. Паме-

шчык в. Навасёлкі Мінскай губ. і спадчыннага фальварка Ярашоўка на мяжы валоданняў Д.Радзівіла (гл.) – графства Кайданоўскага.

Творы: У БАНЛ захоўваюцца кнігі, аўтарам-складальнікам якіх у 1840–1850-х гадах быў, магчыма, К.: Pisma cikawe w roznych materyach zebrane. T. 1-2 / Sklad. S. Kostrowicki; Dzieje Polskie czyli przypadki znaczniejsze od czasu interregnum zdarzone. T. 1–4.

[БАНЛ, F 21–1194, a. 1; F 21 – 1789, a. 1; F 21 – 1183, a. 1; Серков, с. 422]

**Касаржэўскі.** XIX:4
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Катовіч Тэафіл.** XIX:5, XIX:6
Шляхціц. У 1820 г. – земскі пісар Ігуменскага пав.
[Серков, с. 425; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кашаеўскі Караль.** XIX:7
Паручнік уланскага палка.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кашуба Адольф Юльянавіч.** XIX:1

У 1814 г. – рэгент Гродзенскага межавага суда. У 1817 г. – Ваўкавыскі межавы суддзя. Магчыма, гэта ён меў фальварак Міхалаўка і в. Малыя Стэфанішкі каля Мастоў. У 1851 і 1858 запісаны разам з братамі ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ., герб «Порай».

Браты: Юзэф і Зыгмунт.

[НГАЛ, ф. 378, 1822 г., спр. 234, а. 38; Гардзееў. З гісторыі, с. 97; Uruski, t. VI, s. 257]

**Кашыц Юзэф Міхайлавіч.** XIX:4 (1795, Жулкены, Піншчына –16.01.1868 г., Парыж).

Вучыўся ў дамініканскай школе Навагрудка, потым да 1812 г. – на матэматычным факультэце Віленскага ун-та. У 1812 г. уступіў у 17-ы літоўскі полк, створаны Часовым урадам ВКЛ. Удзельнічаў у вайне 1812–1814 г. на баку Напалеона, адзначыўся пад Любекам і Гамбургам, захапіў у палон вядомага прускага партызана Шэла (Schela) і разбіў непрыяцельскі атрад. За гэта атрымаў КрыжГанаровага Легіёна. За ўдзел у вайне маёнткі К. Ятра (594 душы), Горыкі і Вержэйшчызна (681 душа) падлягалі канфіскацыі. У 1814 дэмабілізаваўся і вярнуўся дадому, у м. Ятра. У 1827 г. быў выбраны суддзёй, а ў 1830 – маршалкам Навагрудскага пав. У Лістапа-


Юзэф Кашыц

даўскім паўстанні 1830-1831 быў арганізатарам і падпалкоўнікам Навагрудскай кавалерыі. 19.07.1831 напаў на м. Гарадзішча, 21.07 разбіў рускі атрад у м. Беліца Лідскага пав., 22.07 увайшоў у Навагрудак, а потым далучыўся да рэгулярнай польскай часці Г.Дэмбінскага і дайшоў да Варшавы. Атрымаў дыплом «Добра заслужаны Айчыне». 10.08.1831 г. стаў падпалкоўнікам літоўска-рускага легіёна, 08.08.1831 г. быў выбраны ў Варшаве навагрудскім паслом на сейм, 15.09.1831 г. атрымаў залаты крыж Віртуці Мілітары пад № 2686. Вось што гаворыцца пра К. у «Алфавите мятежников»: «Тайный и явный агент бунтовщиков, деятельный распространитель мятежа в Новогрудском уезде. Главный начальник и распорядитель шайки новогрудских мятежников и лично распоряжавший при отбитии в Новогрудке острога, обезоружении Новогрудской и Белицкой инвалидных команд и разграблении в обоих сих местах казенных провиантских магазинов, а в Лопенице и Новиках почтовых лошадей с принадлежностями. Посылал в Зденциолы (Дятлово. – В.Ш.) для отбития и разграбления запасных артиллерийских вещей, в Варшаве был депутатом мятежного сейма от Новогрудского уезда». 05.10.1831 перайшоў на прускую тэрыторыю і 26.10.1831 г. прыбыў у Парыж, у сакавіку 1832 выехаў у Чэхію, а потым – у Страсбург, дзе чакаў дазволу жыць у Парыжы. У лютым 1833 г. ужо ў Парыжы прасіў згоды на вяртанне да жонкі, якая жыла ў Бадэне. Накіравалі яго ў Бесансон, а пазней – у Страсбург, адтуль у верасні 1834 выехаў у Парыж. У эміграцыі быў звязаны з А.Чартарыйскім. З 1836 г. быў сябрам Гісторыка-літаратурнага таварыства. 6 мая 1848 г. падпісаў адрас ад Нацыянальнай грамады ў Франкфурце. 08.11.1849 атрымаў дэкрэт аб натуралізацыі. Пахаваны на могілках Манмартра ў Парыжы. Тэстамэнтам ад 29.05.1863 г. прызначыў пэўную суму на помнікі А.Міцкевічу і Е.Бялапятровічу ў Навагрудку, на арганізацыю прадпрыемства для бедных эмігрантаў і для лекараў, якія апякуюцца хворымі палякамі.

Бацька: Міхал. Маці: Ружа з Кеневічаў.

Жонка: Соф’я Раецкая.

Дзеці: сыны Юліюш, Караль, Канстанцы. Невядома, які сын Кашыца ў 1834 г. быў у віленскім палацы Пускоўскіх і якога гр. Апраксіна частавала цукеркамі. Дачка: імя і прозвішча невядомы.

[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 27, спр. 64, а. 211 адв. – 212; БЭФ, т. IV, с. 283-284; Именной список... 1813 г., с. 386 адв.; Серков, с. 384; Bielecki, oficerow, t. 2, s. 261-262; Materialy do biografij, s. 202; Mienicki. Ziemia Nowogrydzka, s. 30; Podhorski. Realia, s. 382; PSB, t. XII, s. 212-213; Puzynina, s. 187]

**Квяткоўскі Ян-Фелікс.** XIX:2

За кошт урада вучыўся ў Віленскім медыцынскім ін-це. У 1815 абараніў дысертацыйную працу «Medico-practica petiologiam morbi coerulei amplificans» і атрымаў ступень доктара. Уступіў ва ўрадавую службу вайсковым лекарам. Пазней жыў у Жытоміры. Стварыў ачышчаючыя таблеткі, якія распаўсюдзіліся па Валыні, Падоліі пад назваю «таблеткі Квяткоўскага».

[БАНЛ, аддзел старадрукаў, Д-19/481; Коњmicski, s. 259, 609; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; WEPL Sikorskiego, t. 42, cz. 1, s. 648]

**Келіша Гіляры.** XIX:5

Ротмістр у 1820 г.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кельпш Пётр.** XIX:5

У 1821 г. – суддзя.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кліманоўскі (Іван) Ян.** XIX:6

Служачы слуцкага ніжняга суда.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Клімянтовіч (Іван) Ян.** XIX:7

Сакратар Слуцкага ніжняга земскага суда.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Клячкоўскі (Клачкоўскі) Ігнацы Юзэфавіч.**

Магчыма, уладальнік фальварка Пласкаўшчына ў Наваградскім пав. (1790).

Сын: Караль, зацверджаны ў дваранстве 04.01.1801.

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 63; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Клячкоўскі (Клачкоўскі) Мікалай Аляксандравіч.** XIX:4, XIX:6

Магчыма, шляхціц герба «Агоньчык». У 1820 г. – жыхар Наваградскага пав., памешчык.

Браты: Антоні, Ян, унук якога Ігнацы (гл.)

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 63; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кожыц Якуб.** XIX:1

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Корбут (Карафа-Корбут) Пётр Фаміч.** XIX:5 (у 1839 меў 29 год)

Музыкант, які мог іграць на ўсіх інструментах. Быў першым настаўнікам Ст. Манюшкі і яго мацеры. Даваў урокі музыкі ў Мінску.

[Сяльверстава. Беларусь, 178; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Корвін-Красінскі (Красінскі).** XIX:7

Надворны católica дарадца. Шляхціц герба «Слепаврон», запісаны ў дваранскую кнігу Мінскай губ. у 1849 г.

[Серков, с. 417; Uruski, t. VIII, s. 33]

**Корзун Ян.** XIX:5

У 1820 г. – вахмістр Нясвіжскай ардынацыі.

[Серков, с. 417; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Корсак Гіпаліт.** XIX:5

Да 1818 г. – земскі падсудак Слуцкага пав. У 1820 – земскі суддзя Слуцкага пав.

[Серков, с. 419; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

02.12.1754 г. нейкі Г.Корсак атрымаў прывілей на вытворчасць лясных матэрыялаў (клёпка, балі, машты) і іх продаж. 03.10.1761 г. яшчэ адзін прывілей Аўгуста III падстолію Навагрудскага в-ва Корсаку, які мае ў старостве Велатычы в. Мёдча і Секшчы ў Аршанскім пав.: дазвалялася ўступіць іх Антонію і Марыяне з Галінскіх Багушэвічам, скарбнікам мінскім, мужу і жонцы, з падданымі жыхарамі, забудовамі, палямі, грунтамі засаджанымі і незасаджанымі, з лугамі, лясамі, гаямі, рэчкамі, ставамі, азёрамі, прудамі, млынамі, карчмамі і інш., да гэтага маёнтка належачым.

[БАНЛ, F 31–248, а. 1]

**Котвіч (Катовіч) Іван (Ян).** XIX:1

Удзельнік вайны 1812 г. на баку Напалеона, не вярнуўся з-за мяжы, і таму яго маёнтак паводле царскага маніфеста быў канфіскаваны ў казну. У 1818–1822 г. – адвакат Віленскага галоўнага суда.

[Кур'ер Літоўскі. – 1813. – № 53. – 02.07; Серков, с. 423; Гардзееў. З гісторыі, с. 97]

**Крушчынскі Тамаш.** XIX:7

У 1820 г. – губернскі сакратар, засядацель ніжняга земскага суда ў Мазыры.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Крушынскі Ян Антоніевіч.** XIX:4 (28.10.1773, Равске–29.08.1846 (45?) Варшава).

Пад уплывам біскупа Пазнанскага кс. Акенцкага К. стаў вучыцца ў Варшаўскай шасцікласнай семінарыі пры касцёле св. Яна, а з 1791г. – у вышэйшай семінарыі пры касцёле св.Крыжа. Пасля смерці апекуна і здачы экзамена па матэматыцы К. паступіў у інжынерную школу як падафіцэр корпуса каронных інжынераў. Удзельнічаў у паўстанні 1794 г., паручнік у часці ген. К.Серакоўскага, належаў да дзеячоў якабінскай ідэалогіі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай працаваў прыватным настаўнікам, бо добра ведаў лацінскую, італьянскую, рускую, нямецкую, англійскую мовы: у Я.Неміровіча, падстолія стэнжыцкага і ў Я.Рамоцкага ў Дабжынскім. У 1800 г. выкладаў лацінскую і французскую мовы ў пансіёнах Варшавы. У 1801–1804 г. быў выхавацелем А.Ябланоўскага (будучы ўдзельнік перамоваў польскага Патрыятычнага таварыства з дзекабрыстамі) у Анкопаліне на Валыні. Атрымоўваў варшаўскую стыпендыю Бадэра і Рыполца. З 1804 па 1812 г. – кусташ (захоўнік) і бібліятэкар кабінета старажытнасцяў у Пулавах. Тут пачаў займацца літаратурнай працай. У 1812 г. стаў генеральным сакратаром у Міністэрстве фінансаў у Варшаве. З 1813 г. – сябра Таварыства сяброў навук, у працах якога змяшчаў свае работы. Быў сакратаром Біблейскага таварыства. У 1814 г. увайшоў у склад новай урадавай дырэкцыі Нацыянальнага тэатра. З 1828 г. да канца жыцця быў рэферэндарам у Дзяржаўнай радзе Каралеўства Польскага. МУС прызначыла яго апекуном польскага тэатра. Для варшаўскай сцэны перакладаў драмы Вергілія, Гарацыя, Авідзія, Альфера, Арэста і інш. Пахаваны на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве.

Тв.: пераклады сатыр Г.Бойля (Boileau) у «Новых Варшаўскіх памятках» (1803, 1804), драматычных твораў Вальтэра, Расіна, одаў Ламаносава, твораў Гарацыя, Вергілія.

Жонка: Барбара Пасьвятоўска (з 1806).
Дзеці: дачка Юзэфа; сыны Уладзіслаў і Юзэф.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Encykiopedja powszechna, t. 16, s. 179-180; Olgelbrand, t. VIII, s. 640; PSB, t. XV, s. 439-440; WEPL Sikorskiego, t. 41, s. 194-195]

**Крыдэл Аляксандр Антоніевіч.** XIX:1
Маршалак шляхты Гродзенскага пав. у 1812-1813 г. Сябра Гродзенскай муніцыпальнай рады, створанай Часовай радай ВКЛ у 1812 г. У 1819 г. – асэсар 2-га дэпартамента Гродзенскага галоўнага суда. У 1820-я гады – старшыня Лідскага гродскага суда. У маі 1824 г., у часы следства, узяў на парукі філарэта Ю.Заржэцкага. У 1829 г. – лідскі межавы суддзя. У 1834 г. – чыноўнік Гродзенскай скарбовай палаты да межавых справаў.
Брат: Ануфры (гл.)
[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 1322, а. 192; спр. 1341, а. 58 адв.; Гардзееў. З гісторыі, с. 97; Iwaszkewicz. Litwa, s. 150]

**Крыдэл Ануфры Антоніевіч.** XIX:1
Дарадца гродзенскай і віленскай скарбовых палат. У 1834 г. – чыноўнік па спецдаручэннях пры генерал-інфанце расійскіх войскаў.
Жонка: Я.Фандбрэзіліна.
Дзеці: сын: Міхал-Рудольф, у 1847 г. зацверджаны ў дваранстве і запісаны ў дваранскую кнігу Віленскай губ.
Брат: Аляксандр (гл.)
[Гардзееў. З гісторыі, с. 97; Uruski, t. VII, s. 104]

**Крэйбіх (Крэбіх) Казімір Францішкавіч.** XIX:1
У 1810 г. быў абраны прэзідэнтам Гродна, але праз нейкі час звольнены па хваробе. Меў добрую рэпутацыю: працавіты, дабрадзейны, адукаваны (ад'юнкт), здольны чыноўнік. У 1812 г. спачатку стаў інтэндантам паліцыі пры губернатары А.Ражнецкім, а потым па загаду Часовага ўрада ВКЛ ад 15 ліпеня прызначаны старшынёй паліцэйскага аддзела Гродзенскай адміністрацыйнай камісіі. У 1817 г. – сябра Гродзенскага аддзялення Расійскага біблейскага таварыства. У 1819–1822 г. – прэзідэнт Гродзенскага гарадавога магістрата. У 1819 быў віцэ-прэзідэнтам Гродзенскага дабрачыннага таварыства. Сябра масонскай ложы «Белага Арла» ў Пецярбурзе. Яму губернатар М.Бутаўт-Андржэйкавіч (гл.) даручыў у маі 1823 г. знайсці і спаліць масонскія дэкарацыі, якія не былі да гэтага часу знішчаны. Пахаваны на фарных могілках у Гродне.
Бацька: Францішак, гродзенскі купец, які меў пасэсію ў Гродне. Удзельнік паўстання ў 1794 г.

[НГАЛ, ф. 378, 1821 г., спр. 338, а. 174 адв.; НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, спр. 2860, а. 71; ф. 1168, воп. 1, спр. 5, а. 2 адв.; ф. 1193, воп. 1, спр. 7, а. 27 адв.; Серков, с. 431; Jodkowski. 110-lecie P.T.D.]

**Кузімовіч Тамаш.** XIX:1 (? – 07.10.1823, Масты)
У 1821 г. – тытулярны дарадца. 28.03.1823 г. былы гродзенскі губернатар сенатар В.С.Ланскі рэкамендаваў яго на заняцце вакансіі асэсара ў Гродзенскім губернскім праўленні, бо ведаў яго па службе пад час губернатарства і па працы ў расійскіх мытнях у Каралеўстве Польскім. Указам Сената ад 02.08.1823 атрымаў пасаду асэсара і 24.08 прыняў прысягу. Пад час камандзіроўкі па абмежаванню фальварка Міхалаўка і в. Малыя Стэфанішкі памешчыка А.Ю.Кашубы (гл.) 5.10 захварэў і памёр. Кавалер ордэна.
[НГАЛ, ф. 378, 1822 г., спр. 234, а. 32, 33, 37, 38; Гардзееў. З гісторыі, с. 97; Серков, с. 441; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кузьма Станіслаў.** XIX:7
Паручнік войска польскага.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кулеша Пётр.** XIX:5, XIX:6
Шляхціц. У 1820 г. – памешчык Слуцкага пав.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Серков, с. 443]

**Кунцэвіч Ежы Міхайлавіч.** XIX:1
У 1809 г. – сяржант 17-га пяхотнага п. У 1811 г. – падафіцэрскі ад’юнкт. У 1812 г. – падпаручнік, у 1813 г. – паручнік. За ўдзел у ваенных кампаніях 1809, 1812-1813 г. атрымаў польскі залаты ордэн і крыж французскага Ганаровага легіёну (за ўдзел у бітве пад в. Панкратаўцы пад Беразіной). У 1817 г. прызнаны ў дваранстве і запісаны ў дваранскую кнігу Віленскай губ. У 1820-х – гродскі пісар Лідскага пав. На старых Фарных могілках г. Ліды сустракаюцца магільныя склепы Кунцэвічаў XIX ст.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VIII, s. 201; Гардзееў. З гісторыі, с. 97]

**Кунцэвіч Ігнацы Антоніевіч.** XIX:7
У 1820 – рэгент слуцкі. У 1844 г. разам з 30 асобамі з гэтага роду быў зацверджаны ў дваранстве Расійскай імперыі (герб «Кунцэвіч») і запісаны ў дваранскую кнігу Мінскай губ.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VIII, s. 201]

**Кунцэвіч Юзэф Юр'евіч.** XIX:1 (у 1819 было 34 года)
У 1819 – земскі камісар Лідскага пав. У масонстве 4 гады.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Курнатоўскі Багуслаў Уладзіслававіч.** XIX:5 (у 1820 было 32 гады, у 1841 яшчэ жыў)

Евангельскі святар, выкладчык Слуцкага евангельскага вучылішча. У 1814 г. – настаўнік славеснасці і права Слуцкага павятовага вучылішча. У 1820 – прафесар школ Слуцкага пав. З 25.06.1832 г. – настаўнік лацінскай мовы ў Слуцкай гімназіі, тытулярны дарадца (31.01.1839).

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 4811, а. 1-2; Серков, с. 448; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Курнатоўскі Людвік.** XIX:7
У 1820 – настаўнік школ Слуцкага пав.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кшэмінскі (Кржэмінскі) Ігнацы.** XIX:4
У 1820 г. – хірург.
[Ланда. У истоков, с. 60; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кярсноўскі (Кераноўскі) Ігнацы Янавіч.** XIX:4

У 1821–1823 г. – тытулярны дарадца, казначэй Навагрудскага пав. Маёнтак Гарадзілаўка ў Навагрудскім пав. (ухвалены Міцкевічам у «Пане Тадэвушы»). Прызнаны ў дваранстве Расійскай імперыі і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.

Брат: Нікадым (гл.).

[Серков, с. 389; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. VI, s. 326]

**Кярсноўскі Мар'ян.** XIX:5
У 1820 г. – лоўчы Навагрудскага пав.
[Серков, с. 389; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Кярсноўскі Нікадым Янавіч.** XIX:6 (15.09.1794, Гарадзілаўка пад Навагрудкам – ?).

Вучыўся ў Віленскім ун-це (1810–1812). У 1812 г. – памочнік сакратара цывільна-вайсковай камісіі ў Навагрудку, працаваў рэгентам дэкрэтавым у канцылярыі земскага суда, пісарам на працягу трох выбараў, адзін тэрмін суддзёй, адзін тэрмін прэзідэнтам

земскім. У 1831 г. кіраваў маёнткам Віжуны (пад Навагрудкам?) З 1834 г. быў па выбарах 6 гадоў асэсарам, а 14 гадоў, да 1863 г., – старшынёй грамадзянскай палаты. У 1863 г. вывезены ў Тамбоў, дзе прабыў 4 гады. Прызнаны ў дваранстве Расійскай імперыі і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ. разам з сынамі.

Дзеці: сыны Генрых, Францішак, Казімір.

Творы: Nowogrydek w pocz№tkach XIX w. // Pawlowicz E. Nowogrydek w XIX w. – Lwow, 1902, s. 9–46.

[БАНЛ, аддзел старадрукаў, F. 151–930, a. 3-4; Maiachowski-Jempicki S. Wykaz; Pawlowicz. Nowogrodek w XIX w., s. 14, 17, 18, 26; Uruski, t. V1, s. 326]

## Л

**Лазінскі (Лазоньскі) Юзэф.** XIX:5 (у 1820 было 34 гады).

Музыкант, даваў урокі ў Мінску. У 1820 ішоў пяты год, як стаў масонам.

[Сяльверстава. Беларусь, с. 179; Серков, с. 486; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Лазінскі Ян.** XIX:2

У 1820 – музыкант.

[Maiachowski-Jempicki. W-ko polske a muzyka, s. 10]

**дэ Лангхамп Юзэф Берэр (Бергер, Бойер).** XIX:1, XIX:5 (1782–1820).

Паходзіць з гугеноцкага французскага роду, маючага рэзідэнцыю ў Лангхамп (там знаходзіцца знакаміты кляштар Нотр Дам). Быў найлепшым студэнтам Віленскай акадэміі, стаў доктарам медыцыны. У 1788 быў памочнікам доктара Лабенвейна [як Г.Гольц (гл.)] і выкладаў анатомію ў Галоўнай школе ВКЛ у Вільні. Будучы доктарам філасофіі і навук вольных, карэпэтытарам анатоміі (упершыню на польскай мове) у Галоўнай школе ВКЛ, зрабіў пераклад з французскай мовы на польскую кнігі «Акушэрская навука праз пытанні і адказы...» і выдаў яе ў друкарні Віленскай акадэміі ў 1789 г. (253 старонкі). Верагодна, сваяком Юзэфа быў Ян Лангхамп (гл.).

[Balicski. Dawna Academia, s. 314, 528; Bielicski, t. 1, s. 138; t. 2, s. 350; Encykiopedyja powszechna, t. XVII, s. 275-276; PSB, t. XVII, s. 540; Uruski, t. IX, s. 142; Zalкski. O masonii, cz. 2, s. 196]

**Лангхамп Ян.** XIX:2
У 1820-1821 – былы капітан ВП.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Ландрагін (Ландражын, Ландражэн) Іван Якаўлевіч (Жан Франсуа).** XIX:2
[Серков, с. 460; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Ланскі Сяргей Сцяпанавіч.** XIX:1 (23.12.1787–26.01.1862, С.-Пецярбург).


Сяргей Сцяпанавіч Ланскі

З ліку дваран польскага паходжання, вядомага з пач. XVI ст. Выхоўваўся ў доме бацькоў. На службу паступіў 12.03.1800 у Дзяржаўную калегію замежных спраў юнкерам. 01.01.1801 прызначаны перакладчыкам. З 31.12.1804 – калежскі асэсар. З 12.11.1806 – камер-юнкер 5-га класа. 23.01.1808 накіраваны ў Фінляндыю да галоўнакамандуючага гр.Буксгеўдэна чыноўнікам асаблівых даручэнняў па дыпламатычнай частцы, знаходзіўся пры заняцці Фінляндыі і вызначыўся пры асадзе Свеабарга. З 12.03.1809 – за оберпракурорскім сталом 1-га дэпартамента кіруючага Сената. З 22.12.1812 служыў у дэпартаменце дзяржаўных маёмасцей Міністэрства фінансаў, у 1814 г. залічаны ў гэты дэпартамент для выканання розных даручэнняў. З 21.06.1817 – дырэктар у Дзяржаўнай камісіі пагашэння даўгоў. З 25.06.1819 – сапраўдны стацкі дарадца. У 1819 і 1823 г. – кіраўнік названай камісіі. Сябра дзекабрысцкай арганізацыі Саюза благадзенства. У 1819–1822 г. – старшыня Камітэта апекі малалетніх бедных. У 1819 г. – памочнік старшыні Камітэта па вучонай частцы імператарскага Чалавекалюбівага таварыства. 19.05.1824 выйшаў у адстаўку «па прашэнню без узнагароды чынам». 01.01.1826 выбраны суддзёй Маскоўскага сумленнага суда. 01.01.1829 перавыбраны на гэтую пасаду. З 27.04.1830 – кастрамскі грамадзянскі губернатар, 13.01.1831 зацверджаны на пасадзе. З 27.11.1832 – уладзімірскі грамадзянскі губернатар. З 21.04.1834 – тайны дарадца. У 1834 г. – ганаровы сябра Грамадства выпрабавальнікаў прыроды пры Маскоўскім універсітэце. З 31.12.1834 – сенатар. З 1837 г. – член С.-Пецярбургскага Ан-

глійскага сходу, яго старшыня з 20.02.1852. З 18.02.1835 прысутнічаў у 3-м аддзяленні 5-га дэпартамента Сената, з 11.04.1839 у 1-м аддзяленні. З 03.06.1839 – ганаровы апякун у С.-Пецярбургскім апякунскім савеце. З 08.09.1839 кіраваў Гатчынскім выхаваўчым домам. З 15.11.1840 прысутнічаў у 4-м дэпартаменце Сената. З 08.03.1842 – сябра, а з 26.07.1848 – віцэ-прэзідэнт Таварыства апекі над турмамі. З 23.11.1842 прысутнічаў у 1-м дэпартаменце Сената. 15.07.1844 яму даручана кіраваць С.-Пецярбургскай захоўнай казной і ашчаднай касай пры ёй, 30.06.1848 зацверджаны на пасадзе. З 01.01.1845 – член Дзяржаўнага савета жаночых вучэбных устаноў. З 13.01.1846 – член камітэта Галоўнага ўпраўлення імператарскай Аляксандраўскай мануфактуры. 12.04.1849 яму даручана кіраваць гаспадарчым і вясковым упраўленнем С.-Пецярбургскага выхаваўчага дома, вучылішча глуханямых і родадапаможных устаноў. З 01.01.1850 – член Дзяржаўнага савета па дэпартаменту грамадзянскіх і духоўных спраў. З 13.03.1849 выконваў абавязкі, а з 17.04.1850 прыняў пасаду старшыні Таварыства апекі аб турмах і Камітэта для разбору і апекі над жабракамі. З 01.01.1851 – сапраўдны тайны дарадца. З 26.04.1851 да 08.10.1851 кіраваў Міністэрствам унутраных спраў. З 24.05.1854 яму даручана старшынства ў С.-Пецярбургскім апякунскім савеце. З 20.08.1855 – міністр унутраных спраў з захаваннем звання сенатара і ганаровага апекуна С.-Пецярбургскага апякунскага савета. Актыўны ўдзельнік распрацоўкі палажэнняў сялянскай рэформы 1861 г., у 1857–1861 г. – член Галоўнага камітэта па сялянскаму пытанню. 23.04.1861 «па стану здароўя» звольнены, але застаўся членам Дзяржаўнага савета, узведзены ў графскую годнасць і прызначаны обер-камергерам. Уладальнік 150 душ сялян у Цвярской губ. і 197 душ у Маскоўскай губ. Пахаваны пад царквой Смаленскай Божай Маці на Смаленскіх могілках у С.-Пецярбурзе.

Творы: Дзённікавыя запісы за 1820 г. захоўваюцца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы, аддзел рукапісаў, ф. 1476, № 2022.6.

Бацька: С.Сяргеевіч (1760–1813), гофмаршал, тайны дарадца, брат В.С. і П.С.Ланскіх.

Маці: Шацілава Мар’я Васільеўна (30.05.1767–07.12.1842).

Сёстры: Зінаіда (19.06.1811–27.10.1866), у замужжы Ураская; Вольга (11.01.1797–18.05.1872), замужам за пісьменнікам В.Ф.Адоеўскім; Паўла.

Жонка: кн. Адоеўская Варвара Іванаўна (12.1794 – 04.1844), дачка І.І. Адоеўскага.

Дзеці: Сцяпан (18.06.1814–19.07.1879), палкоўнік; Аляксандр (22.02.1822–12.04.1869), капітан; Міхаіл (27.10.1829–18.04.1905), гв. ротмістр; Анастасія (1813–17.06.1891), у замужжы Пярфільева;

Варвара (02.02.1816–26.01.1878), фрэйліна; Мар'я (30.06.1819–04.03.1845), у замужжы баранэса Урэўская; Праскоўя (17.03.1825–08.09.1838).

[Серков, с. 462; Федорченко, с. 623; Энциклопедия биографий, с. 623]

**Лапіцкі Міхал.** XIX:2

У 1820 г. – земскі віленскі адвакат.

[Сяркоў с. 463; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Лапіцкі Юзэф.** XIX:7

Рэгент бабруйскі.

[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Лапушыньскі Юзэф.** XIX:2

У 1820 г. – магістр філасофіі.

[Серков, с. 489; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Лапярэ Ян**. XIX:5 (каля 1765 – ?)

Негр, амерыканскі грамадзянін, жыў у Варшаве. Былы камердзінер А.-Т. Касцюшкі. Пасля арэсту Касцюшкі пад Мацяевічамі прыехаў да яго з Варшавы. Прывёз яму цёплую вопратку, грошы, асабістыя рэчы. Пасля вызвалення Касцюшкі паехаў з ім у Амерыку.

[Szyndler. Tadeusz, s. 290]

**Ласка (Ляска) Мікіта.** XIX:7

У 1820-1821 – былы слуцкі спраўнік Мінскага пав. Быў у Радзівілаўскай камісіі (зацверджаны сенацкім указам ад 22.06.1835 г.).

[НГАЛ, ф. 459, воп. 3, спр. 1, а. 99; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Лёншан Юзэф.** XIX:5

У 1820–1821 г. – доктар.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Лёншан Ян.** XIX:2

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Лісоўскі Антоні.** XIX:4

У 1820 г. – памешчык Навагрудскага пав.

[Серков, с. 482; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Лопат Міхал.** XIX:5, XIX:6 (каля 1777 – ?)

У 1787 – абозны літоўскі, прадаў маёнтак Стайкі Т.П.Пушкіну. У 1792 належаў да Таргавіцы. Навагрудскі пасол на Гродзенскі сейм 1793 г. На яго звяртаў увагу Сіверс у лісце да генерала Ігельстрома, камандуючага рускай арміяй у Польшчы. У 1820-1821 г. – капітан былога ВП, памешчык.

Жонка: Мараўская, сын Адам.

[Малы гербоўнік навагрудскай шляхты, с. 91; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. IX, s. 366; Sivers, s. 187]

**Лопат Станіслаў.** XIX:5, XIX:6

Памешчык Навагрудскага пав.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Лубанскі (Лубаньскі, Любаньскі) Ян Гжымала.** XIX:2, XIX:5, XIX:6 (каля 1777 – ?)

Удзельнік вайны 1812 г. на баку Напалеона, 19.08 быў абраны дэлегатам на Генеральную Канфедэрацыю Каралеўства Польскага ад Пінскага пав. Не вярнуўся з-за мяжы, і таму яго маёнтак у Пінскім пав., паводле царскага маніфеста, быў канфіскаваны ў казну. У 1818 г. – адстаўны палкоўнік польскай службы. Да 1820-1821 г. – старшыня Мінскага галоўнага суда. Калежскі дарадца.

[Ерашэвіч, с. 208; Серков, с. 492; Кур'ер Літоўскі. – 1813. – № 53. – 02.07; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Лускін.** XIX:4

Паручнік Валынскага ўланскага п., які кватараваў у Навагрудку. У 1821 г. у адстаўцы. У 1826 г. жыў у Віцебскай губ.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Серков, с. 498]

**Лыкаў Фёдар (Тэадор) Міхайлавіч.** XIX:2 (пам. каля 1822).

Доктар медыцыны, у 1818-1819 г. – калежскі асэсар, у 1820-1821 г. знаходзіўся ў С.-Пецярбурзе. У 1821 г. – аператар Гродзенскай урачэбнай управы, штаб-лекар, надворны дарадца.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 98; Серков, с. 500]

**Лыхоўскі Павел.** XIX:4

У 1820 г. – афіцэр Валынскага ўланскага п.

[Серков, с. 501; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Любаўскі (Лубаўскі) Тэадор.** XIX:2

Даглядчык Мінскага ваеннага шпіталя. Вайсковы камісар. Былы старшыня Галоўнага суда.

[Серков, с. 501; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Любецкі (Друцкі-Любецкі) Франц-Ксаверы-Тадэвуш-Адам-Эўзэбіюш Францавіч.** XIX:1 (17.12.1779, в. Пагост Пінскага пав. – 11.05.1846)



Франц-Ксаверы Друцкі-Любецкі

З 1785 па 1797 вучыўся ў Пецярбургскім кадэцкім корпусе, потым служыў у рускім войску да 1800 г. Удзельнічаў у італьянскім і швейцарскім паходах Суворава. Пасля кантузіі выйшаў у адстаўку. Пасяліўся ў маёнтку бацькі Чарлёна Гродзенскага пав., некалькі гадоў вёў гаспадарку сястры ў суседнім Шчучыне, дзе ажаніўся на Марыі Сцыпіён дэ Кампа. У 1809 г. быў абраны маршалкам шляхты Гродзенскага пав. Як яе дэлегат паехаў у Пецярбург, каб дабіцца змяншення падаткавага цяжару. Тут пражыў амаль год, пазнаёміўся з вышэйшым рускім светам і прыйшоў да высновы, што далейшы лёс польскага народа павінен быць звязаны з саюзам і лаяльнасцю да Расіі. Таму прыняў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы праекта адраджэння ВКЛ у межах Расійскай імперыі разам з М.К.Агінскім, Т.Ваўжэцкім, К. і Л.Плятарамі ў 1811 г. Праект прадугледжваў асобную канстытуцыю (яе напісаў Друцкі-Любецкі), войска і органы ўлады. У кастрычніку 1811 г. атрымаў чын сапраўднага дарадцы, а ў студзені 1812 г. яго завочна выбралі гродзенскім губернскім маршалкам. Напярэдадні вайны 1812 г. займаўся забеспячэннем правіянтам рускай арміі і з пачатку чэрвеня знаходзіўся пры імператары ў галоўным штабе. Як адзін з нямногіх палякаў-прыхільнікаў Аляксандра І у сакавіку 1813 г. быў прызначаны сябрам Часовага Вярхоўнага савета Княства Варшаўскага і старшынёй Цэнтральнага камітэта пры ім. На гэтых пасадах імкнуўся не дапусціць марадзёрства і рабункаў адміністрацыі і войскаў расійскіх, праявіў актыўны інтарэс перш усяго да будучага лёсу свайго краю. З мая па снежань 1815 г. уваходзіў у склад Часовага Урада Каралеўства Польскага, але ў сфарміраваны ўрад не ўвайшоў, а быў прызначаны на пасаду гродзенскага губернатара. На гэтай пасадзе (03.02. – 01.08.1816) аднаўляў жыццё і гаспадарку губерні пасля вайны, забяспечваў рускія войскі харчаваннем. З чэрвеня 1816 г. стаў віленскім губернатарам (7 гадоў лічыўся ім, але так і не ўступіў на пасаду). У 1821 г. стаў міністрам фінансаў Каралеўства Польскага і шмат зрабіў для аздараўлення фінансаў і гаспадаркі краю: дапама-

гаў у заснаванні Польскага Банка, увёў строгую справаздачнасць у фінансавых органах, быў прыхільнікам апякунчай сістэмы ў гандлі, адстойваў мытную аўтаномію Каралеўства Польскага і г. д. Пад час паўстання 1830-1831 г. паехаў у Пецярбург у якасці пасрэдніка паміж дыктатарам Хлапіцкім і расійскім урадам. Нічога не дабіўшыся, застаўся тут на расійскай службе. У 1832 г. быў прызначаны сябрам Дзяржаўнай рады. Падтрымаў Звод законаў М.М.Сперанскага.

Дзеці: сыны Уладзімір, Юзэф (1817–1870), Аляксандр (1827–1908); дачкі Аўгусціна, Юлія, Генавефа, Севярына, Ядзвіга.

[НГАБ у Гродне, ф. 1193, воп. 1, спр. 1; Гардзееў. З гісторыі, с. 98; Нарбут. Генеалогія, т. 2, с. 115; Госцеў, Швед. Кронан, с. 157; ЭГБ, т. 3, с. 297; РБС, т. 4, с. 695–707; PSB, t. XVII, s. 582–589; Sokolowski. Dzieje porozbiorowe, s. 34]

**Лютніцкі (Лутніцкі) Антоні.** XIX:7

Юнкер уланскага п.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Ляндразын Ян.** XIX:2

Паручнік войскаў французскіх, гувернёр.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Лянкевіч Ян.** XIX:4 (11.1.1786 – 13.9.1870)

Служыў у войску Княства Варшаўскага. 18.10.1809 падпаручнік 2-га пяхотнага п., 28.08.1812. – паручнік, 14.07.1813 атрымаў ордэн Ганаровага Легіёну пад № 38499. У арміі Каралеўства Польскага паручнік грэнадзёрскай гвардыі, 22.03.1818 – капітан. 24.05.1830 атрымаў ганаровы знак за 20 гадоў афіцэрскай службы. У 1820 г. – жыхар Мазырскага пав., памешчык. Удзельнік паўстання 1830-1831 г.: капітан грэнадзёрскага палка, 06.02.1831 – маёр, 28.07.1831 – падпалкоўнік, камандзір 16-ага п. 01.08.1831 прызначаны да дыспазіцыі Урадавай ваеннай камісіі, якой накіраваны ў камісарыят вайсковай вопраткі. Пасля капітуляцыі Варшавы застаўся ў горадзе, даў прысягу на вернасць цару.

[Bielecki, t. III, s. 28-29; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Серков, с. 473]

**Лянтоўскі Шыман Францішак.** XIX:2

Землямер у 1820-1821. Суддзя мінскі, меў маёнтак Вішнёўцы (Wiњzniowce), прызнаны ў дваранстве і запісаны ў дваранскую кнігу Мінскай губ.

Дзеці: два сыны.

Брат: Юзэф, мецэнат (юрыст) у Седльцах.
[Серков, с. 474; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Niesiecki, t. VI, s. 249]

**Лясковіч Станіслаў Андрэевіч.** XIX:1 (каля 1787– 07.11.1837).
Былы старшыня межавага суда ў Лідзе. Памешчык Лідскага пав. У 1812 г. – люстратар Лідскага пав., паручнік кавалерыі войска Княства Варшаўскага ў часы напалеонаўскіх войнаў. У 1814-1815 г. – лідскі межавы суддзя. У 1820 г. разам з І-Э.Ляхніцкім (гл.) уваходзіў у Радзівілаўскую камісію, у 1826 г. быў яе кандыдатам. Калі ў 1826 збіралі падпіскі аб удзеле ў патаемных таварыствах, знаходзіўся ў СПб. Потым выехаў у Лідскі пав. Гродзенскай губ. і прыблізна да 1829 г. быў старшынёй Лідскага межавага суда. У 1837 г. – старшыня межавага апеляцыйнага суда і кавалер, падаў 2 чэрвеня прашэнне дырэктару вучылішчаў Гродзенскай губ. І.М.Ястрабцову аб прызначэнні на пасаду ганаровага апекуна вучылішчаў Лідскага пав., але хутка памёр.
[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 4131, а. 2, 5 адв.; ф. 459, воп. 2, спр. 1894, а. 48, 51, 57; воп. 3, спр. 1, а. 59 адв.; Гардзееў. З гісторыі, с. 98; Серков, с. 463; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Ляткоўскі Ян Самуэлевіч.** XIX: 5
Шляхціц герба «Порай», прызнаны ў дваранстве 19.(30).01.1799.
Браты: Станіслаў, Ігнацы, Міхал, Францішак, Юзэф. У 1818 – тытулярны дарадца.
[Серков, с. 463; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Ляўковіч Вінцэнт Юзэфавіч.** XIX:2, XIX:6
Служыў у войску Княства Варшаўскага. Удзельнічаў у вайне 1812 г., 27.09.1812 – падпаручнік 22-ага пях. п. У 1820 г. быў у адстаўцы. Меў маёнтак у Вілейскім пав. Удзельнічаў у Лістападаўскім паўстанні 1830-1831 г., у чыне палкоўніка кіраваў паўстанцамі Вілейскага пав., з 02.07.31 прызначаны Гелгудам капітанам 26-ага пях. п. Перад расійскай следчай камісіяй ставіўся дабраахвотна і быў пазбаўлены адказнасці. У 1873 г. атрымаў пацвярджэнне дваранства.
Дзеці: сыны Францішак, Феліцыян, Юзэф, Аляксандр, зацверджаны ў дваранстве Расійскай імперыі ў 1828–1837 г. і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.
[Серков, с. 469; Bielecki, t. III, s. 37; Uruski, t. IX, s. 18]

**Ляўковіч Міхал.** XIX:7
Памешчык Бабруйскага пав. у 1820.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]


Ігнацы Юзэфавіч Ляхніцкі

**Ляхніцкі Ігнацы Юзэфавіч.** XIX:1, XIX:6 (1755 – каля 1830)

Вучыўся ў Віленскай акадэміі. У 1772 г. абараніў дысертацыю і атрымаў тытулы магістра вольных мастацтваў і доктара філасофіі. Даслужыўся ў войску ВКЛ да чына палкоўніка (1788). Затым быў маршалкам Слонімскага двара ў М.-К.Агінскага, ягоным дарадцам у маёнткавых і палітычных справах. У верасні і снежні 1788 г. ездзіў ад Агінскага і віленскага ваяводы князя Радзівіла ў Берлін з палітычнай місіяй (антыкаралеўскай і антырасійскай). Пасля пасяліўся ў спадчынным маёнтку Лахнова (Ляхнова) пад Гродна і заняўся гаспадаркай. У 1793 г. на Гродзенскім сейме выбраны камісарам Літоўскай скарбовай камісіі. Жыў у Вільні, быў сябрам камітэта па яўрэйскіх справах, вількамірскім стольнікам (1793). У 1794 г. – старшыня Гродзенскай парадкавай камісіі, віцэ-прэзідэнт г. Гродна, ахвяраваў 1 000 злотых на паўстанне. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай выконваў абавязкі ўпаўнаважанага ў маёнтках гетмана М.-К.Агінскага. За правядзенне сялянскай рэформы ў сваіх гродзенскіх маёнтках (1 530 душаў у 1919 г.) атрымаў у 1810 г. ад Аляксандра I ордэн св.Уладзіміра 4-й ст., «за прывядзенне ў яснасць вучылішчных фундушаў» быў узнагароджаны ордэнам св.Ганны 2-й ст. (1810). У 1811 – прэзідэнт межавага суда Гродзенскага пав., сябра каралеўскага Варшаўскага сельскагаспадарчага таварыства. На гродзенскім сейміку 17.01.1812 г. падтрымаў план М.-К.Агінскага аб стварэнні ВКЛ пад апекай Расійскай імперыі. У час вайны 1812 г. уваходзіў у склад адміністрацыйнай камісіі Гродзенскага дэпартамента, 27.07 быў абраны дэлегатам на Генеральную канфедэрацыю Каралеўства Польскага. У 1813 дзейнічаў у камітэце вайсковых павіннасцяў, які даследаваў стан памешчыцкіх маёнткаў і ажыццяўляў пастаўкі харчавання для расійскай арміі. У 1818 – адзін з заснавальнікаў Друкарскага таварыства. Ганаровы дазорца школаў Гродзенскай губерні. У 1822 г. збіраў ахвяраванні на кракаўскі помнік Касцюшку, ахвяраваў 100 злотых.

Творы: Альзіра, або Амерыканцы. – Варшава, 1780 (пераклад з Вальтэра); Рэч на Гродзенскім сейміку. – Вільня, 1812 (назва публікацыі ўмоўная); Біяграфія селяніна, які жыве над берагамі Нёмана вышэй Ласосны. – Варшава, 1815 (на польскай мове).

Бацька: Юзэф, стольнік вількамірскі. Маці: Роза з Богушаў.

Жонка: Антаніна-Марта з Трэмбіцкіх (к. 1760–20.12.1830).

Дзеці: не было.

[Виленский временник, Кн. V, Ч. 2, с. 268; Гардзееў. З гісторыі, с. 98; Мальдзіс А. На скрыжаванні, с. 231; Цэханавецкі. М.К. Агінскі, с. 69–71; Iwaszkewicz, s. 86, 143; Lista imenna, s. 39; PSB, t. XVI, s. 396-397; Puzynia. W Wilne, s. 74; Rozmus, Gordziejew, s. 102; WEPL Sikorskiego, t. 42, s. 804-805; WIEP Gutenberg, t. 8, s. 272]

**Ляхніцкі Ігнацы Эмануіл Антоніевіч.** XIX:1 (1793–1826, Варшава)

Вучыўся ў Віленскім універсітэце, дзе абараніў 11.06.1812 г. доктарскую працу на тэму аб хімічным растварэнні. Быў адэптам магнетызму, займаўся статыстыкай, пошукам злежаў солі ў Літве і Беларусі. Камер-юнкер расійскага двара (04.1812). Прызначаны да Міністэрства паліцыі, дзе служыў у статыстычным аддзяленні. Удзельнічаў у замежным паходзе расійскіх войскаў у 1813 г. пры Галоўнай кватэры. У 1815–1817 г. збіраў статыстычныя звесткі на літоўскіх і беларускіх землях. У 1816 г. прапагандаваў распаўсюджванне Біблейскага таварыства. Быў рэдактарам і выдаўцом «Pamiktnika Magnetycznego» (3 тамы ў 1816–1817), «Dziejow Dobroczynnosci» (разам з масонамі Контрымам і А.Марцыноўскім у 1820–1823), «Wiadomosci Brukowych». Выбраны членам-карэспандэнтам Камітэта па вучонай частцы імператарскага Чалавекалюбівага таварыства і ганаровым сябрам Мінералагічнага Дрэздэнскага таварыства (1818). У 1820 зацверджаны літоўскім генерал-губернатарам сапраўдным сябрам камітэта па вучонай частцы ў прадметах дабрачыннасці. З 1820 – сябра камісіі па разгляду радзівілаўскіх справаў. Кантактаваў з філаматамі і філарэтамі, дапамагаў выдаць і распаўсюджваць 2-і том «Паэзіі А.Міцкевіча». Пад час следства ў 1823 г. хадайнічаў аб адданні Міцкевіча з-пад арышта яму на парукі. У 1823 прызначаны літоўскім генерал-губернатарам у камісію па разгляду злоўжыванняў і непарадкаў па фінансах г. Вільні, у 1824 – сябрам камітэта па будаўніцтву ў Вільні палаца. Выступаў за вызваленне сялянаў. У 1825 праводзіў геалагічныя даследаванні па лініі ад Гродна ўздоўж Нёмана да межаў Курляндыі і Прусіі. Адкрыў горныя скалы юрскага перыяду. Пад час прац захварэў і памёр.

Творы: Даследаванне з хіміі аб растварэнні. Напісаная для атрымання ступені доктара філасофіі. Чытана публічна 11 чэрвеня

1812 г. – Вільня, 1812. – 17 с.; Статыстычнае апісанне Літоўска-Гродзенскай губерні. – Вільня, 1817; Звесткі аб спосабе лячэння вар’яцтва магнетызмам. – Вільна, 1821. – 20 с. (на польскай мове).
Бацька: Антоні Юзэфавіч (пляменнік І.Ю.Ляхніцкага (гл.).
Маці: Вераніка з Келпшаў.
Жонка: Анжэліка з Трэмбіцкіх.
Дзеці: дачка Антаанева (нар. у 1823).
[НГАЛ, ф. 459, воп. 2, спр. 1891, а. 7 адв. – 9 адв.; ф. 459, воп. 1, спр. 1, а. 59 адв.; Гардзееў. З гісторыі, с. 98; РБС, т. на «Л, М», с. 845; Kosminski, s. 260; Olgebrant, t. IX, s. 112; PSB, t. XVI, s. 398]

## М

**Магельніцкі (Магільніцкі) Пётр.** XIX:4
У 1822 г. – карнет Валынскага ўланскага п. Сябра Таварыства сяброў.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Магільніцкі Пётр Ігнатавіч.** XIX:5, XIX:6 (нар. каля 1791).
Слуцкі падсудак. У 1818 г. – адстаўны капітан польскіх уланаў.
[Серков, с. 554; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Магільніцкі Станіслаў [Антонавіч].** XIX:5
У 1820 г. – памешчык Слуцкага пав. Шляхціц герба «Любіч». У 1821 г. – суддзя Навагрудскага межавага апеляцыйнага суда.
Жонка: А.Быстра, кашталянка Брэст-Літоўская (1790 г.).
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. X1, s. 210; Серков, с. 554]

**Мадзалеўскі Фердынант.** XIX:2
У 1820 г. быў на прыватнай службе.
[Серков, с. 555; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Мадоўскі Ігнацы.** XIX:2
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Маеўскі Францішак Станіслававіч.** XIX:5, XIX:6 (1781 ці 1783, в. Каскі Мінскай губ. – пасля 1837, Славута)
З 1806 г. у ВП, ваяваў у Іспаніі і Партугаліі ў радах дабраахвотнай гвардыі. У Францыі (Седан) яго прынялі ў таварыства, атрымаў тры першыя ступені. У 05.1811 г. трапіў у палон англічанам пад Альбора ў Партугаліі. Яго завезлі ў графства Самерсет у Англіі, дзе быў у французскай масонскай ложы. Калі перавезлі ў Шатлан-

дыю, уступіў у масонскую ложу шатландскіх ступеняў і атрымаў ступень Ружовага Крыжа і права самому надаваць масонскія ступені. Ад капітулы Эдынбургскай атрымаў дазвол даваць вышэйшыя ступені і ствараць новыя масонскія ложы. У 1817 г. вярнуўся на радзіму і ўступіў у ВП паручнікам 4-га палка ўланаў. На сейме 1820 г. выступіў з апазіцыяй Аляксандру I і ўраду. У 1824 г. – капітан 1-га палка ўланаў. Адзін з заснавальнікаў Таварыства Тампліераў (1919), напісаў яго Статут, увёў 4-ю ступень, якая накладвала абавязак «несці дапамогу кожнаму народу, які хоча адшукаць сваю вольнасць». Выступіў супраць злучэння з польскім Патрыятычным таварыствам. Арыштаваны ў 1826 г., змешчаны ў кармяліцкія муры ў Варшаве. Сеймавым судом прыгавораны да трох месяцаў турмы, па загаду Канстанціна Паўлавіча вывезены ў С.-Пецербург, дзе з 07.1828 знаходзіўся адзін год у Петрапаўлаўскай крэпасці. Пасля вызвалення быў уключаны ў Каўказскі корпус, дзе пасябраваў з Раманам Сангушкам. У 1836 г. дэмабілізаваны з правам вяртання на радзіму. Пасяліўся ва ўладаннях Сангушкі, Славуце, як домаўласнік. Відаць, пад выглядам продажу коней некалькі разоў быў на Каўказе, перавозіў Сангушцы ад бацькоў лісты.

Бацькі: Станіслаў і Барбара з Жабінскіх.

[Серков, с. 506; PSB, t. 19, s. 178-179; Sliwowska. Zeslancy, s. 359-360; Zalkski. O masonii, cz. 2, s. 211]

**Майне Піліп.** XIX:1
Жыхар Гродна.
[Гардзееў. З гісторыі, с. 98]

**Малаткоўскі.** XIX:5
Служачы ў ложы.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Малеўскі Антоні Якаўлевіч.** XIX:4 (каля 1783 – ?)

З 16.10.1802 г. па 03.02.1803 г. выконваў абавязкі адваката ў Гродзенскіх прысутных месцах, з 03.02.1803 г. – дэкрэтавы рэгент Гродзенскага земскага суда, з 11.04.1806 г. па 09.12.1816 г. – дэкрэтавы рэгент Гродзенскай палаты грамадзянскага суда. 31.12.1810 г. атрымаў чын калежскага сакратара, з 14.12.1816 г. прызначаны дэкрэтавым рэгентам Радзівілаўскай камісіі (у 1820 г. яшчэ быў у ёй). 03.03.1834 г. па дваранскіх выбарах выбраны ад Трокскага пав. дэпутатам у Віленскі дваранскі сход. У 1837 г. – калежскі рэгістратар. Прадстаўлены на атрыманне знака адзнакі «беспорочной службы». Меў два пахвальныя лісты ад Гродзенскага галоўнага суда 2-га дэ-

партамента: 19.12.1808 г. і 19.12.1811 г. «об отличной способности и оказанном усердии в выполнении обязанностей» дэкрэтавага рэгента ў гэтым судзе.

Жонка: Варвара з Казакевічаў.

Дзеці: сыны Аляксандр-Уладзіслаў-Венедыкт (у 1837 г. было 17 гадоў) і Чэслаў-Казімір-Рамуальд (15 год), якія вучыліся ў Віленскай медыцынска-хірургічнай акадэміі; Франц-Вітольд (11 год), дачкі: Альбіна-Якова (3 гады); Зоф'я (6 гадоў); Ядзвіга (4 гады); Караліна (2 гады), усе знаходзяцца пры бацьках. Шляхта герба «Ястршэнбец».

[НГАЛ, ф. 459, воп. 2, спр. 1891, а. 65–68, 76, 136; Серков, с. 514; Гардзееў. З гісторыі, с. 98; Uruski, t. X, s. 149]

**Маліноўскі Юліян.** XIX:7

Шляхціц герба «Слепаврон». У 1788 г. – падчашы афіцыйны. Прафесар Віцнеўскай школы, памешчык Бабруйскага пав.

[Niesiecki, t. VI, s. 328]

**Мамярзускі Т.** XIX:7

Доктар медыцыны.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Мантэнмэер Франц.** XIX:6 (памёр каля 1820-1821).

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Манціграды Людвіг.** XIX:2

Капітан войскаў французскіх (верагодна, з напалеонаўскай арміі 1812 г.), у 1830-я – прафесар мінскай гімназіі.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Манюшка Дамінік Станіслававіч.** XIX:2, XIX:3, XIX:6 (06.07.1787 ці 1788 – 26.09 ці 28.10.1848, Мінск)

Вучыўся ў Віленскім ун-це, быў сябрам Таварыства шубраўцаў. Скончыў ун-т са ступенню доктара права. У 1812 г. уступіў у 3-ці полк стральцоў конных ВП, дэмабілізаваўся ў 1816 г. у чыне маёра і пасяліўся ў маёнтку Радкаўшчызна. У гэты час актыўна дзейнічаў як распаўсюджвальнік асветы сярод сялян Мінскай губ. Падзяліў свой маёнтак па колькасці сялян і кожнага надзяліў асобным фальваркам з лугам і лесам. Са свайго кавалка зямлі браў невялікі чынш, які траціў на асвету. У 1820 г. – падкаморы Ігуменскага пав. У 1824 г. заснаваў дзве парафіяльныя школы: дзяўчатам з інтэрнатам у Пацэчолі, хлопцам (два аддзяленні – пачатковае і вышэйшае)



Дамінік Манюшка

у Радкаўшчызне Ігуменскага пав. (25.10). Вучыліся па метадах Песталоцці і Ланкастара на працягу двух гадоў у зімовыя месяцы. Былі бібліятэкі, дапаможныя кабінеты, агароды з гароднінай і фруктамі, плантацыя лекавых раслін, аптэка, амбулаторыя, невялікі шпіталь. Выкладаліся агульныя і, галоўным чынам, практычныя сельскагаспадарчыя прадметы (для практыкі прывезлі інструменты з Варшаўскай фабрыкі Эванса), а таксама медыцына, гігіена, ветэрынарыя. Вучылі рэлігіі, чытаць па-славянску, рускай і польскай мовам, каліграфіі, малюнкам, ахове здароўя. Згодна з рапартам візітатара вучылішчаў Мінскай губ. прафесара Беркмана ад 31.05.1826 г. у школах было 46 вучняў, якія ўтрымоўваліся за кошт М., ёсць дом для вучняў, цёплы і светлы, навучыцель Фр.Хмялеўскі добры, а М. заслугоўвае падзякі ад універсітэцкага кіравання. У 1826 г., калі пасланнік вял. кн. Канстанціна Байкаў прыехаў разабрацца з тым, што робяць былыя масонскія ложы, прасіў яго быць у гэтай справе прыстойным. У 1829 г. школа, па словах апекуна Віленскай навучальнай акругі, была «в самом лучшем состоянии». Міністру асветы ён прапанаваў вопыт працы школы распаўсюдзіць. Міністр прасіў апекуна лістом ад 11.03.1830 г. выказаць настаўнікам і Манюшку падзяку ад Міністэрства. Нягледзячы на добры водгук візітатара ген. Страганава, школу хлопцаў зачынілі ў 1838 г., а жаночая існавала да 1853 г. Памёр ад халеры, пахавалі на могілках у Камароўцы. На помніку выхаванцы М. паклалі камень з надпісам «Ад верных падданых сялян» (на польскай мове). Па тэстаменту М. яго зямля перадавалася сялянам, але дзяржава не дала на гэта дазволу.

Бацькі: вайсковы суддзя ВКЛ Станіслаў (1734–1807) і Ева з Вайніловічаў.

Браты: Юзэф (гл.), Казімір (гл.), Ігнацы (1787–1869); Аляксандр (1801–1836), камер-юнкер.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 2494, а. 3, 3 адв., 4 адв., 5, 6 адв.; Прокошина. Очерк, с. 163-164; Серков, с. 557; PSB, t. 22, c. 654; Beauvous, t. II, s. 389-390; Bielicski, t. III, s. 452-453; Olgebrand, t. X, s. 269; Encykiopedyja powszechna, t. 18, s. 793; WEPL, ser. 1, s. 382]

**Манюшка Казімір Станіслававіч.** XIX:2 (1795 – 21.02.1836)

Вучыўся ў Віленскай гімназіі, паступіў у Віленскі універсітэт (16.09.1810). Быў сябрам Таварыства шубраўцаў (мянушка Балдэр). Атрымаў ступень кандыдата праў (25.06.1811), магістра (30.03.1814), доктара абодвух праў (15.08.1817). У 1822–1825 г. – прысяжны Беластоцкага земскага суда. 01.12.1823 г. выбраны ганаровым сябрам Віленскага універсітэта. У 1824 г. займаў пасаду генеральнага візітатара вучылішчаў Валынскай і Падольскай губ., акрамя таго, прызначаўся па асаблівых даручэннях па ВНА. Адчыніў сваю школу. У снежні 1829 Навасільцаў зрабіў у ёй рэвізію і данёс міністру адукацыі, што яна яму спадабалася, але ён не ведае, што рабіць. Той адказаў, што такія школы трэба развіваць і прасіў перадаць М. падзяку. З фармулярнага спіса 1829 г.: наглядальнік вучы-лішчаў Ігуменскага пав., сябра судовай Эдукацыйнай Літоўска-Віленскай камісіі, узрост 34 гады, радавы маёнтак Смілавічы ў Ігуменскім пав. Мінскай губ. (46 душ м. п.). Надворны дарадца 23.01.1836 г. падаў прашэнне аб звальненні з пасады ганаровага наглядальніка вучылішчаў Ігуменскага пав. (жыў у Ігумене, дом № 27) у сувязі з неабходнасцю выехаць з губ. на працяглы час па асабістых справах. Але, відаць, не паспелі звольніць, бо 21.02.1836 г. памёр ад чахоткі ў маёнтку свайго брата Дамініка ў Радкаўшчызне.

Творы: Rzut oka na pocz№tek upowszechnienie prawa rzymskiego nie z krotkim rozbiorem nowego wydania zasad prawa cywilnego, napisanych przez Heynekciusza z wiadomoњci№ o zyciu tego autora» (Вільна,1816); публікаваўся таксама ў III т. «Dziennika Wielenskiego» за 1816 г.

Бацькі: вайсковы суддзя ВКЛ Станіслаў (1734–1807) і Ева з Вайніловічаў.

Браты: Чэслаў (гл.); Юзэф (гл.); Ігнацы (1787–1869); Дамінік (1788–1848) (гл.); Аляксандр (1801–1836), камер-юнкер.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 2549, а. 2аб-3; спр. 3961, а. 2–2 адв., 6; Серков, с. 557; Bajkow, s. 109; Beauvous, t. II, s. 77, 417; Olgelbrand, t. X, s. 269; Uruski, t. X1, s. 236]

**Манюшка Чэслаў Станіслававіч.** XIX:2, XIX:6 (1790 – 1870)

Удзельнік вайны 1812 г. на баку Напалеона, не вярнуўся з-за мяжы, і таму яго маёнтак у Ігуменскім пав. паводле царскага маніфеста быў канфіскаваны ў казну. У 1820 г. – адстаўны капітан ВП, меў маёнтак Убель у Мінскім пав. Пасля Дамініка быў гаспадаром маёнтка Радкаўшчызна, паставіў яму тут каменны абяліск з надпісам «Заснавальніку агранамічнай школы ў 182... у Радкаўшчызне. Брат Чэслаў Манюшка. 1861 г. чэрвеня 20 дня. Любі Бога і

Бліжняга з цэлага свайго сэрца. Рабі дабро...». Пасля смерці М. маёнтак Пацігола перайшоў праз шлюб Паўліны да роду Ваньковічаў. Умеў маляваць. У кнізе «Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Мінска» (кн. 1, с. 429) змешчаны ягоны малюнак «У мінскім доме Манюшкаў».

Жонка: Альжбета Маджарска (пам. у 1850, пахавана ў Радкаўшчызне).

Дзеці: сын Станіслаў (1819–1872), выдатны кампазітар; дачкі Марыяна за Корсакам, Міхаліна за Ваньковічам.

Бацькі: вайсковы суддзя ВКЛ Станіслаў (1734–1807) і Ева з Вайніловічаў.

Браты: Юзэф (гл.), Казімір (гл.), Ігнацы (1787–1869), Дамінік (1788–1848) (гл.), Аляксандр (1801–1836), камер-юнкер.

[Гатальскі, с. 50–52; Нарбут. Генеалогия, вып. 4, с. 61; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. XI, s. 236]

**Манюшка Юзэф Станіслававіч.** XIX:2 (1789 – 1840)

У 1820 г. – барысаўскі харунжы. Лічыўся ў акрузе «вольнадумцам», на любіцельскія спектаклі запрашаў не толькі памешчыкаў, але і сялян; сядзеў са сваімі падданымі за адным сталом, спяваў беларускія песні.

Бацькі: вайсковы суддзя ВКЛ Станіслаў (1734–1807) і Ева з Вайніловічаў.

Браты: Казімір (гл.); Ігнацы (1787–1869); Дамінік (1788–1848) (гл.); Аляксандр (1801–1836), камер-юнкер.

[Нарбут. Генеалогия, с. 61; Прокошина. Очерк свободомыслия, с. 163; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Бараўскі Караль Ігнатавіч.** XIX:3, XIX:5, XIX:6 (1767–18.10 1841, Завуш).

Генерал-маёр, шамбелян яго Імператарскай Вялікасці. Палкоўнік літоўскіх войск, генерал-маёр у адстаўцы (1791 г.), генерал у расійскай і французскай арміях. У маладосці вучыўся ў Вільні. Вярнуўся і ўступіў у войска літоўскае. У маі 1789 г. маёрам, потым – палкоўнікам і ўзначаліў 2-гі літоўскі полк у Гродне. У 1792 г. ваяваў пад Мірам і Брэстам, атрымаў ордэн Віртуці Мілітары. Выйшаў у адстаўку, калі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі далучыўся да Таргавіцкай канфедэрацыі, у 1793 належаў да тайнага літоўскага таварыства. Касцюшка даверыў яму пасля Ясінскага арганізацыю паўстання ў Літве і надаў яму чын генерал-маёра. Па дарозе з паперамі (лісты Касцюшкі да генерала літоўскай артылерыі Ф.Сапегі, да шэфа 6-й літоўскай дывізіі К.-Ф.Несялоўскага, да шэфа 5-й літоў-

скай дывізіі П.Грабоўскага, да шэфа 2-й літоўскай дывізіі К.Курнатоўскага) Мараўскі быў затрыманы рускімі ў Брэсце, прыгавораны да ссылкі ў Сібір і да канфіскацыі маёнтка. У Сібіры прабыў з 1794 па 07.06.1797 г. Быў вызвалены Паўлам І, які надаў яму чын генерал-маёра рускай службы, прыдворны чын шамбеляна. Відаць, давяраў яму, бо па прапанове М. браў ліцвінаў на грамадзянскую службу. Пасля стварэння Варшаўскага княства М. жыў у Заўшы каля Нясвіжа і падтрымоўваў кантакты з Варшавай. Верагодна, вёў шпіёнскую дзейнасць на карысць Напалеона. У красавіку ці маі 1812 г. збег у Княства Варшаўскае. Пад час вайны 1812 г. служыў у чыне генерала брыгады пры галоўнай кватэры Напалеона. Пасля вайны вярнуўся на Беларусь. Прыняў актыўны ўдзел у дзейнасці масонскіх ложаў, у тым ліку правінцыяльнай літоўскай ложы «Дасканалая еднасць», «Школа Сакрата», Таварыства тампліераў. Партрэт М. быў змешчаны 30.07.1817 г. на сцяне памяшкання нясвіжскай ложы «Шчаслівага вызвалення». У 1820 шамбелян яго Імператарскай Вялікасці. У 1822 г. ахвяраваў губернатаршы Антаніне Сулістроўскай на кракаўскі помнік Касцюшку 5 дукатаў. Габрыела Пузыня піша, што ў 1825 г. М. з жонкай і дзецьмі жыў летам у Пулавах, дзе ў гэты час жылі сем’і Платэраў, Эма Патоцкая, нявестка апошняга польскага караля. Да сакавіка 1830 г. быў пад наглядам паліцыі. Памёр у Завушы, пахаваны ў Душкаве каля Мінска.

Узнагароды: ордэны Святога Станіслава і Залатога Льва Баварскага.

Бацькі: Ігнацы, генерал-лейтэнант літоўскіх войскаў, вайсковы пісар, маці Тэафілія з Радзівілаў.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 98; Lista imenna, s. 175; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; PSB, t. 21, s. 729-730; Puzynina G. W Wilnie, s. 84; Szyndler. Tadeusz, s. 205]

**Мараўскі Карл Дзям’янавіч.** XIX:1

Палкоўнік літоўскіх войскаў, генерал-маёр пад час паўстання 1794 г. У 1812 г. – генерал брыгады галоўнага штаба Напалеона. Каралеўскі шамбелян, камердзінер. У 1818–1820 г. – прыдворны ЯІВ, ген.-маёр былых польскіх войскаў. У 1821-1822 г. – прысяжны 1-га дэпартамента Віленскага галоўнага суда. Сябра Нацыянальнага масонства, польскага Патрыятычнага таварыства.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 98; Серков, с. 557; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Марачэўскі Казімір Мацеевіч.** XIX:1

У 1806 г. – пружанскі гродскі суддзя. У 1809 г. – асэсар 2-га дэпартамента Гродзенскага галоўнага суда. У 1811 г. – пружанскі

межавы суддзя. У 1814 г. – пружанскі межавы суддзя і маршалак. У 1821 г. – пружанскі павятовы маршалак шляхты.

Бацька: Мацей Казіміравіч, ротмістр Янычарскай харугвы войск ВКЛ, суддзя гродскі лідскі (1791). Маці: Ганна з Асоўскіх.

Жонка: Кацярына з Мальскіх.

Дзеці: сыны Генрык; Юліян (нар. у 1824), меў маёнтак Орхава ў Познанскім в-ве; Северын, меў маёнткі Воля Корбутава ў Люблінскім в-ве, Старая і Новая Купліна ў Пружанскім пав. Усе запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ.

Брат: Тэафіл (гл.).

[Гардзееў. З гісторыі, с. 98; Серков, с. 557; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. XI, s. 249]

**Марачэўскі Тэафіл Мацеевіч.** XIX:1 (25.02.1790 Уніхоўшчызна, Лідскі пав. Гродзен. губ. – 30.05.1835, Варшава)

Скончыў піярскую школу ў Шчучыне, потым Віленскі універсітэт. У 1812 г. – паручнік 19-га уланскага палка, 17-га пех. палка літоўска-беларускіх войскаў, у 13-ым корпусе французскай арміі. Адзначыўся 08.12.1813 г. у бітве пад Борнхестам, 10.12.1813 – пад Зеештадтам у Даніі. Прадстаўлены да крыжа Дацкага і французскага крыжа Ганаровай Лігі. За ўдзел у вайне супраць Расіі на баку Напалеона маёнтак Уніхоўшчызна (73 душ м. п.) трапіў пад канфіскацыю. У 1815 г. дэмабілізаваўся. У пасведчанні, якое далі М. афіцэры 17-ага п. ул., было напісана, што ён адзначаўся добрым характарам, добрай службай, мужнасцю і адвагай на працягу трох гадоў (Ловіч, 20.02.1815). Жыў з сям'ёю і працаваў на гаспадарцы і грамадскіх пасадах. У 1819 г. – асэсар Гродзенскага галоўнага суда. У 1821 г. у адстаўцы. Падкаморы Лідскага пав. (1830). Хварэў, прыехаў у Варшаву, дзе памёр і пахаваны на могілках Павонзкаўскіх.

Брат: Казімір (гл.).

Жонка: Паўліна з Сангайлаў. Дачкі: Стэфанія Сумарокава, Канстанцыя Нарбут.

Дзеці: сыны Юзэф (нар. у 1916), маршалак шляхты Лідскага пав.; Люцыян, афіцэр расійскай арміі; Адам (нар. у 1828), уладальнік Андрушаўцы. Усе запісаны ў дваранскія кнігі Гродзенскай губ.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 99; Именной список...1813, с. 366 адв.; Серков, с. 557; Uruski, t. XII, s. 250; Wyjcicki, s. 161-162]

**Маркевіч Матэвуш Яцакавіч.** XIX:4, XIX:6

У 1819-1820 г. – падкаморы Навагрудскага пав.

Бацька: Яцак, стараста пружанскі (1751).

Браты: Казімір, харунжы войск літоўскіх, уладальнік маёнтка Моснеж; Ануфры, войскі галіцкі; Ян. Прызнаныя ў дваранстве 21(13).12.1798.

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 77; Серков, с. 521]

**Маркевіч Францішак Пятровіч.** XIX:7

У 1822 г. – былы паручнік Татарскага ўланскага п. 14.09.1822 г. даў падпіску аб непрыналежнасці да масонскіх ложаў і патаемных таварыстваў. У гэты час быў у Гродзенскім ардананс-гаузе аўдытарам 10-га кл.

[НГАЛ, ф. 378, 1821, спр. 338, а. 99; Серков, с. 521]

**Маркевіч Ян Ануфрыевіч.** XIX:4 (нар. у 1795)

Памешчык. Рэгент Галоўнай семінарыі ў 1829–1833 г. Інспектар духоўнай Віленскай акадэміі ў 1833–1839 г.

Бацька: Ануфры, войскі галіцкі. Магчыма, што гэта ён быў аўтарам артыкула «Аб удасканальванні прыроды ў стварэнні чалавека» («Віленскі дзённік», 1806), у якім выказваў ідэі эвалюцыянізму, матэрыялізму ў антрапагенезе, антрапалагічнага гуманізму.

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 77; Очерки истории философской и социологической мысли, с. 236; Серков, с. 522; Janowski. Siownik, s. 271]

**Маркіяновіч Міхал Тамашавіч (Фаміч).** XIX:1

Доктар права. У 1819 г. – старшы перакладчык рэдакцыі ваенных ведамасцей, служыў пад кіраўніцтвам П.П.Паміяж-Пезаровіса. У 1822 г. – калежскі сакратар цэнзурнага камітэта пры асабістай канцылярыі Міністэрства ўнутраных справаў. Рэдактар часопісу «Рускі інвалід».

Брат: Юзэф (гл.)

[Гардзееў. З гісторыі, с. 99; Серков, с. 522]

**Маркіяновіч Юзэф Тамашавіч (Фаміч).** XIX:1

З ліку дваран. Старшыня Літоўскай метрыкі (архіву) у С.-Пецярбурзе.

Брат: Міхал (гл.).

[Гардзееў. З гісторыі, с. 99; Серков, с. 522]

**Марцінкевіч Алэн.** XIX:7

Ксёндз, плебан уздзенскі Ігуменскага пав. Шляхціц герба «Лебедзь».

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 77; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Марцыноўскі Антоні Янавіч.** XIX:2 (10.07.1781, Радашковічы Мінскай губ. – 03.01.1855, Вільня)

У 1820 г. – вілейскі межавы адвакат. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Мінску. У канцы 1807 г. скончыў Віленскі ун-т, дзе быў адным з арганізатараў і сябрам Таварыства шубраўцаў (мянушка Патэла). У 1807 г. адчыніў у Вільні друкарню. Быў сакратаром візітараў школаў на Беларусі і Літве. У 1812 г. – сакратар Камісіі Часовага ўрада ВКЛ. Потым прыватны настаўнік у Вільні. Сакратар Віленскага аддзела Расійскага Біблейскага т-ва (1816). Адзін з першых, хто цікавіўся ў Польшчы педагагічнымі метадамі І.Ю.Ланкастара і І.Песталоцці. Перакладаў і пісаў працы па педагогіцы, сельскай гаспадарцы, тэхналогіі. Быў сябрам таварыства падтрымкі бедных вучняў (напісаў яго статут). З 30.02.1818 г. да канца 1839 г. друкаваў і рэдагаваў газету «Kurier Litowski», якая з 1831 г. набыла характар афіцыйны (з 1840 г. змяніла назву на «Kurier Wilecski»). У 1818–1830 г. М. рэдагаваў і друкаваў «Dziennik Wilecski». У яго друкарні апублікаваны «Статут ВКЛ» (1819), «Байкі і расказы» І.Красіцкага (1820), «Паэзія» Ф.Р.Князніна (1820 г.). Яго накладам (грашыма) і друкам выходзілі універсальныя падручнікі (напрыклад, табліцы для навучання па метаду Ланкастара), літаратурныя творы, папулярныя сельскагаспадарчыя кніжкі, навучальныя працы І.Даніловіча, Т.Корбута і інш. Надзвычай працавіты, дзейны, прадпрымальніцкі. Добра ведаў гісторыю свайго краю, меў уплыў на розныя справы дабрачыннасці (ахвяраваў, напрыклад, 14,21 злотых на будаўніцтва кракаўскага помніка Касцюшку) і навуковыя, апякаў здольную моладзь. 15.04.1824, пад час следства над філаматамі і філарэтамі, узяў на паручыцельства Э.Асташэўскага, а пазней А.Дудзіна. М. стаў узорам новага тыпу патрыёта Беларусі (будучы палякам, любіць Беларусь, а будучы беларусам, любіць Польшчу). У канцы жыцця страціў зрок. Пахаваны на могілках Роса ў Вільні.

Творы: у 1817 г. у «Ведамасцях бруковых» апублікаваў актуальны сатырычны артыкул «Машына для біцця сялян» (на польскай мове); пакінуў у рукапісу «Успаміны» і працу «Думкі пра збіранне матэрыялаў і напісання гісторыі касцёлаў і кляштараў» (на пол. мове).

Сын: Дамінік (памёр у 1856 г.)

Бацька: Ян, уніяцкі капелан.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 1341, а. 40, 41 адв.; спр. 3427, а. 2; Серков, с. 525; Bielicski, t. III, s. 441-442; Encykiopedyja powszechna, t. 17, s. 976; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Olgelbrand, t. IX, s. 615-616; WEPI, t. V, s. 433-434]

**Масыні Аўгуст.** XIX:2
Жыхар. Выхадзец з Францыі.
[Серков, с. 528]

**Матушэвіч Міхал.** XIX:2
На прыватнай службе. Магчыма, кіраўнік паўстанцкага аддзела ў Ашмянскім пав. у 1831 г. Быў высланы ў Сібірскія батальёны, памёр у Кірэнску над Ленай.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Sliwowska. Zeslancy, s. 374]

**Мацкевіч Ежы.** XIX:5
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Мацкевіч Міхал Крыштафавіч.** XIX:1, XIX:3, XIX:4, XIX:5, XIX:6
У 1810 г. – харунжы. У 1818 г. – віцэ-маршалак, у 1819 г. – маршалак шляхты Наваградскага пав. З 1820 г. у адстаўцы, памешчык. Шляхціц герба «Ястржэмбец». Магчыма, паэт і публіцыст.
Бацька: Крыштаф, капітан войскаў літоўскіх, палкоўнік Мінскага ваяводства, дэпутат Галоўнага трыбунала ВКЛ (1787). Маці: Р.Шкультэцкая, дачка аршанскага гараднічага.
Браты: Тамаш, маёр войск літоўскіх; Аляксандр; Ян, харунжы ВКЛ; Міхал, шамбелян Двара польскага, ротмістр Мінскага ваяводства, суддзя вілейскі земскі (1798).
Жонка: першая – С.Прыстаноўская, дачка падкаморнага ЯКВ, сын Крыштаф; другая – Ю.Ратынская, сын Стэфан (гл.). Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.
[Гардзееў. Ю. З гісторыі, с. 99; Мальдзіс. На скрыжаванні, с. 260; Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 79; Серков, с. 531; Uruski, t. X, s. 94]

**Мацкевіч Стэфан Міхайлавіч.** XIX:2
Член польскага Патрыятычнага таварыства і Нацыянальнага масонства. У 1821 г. – суддзя земскага суда ў Свянцянах Літоўска-Віленскай губ.
Бацька: Міхал (гл.).
Жонка: імя і прозвішча невядомы.
Дзеці: сын Зыгмунт запісаны ў дваранскую кнігу Віленскай губ.
[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 79; Серков, с. 531; Uruski, t. X, s. 94]

**Машынскі Феліцыян.** XIX:2
У 1820 г. – ігуменскі земскі падсудак.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Серков, с. 531]

**Медзыхоўскі (Меджыхоўскі) Тамаш.** XIX:5, XIX:6
Шляхціц. У 1799 – камісар Віленскага в-ва. У 1820 г. служыў у пракуратуры. Быў ігуменскім грамадзянскім суддзёй.
[Серков, с. 532; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. XI, s. 4]

**Мержэеўскі Антоні Янавіч.** XIX:1, XIX:6, XIX:7
Шляхціц. У 1809 – дэпутат шляхты Слуцкага пав. У 1813 г. канфіскацыі падлягаў яго маёнтак Дарэў (162 душы м. п.) за ўдзел М. у вайне 1812 г. на баку Напалеона. У 1830 г. – межавы суддзя Слуцкага пав.
Браты: Юзэф; Матэвуш (Мацвей), капітан французскай гвардыі 1-га польскага ўлан. п., жыў у маёнтку Задвея Навагрудскага пав.; Мікалай; Францішак; прызнаныя ў дваранстве 10.(21).1793.
[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 11, спр. 1489, а. 4–6; Именной список, с. 368 адв.; Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 80; Серков, с. 540; Uruski, t. X1, s. 31]

**Мержэеўскі (Мержэйеўскі, Мержыеўскі) Калікстрат (Калікст) Юзэфавіч.** XIX:1, XIX:6
Пад час вайны 1812 г. 03.07 быў абраны дэлегатам на Генеральную Канфедэрацыю Каралеўства Польскага ад Брэсцкага пав. У 1817 – маршалак шляхты Брэст-Літоўскага пав. У 1818-1819 г. – гродзенскі губернскі маршалак, памешчык Брэсцкага і Пружанскага паветаў і Каралеўства Польскага. Дэпутат (пасол) сеймаў 1820 і 1830 г. «Быў у сяброўстве і сакрэтных зносінах з бунтаўшчыком маршалкам шляхты Брэсцкага пав. Карлам Нямцэвічам наконт арганізацыі мецяжу», – гаварылася ў дакументах следства пасля паўстання 1830-1831 г.
[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 27, спр. 64, а. 218; Гардзееў. З гісторыі, с. 99; Ерашэвіч, с. 207; Серков, с. 540; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Uruski, t. XI, s. 31]

**Мержэеўскі Міхал.** XIX:5
У 1820 г. – памешчык Слуцкага пав., дзедзіч маёнтка Астраўкі. Прызнаны ў дваранстве 10(21).1798.
Брат дваюродны: Антоні Мержэеўскі (гл.)
[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 80; Серков, с. 540; Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Мержэеўскі Фелікс Янавіч.** XIX:1 (нар. каля 1788).

У 1814 г. – на пасадзе сакратара, у 1819–1822 г. – сакратар цэнзурнага камітэта пры праўленні Віленскага ун-та, сакратар рады універсітэта, тытулярны дарадца. Сябра Таварыства шубраўцаў (мянушка Антрымпас). Пад час следства над філарэтамі і філаматамі быў дзейным супрацоўнікам Навасільцава. Пазней паралізаваны, памёр у адзіноце.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 99; Серков, с. 540; Моњжіскі. Wilno i W-wa, s. 51; Wiadomosci Brukowe, s. XLVI]

**Міладоўскі Раман.** XIX:2

Памешчык у 1820.

[Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Мірскі Станіслаў.** XIX:5 (у 1820 г. – 46 гадоў)

Капітан былога ВП. Пад час паўстання 1794 г. – сябра Найвышэйшай (Літоўскай) рады, дзе ўваходзіў у дэпутацыю Публічнай бяспекі. Пазней быў сябрам Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ. Літоўскі пісар. Маёнтак Манковічы ў Дзісненскім пав. (92 душы) канфіскаваны.

[Анішчанка. Статут, с. 223; Емяльянчык. Паланэз, с. 54; Радзюк А.Р. Канфіскацыя прыватнай уласнасці на Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.: Дысертацыя... – Мінск, 2006. – С. 43]

**Мірскі Ян.** XIX:2

Падкаморы браслаўскі, канфедэрат барскі. У 1821 г. – дэпутат Дзісенскага пав.

[Konopczycski, s. 436; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Мітарноўскі (Міцерноўскі) Антоні.** XIX:5, XIX:6

Шляхціц. У 1820 г. – былы паручнік ВП.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Мітарноўскі (Міцярноўскі) Ксаверы.** XIX:5

У 1818–1820 г. – земскі суддзя Навагрудскага пав. 15.08.1820 разам з А.Міцкевічам, Т.Занам, М.Верашчака (гл.), В.Путкамерам прысутнічаў на імянінах Марылі Верашчака ў Тугановічах.

Дзеці: сын Казімір, пацверджаны ў дваранстве РІ і запісаны ў дваранскую кнігу Гродзенскай губ. у 1858 г. У Беластоцкім пав. яму належалі частка маёнтка Хабаткі і 1/5 частка маёнтка Трырэчча, канфіскаваныя пасля паўстання 1863 г.

[Серков, с. 549; Podhorski. Realia, s. 325, 401; Uruski, t. XI, s. 134]

**Мітарноўскі Юзэф.** XIX:3, XIX:5, XIX:6

У 1818–1820 г. – навагрудскі межавы суддзя. Оберштэрлейтэнант войскаў каронных 1793 г.

[Серков с. 549; Uruski, t. XI, s. 134]

**Міхаеліс Ян (Ёган) Г (С).** XIX:1

Мешчанін. Гродзенскі злотнік. У кнізе гродзенскай золататкацкай мануфактуры за 1798 г. напісана, што ён жыхар Горадзена, заплаціў у Міністэрства падатак у суме 18 руб. (ці 120 зл.). У 1809 у віленскім цэху быў ягоны вучань Якуб Прэзіга, у 1811 і 1814 – вучні А.Палюта і В.Скарупка, сам М. жыў у Горадзене (Гродна).

[Серков, с. 552; Гардзееў. З гісторыі, с. 99; Vilniaus klasicizmas, s. 339]

**фон Міхельсан Берэнс Рэйнальд (Бернард Міхайлавіч).** XIX:1, XIX:6 (каля 1759 г. – ?)

Паходзіў з яўрэйскай купецкай сям'і. Па некаторых дадзеных, пачынаў вывучаць медыцыну ў Гродзенскай лекарскай школе (медыцынскай акадэміі). У 1785 г. скончыў медыцынскі факультэт Віленскай акадэміі. У 1786 г. абараніў доктарскую працу ў Крулёўцу (Кёнігсберг, Калінінград). У 1786 г. – доктар Берасцейскага пав., сябра віленскай медыцынскай управы. За выдатную вольную практыку Станіслаў Аўгуст надаў яму ў 1789 г. тытул надворнага дарадцы. У 1791 меў медыцынскую практыку ў Гродне. Ёсць у спісе жыхароў Гродна 1794 г., меў маёнтак (Vel Beer Michelowicz). З 1799 г. у Мінску быў аператарам, затым урачэбным інспектарам. Прымаў удзел у кампаніі генерала Нунсена і М.І.Кутузава. У 1808 г. – заснавальнік вайсковых шпіталяў у Мінску і іншых гарадах. У 1811 г. пераведзены ў Гродна ўрачэбным інспектарам урачэбнай управы губернскага праўлення. У 1821 г. – сябра Віленскай акадэміі, старшы інспектар Гродзенскай урачэбнай управы. За парушэнні па службе быў звольнены з пасады.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 99; Серков, с. 553; Grodno w XVIII w., s. 73]

**Міхлінскі Ігнацы.** XIX:5

Шляхціц. Жыхар Навагрудскага пав.

[Серков, с. 553]

**Міцкевіч Ігнацы.** XIX:5

Нейкі М.І. быў пісьменнікам, аўтарам кнігі «Авантура кавалера па прозвішчу Фартунат, асобы нешчаслівай» (Гродна, 1762 г.).

[Мальдзіс А. На скрыжаванні, с. 242-243]

**Мусін-Пушкін Брус Базыль.** XIX:1
Расійскі тайны дарадца.
[Гардзееў. З гісторыі, с. 99]

**Мухлінскі Ігнацы.** XIX1, XIX:3, XIX:5, XIX:6
Памешчык Наваградскага пав. у 1820.
[Серков, с. 569; Гардзееў. З гісторыі, с. 99]

**Мухлінскі (Мухліньскі) Феліцыян (Фелікс).** XIX:5, XIX:6 (у 1820 г. было 29 гадоў)
Адстаўны паручнік ВП у 1820.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Мэйнэ Піліп.** XIX:1
Жыхар Гродна.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Мюнц Ян Х.** XVIII:1, XVIII:5
Французскі маёр на польскай службе. Пабудаваў Станіславу Аўгусту Панятоўскаму ў Корсуні (цяпер Канюв) у 1783 драўляны дом на востраве Рось і зрабіў аранжарэю, залажыў вінаграднік і плантацыю тутавых дрэваў. У кабінеце малюнкаў Варшаўскага універсітэта знаходзіцца праект палаца для караля і альбом вандроўкі М. са Станіславам Аўгустам. Праўдападобна, служыў у А.Тызенгаўза ў Гродне.
[Koscialkowski, t. 1, s. 497; Joza, s. 210]

## Н

**Навакоўскі Тадэвуш.** XIX:7
Былы суддзя 1-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда, мазырскі памешчык.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Навіцкі Банавентура.** XIX:2, XIX:3, XIX:5, XIX:6
Шляхціц. У 1820 г. – былы капітан ВП. Памешчык Слуцкага пав.
[Серков, с. 595; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Навіцкі Тыматэвуш.** XIX:5, XIX:6
Шляхціц. У 1820 – землямер Ігуменскага пав., межавы суддзя Бабруйскага пав.

Дзеці: сын Напалеон, філамат і філарэт, па просьбе бацькі быў вызвалены з-пад следства; удзельнік паўстання 1831 г. – сувязны паміж Літвой і КП; у 1833 – эмісар Ю.Заліўскага на Жмудзі, за-

тым – сябра тайнага таварыства ў Галіцыі, у 1835 стварыў базу Ш.Конарскага на Навагрудчыне; у 1838 г. арыштаваны і высланы ў Сібір на 20 гадоў. У 1863 г. быў памочнікам начальніка паўстання ў Ковенскім пав.

[Серков, с. 595; Maiachowski-Jempicki S. Wykaz; Sliwowska. Zeslancy, s. 421-422]

**Нарвойш Францішак (Франц) Ксаверы Мілікант Міхайлавіч.** XVIII:1 (15.1.1742, Вілкамірскі пав. Ковенская губ. – 26.6.1819, Вільна).

У васьмігадовым узросце паступіў у ніжэйшае езуіцкае вучылішча. Вучыўся ў езуіцкай калегіі ў Шэнбергу (Францыя), уступіў у Ордэн езуітаў 16.12.1756. Пасля закрыцця ордэна разам з іншымі выгнанцамі прыехаў у ВКЛ і жыў у Вільні. Вучыўся ў вядомых ксяндзоў-вучоных Расіньеля і Флэры. Атрымаў ступень доктара вольных навук, філасофіі і тэалогіі, заняў кафедру вышэйшай матэматыкі ў Віленскай акадэміі, дзе працаваў два гады. У сувязі з непаразуменнем з начальствам быў пазбаўлены кафедры і сасланы ў малодшую школу гродзенскай калегіі, дзе выкладаў паэтыку, у 1769–1772 г. кіраваў працамі па ачышчэнню рэчышча Нёмана, праводзіў астранамічныя доследы і меўся стаць дырэктарам Гродзенскай астранамічнай абсерваторыі. У 1773 г., пасля скасавання езуіцкага ордэна, быў пасланы выкладаць матэматыку ў Нясвіж. Пазней А.Тызенгаўз запрасіў яго ў Гродна і выслаў на пяць год за мяжу (Германію, Галандыю, Англію) для агляда прадпрыемстваў, набыцця астранамічных прыбораў. У 1779 у Лондане стаў масонам. Калі вярнуўся, стаў пробашчам гродзенскім і сабецкім. З 1783 г. па 1819 – прафесар матэматыкі ў Віленскай акадэміі (затым у Віленскім ун-це). У 1783 атрымаў тытул «матэматык ЯКВ». Выкладаў усе часткі вышэйшай матэматыкі. Канонік Віленскага кафедральнага касцёла, а з 1803 – смаленскі канонік. У 1806 г. – канонік Самагіцкай кафедры. У 1806–1814 г. – член Італьянскага навуковага таварыства. У 1814 г. – віленскі канонік, заслужаны прафесар аддзялення фізічных і матэматычных навук Віленскага ун-та, член ад Віленскага капітула ў савеце Галоўнай духоўнай семінарыі ў Вільні. Пахаваны на Бернардынскіх могілках у Вільні.

[РБС, т. Ноаке-Накенский Н.Н., с. 65-66; Серков, с. 574; Balicski. Dawna Academia, s. 259-260, 296, 366; Bielicski, t. III, s. 271–273; Encykiopedyja powszechna, t. 19, s. 225-226; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Насаржэўскі Юліян.** XIX:1
Памешчык Берасцейскага пав.
[Серков, с. 598; Гардзееў. З гісторыі, с. 99]

**Невядомскі Якуб.** XIX:1
Старшыня аддзела Ваеннага міністэрства.
[Серков, с. 580; Гардзееў. З гісторыі, с. 99]

**Незабытоўскі Стэфан (Сцяпан, Эцьен) Янавіч.** XIX:1; XIX:4, XIX:6 (15.12.1783 г., Сваротва – 15.06.1849, Парыж).

Шляхціц. У 1819 г. – падкаморы Навагрудскага пав. У 1820 г. – паручнік польскіх войскаў. Губернскі сакратар. У 1847 г. – маршалак Гродзенскай губ. У 1847–1853 г. – прадвадзіцель дваранства Гродзенскай губ. 21.02.1812 г. – падпаручнік 8-га палка ў Княстве Варшаўскім, ваяваў у 1812 г. у арміі Каралеўства Польскага – падпаручнік ва ўзорных уланскіх эскадронах. Пасля дэмабілізацыі жыў у маёнтку Свіслач. Пад час Лістападаўскага паўстання 1830-1831 быў начальнікам паўстання Слонімскага пав., капітанам Навагрудскай кавалерыі і 13-га уланскага палка. Адышоў разам з польскімі рэгулярнымі часцямі на чале з Г.Дэмбінскім да Варшавы, атрымаў дыплом «Добра заслужаны Айчыне», а 15.09.1831 – Залаты крыж пад № 2697. Перайшоў прускую мяжу, дзе 05.10.1831 быў інтэрнаваны. З 1833 г. жыў у Францыі (спачатку ў Мец, са жніўня ў Трыезе, а пазней – у Парыжы), з красавіка 1834 працаваў каміваяжорам. З 1838 г. – сябра Гісторыка-літаратурнага таварыства. 22.05.1841 стаў адным з арганізатараў Таварыства бацькоў польскіх сем'яў у эміграцыі. Пахаваны на могілках Монмартра ў Парыжы.

Бацька: Ян, харунжы літоўскіх войскаў.

Брат: Якуб (гл.).

[БЭФ, т. IV, с. 293; Гардзееў. З гісторыі, с. 99; Серков, с. 581; Швед В.В. Паміж Польшчай і Расіяй, с. 231; Bielecki, oficerow, t. III, s. 202-203; Domejko. Listy, s. 628; Materialy do biografij, s. 308; Zytkowicz. Litwa i Korona, s. 544–546]

**Незабытоўскі Якуб Янавіч.** XIX:4

Прызнаны ў дваранстве 10(21).1798. Гаспадар Свіслачы ў Гродзенскім пав. У 1820 г. – камандзір эскадрону ў польскіх войсках.

Бацька: Ян, харунжы літоўскіх войскаў.

Брат: Стэфан (гл.).

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 83; Малы гербоўнік наваградскай шляхты; Серков, с. 581; Domejko. Listy, s. 628]

**Незабытоўскі Ян Стэфанавіч.** XIX:4
У 1820 г. – былы капітан ВП. Падкаморы навагрудскі.
Бацька: харунжы літоўскіх войскаў, маці з Бялевічаў.
Дзеці: сыны Крыштаф; Якуб (гл.); Стэфан (гл.) – спадчынныя маёнткі Сваротва, Заазер'е, Міратычы, Чомбраў і іншыя ў Навагрaдскім і Слонімскім пав.; дачкі Эльжбета, у шлюбе за К.Валовічам (гл.); Ганна, у шлюбе за Ю.Кашыцам (гл.); Тэадора.
Жонка: Барбара з Завішаў.
[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 83; Серков, с. 581; Domejko. Listy, s. 628; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Нелюбовіч Юзэф.** XIX:1 (нар. каля 1791).
У 1819–1821 г. – скарбнік камітэту грамадскай апекі Гродзенскай губ. У 1822 ахвяраваў губернатаршы Анджэйкавіч 6 злотых 20 грошаў на кракаўскі помнік Касцюшку.
[Серков, с. 584; Lista imenna, s. 144; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Нелюбовіч Ян.** XIX:1 (нар. каля 1793).
У 1819–1821 г. – рэгент Гродзенскага галоўнага суда. У 1822 ахвяраваў губернатаршы Андржэйкавіч 6 злотых 20 грошаў на кракаўскі помнік Касцюшку.
[Lista imenna, s. 144; Серков, с. 584; Гардзееў. З гісторыі, с. 99]

**Непакойчыцкі (Пацэй-Непакойчыцкі.) Адам Варфаламеевіч.** XIX:1, XIX:3, XIX:5, XIX:6, XIX:7
У 1820 – маршалак Слуцкага пав., шамбелян Двара. Царскі чыноўнік Байкоў успамінаў, што калі ён у маі 1826 прыехаў па справах масонскай ложы ў Слуцку, дык Н. вельмі спалохаўся (і нездарма, бо ён быў майстрам ложы).
Жонка: Развадоўская.
Дзеці: сын Артур, генерал ад інфантэрыі, начальнік штаба Паўднёва-Дунайскай арміі пад час руска-турэцкай вайны 1828-1829 г.
[БАНЛ, F 75-134, а. 7; Гардзееў. З гісторыі, с. 99; Памяць. Слуцкі раён, с. 136; Серков, с. 586; Bajkow, s. 110, 249-250]

**Непакойчыцкі Міхал Ігнатавіч.** XIX:5, XIX:7
У 1820 г. – межавы суддзя Слуцкага пав.
[Серков, с. 586; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Нёфель (Нёфэльт) Фрыдэрык.** XIX:1
Фабрыкант.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Нолтэнмэйер Францішак.** XIX:5
У 1820 г. – цукровы заводчык, прэзідэнт г. Нясвіжа.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Норвід (Норвіт) Ян (Жан).** XIX:5
Польскі дваранін, памешчык, мальтыйскі кавалер. Пад час вайны 1812 быў спачатку ў складзе Барысаўскай часовай адміністрацыі (30.06), а потым – сябрам падпрэфектуры Барысаўскага дыстрыкта (пав.). У 1820 – былы прэзідэнт (старшыня) земскага суда Ігуменскага пав.
[Ерашэвіч, с. 148, 155; Серков, с. 597]

**Нямцэвіч (Урсын-Нямцэвіч) Станіслаў Францавіч.** XIX:4 (пам. 1817).
У 1790-1791 г. – суддзя Брэсцкага і Гродзенскага пав. У пачатку і ў канцы 1812 г. удзельнічаў у дастаўцы харчавання расійскай арміі. Пад час акупацыі губерні выехаў з арміяй П.Баграціёна ў Магілёў, а затым – у Кіеў. У лютым 1813 г. вярнуўся ў свой маёнтак. Высачайшым указам ад 20.07.1816 г. – сапраўдны стацкі дарадчык, губернскі маршалак, прызначаны гродзенскім губернатарам (да 22.11.1817). Стварыў Гродзенскае адзяленне Расійскага біблейскага таварыства, аб чым паведаміў князю А.Галіцын 16.04.1817 г. Сам стаў віцэ-старшынёю, ахвяраваў 75 руб. у яго касу. Верагодна, ізноў займаўся пастаўкамі харчавання і фуражу для расійскай арміі, бо на дваранскім сходзе 23.08.1817 г. было вырашана паднесці губернатару падарунак у суме 24 000 руб. (10 кап. за кожную тону сена, пастаўленага арміі) у падзяку за тое, што Камітэт міністраў зацвердзіў аплату за пастаўкі. У рашэнні сходу гаварылася, што Урсын-Нямцэвіч «кіруе даверанай яму губерняй у кожным выпадку справядлівасцю, грамадскім дабром», што «яго выдаткі не адпавядаюць прыбыткам яго маёнткаў». Губернатар адмовіўся ад падарунка: «Пахвальны знак удзячнасці шляхетнага саслоўя, якім я маю гонар кіраваць, і яму ўдзячны. Але служачы цяпер ЯІВ у званні губернатара я не маю права прыняць падарунак». Меў маёнтак Адамкаў у Брэсцкім пав.
Узнагароды: ордэны – Св. Ганны 2-й ст., польскі Св. Станіслава, бронзавы медаль у памяць 100-годдзя Айчыннай вайны 1812 г.
Бацькі: Францішак Нямцэвіч, маці Ганна з Каратынскіх.
[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, спр. 551, а. 251–252; спр. 348, а. 3; ф. 2, воп. 2, спр. 161, а. 66, 86; ф. 1193, воп. 1, спр. 6, а. 7, 16, 28; Полховская. Род, с. 125-126]

**Нямцэвіч (Урсын-Нямцэвіч) Ян.** XIX:1

19.05.1809 г. купіў у Суворавых маёнтак Ключ Чарвачыцкі: 6 вёсак і 857 душ за 128 550 руб. асігнацыямі. Да вайны 1812 г. – брэсцкі маршалак і сябра павятовага камітэта ваенных патрэбаў. У пачатку вайны адышоў з войскам П.Баграціёна, але потым збег і ў Навагрудку далучыўся да Ю.Панятоўскага, якому паведаміў каштоўныя звесткі аб расійскім войску. Жыхары Кобрынскага пав. 08.07 абралі яго дэлегатам на Генеральную Канфедэрацыю Каралеўства Польскага ў Варшаве. Адтуль яго выслалі ў склад адміністрацыйнай камісіі Гродзенскага дэпартамента.

Брат: публіцыст Ю.Урсын-Нямцэвіч. Ян быў выканаўцам яго завяшчання.

Жонка: Тэкля з Выганоўскіх.

Дзеці: сын Караль, у 1830 быў намеснікам маршалка Гродзенскай губ., кіраўніком партызанскага атрада ў Лістападаўскім паўстанні 1830-1831.

[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, спр. 348, а. 3 адв.; Гардзееў. З гісторыі, с. 100; Полховская. Род, с. 124-125; Серков, с. 586; Швед. Паміж Польшчай і Расіяй, с. 319]

## О

**Окунь Каэтан.** XIX:7

Паручнік былога ВП.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Оштарп (Леў) Леан Францавіч.** XIX: 2, XIX: 3, XIX: 6

Маршалак шляхты Мінскай губ. у 1809 г. Пад час вайны 1812 г. (да 15.09) быў прэфектам падпрэфектуры Ігуменскага дыстрыкта (пав.), камандзірам жандармерыі Мінскага дэпартамента. У 1814 г. – маршалак Ігуменскага пав. 21–22.02(07–08.03)1818 выступіў з прамовай на ўрачыстым ушанаванні А.-Т. Касцюшкі ў Мінскім кафедральным касцёле. У 1823–1847 (1846) г. – сапраўдны стацкі дарадца, маршалак дваранства Мінскай губ.

Узнагароды: кавалер ордэна Яна Іерусалімскага.

Бацька: сын шведскага жаўнера, які застаўся жыць у Беларусі, генерал, касір літоўскі, набыў ад Міхала-Казіміра Агінскага маёнтак Дукора. Маці: Л.Іваноўская, старасцянка мінская.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 1342, а. 10, 17; Гатальскі. Масон, с. 50; Ерашэвіч, с. 155, 161; Саітава, с. 3; Серков, с. 619; Uruski, t. XIII, s. 123]

# П

**Палонскі (Палоньскі) Юзэф Сямёнавіч.** XIX:5, XIX:6 (у 1837 г. было 56 гадоў).

Шляхціц. Згодна з фармулярным спісам 1837 г. капіист Гродзенскага магістрата (03.01.1801), потым – 1-га дэпартамента Гродзенскага галоўнага суда (з 01.03.1803), кал. рэгістратар (31.12.1804). Звольнены 18.11.1805 па прашэнню. 08.01.1805 паступіў рэгентам крымінальных і следчых справаў у Пружанскі гродскі суд, адкуль пераведзены ў Кобрынскі гродскі суд (01.03.1809), з якога звольніўся 28.12.1811 г. З 10.01.1812 г. працаваў у Кобрынскім межавым суддзе сакратаром. З 14.12.1816 г. – у Радзівілаўскай камісіі дэкрэтавы рэгент. У 1837 атэставаны «способным и достойным» і прадстаўлены да ўзнагароды знакам «беспорочной службы».

[НГАЛ, ф. 459, воп. 2, спр. 1891, а. 43–46; Серков, с. 654; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Палянскі Васіль Ігнатавіч (Іпацьевіч).** XVIII:2 (1742, Казанская губ. – 1800 ці 1801, Казань)

У 1771 быў адпраўлены на вучобу за мяжу (Швейцарыя, Італія). З канца 1772 пачаў працу сакратаром у Акадэміі мастацтваў. Пазней служыў у Камісіі складання законаў пад кіраўніцтвам князя А.А.Вяземскага. Калежскі асэсар. За скандальнае каханне быў прыгавораны да адсячэння рукі, але па хадайніцтву З.Р.Чарнышова быў памілаваны і высланы ў 1778 дарадчыкам у Магілёўскае намесніцтва. У 1780 выйшаў у адстаўку ў чыне надворнага дарадцы. Пасяліўся ў сваіх казанскіх маёнтках, лячыўся. Год працаваў у Казанскім намесніцкім праўленні, і канчаткова выйшаў у адстаўку.

Сястра: Наталля, замужам за Юшковым.

Жонка: фон Брынк, былая жонка генерал-маёра.

[Серков, с. 657-658; Сяльверстава. Беларусь, с. 121]

**Пангоўскі Юзэф.** XVIII:1, XIX:5

У 1820 – генерал ВП.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Парадоўскі Аляксандр Юзэфавіч (Восіпавіч).** XIX:4 (1799–1844).

Шляхціц Валынскай губ. У 1822 г. – маёр Літоўскага ўланскага п. У 1825 г. – маёр лейб-гв. Гродзенскага п. Затым – генерал-маёр.

[Серков, с. 625; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]


Станіслаў-Костка Патоцкі

**Патоцкі Станіслаў-Костка, Станіслаў Яўстахіевіч.** XIX:1 (1752–2(14).9.1821, Люблін (мястэчка Вілянаў каля Варшавы).

Адукацыю атрымаў у вучэбным пансіёне Канарскага, манаха-піяра. Затым падарожнічаў і вучыўся ў Італіі і Францыі. У 1768 г. вярнуўся з-за мяжы. З 1781 г. – каронны стольнік. У 1784 г. паступіў у чыне генерал-маёра ў конную артылерыю. З 1782 г. – дэпутат сеймаў многіх склікання. Член Пастаяннага савета. Засядаў у дэпартаменце фінансаў. У 1784–1790 г. – вялікі прамоўца Вялікага Нацыянальнага Усходу. Быў надзвычайным пасланнікам Польскай рэспублікі пры Французскім двары. Пазней – генерал кароннай артылерыі. Вялікі літоўскі маршалак. Ваяваў супраць Таргавіцкай канфедэрацыі. Пасля другога падзелу Польшчы арыштаваны аўстрыйцамі і восем месяцаў правеў у зняволенні ў Ёзэфштадце. Пасля гэтага жыў у мястэчку Вілянаў пад Варшавай. З 1806 г. ізноў знаходзіўся на службе. Дырэктар ліцэя ў Варшаве. Пасля заключэння Тыльзіцкага міра член урадавай камісіі Княства Варшаўскага, старшыня Адукацыйнай палаты (1807). Міністр, статс-сакратар, старшыня Адміністрацыйнага савета Княства Варшаўскага, кіраўнік кадэцкага корпуса. Са стварэннем Каралеўства Польскага – міністр веравызнанняў і народнай асветы. Сенатар-ваявода, прэзідэнт Сената Каралеўства Польскага (1815). 09.12.1820 звольнены з усіх пасадаў. Жыў у Вілянаве. Паэт, філосаф-дэіст. Калекцыянер. Адзін з заснавальнікаў Варшаўскага таварыства сяброў навук.

Жонка: кн. Аляксандра Любамірская (з 1776).

Дзеці: сын Аляксандр (1776–14.03.1845), обер-шталмайстар.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 100; Серков, с. 662-663]

**Паўлоўскі Бенедыкт (Бенуа) Іванавіч.** XIX1 (?–1843)

У 1819 г. – канцылярыст і перакладчык Гродзенскага апеляцыйна-межавага суда. У 1822 ахвяраваў губернатаршы Анджэйкавіч 1 дукат на кракаўскі помнік Касцюшку. У 1833 г. – адвакат Гродзенскай палаты грамадзянскага суда, багаты памешчык. 17.01.1840 г. быў выбраны павятовым суддзёй (набраў 30 выбарчых балаў, 13 супраць), але не быў зацверджаны віленскім ваенным губерната-

рам і генерал-губернатарам кн.Далгарукім, бо знаходзіўся пад паліцэйскім наглядам па справе эмісара Шыманскага. У спісе дэпутатаў дваранскага схода 1843 г. у Гродне каля яго прозвішча напісана алоўкам: «в числе прикосновенных к эмиссарским делам». 14.01.1843 падаў прашэнне на імя губернскага прадвадзіцеля дваранства аб звальненні з пасады гродзенскага павятовага суддзі па стану здароўя.

Дачка: Эліза Ажэшка (06.06.1841–18.05.1910), вядомая польская пісьменніца.


Бенедыкт Паўлоўскі

[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 11, спр. 757, а. 208, 389; спр. 1334, а. 83; Гардзееў. З гісторыі, с. 100; Серков, с. 621; Hass. Wolnomularstwo w Biaiymstoku, s. 318; Lista imenna, s.145]

**Пахнеўскі (Піхнеўскі) Антоні.** XIX:1

У 1803–1806 – кобрынскі гродскі пісар. У 1811 г. – кобрынскі земскі суддзя. Пад час вайны 1812 г. быў з 26.08 падпрэфектам Кобрынскага дыстрыкта (пав.). У 1817 г. – прэзідэнт кобрынскага апеляцыйна-межавага суда. У 1819 г. – старшыня Кобрынскага межавага суда, у 1821 г. – у адстаўцы.

[Ерашэвіч, с. 154; Серков, с. 630; Гардзееў. З гісторыі, с. 100]

**Пашкевіч.** XIX:2

З ліку дваранаў. У 1820 г. быў на прыватнай службе.

[Серков, с. 630; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Пашкоўскі Мікалай.** XIX:2

У снежні 1817 г. на дваранскіх выбарах у Вільні быў дэпутатам ад Ашмянскага пав., выступіў супраць сялянскай рэформы. У 1820 г. – адвакат 2-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда, памешчык. У Лістападаўскім паўстанні 1830-1831 быў капітанам на чале атрада з 400 чал., якія знаходзіліся ў лясах Налібокскіх, Вішнеўскіх, Бакштанскіх, Іўеўскіх. Ажыццявіў шэраг баёў 14, 17, 20.08.1831 г.

[Добрянский. Очерки, с. 111-112; Серков, с. 631; Callier, s. 240-241]

**Петрашкевіч Юзэф.** XIX:7

Шляхціц Слуцкага пав.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Петрыкоўскі Антоні.** XIX:2
Музыкант.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Пётух Юзэф.** XIX:2, XIX:6
У 1830 – памешчык Ігуменскага пав. Мінскай губ.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Пжыстаноўскі Пятро.** XIX:2, XIX:3
Памешчык Мінскага пав.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Підат Мікалай.** XIX:2
Закончыў Мінскую гімназію. Пазней стаў кандыдатам філасофіі. Быў гувернёрам у масона Атаназія (Еўстахія) Прушынскага (гл.) у Лошыцы.
[БАНЛ, F 9 – 1992, а. 2; Серков, с. 642]

**Пімша (Пымша) Ксаверы.** XIX:5
У 1818 г. – адстаўны капітан ВП.
[Серков, с. 643]

**Плятэр (Платэр) Канстанцін.** XIX:5
У 1818 г. – маршалак шляхты Завілейскага пав., былы старшыня Завілейскага павятовага суда. У 1821 г. – член Камісіі для прывядзення ў парадак спраў вучылішчаў Віленскай навучальнай акругі, калежскі барадца. Граф.
[Серков. с. 645; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Плятэр (Платэр, Платэр дэ-Браэль) Людвіг (Логін, Лудвіг) Казіміравіч (Канстанцінавіч).** XIX:1 (15.06(03.08).1775–06.09.1846, Познань).
Ад’ютант ген. Серакоўскага. Удзельнік паўстання 1794 г. Дырэктар урадавай камісіі даходаў і скарбу, сенатар-кашталян Каралеўства Польскага, сябра Варшаўскага таварыства сяброў навук. З 1805 г. – візітатар Віленскага ун-та. У 1807–1811 г. – інспектар дзяржаўнага ляснога фонду ў васьмі заходніх губернях Расійскай імперыі, аўтар шэрагу працаў у галіне лясной гаспадаркі. У 1814 – член дэпартамента дзяржаўных маёмасцяў, ганаровы сябра Віленскага ун-та, інспектар 8 заходніх губерняў. У 1815 г. – дзяржаўны радца ў Часовай радзе Каралеўства Польскага. З 1816 г. – генеральны дырэктар скарбавых лясоў, затым дзяржаўных маёмасцяў Каралеўства Польскага. Стар-

шыня Палітэхнічнага савета; сенатар-кашталян. У 1814–1822 гг. – член галоўнага праўлення вучылішчаў, камер-юнкер. У 1819-1822 гг. – стацкі дарадца Каралеўства Польскага, сенатар. Дзяржаўны сакратар. Удзельнік Лістападаўскага паўстання 1830 г., эмісар нацыянальнага ўрада за мяжой. У 1831 г. эміграваў у Парыж, дзе стаў прыхільнікам арыстакратычнай партыі і А.Чартарыйскага. Публіцыст. Аўтар навуковых прац па лесаводству, статыстыцы, гісторыі і геаграфіі. Сябра навуковых таварыстваў.


Людвік Плятэр

Бацька: Казімір-Канстанцін (1746-04.08.1807). Маці: гр. Борх Ізабэла Карлаўна (1752–26.05.1813).

Браты: Ян (нар. 15.05.1776); Міхал; Казімір (нар. 27.05.1780); Станіслаў (май 1784–26.04.1851).

Жонка: Бжастоўская Мар'я.

Дзеці: Жыгімонт (нар. 1815); Соф'я; Паўліна; Феліцыя.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 100; Серков, с. 645]

**Похвіснеў (Посвіснеў).** XIX:4 (у 1821 г. было 21 год)

У 1822 г. – капітан конна-артылерыйскай роты № 29. Сябраваў з А.Міцкевічам. У снежні 1825 – падпалкоўнік. Арганізаваў сустрэчу паэта з маскоўскімі літаратарамі.

[Ланда. У истоков, с. 50-51; Серков, с. 664; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Пратасевіч Ежы (Ягор).** XIX:4

У 1820 г. – асэсар Слонімскага ніжняга суда.

[Серков, с. 669; Maiachowski-Jempicki S. Wykaz]

**Пржыстаноўскі Пётр.** XIX:2

У 1820 – памешчык Мінскага пав.

[Серков, с. 667; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Пржэцлаўскі Юзэф Антоніевіч.** XIX:4

Сакратар Слонімскага пав.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Прушынскі Анатазы (Атаназы).** XIX:2

Пад час вайны 1812 г. уваходзіў спачатку ў склад Камісіі Часовага кіравання Мінскай правінцыі, потым – у склад адміністрацыйнай камісіі Мінскага дэпартамента, дзе быў сябрам аддзела фінансаў. У 1820 – межавы суддзя Мінскага пав. У 1822 г. ахвяраваў губернатаршы Антаніне Сулістроўскай 2 дукаты на кракаўскі помнік Касцюшку.

[Краснянский. Минский департамент, с. 14-15; Lista imenna, s. 175; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Прушынскі Яўстахі.** XIX:2

Верагодна, гэта той жа А.Прушынскі.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Пулікоўскі Раман.** XVIII:1, XIX:5

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Пуцілоўскі Бенедыкт.** XIX:1; XIX:5

Шамбелян былога польскага Двара, у 1820 – адвакат Віленскага галоўнага суда.

[Серков, с. 674; Гардзееў. З гісторыі, с. 100]

**Пуцята Мікалай.** XIX:7

Прыгонны селянін, вызвалены на волю разам са сваёй сям'ёй масонам Ю.Вішчынскім (гл.), ягоным гаспадаром і братам па масонскай ложы.

[НГАБ у Мінску, ф. 295, воп. 1, спр. 344]

**Пушкоўскі (Пучкоўскі) Францішак.** XIX:4 (пам. пасля 1856).

Казённы выхавальнік Віленскага медыцынскага інстытута. У 1812 г. атрымаў ступень доктара медыцыны ў Віленскім ун-це, прызначаны малодшым лекарам II класа ў Кастрамскі пяхотны п. З 1817 г. – малодшы лекар I класа. У 1820 г. – доктар медыцыны Слонімскага пав., звольнены са службы. У 1821–1824 г. – лекар Слонімскага пав., карэспандэнт Віленскага медыцынскага таварыства.

[Серков, с. 674]

**Пярфільеў Павел.** XIX:1

У 1821 г. – чыноўнік мытні.

[Серков, с. 636; Гардзееў. З гісторыі, с. 100]

**Пясецкі Людвік (Леў).** XIX:6, XIX:7
У 1820 г. – межавы суддзя Слуцкага пав.
[Серков, с. 677]

**Пяткевіч Францішак.** XIX:5
У 1822 – паручнік Татарскага уланскага п.
[Ланда. У истоков]

**Пятроўскі (Пётраўскі) Васіль.** XIX:7
Доктар медыцыны.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Пятроўскі Фелікс.** XIX:7
Адвакат, дарадца генеральнай пракуратуры.
[Серков, с. 641; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Пятрыньскі (Пятрынскі) В.** XIX:4
У 1822 г. – адстаўны карнет Валынскага ўланскага п.
[Серков, с. 638; Соколовская. Материалы]

## Р

**Рабі (Робі) Мікалай.** XIX:1
Грамадзянін Гродна.
[Серков, с. 678; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рагазінскі (Рагазіньскі) Антоні.** XIX:5, XIX:6
Шляхціц. Да 1820 г. – капітан-спраўнік Слуцкага пав. У 1821 г. – слуцкі павятовы суддзя Мінскага губернскага апеляцыйнага межавага суда.
[Серков, с. 704; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рагоза Юзэф.** XIX:2, XIX:5
Шляхціц. Пад час вайны 1812 г. (з 12.08) быў прэфектам падпрэфектуры Бабінавіцкага дыстрыкта (пав.) Магілёўскага дэпартамента. Памешчык Мінскага пав. У 1818 г. жыў у Вільні. У НГАБ у Мінску намі знойдзены ягоны верш, прысвечаны імянінам Аляксандра I.
[НГАБ у Мінску, ф. 295, воп. 1, спр. 286, а. 225, 338; Ерашэвіч, с. 155; Серков, с. 678; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рагоўскі Юзэф.** XIX:5 (пам. у 1820).
Адстаўны паручнік ВП.
[Серков, с. 703; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Радзівіл Дамінік Геранімавіч.** XIX:5 [(04.08.1786, г. Бяла Падляшскага в-ва – 11.11.1813, Ганаў у Францыі).


Дамінік Радзівіл

Князь, XI ардынат нясвіжскі і XI ардынат алыцкі. Пасля смерці бацькі атрымаў у спадчыну вялікія маёнткі нясвіжскай лініі Радзівілаў, але знаходзіўся пад апекай сваякоў, якія варагавалі паміж сабой. У 1791-1792 выхавацелем Р. быў польскі паэт Ф.Карпінскі. У 1794 г. выехаў з мацерай у Галіцыю, дзе яму належалі 4 гарады, 72 сяла і 17 500 прыгонных. У 1798–1801 вучыўся ў Львове (тады Аўстрыя). Каб прымусіць Р. вярнуцца ў Расійскую імперыю, на яго маёмасць быў накладзены ў 1799 секвестр. З 1801 выхоўваўся А.Чартарыйскім, жыў пад Варшавай. У 1805 у С. -Пецярбурзе прынёс прысягу Аляксандру I і ўступіў у валоданне ардынацыяй. Камергер імператарскага двара. Ахвяраваў на слуцкую павятовую школу. У 1807 выехаў з Мараўскай у Вену. У 1809 у Слуцку адчынілася дамініканскае вучылішча, і прадстаўнік Р. паабяцаў, што князь на езуіцкай плошчы за свае грошы пабудуе за тры гады дамы для настаўнікаў, а пакуль аплоціць ім арэнду кватэр. У 1809 г. Р. ліквідаваў нясвіжскі тэатр і аркестр. Да 1810 г. падарожнічаў з жонкай па Заходняй Еўропе. У 1810 г. уступіў у армію Княства Варшаўскага, на стварэнне 8-га палка ўланаў выдаткаваў 216 тыс. руб. З 1811 г. – палкоўнік. Удзельнічаў у паходзе Напалеона ў Расію ў 1812 г. (Астроўна, Смаленск, Мажайск, Барадзіно, Бярэзінская бітва). У 1813 г. ваяваў пад Лютцэнам, Дрэздэнам, Лейпцыгам. Смяротна паранены пад Ганаў (30.10), праз два тыдні памёр. Згодна з афіцыйным «Именным списком... 1813 г.» канфіскацыі падлягалі 18 маёнткаў у Лідскім пав. Гродзенскай губ. (5 975 душ м. п.), 26 маёнткаў (6 183 душ м. п.) у Навагрудскім пав., маёнтак Дамачаў у Брэсцкім пав. (1 424 душ м. п.). Пасля смерці Р. у праўленні Віленскага універсітэта ўзнікла пытанне да створанай Радзівілаўскай камісіі (у ёй, дарэчы, было шмат масонаў).

Узнагароды: ордэны Св. Губерта, французскага Ганаровага Легіёну, польскага Ваеннага крыжа (Віртуці Мілітары), Св. Я.Іерусалімскага.

Бацька: Геранім-Вінцэнт, падкаморы літоўскі. Маці: кн. Соф'я –Дарота Турк-Таксіс.

Жонкі: 1-я (у 1805) – гр. Мнішак Ізабэла; 2-я (у 1809) – Мараўская Тэафілія (гл. К.Мараўскі).

Дзеці: Аляксандр (1808–1859), паўстанец 1830-1831, пазбаўлены правоў валодання спадчыннай маёмасцю; Стэфанія (1810–1832), выхоўвалася ў Кацярынінскім ін-це для сіротаў шляхецкага паходджання, замужам за гр. Л.П.Вітгенштэйнам, якому і дасталіся ўладанні Радзівілаў, фрэйліна расійскага двара.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 759, а. 4 адв.; Именной список...1813, с. 367 адв. – 370 адв.; Памяць. Нясвіжскі р-н, с. 99-100; Серков, с. 679; Mackiewicz. Dom, схема ўкладыша; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Niesiecki, t. VIII, s. 81-82]

**Ражанскі Францішак.** XIX:2

Прыватны служачы ў 1820.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]


Аляксандр Ражнецкі

**Ражнецкі Аляксандр Аляксандравіч.** XIX:1, XIX:2 (1771 ці 1774 – 1849)

У 1807 г. – генерал брыгады французскіх войскаў, генеральны інспектар польскай кавалерыі. Актыўны масон з 1807 г., намеснік вялікага майстра Усхода Польскага Л.Гутакоўскага (1810). Генерал 4-й дывізіі лёгкай кавалерыі, інспектар польскай кавалерыі, быў прызначаны Жэромам Банапартам гродзенскім губернатарам (30 чэрвеня – 3-4 ліпеня 1812). Галоўнай яго справай стала арганізацыя польскай улады на Гродзеншчыне (Канфедэрацыйнай рады з 12 чалавек) і ўрачыстае далучэнне войска да Генеральнай канфедэрацыі Княства Варшаўскага. З 1816 – шэф тайнай паліцыі і арганізатар жандармерыі ў Каралеўстве Польскім. У 1821 г. – старшыня ўрадавай дырэкцыі варшаўскіх тэатраў і Вялікі майстар Вялікага Усхода Польскага. Прэзідэнт Таварыства прыяцеляў музыкі ў Варшаве.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 100; PSB, t. XXXII, с. 460-461; Швед Паміж, с. 278; Encyki. wojsk, t. 7, s. 276-277]

**Развадоўскі Антоні.** XVIII:1, XIX:5

Удзельнік вайны 1812 г. на баку Напалеона, не вярнуўся з-за мяжы, і таму яго маёнткі ў Мінскім і Слуцкім пав. паводле царскага маніфеста былі канфіскаваны ў казну. У 1820 – доктар філасофіі ў Львове.

[Кур'ер Літоўскі. – 1813. – № 53. – 02.07; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Развадоўскі Вінцэнт.** XIX:5, XIX:6 (нар. каля 1775).

Шляхціц. Да 1818 г. – земскі суддзя Мінскага пав.

[Серков, с. 706; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Развадоўскі Леан (Лявон).** XIX:6

У 1820 – магістр абодвух правоў.

[Серков, с. 706; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Развадоўскі Людвіг (Леў).** XVIII:1, XIX:3, XIX:5

У 1818 г. – магістр абодвух правоў.

[БАНЛ, F 75-134, а. 7; Серков, с. 706; Janowski. Siownik, s. 370]

**Развадоўскі Ян (Іван).** XIX:3, XIX:5, XIX:6 (нар. каля 1778).

Ротмістр. У 1818–1820 – генерал ВП. З 1821 г. – у адстаўцы.

[БАНЛ, F 75-134, а. 7; Серков, с. 706]

**Ракіцкі Людвік (Людвіг) Міхайлавіч.** XIX:2

У 1811–1816 – маршалак шляхты Мінскай губ. Арганізаваў уласны аркестр, дзе граў першую скрыпку. 20.12.1812 прызначаны ганаровым наглядальнікам вучылішчаў Рэчыцкага пав. У 1821 г. – стацкі дарадца.

[Серков, с. 709; Сяльверстава. Беларусь, с. 177; Beauvous, t. II, s. 86; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Ракіцкі Міхал.** XIX:2

У 1820 – памешчык Рэчыцкага пав. Магчыма, бацька Людвіка Ракіцкага (гл.).

[Серков, с. 709; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Раманус Аляксандр.** XIX:2

У 1820 г. – былы капітан ВП.

[Серков, с. 710; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Расінскі (Расіньскі, Рачынскі) Мікалай Мацвеевіч.** XIX:4 (к. 1774-02.10.1846).

Паходзіць з Бабруйскага пав. У 1820 – былы паручнік ВП. У 1820–1822 – калежскі дарадца. У 1820-1821 знаходзіўся ў С.-Пецярбурзе. У 1822 г. служыў у Маскоўскай скарбовай палаце Міністэрства фінансаў. Пахаваны ў Данскім манастыры ў Маскве.

Брат: Мацвей (12.10.1779–08.12.1823), чыноўнік 5-га класа.

[Серков, с. 711; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Ратомскі-Кміта Вінцэнт.** XIX:7

У 1822 г. – штабс-ротмістр літоўскага ўланскага п. Памешчык.

[Серков, с. 685]

**Ратынскі (Ратыньскі) Антоні.** XIX:2, XIX:3, XIX:6

Пад час вайны 1812 г. уваходзіў у склад адміністрацыйнай камісіі Мінскага дэпартамента, быў кантралёрам аддзела фінансаў. У 1820 – былы карнет Валынскага ўланскага п., сябра Таварыства сяброў, мінскі падкаморы. Уласнік буйнога маёнтка ў Ігуменскім пав. Мінскай губ. Меў ва ўладанні карціны Я.Дамеля (гл.) «Сустрэча Яна III з царом Леапольдам пад Венаю», «Пагібель князя Панятоўскага», «Пагібель правадыра крыжакоў Ульрыха ў Грунвальдскай бітве».

[Дробаў. Беларускія мастакі, с. 11; Краснянский. Минский департамент, с. 14-15; Серков, с. 685]

**Рашкоўскі Серафін (Серафім).** XIX:2

У 1820–1826 – памешчык Полацкага пав.

[Серков, с. 713; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рашэт Эмануіл (Емануіл, Эмануэль) Якаўлевіч.** XIX:2

У 1812 г. – падпалкоўнік, лічыўся па Балтыйскаму флоту, брыгадны камандзір запасных батальёнаў у 25-й пях. дывізіі і камандзір 1-га Марскога п. У 1820 г. – палкоўнік. У 1822 г. – генерал-маёр, брагадны начальнік 8-й пях. дывізіі. Пазней – камандзір Мінскай пяхотнай брыгады.

Бацька: Я.Іванавіч (Дамінік) (1744–1809), француз, вядомы скульптар, дырэктар казённага фарфоравага завода. Маці: датчанка.

Браты: Антон, стацкі дарадца; Карл, стацкі дарадца. Сёстры: Сусана (пам. у 1825); Эмілія; Юлія; Елізавета.

[Серков, с. 687; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рдултоўскі Казімір Яфімавіч.** XIX:3, XIX:4, XIX:5, XIX:6 (нар. каля 1780).

Граф. Пад час прыходу французскіх войск у чэрвені 1812 г. далажыў польскаму генералу А.Ражнецкаму (гл.) дадзеныя аб расійскім войску П.І.Баграціёна, з 09.07 быў прэфектам падпрэфектуры Навагрудскага дыстрыкта (пав.) і старшынёй цывільна-вайсковай камісіі. У 1819 г. – былы маршалак Навагрудскага пав. Радавы маёнтак – м. Сноў.

Дзеці: сын Канстанцін.

[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 19, спр. 1141, а. 99 адв.; Гардзееў. З гісторыі, с. 101; Ерашэвіч, с. 154; Нарбут. Генеалогия, вып. 4, с. 157; Серков, с. 687; Pawlowicz. Nowogrydek w XIX w., s. 25; Podhorski. Realia, s. 435; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Розэн Фрыдэрык, Фёдар Фёдаравіч.** XIX:1

Барон. У 1819 г. – экспедытар Літоўскага паштампа. У 1821 г. – дырэктар паштампа ў Вільні, прэзідэнт лютэранскай кансісторыі. Тытулярны дарадца.

[Серков, с. 707; Гардзееў. З гісторыі, с. 101; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]



Міхал Ромер

**Ромер Міхал-Іосіф Сцяпанавіч (Дамінікавіч).** XIX:1 (1778–1850).

У 1803–1813 – прэзідэнт 2-га дэпартамента віленскага галоўнага суда. У 1808 г. – камісар Віленскай судовай адукацыйнай камісіі. У 1812 г. – прэзідэнт Вільні. У 1812–1814 г. – старшыня 2-га дэпартамента Літоўскага часовага галоўнага суда. З 1812 г. – член Камісіі для прывядзення ў парадак спраў вучылішчаў Віленскай навучальнай акругі. У 1814 г. – віцэ-прэзідэнт Віленскай судовай камісіі. Старшыня Радзівілаўскай камісіі. У 1816-1817 – прыхільнік вызвалення сялянаў на землях былога ВКЛ. У 1818–1821 – маршалак шляхты Віленскай губ. Мемуарыст Мараўскі пісаў: «Пасля М.Ромера, губернскага маршалка, не бачыў ні на Літве, ні ў Польшчы, свецкага чалавека, а ведаў я шмат...». У 1818–1822 – сапраўдны стацкі дарадца. Сябра Нацыянальнага масонства і польскага Патрыятычнага таварыства, старшыня Віленскай правінцыі (1-й

гміны) гэтага таварыства. У 1820-1821 – адзін з заснавальнікаў і старшыня Віленскага таварыства дабрачыннасці, адзін з заснавальнікаў Віленскага друкарскага таварыства. З 1820 г. – сапраўдны дзяржаўны дарадца. Штогод прыязджае ў Кіеў да дзекабрыста М.Ф.Арлова. З 1822 – старшыня Камісіі для прывядзення ў парадак справаў вучылішчаў Віленскай навучальнай акругі. Арыштаваны ў маі 1826 г.

Сын: Генрых (нар. каля 1803), студэнт філасофіі, сябра Таварыства філарэтаў.

[Серков, с. 710; Гардзееў. З гісторыі, с. 101; Bajkow, с. 55, 115]

**Ронге (Ронжэ) Караль (Карл).** XVIII:1, XIX:5, XIX:6 (нар. каля 1778)

Нясвіжскі аптэкар. Каля 1811 г. уступіў у ложу. У 1818 г. – тытулярны дарадца. Жыў у Нясвіжы ў 1820-1821 г.

[Серков, с. 711; Гардзееў. З гісторыі, с. 101; Zalкski. O masonii, cz. 2, s. 194]

**Рудзінскі (Рудзіньскі) Тадэвуш (Фадзей).** XIX:5

Шляхціц. У 1820 г. – памешчык Навагрудскага пав.

[Серков, с. 715; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рушчыц (Рушчыц) Каспар (Каспер) Тадэвушавіч.** XIX:4

У 1820 г. – прадстаўнік дваранства (выбарны дэпутат шляхты) Кобрынскага пав. У 1821 г. – прысяжны 2-га дэпартамента Гродзенскага галоўнага суда.

[Серков, с. 718; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Ружыц Якуб Шымонавіч.** XIX:1

У 1819 – лідскі земскі пісар. У 1821– пісар Лідскага павятовага суда Гродзенскай губ.

[Серков, с. 716; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рыкгоф.** XIX:4

У 1822 г. – паручнік конна-артылерыйскай роты № 29.

[Серков, с. 699; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рымовіч Міхал.** XIX:1

У 1821 г. – падпалкоўнік расійскіх войскаў.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 101; Серков, с. 719; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рымскі-Корсакаў Андрэй Пятровіч.** XIX:1 [07(19).08.1778(1784), Наваржэўскі пав., Пскоўская губ. – 19.03.1862, Ціхвін].

У 1799 г. яму нададзена дваранская годнасць. У 1801 г. усыноўлены. Атрымаў хатнюю адукацыю. 21.03.1801 залічаны юнкерам у Калегію замежных спраў. 19.02.1803 звольнены са службы ў чыне перакладчыка. З 28.03.1806 вызначаны чыноўнікам у дэпартамент Міністэрства юстыцыі. 04.01.1809 паступіў на службу да таварыша міністра ўнутраных спраў, займаў гэты пост 12 гадоў. З 30.11.1811 – надворны дарадца. З 13.02.1812 – начальнік 1-га аддзялення канцылярыі міністра ўнутраных спраў. У 1812–1814 г. – надворны дарадца. У 1814–1824 г. – сябра С.-Пецярбургскага Англійскага сходу. У жніўні 1813 г. і сакавіку 1815 г. ездзіў у с. Нелюбоўскае да І.А.Паздзеева, летам 1815 г. – у Берлін. З 04.07.1817 – калежскі дарадца. З 29.08.1821 – чыноўнік па асаблівых даручэннях у Асабістай канцылярыі Міністэрства ўнутраных спраў, але ў той жа час лічыўся звольненым у водпуск на неакрэслены час. У 1818 г. жыў у Адэсе. У 1819–1822 г. – адзін з апекуноў Камітэта апекі малалетніх бедных імператарскага Чалавекалюбівага таварыства. З 1822 г. жыў у с. Троіцкім Малаархангельскай акругі і ў Ціхвіне. З 25.11.1827 да 1829 г. – наўгародскі віцэ-губернатар. З 06.06.1831 – сапраўдны стацкі дарадца і валынскі грамадзянскі губернатар. 13.04.1835 выйшаў у адстаўку, падставай для якой паслужылі яго ліберальныя адносіны да мясцовага польскага насельніцтва. Затым жыў у Ціхвіне. Пахаваны тут у Багародзіцкім манастыры.

Бацька: П.Вайновіч, у 1798–1800 г. – ціхвінскі прадвадзіцель дваранства, ген.-лейтэнант (Р-К. быў яго пазашлюбным сынам). Маці: Аўдоцця Якаўлеўна, дачка святара.

Браты: Мікалай; Павел; Пётр (1800–1867), паштовы чыноўнік у Ціхвіне; Міхал (1791–03.08.1836), надворны дарадца; Аляксей.

Жонкі: 1-я (з кастрычніка 1818), кн. К.В. Мяшчэрская (25.09.1798-09.07.1819), падапечная І.М.Фралова; 2-я – Соф'я Васільеўна (15.08.1802–30.08.1890), незаконнанароджаная дачка В.Ф.Скарацїна і прыгоннай, унучка Я.Ф. Скарацїна.

Дзеці: (ад 2-га шлюбу): Воін (14(25).07.1822–04.11.1871), контрадмірал; Іван (нар. у 25.07.1822); Мікалай (18.03.1844–08.06.1907), вядомы кампазітар.

[Серков, с. 700; Гардзееў. З гісторыі, с. 101]

**Рымша Ксаверы.** XVIII:1, XIX:5

У 1820 – капітан ВП.

[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рэвель (Рэвел) Юзэф.** XIX:1
Служачы ложы.
[Гардзееў. З гісторыі, с. 101; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рэвенскі (Рэвеньскі) Ігнацы.** XIX:5, XIX:6 (нар. каля 1768).
Шляхціц, у 1820 г. – памешчык Навагрудскага пав.
[Серков, с. 688; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Рэвенскі (Рэвеньскі) Тадэвуш (Фадзей) Бенядзіктавіч.** XIX:5, XIX:6
Рэгент гродскі слонімскі, прызнаны ў дваранстве 06(17).12.1798. У 1820 г. – рэгент земскі Навагрудскага пав. У 1821 г. – прысяжны Навагрудскага земскага суда. Будучы земскім рэгентам Ваўкавыскага пав., падпісаў завяшчанне В.Тышкевіча, якое тычылася Свіслацкай гімназіі і было складзена ў Ваўкавыскім земскім судзе.
Маці: К.Тынянка-Быкоўская.
Браты: Алаізы, ротмістр Ваўкавыскага пав.; Антоні, каморнік Ваўкавыскага пав.; Міхал, рэгент гродскі і падкаморскі ваўкавыскі; Андрэй. Валодалі фальваркамі Сядзельнікі і Савейкі (1790).
[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 584, а. 20; Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 98; Серков, с. 688]

**Рэйтан Дамінік.** XIX:3, XIX:5, XIX:6
Нясвіжскі павятовы маршалак, звязаны з тайным таварыствам «Асацыяцыя» С.Цяцерскага. Падпісаў петыцыю да Паўла I, напісаную сябрам таварыства Дашкевічам. Удзельнік вайны 1812 г. на баку Напалеона, не вярнуўся з-за мяжы, і таму яго маёнтак у Слуцкім пав. паводле царскага маніфеста быў канфіскаваны ў казну. У 1818 г. – адстаўны падпалкоўнік ВП.
[Кур'ер Літоўскі. – 1813. – № 53. – 02.08; Ляўшэвіч. Першая тайная, с. 382–385; Серков, с. 690]

**Рэмбелінскі Віктар (Тамаш?) Станіслававіч.** XIX:1 (1783 – ?)
Граф герба «Любіч». Адвакат, служыў у пракуратуры. У 1819 г. – дэпутат (пасол) польскага сейма. Суддзя грамадзянскага трыбунала ў Аўгустоўскім в-ве, пазней яго старшыня. У 1824 прызначаны чыноўнікам па прыгаворах суда найвышэйшай інстанцыі і кашталянам Каралеўства Польскага.
Бацька: Станіслаў, харунжы. Маці: Марыяна з Ланчыньскіх, сям'і Мазавецкіх.
Жонка: Ізабэла з графаў Ледухоўскіх.
Дзяцей не было.
[Dolkga-Cieszkowski, s. 60; Гардзееў. З гісторыі, с. 101; Серков, с. 691]

**Рэмбелінскі Райманд (Раймунд).** XIX:1 (1775–12.02.1841)
Старшыня камісіі Мазавецкага ваяводства. Аўтар некалькіх палітыка-эканамічных публікацый.
[Серков, с. 691; Гардзееў. З гісторыі, с. 101]

## С

**Садкоўскі Ян.** XIX:5, XIX:6, XIX:7
У 1820 г. – адвакат Слуцкага пав.
[Серков, с. 725; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Саецкі Банавентура.** XIX:7
У 1822 г. – паручнік Літоўскага ўланскага п.
[Серков, с. 758; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Сака Джузепе дэ (Юзэф).** XVIII:1 (1735, Верона – 21.12.1798, Вільна)
З Вероны (Італія). У Рэчы Паспалітай з 1735 г. Архітэктар Літоўскай скарбавай камісіі. У 1773 гарадзенскі староста А.Тызенгаўз запрашаў С. для вядзення касцёльных спраў. З 1774 г. ён працуе ў А.Тызенгаўза на пастаянных пасадах: маёр кавалерыі, гарадзенскі гараднічы, кіраўнік будаўнічай школы на Гарадніцы. Архітэктар ЯКВ у Гродне і Рэчы Паспалітай для ВКЛ. Пастаянна жыў у Гродне. У 1775 г. набілітаваны. Пасля смерці пахаваны на гарадзенскіх могілках.
Творы: 1786 г. – праект катафалка ў касцёле Сакрамэнтак у Варшаве на набажэнства М.Ляшчынскай; 1770–1775 г. – палац І.Храптовіча ў Шчорсах; 1775 – праект ілюмінацыі ў Варшаве на імяніны караля; 1775 – катафалк у Фарным касцёле ў Лагойску для ген. Тышкевіча; 1781 – капліца ў Дубасне (?); 1784 – праект перабудовы ратушы ў Вільні (кароль не зацвердзіў). Рэстаўрацыя Новага замка і палаца Тызенгаўза на Гарадніцы ў Гродне; планы амаль усіх пабудоў літоўскіх каралеўскіх эканомій Тызенгаўза; палац Валовічаў у Свяцку; праект перабудовы Віленскай кафедры; праекты палацаў у Станіславове, Каменцы, Брэсце; перабудова Пастаў.
Жонка: Фр.Манкоўкая (з 15.04.1788 г.).
[Joza, s. 266; Rozmus, Gordziejew, s. 108; WIEP Гутэнберга, t. 15, s. 184]

**Сакалоўскі Караль.** XIX:4
У 1820 г. – паручнік расійскіх войскаў.
[Серков, с. 760; Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Саковіч Юзэф.** XIX:7
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Салагуб Антоні-Васіль-Ануфры (Аутсін) Іосіфавіч.** XIX:3, XIX:5 (нар. 14.06.1778)

Верагодна, паходзіць з роду Антонія Салагуба, генерала літоўскай артылерыі, жанатага на Б.Радзівіл. Адзін з сыноў іх жыў у Расіі і ажаніўся на дачцы вялікага канюшага Нарышкіна. Унукам яго з'яўляецца вядомы расійскі літаратар В.Салагуб. Масон меў графскі тытул, жыў у Мінскім пав.

Бацька: Іосіф (пам. у 1780-я), стражнік вількамірскі. Маці: Пельхаў Ганна. Сёстры: Мар'яна, у замужжы Шаняўская; Жазэфа.

Жонка: Язерская Ганна.

Дзеці: Праспер-Ян-Адрыян (нар. у 24.07.1810), гв. капітан; Аляксандр-Юстын-Севярын (нар. у 23.08.1811), калежскі асэсар; Іосіф-Ян-Віктар-Адам (нар. у 29.12.1814); Еўстафі-Карл (нар. у 31.07.1819).

[Серков, с. 761; Maiachowski-Jempicki. Wykaz; Swiкcki, t. II, s. 451]

**Сангайла (Санчайла) К.** XIX:4

У 1822 г. – карнет Валынскага ўланскага п. Затым – паручнік. Сябра патаемнай арганізацыі Таварыства сяброў.

[Ланда. У истоков, с. 47; Серков, с. 761]

**Свентаржэцкі Станіслаў.** XIX:2
Памешчык.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Свенціцкі Юзэф.** XIX:2
Памешчык Барысаўскага пав.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Свяжынскі Матэвуш.** XVIII:1, XIX:5, XIX:6
Адстаўны палкоўнік расійскіх войскаў.
[Maiachowski-Jempicki. Wykaz]

**Святаполк-Мірскі Станіслаў.** XIX:7
У 1818 г. – адстаўны капітан войскаў польскіх.
[Серков, с. 737]

**Серакоўскі Ян.** XIX:5, XIX:6
Граф, шляхціц Мінскага пав. у 1820.
[Серков, с. 742; Maiachowski-Jempicki]

**Сержпутоўскі Ігнацы.** XIX:5, XIX:7
Асэсар Слуцкага пав., шляхціц.
[Серков, с. 743; Maiachowski-Jempicki]

**Сержпутоўскі Казімеж.** XIX:7
Памешчык Слуцкага пав.
[Maiachowski-Jempicki]

**Сержпутоўскі Ян.** XIX:1
Асэсар Слуцкага пав. У 1820 г. – адвакат Гродзенскага галоўнага суда. Сябра польскага Патрыятычнага таварыства. Меў кантакты з сябрамі дзекабрысцкага таварыства «Ваенныя сябры» (1825-1826), праходзіў па следству. У 1822 г. ахвяраваў гродзенскай губернатаршы Анджэйкавіч 6 злотых 20 грошаў на кракаўскі помнік Касцюшку.
[Lista imenna, s. 145; Гардзееў. З гісторыі, с. 101; Гостев, Швед Кронон, с. 210; Ланда. У истоков, с. 54; Серков, с. 743]

**Сецынскі.** XIX:4
У 1822 г. – штаб-лекар Валынскага ўланскага і Літоўскага палкоў.
[Серков, с. 743; Maiachowski-Jempicki]

**Сіверс 4-ы Уладзімір.** XIX:5
У 1822 – палкоўнік, камандзір Татарскага ўланскага п.
[Серков, с. 744; Maiachowski-Jempicki]

**Сіманоўскі Пётр.** XIX:1, XIX:6 (12.02.1794 – 08.11.1864)
У 1813 скончыў Свіслацкую гімназію і стаў чыноўнікам канцылярыі секвестравай камісіі. У 1814 г. – чыноўнік Гродзенскага губернскага праўлення, камісіі па справах продажу казённай маёмасці, архівіст гродзенскага маршалка. З 1815 г. – пісар гродзенскага павятовага маршалка. У 1819–1821, 1824 г. – сакратар дваранскага сходу Гродзенскага пав., калежскі асэсар. У 1828 г. – пісар маршалка Гродзенскай губ. У 1838 быў наглядальнікам вясковых запасных магазінаў. У гэтым жа годзе, па паказаннях вучня Гродзенскай гімназіі К.Бернарда, С. запрашаў яго ўступіць у масонскую ложу, гаворачы, што мэта масонства – «імкненне да свабоды і дапамога бліжнім», даваў зборнік масонскіх песень, якія «ўсхвалялі годнасць і шляхетныя мэты ложы». У сваім тлумачэнні С. напісаў, што ніякай масонскай ложы не існуе, а ён пажартаваў з Б., каб паказаць спраўніку Кузіну, у якога той жыў, дурасць яго. Скрыў

сваю прыналежнасць да таварыства, бо пісаў, што «все действия мои строились всегда к тому, чтобы быть на счету людей благонадежных, благонамеренных и не подвергающихся невыгодным со стороны правительства замечаниям». З 1839 быў сакратаром шляхты. Магіла захавалася на Фарных могілках у Гродне.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 4462, а. 1 адв., 2 адв., 8, 11 адв., 12 адв.; Гардзееў. З гісторыі, с. 101; Серков, с. 746; Rozmus, Gordziejew, s. 110]

**Сіпайла Юзэф (Восіп) Міхайлавіч.** XIX:1 (нар. каля 1795, Віцебск).

Камісар Грамадзянска-Вайсковага суда Пінска-Берасцейскага пав. У 1814 – пружанскі межавы суддзя. У 1817 г. – калежскі асэсар. У 1818-1819 – перакладчык Сената для польскіх архіваў. У 1819 – калежскі сакратар. У 1819–1822 – перакладчык 1-га аддзялення 5-га дэпартамента Сената. У 1821–1823 – тытулярны дарадца.

[Серков, с. 747; Гардзееў. З гісторыі, с. 101]

**Скіндэр Ігнацы (Антон) Міхайлавіч.** XIX:1

У 1809 г. – падкаморы Лідскага пав. Пад час вайны 1812 г. быў падпрэфектам Лідскага дыстрыкта (пав.) У 1819–1823 г. – лідскі павятовы маршалак. Вывучаў права ў судовых установах.

[Ерашэвіч, с. 154; Гардзееў. З гісторыі, с. 101-102; Серков, с. 750]

**Слізень Ян (Іван) Юзэфавіч.** XIX:5, XIX:6

У 1812 г. – прэзідэнт Гродзенскага гарадскога суда. У 1820 г. – харунжы Навагрудскага пав. Сям’я жыла ў Бортніках і Вольнай. Тут бывалі Т.Зан, Я.Чачот. У лютым 1821 г. прысутнічаў на цырымоніі заключэння шлюбу М. Верашчакі з Путкамерам.

Дзеці: Отт, філарэт, віленскі сябра А.Міцкевіча і І.Дамейкі, заслужаны афіцэр расійскага флоту, у 1884 г. яшчэ жыў і сустракаўся з Д. у сваім маёнтку Бортнікі; Рафал, прыяцель А.Міцкевіча; Зоф’я, якая доўгі час была ідэалам Т.Зана.

[Серков, с. 754; Філаматы і філарэты, с. 317; Podhorski. Realia, s. 400, 401]

**Сляскі (Шласкі) Іван.** XIX:4

У 1821-1822 г. – ротмістр Валынскага ўланскага п.

[Серков, с. 756; Maiachowski-Jempicki]

**Смігевіч Себасцян.** XIX:1

Капітан ВП у 1820.

[Maiachowski-Jempicki]

**Смігельскі Геранім.** XIX:5
Засядацель Слуцкага пав.
[Maiachowski-Jempicki]

**Снітко Ян.** XIX:2
У 1820 г. – тытулярны дарадца. Мінскі павятовы казначэй.
[Серков, с. 747; Maiachowski-Jempicki]

**Солтан Адам Станіслававіч.** XIX:4, XIX:6 (02.07.1782 г., Варшава – 07.02.1863, Познань)


Адам Солтан

Надворны літоўскі маршалак. Меў м. Юнішчы ў Пінскім пав. У 1808 г. паступіў на службу ў артылерыйскі конны полк У. Патоцкага. У 1810 г. узнагароджаны крыжам Віртуці Мілітары. У чэрвені гэтага ж года быў адпраўлены ў Літву. 13.06.1812 – шэф 11-га ўланскага палка, 13.07 – 17-га літоўскага палка. 12.18.1812 г. камандзіраваны ў 3-ці лёгкаконны гвардзейскі полк Канопкі, з якім трапіў у палон пад Слонімам. Да красавіка 1814 г. знаходзіўся ў Варонежы. У 1820 г. – былы падпалкоўнік ВП, памешчык. Сябра польскага Патрыятычнага таварыства (гміна Вільна), за што ў 1826 г. быў высланы ў Расію. Пад час Лістападаўскага паўстання 1830-1831 склаў у Лідскім пав. партызанскі атрад, які пазней далучыўся да рэгулярнай польскай вайсковай часці Д.Хлапоўскага. За ўдзел у паўстанні па загаду Гродзенскай следчай камісіі быў залічаны ў 2-ю катэгорыю злачынцаў. Была канфіскавана бібліятэка з 1 268 твораў і 11 геаграфічных картаў, якія часткова трапілі ў Віленскі дваранскі інстытут.

Бацька: Станіслаў, маршалак надворны літоўскі, старшыня Часовага ўрада ВКЛ у 1812 г.

Дзеці: Аляксандр (нар. у 1821); Адам (1825–1901); Міхал (1830–1893, Кракаў), сасланы ў 1863 у Сібір, пасля вызвалення жыў у маёнтку жонкі (Білгу на Валыні); Станіслаў, памёр маладым.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 3932, а. 141 адв.; БЭФ, т. IV, с. 292; Серков, с. 761; Domejko. Listy, s. 735; Materiaiy do biografij, s. 392; Sliwowska. Zesiancy, s. 565; Wrotnowski, s. 192]

**Солтан Ігнацы.** XIX:7
Засядацель Слуцкага ніжняга суда.
[Maiachowski-Jempicki]

**Станскі (Станьскі) Канстанты.** XIX:2
У 1820 г. – адстаўны маёр ВП.
[Серков, с. 767; Maiachowski-Jempicki]

**Стацэвіч Ян Юзэфавіч.** XIX:5, XIX:6
Шляхціц. У 1821 г. – рэгент Навагрудскага пав.
Бацька: Юзэф, ротмістр Наваградскага пав. (1793). Маці: Г.Стахоўская. Маёнтак Лоўцы (Марозавічы).
Брат: Францішак, прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.
[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 106; Серков, с. 768]

**Стравінскі Матэуш.** XIX:2
Музыкант у гр. Л.Ф. Оштарпа (гл.). Даваў урокі ў Мінску. У аддзеле рэдкай кнігі Варшаўскага універсітэта захоўваецца сшытак нейкага Стравінскага з Накрышак (Навагрудчына), у якім ёсць рукапіс «Прамовы Мялешкі».
[Мальдзіс А. На скрыжаванні; Сяльверстава. Беларусь, с. 179; Maiachowski-Jempicki]

**Стражаў Іван Мартынавіч.** XVIII:2 (к. 1760 – пасля 1819)
Прыгонны масона А.І.Вяроўкіна (гл.), атпушчаны ім на волю пасля ўступлення ў ложу (прозвішча атрымаў ад назвы пасады ў ложы – страж). Кіраваў часткаю ўладанняў З.Р.Чарнышова. Пазней запісаўся ў купцы г. Віцебска, пабудаваў тут дом. Пад час вайны 1812 збяднеў і перайшоў у мяшчанскае саслоўе.
[Серков, с. 772]

**Страхоўскі Людвіг.** XIX:7
Памешчык. У 1820 – сакратар Віленскай скарбовай палаты.
[Серков, с. 772, Maiachowski-Jempicki]

**Стрынеўскі Вінцэнт.** XIX:2
[Maiachowski-Jempicki]

**Стычынскі (Стычыньскі) Вінцэнт Ягоравіч.** XIX:1 (каля 1784 – 10.07.1848)
Вучыўся ў Віленскім ун-це. З 1808 г. – доктар філасофіі. З 1802 – чыноўнік Лідскага дваранскага сходу, з 1803 – каморнік Мінскага пав. З 1804 г. – доктар філасофіі. У 1808 г. – настаўнік матэматыкі і фізікі Віцебскай гімназіі. З 1811 – настаўнік фізікі Беластоцкай гімназіі. З 1812 г. – памочнік дырэктара школаў Бе-

ластоцкай вобласці. З 1815 – драгічынскі гродскі суддзя. З 1819 – дарадца Гродзенскай скарбовай палаты, кантралёр. З 1826 – чыноўнік да спецыяльных спраў гродзенскага губернатара. З 1827 г. – дарадца Гродзенскага губернскага праўлення. У 1827-1838 г. штогод на працягу 2 месяцаў выконваў абавязкі гродзенскага віцэ-губернатара. У 1830–1840 – дарадца Гродзенскай скарбовай палаты. З 1833 тытулярны дарадца. Пахаваны на Фарных могілках у Гродне.

[Серков, с. 776; Гардзееў. З гісторыі, с. 102; Rozmus, Gordziejew, s. 111]

**Стэйн (Штэйн) Станіслаў.** XIX:2

У 1820 – ксёндз, капелан польскага конна-ўланскага п.

[Maiachowski-Jempicki]

**Стэфановіч Францішак.** XIX:4

У 1820 г. – рэгент Слонімскага пав.

[Серков, с. 771]

**Судхоўскі Пётр.** XIX:1

[Maiachowski-Jempicki]

**Сулістроўскі Казімір Алаізавіч.** XIX:2

У 1809–1813 – віленскі губернскі маршалак. У 1818-1819 – стацкі дарадца, мінскі грамадзянскі губернатар. Даў 15 дукатаў на будаўніцтва кракаўскага помніка Касцюшку. Магчыма, 2 сакавіка ў яго дзень нараджэння, бо ў гэты дзень ложа яго віншавала.

Дзеці: дачка Антаніна, збірала ахвяраванні на помнік Касцюшку ў Кракаве.

Бацька: пісар вялікі літоўскі, паўстанец 1794 г., адзін з 8 дарадцаў ад ВКЛ у Найвышэйшую Літоўскую Раду.

[БАНЛ, F 75-134, а. 7; Серков, с. 778; Швед В. Паміж Польшчай і Расіяй, с. 243; Lista imenna, s. 176; Uruski, t. XIII, s. 43]

**Сулкоўскі Ян.** XVIII:1, XIX:5 (? – 09.12.1819)

У 1819 г. – тытулярны дарадца. Былы губернскі страпчы крымінальных справаў.

[Серков, с. 778; Maiachowski-Jempicki; Zalkski. O masonii, cz. 2, s. 199]

**Сухадолец Міхал Мацеевіч.** XVIII:1, XVIII:4 (к. 1748 – 18.10.1826)

Бацькі: кашталян Любельскі з 1739, маці Атыля з Галухоўскіх.

Дзеці: сын Войцэх, пасол на сейм 1788 з лагера гетмана Браніцкага, кашталян радомскі (1790).

[Maiachowski-Jempicki; Swikcki, t. II, s. 455]

**Сымановіч Рамуальд-Мікалай Баніфацыевіч.** XIX:2 (03.02.1793 – не раней 05.10.1873)

З 14.02.1817 – канцылярыст і архівіст архіва пры генеральным пракуратары Радзівілаўскай камісіі. Пазней – памочнік генеральнага архівіста радзівілаўскага архіва. Пасля заканчэння дзейнасці камісіі быў прызначаны на пасаду архівіста Нясвіжскага архіва, які належаў Радзівілам і Вітгенштэйнам.

Бацька: ротмістр наваградскі, спадчыннік маёнтка Ліпніца.

Брат: Мацвей (Матэвуш), прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

[Латушкін, с. 109; Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 110; Серков, с. 747; Maiachowski-Jempicki]

**Сцяпанаў 2-гі Павел.** XIX:2

У 1822 г. – палкоўнік РВ, камандзір 2-га Марскога п.

[Серков, с. 770; Maiachowski-Jempicki]

**Сядлецкі Казімір Мацеевіч.** XIX:1 (каля 1786 –?)

З 20.03.1803 г. па 25.03.1804 – капііст, да 07.04. – падканцылярыст, затым канцылярыст Літоўска-Гродзенскага губернскага праўлення. З 19.03.1807 г. – памочнік столаначальніка, з 21.04.1807 – столаначальнік. З 31.12.1807 – кал. рэгістратар. 05.07.1808 прызначаны ў камісію для раскрыцця злоўжыванняў па збору ў Гродне лішніх падаткаў, 31.02.1810 атрымаў чын губ. сакратара. 20.10.1808 г. – перакладчык папер з польскай мовы, з 03.02.1810 – экспедытар да сакратара з даручэннем у асаблівы нагляд некаторых паветаў, 07.04.1810 прэміраваны грашовай узнагародай, 31.02.1810 атрымаў чын губ. сакратара. 14.04.1811 назначаны пратакалістам без зняцця з папярэдняй пасады. У 03.05.1812 пераведзены сакратаром Ваўкавыскага земскага суда. Пад час вайны 1812 г. адышоў з рас. войскам, але ў маёнтку кн. Радзівіла ў Мінскай губ. быў захоплены ў палон. Пражываў у Ваўкавыскім пав., апублікаваў прысланую патаемна ад Чычагова пракламацыю да палякаў на акупаванай французамі зямлі. У 1812 г. удзельнічаў у вайсковай кампаніі на расійскім баку. 05.01.1813 атрымаў сведчанне з падзякай ад літоўска-гродзенскага губернатара Ланскога. 10.04.1813 г. прызначаны ў камісію па сакрэтных справах аб шкодных чутках у Ваўкавыскім пав. 17.03.1814 стаў дваранскім засядацелем ад Кароны ў Ваўкавыскім ніжнім земскім суддзе. З 1 па 20 мая займаў пасаду земскага спраўніка. Праявіў сябе актыўным у выкананні царскага ўказа ад 02.1814 г. аб харчаванні расійскіх войскаў, нарыхтоўцы фуражу. За гэта атры-

маў 31.03.1815 пасведчанне з падзякай ад камандзіра 3-й улан. дывізіі Лісаневіча. З 16.07.1815 па 14.08.1815 выконваў абавязкі земскага навагрудскага спраўніка. 28.02.1816 атрымаў акт падзякі ад дваран Навагрудскага пав. за разумнае кіраўніцтва па выкананню ўказа аб харчаванні і праходзе войскаў. 21.02.1816 вярнуўся ў штат Гродзенскага губ. праўлення экспедытарам, а 25.02.1818 стаў яшчэ і сакратаром. Указам Сената ад 02.09.1818 атрымаў чын тытулярнага дарадцы. Указам Сената 03.12.1823 прызначаны асэсарам губ. праўлення замест памерлага Кузымовіча (гл.).

Жонка: К.Кавельмахер.

Дзеці: сыны Аляксандр (нар. у 1816), Адольф (1820).

[НГАЛ, ф. 378, 1822 г., спр. 234, а. 26-31, 43; Серков, с. 738; Гардзееў. З гісторыі, с. 102]

**Сядлецкі Фелікс Мацвеевіч.** XIX:1, XIX:6

У 1820 – каморнік Пружанскага пав. У 1821 г. – суддзя Пружанскага пав.; калежскі рэгістратар, пружанскі павятовы землямер.

[Серков, с. 738; Гардзееў. З гісторыі, с. 102; Maiachowski-Jempicki]

**Сяменскі (Сяменьскі) Аляксандр.** XIX:2

У 1820 – памешчык.

[Maiachowski-Jempicki]

**Сянкевіч Вінцэнт Фадзеевіч.** XIX:2, XIX:6

Памочнік дырэктара вучылішчаў Мінскай губ. (з 01.09.1810). Калежскі асэсар. У 1820-1821 – настаўнік фізікі ў Мінскай гімназіі. У 1821 г. – магістр філасофіі. Быў на службе 17 гадоў, калі напісаў прашэнне аб звальненні. Скардзіўся на хваробу апошнія восем гадоў, але быў звольнены з працы з-за п’янства. Атрымаў пенсіён 200 руб. серабром у год з 01.09.1828.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 2384, а. 1-4, 7 а. – 8; Серков, с. 741; Maiachowski-Jempicki]

**Сяржпінскі Станіслаў.** XIX:5, XIX:6

Шляхціц. У 1820 г. – паручнік ВП.

[Серков, с. 743; Maiachowski-Jempicki]

**Сяўрук Юзэф (Восіп) Сямёнавіч.** XIX:6, XIX:7

У 1814–1822 – настаўнік геаграфіі і арыфметыкі Слуцкага павятовага вучылішча. У 1818 г. – прафесар (настаўнік) Слуцкага ліцэя. У 1821-1822 – кандыдат філасофіі. У 1822 г. – калежскі сакратар.

[Серков, с. 737-738; Maiachowski-Jempicki]

## Т

**Талькоўскі Юзэф.** XIX:5
У 1822 г. – маёр Валынскага ўланскага п.
[Серков, с. 785; Maiachowski-Jempicki]

**Тарнэзы (Тарнэзье, Тарнэзіе) 1-ы Цэзары (Сямён) Якаўлевіч.** XIX:5
Удзельнік вайны 1812 г. (бітва пад Смаленскам). У 1812–1822 служыў у Літоўскім уланскім п., у 1812 г. – карнет, у 1822 – ротмістр. У 1825-1828 – ротмістр л.-гв. Гродзенскага гусарскага п., знаходзіўся ў Варшаве.
[Серков, с.806; Maiachowski-Jempicki]

**Тарчынскі Пётр.** XIX:2, XIX:6
У 1820 – памешчык.
[Серков, с. 806; Maiachowski-Jempicki]

**Тжцінскі Караль.** XIX:2
Шляхціц. У 1830-я гады – дарадца ў Пінску.
[Maiachowski-Jempicki]

**Тоўсцік Вінцэнт.** XIX:7
Гувернёр.
[Maiachowski-Jempicki]

**Трусаў Іван.** XIX:5
[Maiachowski-Jempicki]

**Трушынскі Мікалай.** XIX:5
Шляхціц герба «Рагаля». У 1822 – паручнік Татарскага ўланскага п.
[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 112; Maiachowski-Jempicki]

**Трэмбінскі Аляксандр.** XIX:2
Чыноўнік 13-га класа.
[Maiachowski-Jempicki]

**Турскі Антоні.** XIX:5, XIX:6
З 03.07.1812 г. – сябра брэсцкай Часовай ваенна-грамадзянскай камісіі для захавання парадку. З 1818 г. па 1820 – суддзя Эйшышскага пав. У 1821 – былы суддзя Лідскага пав.
[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 19, спр. 1141, а. 77–80, 112; Серков, с. 817]

**Тыльчэўскі Дыанізі (Дзяніс) Ігнацьевіч.** XIX:7
Былы слуцкі спраўнік у 1818.
[Maiachowski-Jempicki]

**Тышкевіч Вінцэнт Дамінікавіч.** XIX:2 (1795– ?).
Вучыўся пад наглядам Я.Снядэцкага ў Мінскай гімназіі. Потым грошы на адукацыю ў 1816–1821 (3 000 чырвоных злотых) даў дзядзька граф В.Тышкевіч, літоўскі рэферэндар. У 1822 г. – юнкер Гродзенскага гусарскага п. У 1830-я гады – барысаўскі павятовы маршалак, памешчык.
Бацька: маршалак Барысаўскага пав. Маці: Зоф'я са Слізняў.
[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 556, а. 2, 6, 21; Серков, с. 801; Maiachowski-Jempicki]

**Тышкевіч Ян.** XIX:4 (у 1820 меў 21 год)
Граф. Дыплом вучня ў ложы атрымаў 27.06.1820. Родам з Віленскай губ.
[БАНЛ, F 31 – 1426, a. 1]

## Ф

**Фаленскі (Фалінскі, Фаліньскі) Антоні Юзэфавіч (Восіпавіч).** XIX:1
У 1819–1826 – тытулярны дарадца. У 1819 г. – чыноўнік, у 1821 – дарадца скарбовай палаты Гродзенскай губ. У 1822 ахвяраваў гродзенскай губернатаршы Анджэйкавіч 13 злотых 10 грошаў на кракаўскі помнік Касцюшку. У 1826 г. – губернскі кантралёр Гродзенскай скарбовай палаты ведамства дэпартамента дзяржаўных маёмасцей Міністэрства фінансаў.
[Серков, с. 827; Гардзееў. З гісторыі, с. 102; Lista imenna, s. 143; Maiachowski-Jempicki]

**Фальскі Юзэф.** XIX:5, XIX:7
Былы радзівілаўскі канюшы, у 1820 – наглядальнік слуцкіх стайняў, памешчык Слуцкага пав.
[Maiachowski-Jempicki]

**Федаркевіч Сільвестр.** XIX:7
Служачы ў ложы.
[Maiachowski-Jempicki]

**Федаровіч Ян.** XIX:2
Служачы варштата.
[Maiachowski-Jempicki]

**Фелінг Ян.** XIX:5
У 1808–1810 г. – нясвіжскі бургамістр (стараста).
[Серков, с. 830; Maiachowski-Jempicki]

**Філімонаў Мікалай Гаўрылавіч.** XIX:4, XIX:6
Служыў у Валынскім уланскім п. Удзельнік вайны 1812 г., замежных паходаў 1813-1814 г. Па заканчэнню вайны полк кватараваў у Навагрудку Гродзенскай губ. У 1820–1825 – падпалкоўнік Валынскага ўланскага п., у 1826 г. – палкоўнік таго ж палка. У 1827 г. – яго камандзір.
[Серков, с. 833-834]

**Філжан (Фільжан) Ян (Жан).** XIX:1 (каля 1775 – ?)
У 1821–1833 – настаўнік, дырэктар прыватнага жаночага пансіяната ў Гродне. У 1831 тут вучыліся 12 дзяўчат, працавалі 2 ксёндзы, настаўнік, музыкант, 2 гувернанткі. У 1833 быў падазроны ў сувязях з Марцэлем Шыманскім, эмісарам Ю.Заліўскага. Абвінавачваўся ў дастаўцы карэспандэнцыі і неданясенні пра гэта ўладам. Пасля канфірмацыі прыгавора віленскім ваенным генерал-губернатарам кн. М.Далгарукавым высланы ўглыб Расіі (29.12.1833). Пансіянат быў зачынены.
[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 2891, а. 17, 69-70; Sliwowska. Zeslancy, s. 162, Sidorowicz-Czerniewska; Серков, с. 33; Гардзееў. З гісторыі, с. 102]

**Фоўх Фердынанд.** XIX:7
Адстаўны карнет расійскага ўланскага п.
[Maiachowski-Jempicki]

**Фрыбес (Фрыбас) Вінцэнт Францавіч.** XIX:2, XIX:6, XIX:7
У 1820 – сакратар Мінскага грамадзянскага губернатара Суліструоўскага. У 1821 – тытулярны дарадца. У 1822 ахвяраваў Антаніне Сулістроўскай 1 дукат на кракаўскі помнік Касцюшку.
[Серков, с. 843; Lista imenna, s.174; Maiachowski-Jempicki]

**Фрыбэс (Фрыбас) Францішак.** XIX:2, XIX:3, XIX:6
Адстаўны капітан ВП.
[Maiachowski-Jempicki]

**Фрэйт Міхал.** XIX:2
У 1820 г. – музыкант. Даваў урокі ў Мінску.
[Серков, с. 843; Сяльверстава. Беларусь, с. 179]

**Фукс.** XIX:7
У 1820 – вайсковец.
[Maiachowski-Jempicki]

**Фэхнер Хрысціян Эрнест.** XVIII:1
Купец з Эльблёнга, які ў 1778 г. атрымаў гарадзенскае грамадзянства.
[Гардзееў. Гарадзенскія прывілеі, с. 133]

## Х

**Хабжынскі Юзэф.** XIX:1
У 1812 г. ваяваў у войску Княства Польскага. У 1819 – адстаўны маёр. У 1821 г. – суддзя Кобрынскага межавага апеляцыйнага суда.
[Серков, с. 853; Гардзееў. З гісторыі, с. 102; Maiachowski-Jempicki]

**Хаецкі Ян.** XIX:2
Земскі каморнік віленскі. У 1822 г. ахвяраваў мінскай губернатаршы Антаніне Сулістроўскай 1 дукат на кракаўскі помнік Касцюшку.
[Lista imenna, s.174; Maiachowski-Jempicki]

**Хелміцкі В. (ці А.)** XIX:4
Служыў у Валынскім уланскім палку і быў сябрам створанага тут Таварыства сяброў. Магчыма, быў сувязным паміж гэтым Таварыствам і Таварыствам ваенных сяброў. Пасля следства над ім у 1827 выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра з перайменаваннем у чыноўніка 10-га кл. і паступленнем у камісарыяцкі штат. У 1832 пакінуў службу і пасяліўся ў Хоцімскім пав. Валынскай губ. Страціўшы маёнтак, працаваў упраўляючым у маёнтку Навaселішча памешчыка Стурдзы. У 1848 быў арыштаваны па справе эмісара Радзікоўскага. На следстве была выяўлена яго сувязь з Дэмакратычным таварыствам і тое, што ён распаўсюджваў забароненую літаратуру. У чэрвені 1849 быў сасланы на 12 гадоў катаржных працаў у Вусць-Каменагорск. З 23.10.1853 – на пасяленні ў Кетскім

пав. Томскай губ. Пэўны час знаходзіўся ў Томскай турме (1855). У 1856 быў амнісціраваны.

Жонка: імя і прозвішча невядомы.

Дзеці: некалькі, жылі ў Падольскай губ.

[Ланда. У истоков, с. 57, 59, 60; Sliwowska. Zeslancy, s. 93]

**Хлявінскі (Хлявіньскі) Адам Тадэвушавіч.** XIX:1, XIX:4, XIX:5, XIX:6

Шляхціц. У 1814 – навагрудскі павятовы харунжы. У 1818 г. жыў у Навагрудку. Уладальнік маёнтка Стараельня ў Наваградскім пав.

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 119; Серков, с. 853; Гардзееў. З гісторыі, с. 102]

**Хмялеўскі Ян.** XIX:1

[Maiachowski-Jempicki]



Ян Ходзька

**Ходзька (Ходзька-Барэйка) Ян Юзэфавіч** (літаратурны псеўданім – пан Ян са Свіслачы). XIX:1, XIX:2 [24.06.1777 г. в. Крывічы Віленскага в-ва (па інш. дадзеных, у 1776, Загож Ашмянскага пав.) – 10.11.1851, Мінск].

У дзяцінстве асірацеў, вучыўся ў віленскіх школах. У 1793 выбраны камісарам цывільных войск Ашмянскага пав. У 1795 – асэсар пастаўскага суда, у 1798 – падсуддзя, у 1808 – падкаморы Вілейскага пав. З 1811 па 1826 быў ганаровым дазорцам вучылішчаў Дзісенскага пав. Сябра Таварыства шубраўцаў (мянушка Вызгант). У 1811 г. – старшыня Мінскай грамадзянскай палаты. У час вайны 1812 г. перайшоў на бок французаў і здаў ім правіянцкія запасы, якія захоўваліся ў Мінску, уваходзіў спачатку ў Камісію Часовага кіравання Мінскай правінцыі (аддзел фінансаў), потым – у адміністрацыйную камісію Мінскага дэпартамента, дзе быў памочнікам старшыні аддзела фінансаў. Напісаў патрыятычны твор «Вызваленая Літва», друкаваў артыкулы ў «Газеце Мінскай» з вераю ў перамогу французаў. Некаторы час пасля вайны жыў у Варшаве, але пасля амністыі вярнуўся дадому. У 1812–1814 – старшыня 2-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда. Аднаўляў працу масонскай ложы «Руплівы ліцвін» у Вільні

ў 1816. У 1818-1819 г. – старшыня 1-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда. У 1820 г. на старонках прэсы патрабаваў адкрыцця летніх школаў для вясковых дзяцей. Арганізатар Мінскага дабрачыннага таварыства. У 1821–1826 быў ганаровым сябрам Віленскага ун-та. Сябра польскага Патрыятычнага таварыства, куды прыняў яго М.Ромер (гл.). За сувязі з дзекабрыстамі арыштаваны ў 1826 г. Сядзеў у Варшаве, выключаны з ліку ганаровых сяброў Віленскага ун-та. 26.01.1827 пасаджаны ў Неўскую курціну Петрапаўлаўскай крэпасці. 23.08 ізноў быў вывезены ў Варшаву. Паўторна пасаджаны ў Неўскую курціну 31.05.1828 г. У 1829 сасланы ў Перм, куды прыбыў 19.02 пад нагляд паліцыі. Вясной 1830 вярнуўся ў Вільню, але з пачаткам паўстання быў высланы з сынам на Урал. У 1834 г. вярнуўся на радзіму, жыў у Мінскім пав. (Крывічы, Парафіянаў, Янаўшчызна, Раговічы). Пісьменнік, драматург, перакладчык. Аўтар граматыкі польскай мовы для вясковых школаў (Парыж), якая прызнавалася Віленскім ун-там. Любіў тэатр, рабіў аматарскія пастаноўкі, выступаў як акцёр, бо хацеў абудзіць зацікаўленасць да разумнай дзейнасці і забаваў. У 1851 прызначаны ў Мінскую будаўнічую камісію. Пахаваны на Парафіяльных могілках у Заслаўлі.

Творы: Пра парафіяльныя і сельскія школы // Дзеі дабрачыннасці. – Вільна, 1820. Т. 1. – С. 315–326; Пан Ян са Свіслачы, вандруючы гандляр. – Вільня, 1821, 1824, 1825; Разнастайныя лісты. – Т. 1–12, 1837–1842 г.; у рукапісах пакінуў дзве вершаваныя трагедыі «Баляслаў Крываўсты» і «Кракус» (першая з іх была пастаўлена на сцэне) – усе на польскай мове.

Узнагароды: ордэны Св. Ганны 2-й ст., Св. Уладзіміра 4-й ст.

Бацькі: Юзэф і Канстанцыя з Буйніцкіх.

Жонка: Клара з Корсакаў (пам. у 1852).

Дзеці: Уладзіслаў, вілейскі павятовы суддзя; Юзэф (06.12.1800-21.12.1881), сябра Таварыства філарэтаў, інжынер імператарскага двара, даследчык Каўказа, пазней ген.-лейтэнант Генеральнага штаба; Аляксандр (1804–1891), сябра Таварыства філарэтаў, паэт, блізкі сябра А.Міцкевіча і Ю.Славацкага, рускі консул у Персіі, усходазнавец, арыенталіст і славіст; Фелікс і Міхал (1808–1879), вядомыя механікі; Станіслаў, прафесар хіміі і фізікі ў камунальнай школе Фрыбурга; дачка Зоф'я, замужам за Набароўскім.

Пляменнік: Ігнацы (гл. ніжэй.).

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 1336, а. 261; спр. 1616, а. 1, 2; Краснянский. Минский департамент, с. 14-15; Серков, с. 854; Гардзееў. З гісторыі, с. 102-103; Філаматы і філарэты, с. 337; Chodzko, s. 279,

334, 336, 338–340; Encykiopedyja Powszechna, t. 5, s. 416; Orgelbrand. t. 3, s. 494; PSB, t. III, s. 384-385; Sliwowska. Zeslancy, s. 100; WEPI, 1993, s. 759]

**Ходзька Ігнацы.** XIX:2 (1794, Віленская губ. – 01.8.1861, мястэчка Дзявентны, Віленская губ.)

У 1804 г. адданы у школу ў Боруне (? Баруны). У 1810 г. перайшоў у Віленскі ун-т, які скончыў са ступенню кандыдата. У 1826 г. паступіў на службу па кіраванню маёнткамі Радзівілаў. Быў ганаровым наглядальнікам вучылішчаў Свянцянскага пав. У 1858 г. – сябра і віцэ-прэзідэнт Сялянскага камітэта ў Вільні. З 1861 г. – пасрэднік па справах сялянскай рэформы. Сакратар пры Яне Ходзьке (гл.). Літаратар. Сябра Таварыства шубраўцаў.

Жонка: дачка Міхала Мацкевіча.

Дзеці: дачка.

[Серков, с. 854]

**Хрсцішэўскі А.** XIX:7

Падпалкоўнік Татарскага ўланскага п.

[Maiachowski-Jempicki]

**Хрушчэўскі Ануфры.** XIX:5, XIX:6

Шляхціц. Камісар Нясвіжскай ардынарыі.

[Серков, с. 858; Maiachowski-Jempicki]

**Хэльміцкі В.** XIX:4

У 1822 г. – паручнік Валынскага ўланскага п. Сябра Таварыства сяброў і Таварыства ваенных сяброў.

[Серков, с. 851]

## Ц

**Цэльчэўскі (Цельшэўскі) Дыянісі Ігнатавіч.** XIX:5, XIX:7

У 1814 – засядацель Слуцкага земскага суда Мінскай губ. У 1820 – былы земскі капітан-спраўнік Слуцкага пав.

[Серков, с. 791; Maiachowski-Jempicki]

**Цюнджэвіцкі Юзэф.** XIX:2

У 1820 г. – памешчык. Межавы суддзя.

[Серков, с. 863; Maiachowski-Jempicki]

# Ч

**Чапскі (Гутэн-Чапскі) Караль-Юзэф-Патрыцы-Ігнацы-Клеменс-Геранім Францавіч.** XIX:3, XIX:5, XIX:6

Дзяцінства правёў у Нясвіжы, у дзядзькі Караля Радзівіла («Пане Каханку»), вучыўся ў калегіі піяраў у Вільні, потым у Варшаве. У 1808 і 1811 выбіраўся маршалкам Мінскага пав. У 1811 г. быў прызнаны ганаровым куратарам вучылішч Слуцкага пав. Уласнік зямель, якія належалі мацеры – Станькова Мінскага пав., Жупраны і Навасёлкі Ашмянскага пав. У 1812 г. увайшоў у склад Камісіі Часовага кіравання Мінскай правінцыі, а пасля яе ліквідацыі быў прызначаны ўрадам ВКЛ дырэктарам казны Мінскага дэпартамента. Пасля паражэння французаў эміграваў, але пасля амністыі вярнуўся ў Станькова. У 1816 быў абраны маршалкам Мінскага пав. У 1820 г. – сябра Віленскай адукацыйнай камісіі і польскага Патрыятычнага таварыства. У 1822 ахвяраваў 3 дукаты на кракаўскі помнік Касцюшку. Памёр у Даніловічах (Мінская губ.), пахаваны ў Станькове.

Бацька: граф Францішак-Станіслаў-Костка фон Гутэн-Чапскі, ваявода Хелмінскі, кавалер ордэна Белага Арла.

Маці: Вераніка з князёў Радзівілаў (дачка гетмана вялікага літоўскага Міхала-Казіміра).

Жонка: Фабіяна з Абуховічаў (гл.).

Дзеці: Марыя-Салезія, манашка; Адам-Юзэф-Эразм, камер-юнкер двара ЯІВ, жанаты на гр. М.Ржэвускай; Караль-Ігнацы-Феліцыян, музыкант; Караль-Эмерык (нар. у 17.11.1827 ці 1828 г.), таварыш (намеснік) міністра, глава ляснога дэпартамента (1875), нумізмат.

Брат: Станіслаў, удзельнік вайны 1812 на баку Францыі, атрымаў ордэн Ганаровага легіёну.

[НГАЛ, ф. 1283, воп. 1, спр. 1, а. 46, 51; Серков, с. 866; ЭГБ, т. 6, кн. 2, с. 136; Яновіч, с. 3-4; Bajkow, s. 250-251; Kossakowski, t. 1, s. 81; Lista imenna, s. 174; Morawski, s. 601; PSB, t. IV, s. 189-190, 194]

**Чарніхоўскі Людвік Мікалаевіч.** XIX:2 (у 1838 г. было 47 гадоў)

Па заканчэнню Віленскага ун-та і здачы экзамена прызначаны ў Лужыцкае павятовае вучылішча настаўнікам маральных навук, арыфметыкі, землеапісання, расійскай і французскай моваў. 01.07.1814 г. звольнены па прашэнню, з 17.04.1817 па 02.09.1838 – сакратар Радзівілаўскай камісіі. Атрымаў знак адзнакі «беспорочной службы». У 1820 – маршалак вілейскі.

[НГАЛ, ф. 459, воп. 2, спр. 1891, а. 35–38; Серков, с. 873]

**Чарноўскі Юзэф (Іосіф) Гаўрылавіч.** XIX:5

У 1820 г. – капітан-спраўнік Ігуменскага пав. У 1821 г. – спраўнік ніжняга земскага суда Ігуменскага пав., губернскі сакратар.

[Серков, с. 866; Maiachowski-Jempicki]

**Чарноцкі Караль.** XIX:5

Шляхціц. У 1820 г. – жыхар Слуцкага пав.

[Серков, с. 866; Maiachowski-Jempicki]

**Чачкоўскі (Чашкоўскі) Міхал.** XIX:1

У 1819 г. – брэсцкі адвакат. У 1821 г. – суддзя Брэсцкага межавага апеляцыйнага суда.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 103; Серков, с. 868]

**Чачот Аляксандр-Апалінары Людвігавіч.** XIX:2

У 1820 г. – памешчык. Мінскі межавы суддзя. У 1834 – рэгент Мінскага павятовага суда.

Бацька: Людвіг Францавіч.

[Памяць. Мінск, кн. 1, с. 484; Серков, с. 877]



Ян-Антоні Чачот

**Чачот Ян-Антоні Тадэвушавіч** (24.07.1796, в. Малюшычы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. – 23.08.1847). XIX:2

Дзяцінства прайшло ў маёнтку гр. А.Тызенгаўза. Вучыўся ў Навагрудскай дамініканскай школе і Віленскім ун-це разам з А.Міцкевічам. Паколькі бацькі не маглі аплочваць вучобу сына, ён праз год пакінуў ун-т і ўладкаваўся ў Віленскае бюро па ўпарадкаванню архіваў князёў Радзівілаў. У 1819–1822 – настаўнік арыфметыкі і геаграфіі Мінскай гімназіі. У 1819 г. – магістр, у 1820–1822 – кандыдат філасофіі. Сябра таварыстваў прамяністых, філарэтаў, філаматаў. На пасяджэннях выступаў са сваімі вершамі, напісанымі па-беларуску. На паэтычным турніры 21.12.1818 быў прызнаны трэцім паэтам пасля А.Міцкевіча і Т.Зана. У 1823 г., пасля следства над патаемнымі таварыствамі, высланы з Беларусі на Урал, у крэпасць Кізіл. У 1825 пераведзены ў Уфу, у 1831 – у Цвер. Вярнуўся

на радзіму толькі ў 1841 г. Маёнтка не меў, працаваў сакратаром упраўлення Бярэзінскага канала, бібліятэкарам у гр. Храптовіча. Нягледзячы на хваробы, займаўся этнаграфіяй, збіраў беларускі фальклор. У в. Бортнікі на Навагрудчыне запісаў і склаў зборнік беларускіх народных песень, які не захаваўся. Выказваўся за адмену прыгоннага права, але верыў, што палепшыць становішча сялянства можна праз дабрату і маральнасць паноў. А таму заклікаў іх зацікавіцца народным бытам, традыцыямі, культурай. Выдаў на працягу 1837–1846 6 фальклорных зборнікаў «Сялянскія песні» (каля 1 000 песен, уласныя беларускія вершы, слоўнік беларускай-крывічскай мовы з 200 слоў).

Бацька: аканом гр. Тызенгаўза, арандатар. Маці: Клара Гасіцкая.

Творы: Piosenki wieњniacze z nad Niemna. – Wilno, 1837; Piosenki wieњniacze z nad Niemna, Dniepra i Dniestra. – Wilno, 1845; Powesci dlia mlodych dziewcz№t. – Wilno, 1845; Piosenki wieњniacze z nad Niemna i Dųwiny. – Wilno, 1846; Nektyre uwagi szczegylnie pod wzglkdem stylu nad pieњn№ trzeci№ Anofelas «Witoldowych Bojyw» przez P. Kraszewskiego. – Wilno, 1846.

[Мысліцелі і асветнікі, с. 597-598; Очерки истории философской и социологической мысли, с. 294, 554; Серков, с. 877]

**Чмыхаў Ян (Іван) Фёдаравіч.** XIX:2

У 1814 г. – калежскі сакратар. У 1814–1820 – сакратар 1-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда. У 1821-1822 – тытулярны дарадца. У 1821 – асэсар, у 1822 – дарадца Мінскага губернскага праўлення. У 1833 – мінскі губернскі пракурор, надворны дарадца.

[Серков, с. 878; Maiachowski-Jempicki]

**Чыбісаў Іван.** XIX:7

У 1820 – дарадца Мінскага губернскага праўлення.

[Maiachowski-Jempicki]

**Чэхоўскі Станіслаў-Казімір.** XIX:4, XIX:6

Маёр Валынскага ўланскага палка.

[Maiachowski-Jempicki]

## Ш

**Шавельскі Гжэгаж (Рыгор).** XIX:4

У 1820 г. – повар.

[Серков, с. 878; Maiachowski-Jempicki]

**Шалкевіч Вінцэнт.** XIX:2
Музыкант. Даваў урокі ў Мінску.
[Сяльверстава. Беларусь, с. 179; Maiachowski-Jempicki]

**Шафрскі Фёдар.** XVIII:2
У 1822 – надворны дарадца, галоўны доктар Віленскага шпіталю.
[Серков, с. 885; Maiachowski-Jempicki]

**Шванцоў Ян.** XIX:5
У 1820 – капітан артылерыі.
[Maiachowski-Jempicki]


І.Г. Шварц

**Шварц Іёган-Георг (Іван) Ягоравіч.** XVIII:2 (1751, Седміградскае княства ў Трансільваніі – 17.02.1784, в. Ачакава, маёнтак Трубяцкіх каля Масквы)

Выхоўваўся ў Сілезіі. Унтэр-афіцэр галандскай Ост-індскай кампаніі. Кандыдат абодвух правоў Йенскага ун-та. У 1776 кн. І.С.Гагарын запрасіў яго на працу гувернёрам да дзяцей А.М.Рахманава, сям'я якога жыла ў Магілёве. Пад час паездак у Маскву быў прыняты кн. Трубяцкім у масоны і заснаваў ложу ў Магілёве. Падтрымоўваў сувязі з Курляндыяй, дзе далучыўся да старых масонаў «строгага назірання». Пасля смерці Рахманава ў 1779 пераехаў у Маскву. З 21.08.1779 быў прызначаны экстраардынарным прафесарам Маскоўскага універсітэта па кафедры «філасофіі і белетраў». З 01.07.1780 інспектар дзвюх гімназій. З 05.02.1780 публічны ардынарны прафесар філасофіі (да 1782). У 1780-1781 выкладаў нямецкую мову і стылістыку ў гімназіі пры Маскоўскім ун-це, быў яе рэарганізатарам. З 1780 адна са значных фігур у расійскім масонстве XVIII ст., галоўны ідэолаг маскоўскага кружка розенкрэйцараў. У 1781-1782 дабіўся прызнання рускага масонства як самастойнага сярод заходнееўрапейскіх братоў (8-й правінцыяй масонскага свету). У 1781 заснаваў «Таварыства універсітэцкіх выхаванцаў», «Сяброўскае Навуковае таварыства», стаў галоўным рэдактарам часопіса «Московское издание» і «Московской немецкой газеты». У маі 1782 ат-

рымаў званне ганаровага прафесара, са жніўня пачаў чытаць ва унце курс эстэтычнай крытыкі, а ў «Сяброўскім Навуковым таварыстве» – курс філасофіі гісторыі і свае «разважанні». У 1782 падаў прашэнне аб адстаўцы і быў у снежні звольнены. Перасяліўся ў дом М.І.Навікова каля Нікольскіх брамаў. Восенню наступнага года цяжка захварэў і праз некалькі месяцаў памёр. Пахаваны ў Ачакаве.

Маці: у 1791 жыла ў Брэславе.

Жонка: Наталля Ільінічна (пам. не раней 1822), былая гувернантка.

Дзеці: Павел, масон; Пётр, масон; Наталля, замужам за Чарапанавым.

[Масонства, т. 1, с. 191–226; Бакунина. Знаменитые, с. 128; Серков, с. 888]

**Шедэ (Шеда) Фрыдэрык.** XIX:1

У 1803 быў арэндатарам былой езуіцкай аптэкі ў Гродне. У 1822 – гродзенскі аптэкар. Займаўся дабрачыннай дзейнасцю. Сябра Пецярбургскага фармацэўтычнага таварыства.

[Серков, с. 890; Гардзееў. З гісторыі, с. 103]

**Шмегельскі Геранім.** XIX:7

Прысяжны Слуцкага ніжняга земскага суда.

[Maiachowski-Jempicki]

**Шмерль Ізраэль.** XIX:8

[Серков, с. 902; Maiachowski-Jempicki]

**Шмідт Зігфрыд.** XVIII:1

Адзін з кіраўнікоў золататкацкай мануфактуры на Гарадніцы ў Горадні часоў А.Тызенгаўза.

[Końsciaikowski, t. 1, s. 247]

**Шнэйдэр Пётр Пятровіч.** XIX:2 (пам. 10.1828)

У 1819 г. заступіў на месца настаўніка, у 1820-1821 – настаўнік французскай мовы Мінскай губернскай гімназіі. Тытулярны дарадца. З 01.09.1818 настаўнічаў 10 год 1 месяц 13 дзён.

Жонка: Марыя.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 2607, а. 1, 2; Серков, с. 903]

**Шпінгер.** XIX:1

У пачатку 1820-х – маёр ВП.

[Maiachowski-Jempicki]

**Шрэйбер (Шрайбер) Фрыдэрык.** XVIII:1, XVIII:4
Харунжы надворнай міліцыі А.Тызенгаўза, афіцэр Гарадзенскага каралеўскага батальёна.
[Гардзееў Ю. Гарадзенскія прывілеі, с. 133; Końsciaikowski, t. 1, s. 496]

**Шукевіч Алаізы (Адольф) Антоніевіч.** XIX:1
У 1806 – лідскі земскі суддзя. У 1812 г. – камандзір эскадрона ВП, капітан. У 1817 г. – падкаморы Лідскага пав. У 1817–1821 г. – падкаморы Лідскага земскага суда.
[Гардзееў. З гісторыі, с. 103; Серков, с. 914; Maiachowski-Jempicki]

**Шукевіч Юзэф.** XVIII:1, XIX:4
У 1820 г. – паручнік ВП.
[Серков, с. 914; Maiachowski-Jempicki]

**Шулакоўскі (Шулякоўскі) Паўліні.** XIX:2
Прыватны служачы ў 1820.
[Maiachowski-Jempicki]

**Шусціскі (Шучынскі, Шушыцкі) Ян.** XIX:5
Музыкант.
[Maiachowski-Jempicki]

**Шчэнсновіч Юльян.** XIX:7
Настаўнік школ Слуцкага пав. У 1820 – прафесар Слуцкага павятовага вучылішча.
[Серков, с. 914; Maiachowski-Jempicki]

**Шыманскі Вінцэнт.** XIX:7
Памешчык Слуцкага пав.
[Maiachowski-Jempicki]

**Шыманскі Тэафіл.** XVIII:1, XIX:5
Жыхар, шляхціц Навагрудскага пав.
[Серков, с. 897]

**Шымкевіч Якуб.** XIX:4 (? – 1818, Танкеле Вількамірскі пав.)
Прафесар Віленскага ун-та. Вучыўся за мяжою, стаў доктарам філасофіі і медыцыны, надворным лекарам імператара Аляксандра I.

Меў вялікі маёнтак, прыбыткі ад якога выкарыстоўваў на дабрачынныя мэты. Сябра Таварыства шубраўцаў (мянушка – Пяркунас) і яго першы прэзідэнт. Па тэстамэнту ад 30.04.1818 перадаваў сваю маёмасць сялянам, у 1818–1832 яго фундуш на суму 1 500 чырвоных злотых ішоў на ўтрыманне трох немаёмасных вучняў і музыкантаў у навучальных установах Віленскай навучальнай акругі. Надворны дарадца. У сакавіку 1818 выступіў з крытыкай дзейнасці масонскіх ложаў і прапанаваў рэфарміраваць масонства.

Творы: Nauka o chirurgji teoretyczniej i praktycznej. Cz. 1. – Wilno, 1806; Nauka o chorobach dzieci. – Wilno, 1810; O pijansttwie. – Wilno, 1818.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 754, 761, 909, 927, 1993, 3326 і інш.; спр. 3007, а. 2, 18; Грицкевич. С факелом, с. 150; Orgelbrand, t. XIV, s. 325; WIEP Gutenberga, t. 17, s. 325; Witkowska, s. 39]

**Шымковіч Юзэфат.** XIX:7

Сакратар канцылярыі Віленскай (? губернскага праўлення).

[Серков, с. 897; Maiachowski-Jempicki]

**Шышка Леапольд Юзэфавіч.** XIX:1

У 1793 – падпаручнік польскай кавалерыі. У 1799 – прысяжны Лідскага ніжняга земскага суда. У 1806, 1819–1821 – лідскі гродскі суддзя. У 1808 – межавы суддзя Лідскага пав. У 1834 г. – межавы суддзя Гродзенскай губ. У 1840 – прысяжны Гродзенскай палаты грамадзянскага суда.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 103; Серков, с. 899]

**Шышка Міхал.** XIX:2

У 1820 – памешчык.

[Серков, с.899; Maiachowski-Jempicki]

**Шэдэ (Шэда) Фрыдэрык.** XIX:7, XIX:1

У 1803 г. быў арэндатарам былой езуіцкай аптэкі ў Гродне. У 1822 – гродзенскі аптэкар. Займаўся дабрачыннай дзейнасцю. Сябра Пецярбургскага фармацэўтычнага таварыства.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 103; Серков, с. 890]

**Шэмеш (Шэмешц) Казімір.** XIX:5, XIX:6

Да 1818 г. – ігуменскі павятовы маршалак.

[Серков, с. 891; Maiachowski-Jempicki]

# Э

**Эйдзятовіч Ігнацы.** XIX:5
У 1820 – падпалкоўнік ВП.
[Maiachowski-Jempicki]

**Эйсымонт Караль.** XIX:1
У 1821 – адвакат Гродзенскага галоўнага суда. Уступіў у ложу па прадстаўленню Д.Вітаноўскага (гл.) у маі 1819 г.
[БАНЛ, аддзел старадрукаў, F. 273-605, a. 1; Гардзееў. З гісторыі, с. 103; Серков, с. 924]

**Эйсымонт (Эйсьмант) Юзэф Мацеевіч.** XIX:1
У 1819 – падкаморы Гродзенскага пав.
Бацька: канюшы гродзенскі.
[Niesecki, t. IV, s. 11; Гардзееў. З гісторыі, с. 103; Серков, с. 924]

**Эйтвід Казімір.** XIX:2
Служачы варштата ў 1817.
[Maiachowski-Jempicki]

**Эме (Еме, Оме) Вінцэнт Фрыдэрыкавіч (Тэадоравіч).** XVIII:1, XIX:4 (каля 1783 – 1822)
Ступень доктара медыцыны і хірургіі атрымаў у Віленскім ун-це (14.02.1801). У масонства ўступіў прыкладна ў 1811-1812 г. З прычыны хваробы бацькі кіраваў ягонай аптэкай у Навагрудку.
Бацька: прыдворны лекар у Нясвіжы (гл.).
[Грицкевич. С факелом, с. 137; Серков, с. 926; Zalkski. O masonii, cz. 2, s. 195]

**Эме (Еме) Фрыдэрык-Тэадор.** XIX:4 (пам. 1810, 1820).
Доктар медыцыны і хірургіі Ліпскага ун-та. З 1769 па 1810 працаваў прыдворным лекарам у Нясвіжы. Быў практыкам медыцыны, хірургіі і акушэрства. 25.03.1814 падаў прашэнне на імя навагрудскага маршалка К. Рдултоўскага (гл.) з просьбаю вызваліць салон аптэкі, даручанай яму, ад вайсковага лазарэта. Аптэка змяшчалася ў будынку, які раней належаў езуіцкаму ордэну. Тут жыў Эме («мая рэзідэнцыя», як ён гаварыў), каб не хадзіць па балотных вуліцах горада да хворых; існавала лабараторыя для раскладкі і сушкі лекавых раслін, прыгатавання лекаў, мінеральнай вады; пакой правізара.

Творы: Апісанне каменя, які знаходзіўся ва ўрэтры 22 гады і ўсечанага ў Нясвіжы 9 лютага 1773 г. – W-wa, 1773, з гравюрамі; Назіранне за левай жаночай малочнай жалязой, часткова пашкоджанай ракам... паўтары гады прыносіўшым моцны боль і выразанай 19 мая 1773 г. у Нясвіжы. – W-wa, 1774, выданне 2-е, з малюнкамі. Абедзве кнігі напісаны на латыні і з'яўляюцца самымі старымі вядомымі творамі па хірургіі і ўралогіі на Беларусі.

Дзеці: Вінцэнт (гл.).

[НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, спр. 243, а. 129; Грицкевич. С факелом, с. 134, 136, 137; Крючок. Очерки, с. 70; Серков, с. 926; Bielicski, t. II, s. 337, 338; Encykiopedyja powszechna, t. 19, s. 749]

**Эстка Адам.** XIX:6

Памешчык Ігуменскага пав. Магістр права. У 1821 г. – жыхар Вільні.

[Серков, с. 929; Maiachowski-Jempicki]

**Эстка Зыгмунт.** XIX:2

У 1820 г. – межавы суддзя Ігуменскага пав.

[Серков, с. 929; Maiachowski-Jempicki]

**Эстка Якуб (Якаў).** XIX:2

У 1820-1821 – падсудак Ігуменскага земскага суда. Суддзя межавы вілейскі.

[Серков, с. 929; Maiachowski-Jempicki]

## Ю

**Юрскі Антоні.** XIX:5

У 1820 – памешчык.

[Серков, с. 929; Maiachowski-Jempicki]

**Юрэвіч Тадэвуш.** XVIII:1

Вучыўся ў Віленскай акадэміі, ксёндз, выкладаў у Крожскай школе. З 1772 у Гродне. Быў прэфектам (1786–1790), затым рэктарам (1793-1794) гарадзенскай школы Адукацыйнай камісіі. Верагодна, удзельнічаў у вайне 1812 г. на баку французаў, бо па «Именному списку 1813 г.» яго маёнтак Гаротнікі ў Слонімскім пав. падлягаў канфіскацыі за тое, што яго ўладальнік не вярнуўся ў тэрмін з-за мяжы.

[Гардзееў Ю. Гродзенскія прывілеі, с. 133; Именной список, с. 370 адв.]

**Ютэйка Палікарп.** XIX:1

Вучыўся мастацтву ў Я.Рустэма ў Віленскім ун-це, настаўнік малюнку ў Нясвіжскай і Мінскай гімназіях. У пачатку 1820-х гадоў – мастак у г.Гродне.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 104; Maiachowski-Jempicki]

## Я

**Яблонскі (Яблоньскі) Антоні Казіміравіч.** XIX:5, XIX:6

У 1820 г. – межавы суддзя Слуцкага пав.

Бацька: войскі навагрудскі, падстолі мазырскі.

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 129; Серков, с. 934]

**Яблонскі (Яблоньскі) Віктарын Юзэфавіч.** XIX:5, XIX:6, XIX:7

Земскі суддзя Слуцкага пав. У 1823 – слуцкі павятовы харунжы.

Бацька: стражнік навагрудскі.

Дваюродны брат: Антоні (гл.).

[Малы гербоўнік наваградскай шляхты, с. 129; Maiachowski-Jempicki]

**Ягалкоўскі Гжэгаж.** XIX:5, XIX:7

Сакратар камісіі знешніх спраў і паліцыі ў 1820.

[Maiachowski-Jempicki]

**Ягмін Павел Каэтанавіч.** XIX:1 (? – пасля 1828)

У 1785–1795 быў віцэ-адміністратарам каралеўскіх маёнткаў Брэсцкай эканоміі. Адданы прыхільнік польскага караля часоў Чатырохгадовага сейма: наглядаў за дзейнасцю сейміка Брэсцкага пав. У 1792 удзельнічаў у вайне супраць Расійскай імперыі. У 1794 па загаду караля прыняў удзел у паўстанні на чале стральцоў Брэсцкай эканоміі. Быў сябрам Брэсцкай парадкавай камісіі і суддзёй па крымінальных справах. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай купіў у генерала Румянцава ягоныя землі ў Брэсцкім, Кобрынскім і Пружанскім пав. У 1815 і 1819 – падкаморы Брэсцкага пав. У 1817, 1819–1822 – маршалак Брэсцкага пав. У 1828 пажадаў быць ганаровым дазорцам вучылішч Брэсцкага пав. М.Навасільцаў, апякун Віленскай навучальнай акругі, пісаў, што адпаведна з фармулярным спісам Я. «працягваў службу немалы час з выдатным стараннем...». Ён быў не супраць, і міністр народнай асветы зацвердзіў

Я. на пасадзе 04.07.1828. За гады службы атрымаў чын дарадцы, некалькі расійскіх ордэнаў. Памёр бяздзетным, свае маёнткі запісаў на брата.

Брат: Каэтан, удзельнік паўстання 1863-1864 г., за што былі канфіскаваны маёнтак Дывін (10 268 дзесяцін зямлі, 3 млыны, 12 корчмаў, вінакурня, цагляны завод) і сёмая частка маёнтка Вісціцы Брэсцкага пав.(959 дзесяцінаў зямлі, 2 млыны, карчма).

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 2403, а. 1, 3; Гардзееў. З гісторыі, с. 103; Серков, с. 935; Список имений, с. 10-11, 14-15; Maiachowski-Jempicki; PSB, t. X, s. 319-320]

**Ягмін Станіслаў.** XIX:1 (у 1821 г. меў 26 гадоў)

Суддзя апеляцыйна-межавага суда Кобрынскага пав. У 1815 – суддзя апеляцыйна-межавага суда Гродзенскай губ. У 1817 – прысяжны 2-га дэпартамента Гродзенскага галоўнага суда. У 1819–1821 – асэсар Гродзенскага галоўнага суда. У 1823 г. – маршалак кобрынскі. У 1832 – камер-юнкер імператарскага двара. У 1835 – сябра Брэсцкага камітэта да спраў апісання грамадзянскай нерухомасці.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 103; Серков, с. 935]

**Язерскі Оттан Тадэвушавіч.** XIX:5

Граф, памешчык Слуцкага пав. Мінскай губ. (маёнтак Баславец). 10.05.1826 расказаў пасланніку вял. кн. Канстанціна Байкову аб дзейнасці слуцкай масонскай ложы, даў яму яе дэкарацыі. 12.05.1844 напісаў дырэктару вучылішчаў Мінскай губ. прашэнне аб прызначэнні яго ганаровым наглядальнікам вучылішчаў Мінскага пав., але паколькі не меў класнага чына, не мог ім стаць.

Жонка: Адэля.

[НГАЛ, ф. 567, воп. 2, спр. 5468, а. 2, 6; Bajkow, s. 110]

**Язерскі (Бібесцеў-Язерскі) Станіслаў.** XIX:3, XIX:5, XIX:6

Да 1820 г. – віцэ-маршалак Слуцкага пав. Граф, памешчык.

[Серков, с. 323; Maiachowski-Jempicki]

**Язерскі Тадэвуш.** XIX:5

[Maiachowski-Jempicki]

**Якубоўскі Гіляры.** XIX:2

Мінскі земскі рэгент у 1820. Пазней служыў у 2-м дэпартаменце Мінскага галоўнага суда.

[Серков, с. 937; Maiachowski-Jempicki]

**Яленскі Павел Янавіч.** XIX:2

У 1804 – харунжы мазырскі. Пазней суддзя 2-га дэпартамента галоўнага суда Мінскай губ. У 1820 – памешчык. Спадчыннік маёнтка Лудзяневічы, валодаў маёнткам Капатневічы (у 1821 г. 557 душ), мабыць, у Мазырскім пав. (у казначэйства яго ішлі падаткі).

Бацька: пісар гродскі смаленскі, у 1778 – стараста мазырскі, у 1789 г. – суддзя Мазырскага пав., у 1805 – стараста судовы і маршалак павятовай шляхты. Меў маёнткі Свянтожэц (вёскі Варкуле, Варнішкі, Станелішкі, Войнюнцы) і Вількабруцкі (вёскі Вількабрукі, Важэле).

Браты: Рамуальд, падсудак земскі Мазырскага пав., меў частку маёнтка Дунайчыцы Слуцкага пав. па тэстаменту Людвіга Я. (1805 г.); Фелікс.

Жонка: Б. Лянкевіч.

Дзеці: дачка Ганна, замужам за С.Горватам; сыны Антоні і Канстанцін, які быў жанаты на Соф'і з Вайніловічаў – былі фундатарамі царквы Пакроўскай Найсветнай Панны Марыі ў 1821 г. Герба «Корчак».

[БАНЛ, аддзел старадрукаў, F 17-147, а. 3, 68, 143, 144, 214, 224; Niesiecki, t. IV, s. 481; Uruski, t. VI, s. 53]

**Яноўскі Вінцэнт.** XIX:1, XIX:6

Вывучаў права пры канцылярыі Гродзенскага гродскага суда. У 1810 – адвакат. У 1815 – сакратар межавага суда Гродзенскага пав. У 1819–1821 – рэгент Гродзенскага галоўнага суда, памешчык.

[Гардзееў. З гісторыі, с. 103-104; Maiachowski-Jempicki]

**Ясковіч Станіслаў.** XIX:1

[Maiachowski-Jempicki]

## 2.3. Спіс крыніц і літаратуры


**Агінскі. Мая біяграфія** – Агінскі М.-К. Мая біяграфія з дзяцінства па 1788 г., эпоху, калі пачынаюцца мае мемуары // Спадчына. – 1998. – № 5. – С. 81– 99; № 6. – С. 226–237.

**Анішчанка. Статут** – Анішчанка. Статут жыцця Ясінскага // Маладосць. – 1998. – № 2. – С. 220–233.

**Анішчанка. Мінскія масоны** – Анішчанка Я.К. Мінскія масоны // Памяць: Гісторыка-дакумент. хроніка Мінска: У 4 кн. Кн. 1. – Мінск: БЕЛТА, 2001. – С. 411-412.

**Бакунина. Знаменитые** – Бакунина Т.А. Знаменитые русские масоны. Вольные каменщики. – М.: Интербрук, 1991. – 140 с.

**БАНЛ, аддзел старадрукаў** – Бібліятэка Акадэміі навук Літвы, аддзел старадрукаў.

**Булгарын** – Булгарын Ф. Выбранае. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003. – 592 с.

**БЭФ** – Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 3. – Минск: Изд-во АН БССР, 1961. – 621 с.; Т. 4. – Минск: Наука и техника, 1979. – 376 с.

**Виленский Временник. Кн. 5, ч. 2** – Виленский временник. Кн. V. Акты и документы архива Виленского, Ковенского и Гродненского генерал-губернаторского управления, относящиеся к истории 1812-1813 г. Ч. 2. Переписка по части гражданского управления. – Вильна, 1913.

**Восстание и война 1794 г. –** Восстание и война 1794 года в Литовской провинции (по документам российских архивов). – М.: Книжный дом «ЧеРо», 2000. – 176 с.

**Гарбачова В.В.** Ураджэнцы – Гарбачова В.В. Ураджэнцы Ваўкавышчыны, удзельнікі паўстання 1830-1831 г. у Вялікай эміграцыі // Памяць: Гіст.-дакумент. хроніка Ваўкавыскага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 2004. – С. 131–135.

**Гарбачова. Удзельнікі паўстання** – Гарбачова В.В. Удзельнікі паўстання 1830-1831 гг. на Беларусі: Біябібліяграф. слоўнік. – Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2006. – 400 с.

**Гардзееў. З гісторыі** – Гардзееў Ю. З гісторыі гарадзенскіх масонаў // Гістарычны альманах. – 2001. – Т. 5. – Гародня. – С. 78–104.

**Гардзееў Ю. Гарадзенскія** – Гардзееў Ю. Гарадзенскія масонскія прывілеі з мяжы XVIII-XIX ст. // Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVIII – пачатак XX ст. – Вільня: Grudas, 2005. – 280 с.

**Гатальскі. Масон** – Гатальскі І. Масон з Роткаўшчыны // Беларуская мінуўшчына. – 1995. – № 5. – С. 50–52.

**Госцеў, Швед. Кронан** – Госцеў А.П., Швед В.В. Кронан. Летапіс горада на Нёмане (1116 – 1990). – Гродна: НВК «Пергамент», 1993. – 320 с.

**Грицкевич В.П. С факелом** – Грицкевич В.П. С факелом Гиппократа: Из истории белорусской медицины. – Минск: Наука и техника, 1987. – 271 с.

**Гужалоўскі** – Гужалоўскі А. Войска ВКЛ: апошнія старонкі гісторыі // БГУ. – 1994. – № 1. – С. 52.

**Декабристы: Биографический справочник** – Декабристы: Биографический справочник / Изд. подготовлено С. В.Мироненко. – М.: Наука, 1988. – 447 с.

**Джус. Из истории** – Джус М.А. Из истории ботанических исследований в Беларуси: Ж.Э.Жилибер // Біялогія. – 1999. – № 3. – С. 114–119.

**Добрянский С.Ф. –** Добрянский С.Ф. Очерки из истории масонства в Литве // Записки северо-западного отдела имп. Русского географ. общества. Кн. 2. – Вильна, 1911. – С. 231–262; Кн. 4. – Вильна, 1914. – С. 103–145.

**Дробаў. Беларускія мастакі** – Дробаў Л.Н. Беларускія мастакі XIX ст. – Мінск: Беларусь, 1971. – 111 с.

**Емяльянчык. Паланез** – Емяльянчык У. Паланез для касінераў. – Мінск: Беларусь. – 160 с.

**Ерашэвіч –** Ерашэвіч А.У. Уплыў напалеонаўскіх войнаў на грамадска-палітычнае жыццё Беларусі (1799–1815 гг.): Дысертацыя на саісканне вуч. ступені кандыдата гіст. навук. – Мінск, 2003. – 211 с.

**Збор помнікаў. Гродз. вобл. –** Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. – Мінск: БелСэ, 1986. – 371 с.

**Именной список...1813** – Именной список, учреждённый по высочайшему повелению в г. Гродно о продаже казённых имений комиссии об отлучившихся самовольно из Гродненской губ. за границу лицах и в определённый манифестом 12-го декабря 1812 г. 2-хмесячный срок не возвратившихся, с показанием с которых поветов, какое имеют имение и где оно состоит. Учинённые декабря ... дня 1813 г. – Б.м., (1814). – 12 с.

**Каталог пергаментов** – Каталог пергаментов / Сост. Р.Ясас. – Вильнюс: АН Лит. ССР, 1980. – 610 с.

**Кахановіч Г. –** Кахановіч Г. Літаратары Ходзькі // Бел. мова і літаратура ў школе. – 1990. – № 11. – С. 77-78.

**К истории масонства в России (Аракчеев)** – К истории масонства в России. О литовских масонских ложах. А.А.Аракчеев / Н.М.Затворницкий // Русская старина. – 1907. – Т. 129. – Март. – С. 539–549.

**К истории масонства в России (Дибич)** – К истории масонства в России. Записки барона Дибича / Н.М.Затворницкий // – 1907. – Т. 130. – Кн. 4. – Апрель. – С. 209–224; Кн. 5. – Май. – С. 409–430.

**Краснянский. Минский департамент** – Краснянский В.Г. Минский департамент Великого княжества Литовского: Из истории войны 1812 г. – СПб., 1902. – 72 с.

**Крывальцэвіч** – Крывальцэвіч М. Баронячы сваю вольнасць і годнасць. Паўстанцы 1794 года на Міншчыне // Беларусь. – 1994. – № 5.

**Крючок. Очерки** – Крючок Г.Р. Очерки истории медицины Белоруссии. – Минск: Беларусь, 1976. – 264 с.

**Кушанов А.В. –** Кушанов А.В. Пушкин и Польша. – Тула: Приок. кн. изд-во, 1990. – 128 с.

**Ланда. У истоков** – Ланда С.С. У истоков «Оды к юности» // Литература славянских народов. Вып. 1. Адам Мицкевич. К столетию со дня смерти: Сб. статей. – М.: Изд-во АН СССР, 1956. – С. 5–64.

**Ланской С. –** Ланской С. [О литовских масонских ложах] // Русская старина. – 1907. – Т. 129. – Март. – С. 539–546.

**Латышонак А. –** Латышонак А. Беларусь і масоны // Ніва, Беласток. – 1997. – № 46 (2166). – С. 4; 1997. – № 47 (2167). – С. 4; 1997. – № 48 (2168). – С. 4.

**Ляўшэвіч. Першая тайная** – Ляўшэвіч А.А. Першая тайная арганізацыя // Памяць: Гіст.-дакумент. хроніка Мінска. У 4 кн. Кн. 1-я. – Мінск: БЕЛТА, 2001. – С. 381–383.

**Малы гербоўнік наваградскай шляхты** – Малы гербоўнік Наваградскай шляхты /Склад. С.А.Рыбчонак. – Мінск: БелНДІДАС, 1997. – 161 с.

**Мальдзіс А. На скрыжаванні** – Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палова XVII – XVIII ст.). – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 352 с.

**Масонства, т. 1** – Масонство в его прошлом и настоящем. Т. 1. – М.: СП «Инла», 1991. – 285 с.

**Мілінкевіч А. Першы** – Мілінкевіч А. Першы беларускі прыродазнаўца // Гродзенская праўда. – 1991. – 21.06. – С. 3.

**Мысліцелі і асветнікі** – Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыкл. даведнік. – Мінск: БелЭн, 1995. – 671 с.

**Нарбут. Генеалогия, вып. 4** – Нарбут А.Н. Генеология Белоруссии. Вып. 4. – М.: б. и., 1995. – 172 с.

**НГАБ у Гродне –** Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне.

**НГАБ у Мінску –** Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску.

**НГАЛ** – Нацыянальны гістарычны архіў Літвы.

**Очерки истории философской и социологической мысли** – Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии до 1917 г. – Минск: Наука и техника, 1973. – 557 с.

**Памяць. Мінск, кн. 1** – Памяць: Гіст.-дакумент. хроніка Мінска. У 4 кн. Кн. 1. – Мінск: БЕЛТА, 2001. – 576 с.

**Памяць. Нясвіжскі р-н. –** Памяць: Гіст.-дакумент. хроніка Нясвіжскага раёна. – Мінск: БелЭН, 2001. – 632 с.

**Памяць: Свіслацкі р-н** – Памяць: Свіслацкі р-н: Гіст.-дакумент. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі. – Мінск: Беларусь, 2004. – 526 с.

**Памяць. Слуцкі раён** – Памяць: Гіст.-дакумент. хроніка Слуцкага р-на і г. Слуцка. У 2 кн. Кн. 1. – Мінск: БЕЛТА, 2000. – 464 с.

**Платонов. Терновый венок** – Платонов. Терновый венок России: Тайная история масонства. 1731–1996. – М.: Родник, 1996. – 703 с.

**Полховская. Род** – Полховская С.И. Род Урсын Немцевичей на Гродненщине // Наш радавод: Сб. статей. Кн. 1. – Гродно: б. и., 1990. – С. 123–126.

**Прокошина. Очерк свободомыслия** – Прокошина Е.С. Очерк свободомыслия и атеизма в Белоруссии в XIX в. – Минск: Наука и техника, 1973. – 226 с.

**Пыпин А.Н. –** Пыпин А.Н. Русское масонство. XVIII и первая четверть XIX в. / Ред. и примеч. Г.В.Вернадского. – Петроград: Огни, 1916. – VП+ 575 с.

**РБС** – Русский биографический словарь. Репринт. – М.: Аспект-Пресс, 1996; СПб, 1905. Т. 6. – 748 с.; Т. 11. – 388 с.

**Рыбчонак С.** Менскія варштаты – Рыбчонак С. Менскія варштаты ў 1-й чвэрці XIX стагоддзя: Нарысы з гісторыі вольнамулярскага руху на Беларусі // Годнасць. – 1994. – № 1 (2). – С. 3–14.

**Рыбчонак, Свяжынскі. Абуховічы –** Рыбчонак С., Свяжынскі І. Абуховічы герба ключ раздвоены // Спадчына. – 1998. – № 6. – С. 210–225.

**Рыбчонак, Свяжынскі** – Рыбчонак С., Свяжынскі У. Heroes Albaruthenia // Спадчына. – 1998. – № 4. – С. 54–73.

**Саітава** – Саітава В. «Доблеснаму генералу ад удзячных ліцвінаў...» // Народная воля. – 1999. – 18 лістапада. – С. 3.

**Серков А.И.** Масонские ложи – Серков А.И. Масонские ложи на территории Белоруссии и движение декабристов // Декабристские чтения-1: Тезисы респ. и межвуз. науч. конференции / Под ред. Б.С.Клейна, Д.В.Карева, В.В.Шведа. – Гродно, 1990. – С. 71–75.

**Серков** – Серков А.И. Русское масонство. 1731–2000 г.: Энциклопедический словарь. – М.: Российская политическая энциклопедия (РОССПЭН), 2001. – 1224 с., илл.

**Словарь исторический –** Словарь исторический / Под ред. В.В. Битнера. Репринт. Т. 1. – М.: Остожье, 1998. – 535 с.

**Соколовская. Материалы** – Материалы по истории масонства в прежней русской армии / Сообщ. Тира Соколовская // Русская старина. – 1907. Т. 130. Кн. VI. – С. 659–668; Кн. VII. – С. 197–216; Кн. VIII. – С. 405–432; Кн. IX. – С. 643–653.

**Список имениям** – Список имениям Северо-Западного края, подлежащим обязательной продаже в 2-хгодичный срок, на основании Высочайшаго повеления 10-го декабря 1865 года. I. По Гродненской губернии. – Вильна, 1866. – 21 с.

**Сяльверстава. Беларусь** – Куль-Сяльверстава С.Я. Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур: Фарміраванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова VIII ст. – 1820-я гады). – Мінск: БДУ, 2000. – 260 с.

**Талерчык. Парэчча** – Талерчык А. Парэчча: Гіст.-краязн. нарыс пра в. Парэчча Слонімскага р-на. – Гродна: Ратуша, 2002. – 160 с.

**Федорченко –** Федорченко В. И. Императорский Дом. Выдающиеся сановники: Энциклопедия биографий. Т. 1. – Красноярск: БОНУС; М.: ОЛМА-ПРЕСС, 2001. – 672 с.

**Філаматы і філарэты** – Філаматы і філарэты. Зборнік / Укладанне, пераклад польскамоўных твораў, прадмова, біяграфічныя даведкі пра аўтараў і каментарыі К. Цвіркі. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. – 400 с.

**Цеханавецкі М.К. Агінскі** – Цеханавецкі А. Міхаіл Казімір Агінскі і «яго сядзіба музаў» у Слоніме. – Мінск: Беларусь, 1993. – 176 с.

**Швед В.В.** Навагрудскія масоны – Швед В.В. Навагрудскія масоны // Навагрудскія чытані. Ч. 3. – Навагрудак, 1993. – С. 50–53.

**Швед В.В.** Гродзенскія масонскія ложы – Швед В.В. Гродзенскія масонскія ложы (канец XVIII – пач. XIX ст.) // Гарадзенскія запіскі. Старонкі гісторыі і культуры. Вып. 3. – Гародня: ГрДУ, 1997. – С. 64–77.

**Швед. По следам** – Швед В.В. По следам гродненской старины. – Гродно: б.и., 1993. – 80 с.

**Швед. Падзеі і постаці** – Швед В.В. Падзеі і постаці гродзенскай даўніны. – Гродна: б.в., 1995. – 176 с.

**Швед. Беларускія старонкі** – Швед В.В. Беларускія старонкі гісторыі дзекабрыстаў. – Мінск: Бел НДІДІАС, 1998. – 137 с.

**Швед. Паміж Польшчай і Расіяй** – Швед В.В. Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.). – Гродна: ГрДУ, 2001. – 416 с.

**Швед В.В., Ігнатовіч Ф.І. –** Швед В.В., Ігнатовіч Ф.І. Урачы і аптэкары – члены гродзенскіх масонскіх ложаў (канец XVIII – пач. XIX ст.) // История и современные проблемы лекарственного обеспечения населения. – Гродно: б.и., 2000. – С. 37–41.

**Энцикл. словарь... Биографии** – Энциклопедический словарь Брокгауза и Ефрон: Биографии. Т. 3. – М.: Большая Российская энциклопедия, 1993. – 799 с.; Т. 5. – М.: Большая Российская энциклопедия, 1994. – 863 с.

**Энциклопедический словарь –** Энциклопедический словарь / Ф.А. Брокгауз, И.А. Ефрон. Т. IX. – СПб., 1898; Т. 26 (репринт). – Ярославль: Терра, 1991. – 991 с.

**ЭГБ –** Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. – Мінск: БелЭн, 1996. – 527 с.; Т. 5. – Мінск: БелЭн, 1999. – С. 91–93, 185.

**Яновіч** – Яновіч М. Эмерык Гутэн-Чапскі // Народная воля. – 2005. – 11.01. – С. 3-4.

**Askenazy** – Askenazy Sz. Lukasinski. – W-wa, 1908. T. 1. – 417 s.; T. 2. – 421 s.

**Bajkow** – Bajkow. Z Kartek pamiкtnika rкkopiњmiennego (1824–1829) przez Alkara. – Krakyw, 1913.

**Balicski. Dawna Academia** – Balicski M. Dawna Academia Wilecska. – Petersburg, 1862. – 606 s.

**Beauvous, t. II** – Beauvous D. Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko-ruskich. 1803–1832. T. II. – Rzym: Fundacja Jana Pawla II; Lublin: Redakcja wydawnictwa KUL, 1991. – 459 s.

**Bielecki. Oficeryw** – Bielecki R. Slownik biograficzny oficeryw Powstania Listopadowego. – W-Wa: Nacz. Dyrekcja Archiwyw Panst., AGAD. T. 1. – 1995. – 410 s.; T. 2. – 1997. – 405 s.; T. 3. – 1998. – 431 s.

**Bielicski. Uniwersytet Wilecski** – Bielicski J. Uniwersytet Wilecski (1579–1831). T. II. – Krakyw, 1899. – 845 s.; T. III. – Krakyw, 1900. – 734 s.

**Bielicski –** Bielicski J. Cesarskie towarzystwo lekarskie Wilenskie, jego prace i wydawnictwa (1805-–864). – W-wa, 1890. – 119 s.

**Boniecki. Herbaz polski** – Boniecki A. Herbaz polski. T. IV. – W-wa, 1902. – 400 + IV s.; T. XII. – W-wa, 1908. – 400 + IV s.

**Brzostowski** – Brzostowski P. Ks. Wiadomoњж genealogiczna o domie Brzostowskich od wejscia z Polski do Litwy. – W-wa, 1811. – 114 s.

**Callier** – Callier E. Bitwy i potyczki stoczone przez wojsko polskie w roku 1831. – Poznac, 1887. – VI+418 s.

**Chlapowski –** Chlapowski D. Pamiкtniki jenerala D. Chlapowskiego. Cz. 2 – Poznac, 1899. – S. 1–10.

**Chodųko** – Chodųko D.C. Jan Chodųko. Obrazek ųyciorysowy. Wilno, 1858. – s. 271–272.

**Czarnocki** – Czarnocki M. Krytka wiadomoњж o towarzystwach (o zwi№zkach) uczniyw uniwersytetu wilecskiego // Z filareckiego swiata. Zbyr wspomniec z lat 1816 – 1824. – W-wa: Instytut Wydawniczy «Biblioteka Polska», 1924. – S. 147-180.

**Daszkiewicz –** Daszkiewicz P. Jean-Emanuel Gilibert. Perwszy ogryd botaniczny na Litwie // Zeszyty Historyczne (Paryz). – 1993 – Zesz. 104. – S. 219–227.

**Dolкga-Cieszkowski** – Dolкga-Cieszkowski St. Senatorowie Ksiкstwa Warszawskiego i Krylewstwa Kongressowiego: 1807–1815–1831. – W-wa, 1891.

**Domejko. Listy** – Domejko I. Listy do Wiadysiawa Laskowicza / Oprac. E.H.Nieciowa. – W-wa: PAX, 1976. – 753 s.

**Encykiopedyja powszechna** – Encykiopedyja powszechna. T. 5. – W-Wa, 1861. – 984 s.+XIII s.; T. 12. – W-Wa, 1863. – 984 s.+XII s.; T. 16. – W-Wa, 1864. – 984 s.+XII s.; T. 17. – W-Wa, 1864. – 984 s.+XII s.; T. 18. – W-Wa, 1864. – 984 s.+XII s.; T. 19. – W-Wa, 1865. – 984 s.+XII s.; T. 27. – W-Wa, 1867. – 984 s.+VI s.

**G№siorowski** – G№siorowski L. Zbiyr wiadomosci do historii sztuki lekarskiej w Polscie. – Poznac, 1855. – 415 s.+XLVI

**Grodno w XVIII w. –** Grodno w XVIII w. Miasto i ludnoњж (na tle trendyw rozwojowych od њredniowiecza do 1939 roku). – Biaiystok, 1997. – 207 s.

**Hass Wolnomuliarstwo w Bialymstoku –** Hass L. Wolnomuliarstwo w Bialymstoku w XVIII i w pierwszych dziesiкcioleciach XIX w. // Studia i materialy do dziejyw miasta Biaiegostoku. T. IV. – Biaiystok, 1985. – S. 93–111.

**Hass Wolnomularstwo w Europie** – Hass L. Wolnomularstwo w Europie srodkowo – wschodniej w XVIII i XIX w. – Wroclaw: Zaklad narodowy Ossolinskich, 1982. – 572 s.

**Hass. Wolnomularze polscy** – Hass L. Wolnomularze polscy w kraju i na њwiecie. 1821 – 1999. Slownik biograficzny. – W-wa: Rytm, 1999. – 660 s.

**Iwaszkewicz. Litwa** – Iwaszkewicz J. Litwa w roku 1812 // Monografie w zakresie dziejyw nowoïytnych. T. IX. – Krakyw; W-wa, 1912. – 447 s.

**Jankowski –** Jankowski E. Eliza Orzeszkowa. – W-wa: PIW, 1966. – 667 s.

**Janowski. Siownik** – Janowski L. Siownik bio-bibliograficzny dawnego Uniwersytetu Wilecskiego. – Wilno: T-wo przyjaciol nauk w Wilnie, 1939. – 527 s.

**Jodkowski. 110-lecie P.T.D** – Jodkowski J. 110-lecie Polskiego Towarzystwa Dobroczynnoњci w Grodnie (1819–1929 r.) // Nowe џycie. – 1929. – 27.12. – S. 3.

**Konarski. Wackowiczy** – Konarski Sz. Wackowiczy herbu Lis odmionny. – Paryї, 1960. – 43 s.

**Konopczycski** – Konopczycski Wl. Konfederacja Barska. Wyd. 2. – W-wa: Volumen. T. 1. – S. 438, tabl. 32; T. 2. – S. 439–982, tabl. 32

**Kossakowski** – Kossakowski S. – K. Monografie historyczno-genealogiczne niektyrych rodzin polskich. T. 1. – W-wa, 1876. – 220 s.

**Koњcialkowski** – Koscialkowski St. Antoni Tyzenhauz. Volume I. – London, 1970. – 683 s.; Volume II. – London, 1971. – 575 s.

**Koњmicski** – Koњmicski St. Siownik lekarzyw polskich, obemuj№cy oprycz krytkich їyciorysyw lekarzy polakyw oraz cudzoziemcyw w Polsce osiadlych... – W-wa, 1888. – 665 s.

**Kurjer Litewski** – Kurjer Litewski. R. 1793–1839. – Wilno, 1793–1839.

**Kuszelewski** – Kuszelewski S. Dziкkctynienie i glos chwaly... Xaweremu Obuchowiczowi, prezydentowi S№dyw glywnych Minskich... w dziec wesela... i zaslubin cyrki jego Izabelli z... Apolinarym Wackowiczem, marszalkiem Minskim... – Wilno, 1823. – 15 s.

**Lista imenna** – Lista imenna osyb skladaj№cych ofiary na pomnik T. Kosжiuszki. – Krakyw, 1822. – 218 s.

**Joza** – Joza St. Siownik architektyw i budowniczych Polakyw oraz cudzoziemcyw w Polsce pracujacych. 2 wyd. – W-wa: W-wo Kasy im. Mianowskiego, 1930.

**Mackiewicz. Dom** – Mackiewicz. Dom Radziwiiiyw. W-wa: Czytelnik, 1990. – 253 s.

**Maiachowski-Jempicki. Wykaz** – Malachowski-Jempicki St. Wykaz Polskich lyz wolnomularskich oraz ich czlonkow w latach 1738–1821...// Archiwum komisji historycznej Polskiej akademii Umiejкtnosci. – Krakyw, 1930 – № 14. – S. 112–430.

**Maiachowski-Jempicki. Wolnomularstwo na ziemiach** – Malachowski-Jempicki St. Wolnomularstwo na ziemiach dawniego WKL (1776 – 1822). Dzije i materialy. – Wilno, 1930. – VIII+212 s.

**Maiachowski-Jempicki. Wolnomularstwo polskie** – Maiachowski-Jempicki. Wolnomularstwo polskie a muzyka: materjaly. – W-wa, 1926. – 11 s.

**Materialy do biografij** – Materialy do biografij, genealogii i heraldyki polskiej. T. VII/VIII. – Rzym, 1985. – S. 23–502.

**Mienicki. Ziemia Nowogrydzka** – Mienicki R. Ziemia Nowogrydzka w dobie porozbiorowej (1793–1915). – Wilno, 1935. – 130 s.

**Monografia domu hrabiyw z Konopnicy** – Monografia domu hrabiyw z Konopnicy Grabowskich herbu Topor. – W-wa, 1885.

**Morawski** – Morawski St. Kilka lat miodosci mojej w Wilnie (1818–1825). – W-wa: PWN, 1959. – 642 s.

**Моњжicki. Wilno i Warszawa** – Моњжicki H. Wilno i Warszawa w «Dziadach» Mieckiewicza. – W-wa: Rytm, 1999. – 238 s.

**Niesiecki** – Niesiecki K. Herbarz Polski. T. 2. – W-wa, 1839. – 390 s.; T. 4. – W-wa, 1839. – 518 s.; T. 6. – W-wa, 1841. – 599 s.; T. 7. – W-wa, 1841. – 582 s.; T. 8. – W-wa, 1841. – 652 s.; T. 9. – W-wa, 1842. – 468 s.

**Orgelbrand** – Orgelbrand S. Encyklopedja powszechna z ilustracjami i mapami. T. VII. – W-wa, 1893. – 579 s.; T. VIII. – W-wa, 1900. – 640 s.; T. IX. – W-wa, 1901. – 640 s.; T. X. – W-wa, 1901. – 601 s.; T. XIV. – W-wa, 1903. – 667 s.; T. XV. – W-wa, 1903. – 574 s.

**Pawlowicz. Nowogrydek w XIX w**. – Pawlowicz E. Nowogrydek w XIX wieku. – Lwyw, 1902. – 170 s.

**Podhorski. Realia –** Podhorski-Okolyw L. Realia Mickiewiczowskie. – W-wa: RYTM, 1999. – 480 s.

**PSB –** Polski Siownik Biograficzny. T. 1–43/1 – Wrociaw, Krakyw, W-wa: Zaklad Narodowy imenia Ossolicskich. Wydawnictwo Polskiej Akademii Nauk, 1935–2004.

**Powstanie 1831 na Litwe** – Powstanie 1831 na Litwe: Wspomnienia uczкstnikyw. – Wilno, 1931. – 176 s.

**Protokoly –** Protokoly posiedzenia Rz№du Polskiego Centralnego Tymczasowego w Litwe od 12 czerwca do 2 lipca 1831 r. // Przegl. Hist. – Wojsk. R. 2. – 1930. – T. 3. – S. 245–258.

**Puzynina. W Wilnie** – Puzynina G. W Wilnie i w dworach litewskich: Pamiкtnik z lat 1815–1843. – Krakyw: KAW, 1990. – 389 s.

**Rastawecki** – Rastawecki E. Siownik malarzyw polskich tudzieџ obcych w Polsce osiadiych lub czasowo w niej prtebywaj№cych. T. 1. – W-wa, 1850. – 334 s.; T. 2. – W-wa, 1851. – XVI +327 s.

**Rozmus, Gordziejew** – Rozmus J., Gordziejew J. Cmentarz farny w Grodnie. 1792–1939. – Krakyw: W-wo Naukowe WSP, 1999. – 121 s.

**Sidorowicz-Czerniewska –** Sidorowicz-Czerniewska K. Sprawa emisariusza Michala Wollowicza z r. 1833 – Grodno, 1934. – 144 s.

**Sievers –** Sievers J.J. Jak doprowadziiem do drugiego rozbioru Polski. – Poznac: Oficyna wydawnicza Interim, 1992. – 247 s.

**Sokolowski. Dzieje porozbiorowe** – Sokolowski A. Dzieje porozbiorowe narodu polskiego. T. 2, cz. 2. – W-wa: Wiek, 1900. – 410 s.

**Sowinski** – Sowinski A. Siownik muџykyw polskich dawnych i nowoczesnych kompozytoryw... – Paryџ, 1874. – 436 s.

**Swiкcki** – Swiкcki T. Historyczne pamiкtnik znamienitych rodzin i osyb dawnej Polski. T. 1. – W-wa, 1858. – 417 s.; T. II. – W-wa, 1859. – 579 s.

**Szarejko** – Szarejko P. Siownik lekarzy polskich XIX w. T. 3. – W-wa: Dom wyd. Bellona, 1995. – 432 s.; T. 5. – W-wa: Dom wyd. Bellona, 1999. – 472 s.

**Szemesz.Wspomnienia** – Szemesz A.Wspomnienia o Damelu // Athenaeum. T. II. – Wilno, 1845. – S. 169–185.

**Szyndler. Tadeusz** – Szyndler B. Tadeusz Kosciuszko. 1746–1817. – W-wa: W-wo Bellona, 1991. – 488 s.

**Sliwowska. Zeslancy** – Sliwowska W. Zeslancy polscy w imperium Rosyjskim w perwszej polowie XIX wieku. Siownik biograficzny. – W-wa: DiG, 1998. – 835 s.

**Uruski –** Uruski S. Rodzina. Herbarz szlachty polskiej. T. I–XIV. – W-wa, 1904–1917.

**Wiadomosci Brukowe** – «Wiadomosci Brukowe». Wybyr artykulyw. – Wroclaw, W-wa, Krakyw: Zaklad Narodowy imenia Ossolicskich, 1962. – CXXVII s.

**WEPI** – Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana. Ser. 1. T. XIV-XVI. – W-wa, 1911. – 1023 s.; T. XLVII-XLVIII. – W-wa, 1912. – 788 s.

**WEPI Sikorskiego** – Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana. T. 41, cz. 1. – W-wa, 1890. – S. 1–202; T. 42, cz. 1. – W-wa, 1890. – S. 517–777.

**Wielka EP PWN** – Wielka encyklopedja powszechna PWN. T. 2. – W-wa: PWN, 1963. – 888 s.; T. 4. – W-wa: PWN, 1964. – 840 s.; T. 6. – W-wa: PWN, 1965. – 840 s.;

**WIEP Gutenberga** – Wielka ilustrowana encyklopedja powszechna. T. 1–22. – Krakyw, W-wa: W-wo «Gutenberga», 1938.

**Witkowska** – Witkowska A. Rywieњnicy Mickiewicza. Zyciorys jednego pokolenia. – W-wa: RYTM, 1998. – 391 s.

**Wyjcicki** – Wyjcicki K. – W. Cmentarz pow№zkowski pod Warszawa. T. III – W-wa, 1858. – 262 s.

**Wrotnowski** – Wrotnowski F. Powstania na Wolyniu, Podolu, Ukrainie, Zmudzi i Litwie // Zbiyr pamiкtnikyw o powstaniu Litwy. T. 2. – Lipsk, 1875. – 255 s.

**Vilniaus klasicizmas** – Vilniaus klasicizmas. – Vilniaus: Baltos bankos, 2000. – 378 s.

**Zalкski. O masonii, cz. 2** – Zalкski. S. O masonii w Polsce od roku 1738 do 1822 na zrodlach wylacznie masonskich. Cz. 2. Ryty i obrazy, spisy masonii polskiej. – Krakyw, 1908. – 248 s.

**Zytkowicz. Litwa i Кorona** – Zytkowicz L. Litwa i Кorona w r. 1794 // Ateneum Wilenskie. – Wilno, 1937. R. 12. – S. 515-566.

## 2.4. Спіс скарачэнняў і абрэвіятур

а. – аркуш
адв. – адваротны
б. – былы
в. – вёска
в.а. – выконваючы абавязкі
в-ва – ваяводства
ВКЛ – Вялікае княства Літоўскае
ВНА – Віленская навучальная акруга
вобл. – вобласць
воп. – вопісь
ВП – войска польскае
вул. – вуліца
вял. кн. – вялікі князь
вял. літ. – вялікі літоўскі
г. – горад
гв. – гвардыя
ген. – генерал
гр. – граф, графіня
губ. – губерня
зл. – злоты
кн. – князь
КП – Каралеўства Польскае
кс. – ксёндз
л.-гв. – лейб-гвардыя
м. – мястэчка
мін-ва – міністэрства
нар. – нарадзіўся
НГАБ – Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі
п. – полк
пав. – павет
пам. – памёр
польск. – польскі
пях. – пяхотны
РВ – расійскае войска
РІ – Расійская імперыя
р-н – раён
РП – Рэч Паспалітая
руб. – рубель
с. – старонка
ст. – ступень
т. – том
т-ва – таварыства
тыс. – тысяча
ун-т – універсітэт
ф. – фонд
чал. – чалавек
ЯІВ – Яго Імператарская Вялікасць
ЯКВ – Яго Каралеўская Вялікасць

## 2.5. Тлумачальны слоўнік

**Апеляцыйны суд –** вышэйшым апеляцыйным судом у ВКЛ быў Галоўны літоўскі трыбунал, у Расійскай імперыі – Судовы Сенат.

**Асэсар –** чыноўнік у судзе, які прымаў ад асоб плату за ўнясенне прыватных дакументаў у актавыя кнігі і за судаводства.

**Барон –** дваранскі тытул, які ніжэй графскага, а таксама асоба, якая мае гэты тытул.

**Войскі –** службовая асоба ў ВКЛ, якая даглядала за парадкам у маёнтках і павеце пасля таго, як шляхта з паспалітым рушэннем пакінула месца жыхарства. Войскі павятовы падпарадкоўваўся павятоваму старасце.

**Войт –** службовая асоба ў ВКЛ, якая ўзначальвала мясцовае самакіраванне. Спачатку прызначалася вялікім князем ці феадалам, пры магдэбургскім праве выбіралася з заможных феадалаў ці мяшчан.

**Вывадовы дэпутат –** суддзя Трыбунала ВКЛ, выбраны з шляхты на павятовым сейміку.

**Ганаровы апякун –** ганаровае званне, якое было ўсталявана ў 1798 г. і прыроўнена да 3-га класа па Табелю аб рангах. Давалася асобам, якія ўнеслі значныя ахвяраванні на дабрачынныя мэты.

**Гараднічы –** 1) службовая асоба ў ВКЛ, кіраўнік шляхты, якая жыве ў горадзе; начальнік гарнізона замка (у павеце) або намеснік кашталяна (у ваяводстве); 2) службовая асоба ў Расійскай імперыі, начальнік гарадской паліцыі (да 1865).

**Гетман –** галоўны кіраўнік дзяржаўнага войска. Вялікі гетман – вайсковы міністр, польны гетман – галоўнакамандуючы.

**Граф –** службовая асоба, пазней ганаровы тытул вышэйшага дваранства, з часам стаў перадавацца па спадчыне.

**Грод –** першапачаткова азначаў месца абароннае, агароджанае валам і сцяной. У княжыя часы кожная аколіца, кожны павет мелі свой град, гарадок, гарадзец, якія служылі сховішчам у час нападу ворагаў. Кожны грод-замак меў свайго начальніка (ваяводу, старасту), які выконваў судовую, вайсковую і цывільную ўладу. Пазней аформіліся гродскі і земскі суды.

**Губернатар –** вышэйшая адміністрацыйная пасада ў губерні, начальнік губерні. Меў, як правіла, чын не ніжэй 4-га класа па Табелю аб рангах.

**Губерня** – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расійскай імперыі, якая дзялілася на паветы.

**Губернскі сакратар –** у Расійскай імперыі грамадзянскі чын 12-га класа, а таксама асоба, якая мае гэты чын.

**Дыстрыкт –** назва павета ў Беларусі пад час вайны 1812 г.

**Дэпартамент –** назва губерні ў Беларусі пад час вайны 1812 г.

**Земскі суд –** на землях Беларусі вядомы з часоў вял. кн. літ. Вітаўта. Складаўся з суддзі, падсудка і пісара земскага, якіх выбіралі на сходзе ўсіх абывацеляў павета.

**Калежскі асэсар –** у Расійскай імперыі грамадзянскі чын 8-га класа, а таксама асоба, якая мае гэты чын.

**Калежскі дарадца –** у Расійскай імперыі грамадзянскі чын 6-га класа, а таксама асоба, якая мае гэты чын.

**Калежскі сакратар –** у Расійскай імперыі грамадзянскі чын 14-га класа, а таксама асоба, якая мае гэты чын.

**Калежскі рэгістратар –** у Расійскай імперыі грамадзянскі чын 8-га класа, а таксама асоба, якая мае гэты чын.

**Камергер –** прыдворны чын у Расійскай імперыі, які з 1809 г. адпавядаў 4-му класу па Табелю аб рангах. У далейшым званне набыло характар ганаровага падаравання і прадастаўлялася з 1836 г. толькі дваранам, якія служылі на дзяржаўнай службе і мелі чын 3–5-га класаў.

**Камер-юнкер** – пасля 1809 г. малодшае прыдворнае званне, з 1836 г. для асоб, якія мелі чын 4–9-га класаў. У абавязкі камер-юнкераў і камергераў уваходзіла штодзённае дзяжурства пры імператрыцы і іншых членах імператарскай сям'і (па графіку) і дзяжурства асаблівае пад час баляў, прыдворных цырымоній, у тэатры.

**Каморнік –** памочнік падкаморага. Выбіраўся з мясцовай шляхты, якая ведала права. Вырашаў зямельныя спрэчкі, у якіх ішла гаворка пра валоку ці меншую колькасць зямлі.

**Канюшы –** пры двары вял. князёў літоўскіх адна з важнейшых пасад (канюшы надворны ВКЛ). Былі таксама земскія і дворныя канюшыя. Першы быў вышэй дворнага.

**Кашталян** – камендант крэпасці-гроду, або замку, непасрэдны начальнік гарнізону. Кашталяны памочнікамі ваявод і ў іх адсутнасць выконвалі іх абавязкі.

**Князь** – 1) гаспадар, кіраўнік феадальнай манархічнай дзяржавы; 2) ганаровы тытул вышэйшага дваранства, які з часам стаў перадавацца па спадчыне ці мог быць падараваны.

**Маршалак шляхты (губернскі, павятовы) –** прадстаўнік шляхты губерні ці павета, які выбіраўся адпаведным дваранскім сходам на тры гады. Кіраваў саслоўнымі справамі шляхты і адыгрываў значную ролю ў мясцовым самакіраванні. Па Табелю аб рангах губернскі маршалак адпавядаў чыну 4-га класа, павятовы – 5-га класа. З 1831 г. маршалкі сталі на землях Беларусі называцца прадвадзіцелямі дваранства.

**Межавы суддзя –** глядзі падкаморы.

**Метрыкант –** службовая асоба ў ВКЛ, якая ажыццяўляла нагляд за архівам каралеўскай канцылярыі і за выдачай прывілеяў.

**Мечнік –** службовая асоба ў ВКЛ, якая насіла меч вял. князя, пазней ганаровая пасада; аналагічная пасада была ў паветах.

**Надворны дарадца –** у Расійскай імперыі грамадзянскі чын 7-га класа, а таксама асоба, якая мае гэты чын.

**Обер-шталмайстар –** прыдворны чын 2-га класа па Табелю аб рангах, узначальваў прыдворную стайню (вялікі канюшы).

**Павет –** адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расійскай імперыі, якая дзялілася на воласці.

**Падкаморы –** суддзя па межавых справах, разгляду і адводу межаў на месцы. Па статуту ВКЛ 1566 г. падкаморыя былі ў кожным павеце. Павінен быў жыць у дадзеным павеце.

**Падстолі, падстольнік –** службовая асоба ў ВКЛ, намеснік стольніка, які наглядаў за стравамі за сталом вял. князя. З XVI ст. ганаровы тытул, які надаваўся магнатам, знатным феадалам, шляхціцам (П. вялікі літоўскі, П. земскі, П. павятовы).

**Падсудак –** адна з трох асоб земскага суда (гл.).

**Падчашы –** прыдворны чын у ВКЛ, намеснік чашніка З XVI ст., ганаровы тытул (П. вялікі літоўскі).

**Папячыцель навучальнай акругі –** чыноўнік Міністэрства народнай адукацыі, маючы чын 3–4-га класаў па Табелю аб рангах. Кіраваў навучальнымі ўстановамі на падведамаснай яму тэрыторыі, якая ўключала некалькі губерняў.

**Пасол** – дэпутат сейма Рэчы Паспалітай, які выбіраўся шляхтай на павятовых сейміках.

**Пісар земскі** – выбарная асоба мясцовага земства з асобы шляхецкай. Меў павятовую пячатку, якую ставіў на судовыя позвы, падпісваў судовыя паперы, напісаныя суддзёй або падсудкам, запісваў на судзе спрэчкі і прамовы бакоў, а ў судовыя кнігі – усе дакументы, пададзеныя на суд і судовыя пастановы.

**Прадвадзіцель дваранства** – гл. маршалак шляхты.

**Пракуратар –** прафесійны юрыст-паверaны ў ВКЛ, які займаўся адвакацкай практыкай. Абавязкова павінен быў быць шляхціцам, ведаць мясцовае права і быць дапушчаным судом да адвакацкай дзейнасці.

**Пробашч –** ксёндз у каталіцкай царкве, кіраўнік парафіі, настаяцель парафіяльнага касцёла.

**Прысяжны паверaны –** адвакат у Расійскай імперыі.

**Прэзідэнт горада –** глядзі войт.

**Ротмістр (рахмістр) –** камандзір пешай або коннай роты ў войску ВКЛ. Прызначаўся з аседлых шляхціцаў, якія добра ведалі вайсковую справу. Быў падначаленым гетману і харунжаму. У мірны час ахоўваў межы дзяржавы, вёў ваенную падрыхтоўку моладзі.

**Рэгент –** сакратар канцылярыі ВКЛ, які займаўся вялікакняжацкім справаводствам: правіў дакументы, падаваў іх на подпіс, выконваў абавязкі натарыуса. Пры магістратах былі рэгенты замкавыя, якія дапамагалі старастам весці справаводства. Былі таксама рэгенты пры земскіх і гродскіх судах, кансісторыях, якія ўдзельнічалі ў складанні актаў і адказвалі за іх захаванне.

**Рэгістратар кабінетны –** у Расійскай імперыі грамадзянскі чын 13-га класа, а таксама асоба, якая мае гэты чын.

**Сапраўдны стацкі дарадца –** цывільны чын 4-га класа па Табелю аб рангах. Адпавядаў чынам генерал-маёра і контрадмірала.

**Сенатар –** сябра Кіруючага Сената, які ў XIX ст. дзейнічаў у якасці вышэйшай судовай інстанцыі і вышэйшага органа адміністрацыйнага нагляду.

**Скарбнік –** службовая асоба ў ВКЛ, якая адказвала за ўлік і захаванне дзяржаўнай казны (скарбу). Прызначалася вялікім князем літоўскім і радай. Былі скарбнікі пры вялікакняжацкім двары, у ваяводствах і паветах.

**Староста (стараста)** – службовая асоба ў ВКЛ, кіраўнік судовай адміністрацыі павета, які за сваю службу атрымоўваў ад вял. князя дзяржаўны маёнтак (староства) у часовае або пажыццёвае валоданне; у павятовым цэнтры – старшыня гродскага суда. Гродскі стараста кіраваў каралеўскім замкам (градам) і ягонай акругай – так званай эканоміяй (гл.).

**Стацкі дарадца** – цывільны чын 5-га класа па Табелю аб рангах. Адпавядаў чынам брыгадзіра і капітан-камандора.

**Стражнік** – службовая асоба ў ВКЛ, вайсковы чын, якая адказвала за абарону дзяржавы. Стражнікі падзяляліся на вялікіх і польных. З XVIII ст. галоўным яго абавязкам быў удзел у разглядзе спраў вайскоўцаў у судах.

**Страпчы –** чыноўнік па судоваму нагляду.

**Суд гранічны** – спецыяльны суд, які разглядаў спрэчкі шляхты аб межах маёнткаў.

**Суд гродскі** – павятовы суд для вырашэння крымінальных справаў паміж шляхтай.

**Суд земскі** – павятовы суд для вырашэння грамадзянскіх справаў паміж шляхтай.

**Суд падкаморскі** – павятовы суд на чале з падкаморым (гл.) для вырашэння спрэчных пытанняў аб межах маёнткаў.

**Суддзя** – службовая асоба ў ВКЛ і Расійскай імперыі, якая з'яўлялася сябрам судовага органа і выконвала функцыі правасуддзя.

**Тытулярны дарадца** – у Расійскай імперыі грамадзянскі чын 9-га класа, а таксама асоба, якая мае гэты чын.

**Тэстамент** – завяшчанне, прававы акт, распараджэнне, складзеныя па вызначанай форме наконт асабістай маёмасці на выпадак смерці.

**Фундуш** – ахвяраванне, запіс маёмасці або грошай касцёлу, царкве, кляштару.

**Харужы (харунжы)** – былі трох ступеняў: харужы земскі ВКЛ, харужы дворны, харужы павятовы. Галоўны абавязак – правяраць па спісах яўку шляхты ў апалчэнне, насіць і абараняць адпаведны іх уладзе вайсковы знак: харужы земскі – харугву ВКЛ, дворны – харугву гаспадарскую, павятовы – харугву павятовую.

**Шамбялян** – тое ж, што і падкаморы (гл.).

**Эканоміі** – у Рэчы Паспалітай і ВКЛ феадальныя зямельныя ўладанні, выдзеленыя з дзяржаўных зямель для задавальнення патрэбаў двара караля і вялікага князя, прыдворнай казны. Мелі ўласнае адміністрацыйна-гаспадарчае кіраванне.

## Крыніцы і літаратура

Ластоўскі В. Кароткая энцыклапедыя старасветчыны. – Мінск: Выдавец В. Хурсік, 2003. – 226 с.

Малы гербоўнік Наваградскай шляхты /Склад. С.А.Рыбчонак. – Мінск: БелНДІДАС, 1997. – С. 132–140.

Нарбут А.Н. Генеалогия Белоруссии. Вып. 2 (XVI – XVIII вв.). – М.: б. и., 1994. – С. 34–41; Вып. 3 (XIX –XX вв.). – М.: б. и., 1995. – С. 29-30.

Ожегов С.И. Словарь русского языка. – М.: Рус. яз., 1983. – 816 с.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. – Мінск: БелСЭ, 1989. – С. 455–546.

Федорченко В.И. Императорский дом. Выдающиеся сановники: Энциклопедия биографий. В 2 т. Т. 2. – Красноярск: БОНУС; М.: ОЛМА–ПРЕСС, 2001. – С. 617–620.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 2. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 348; Т. 5. – Мінск: БелЭн, 1999. – С. 574; Т. 6. Кн. 1. – Мінск: БелЭн, 2001. – С. 166-167.

## 2.6. Кароткая гісторыя патаемных таварystваў, у якіх удзельнічалі масоны і іх дзеці

**ДЗЕКАБРЫСТЫ** – расійскія дваранскія рэвалюцыянеры, якія дзейнічалі на першым этапе рускага вызваленчага руху (1825–1861 г.) і мелі сувязі з Беларуссю. Некаторыя дзекабрысты нарадзіліся ў Беларусі. З дваран Гродзенскай губ. – А.С.Вайніловіч і В.В.Сізінеўскі, з Магілёўскай – І.К.Ракуза, І.П.Жукаў, дваюродныя браты Ц.У. і М.С.Комары, з Віцебскай – У.І.Гурка. У Магілёве нарадзіўся І.І.Гарбачэўскі, у Мінску – М.Д.Лаппа. Частка дзекабрыстаў была звязана з Беларуссю сваяцкімі сувязямі ці некаторы час жыла тут. Г.А.Перагц да 1803 г. выхоўваўся дзедам у невядомай вёсцы Магілёўскай губ. Уладальнікам майярата з цэнтрам у Чачэрску быў З.Р.Чарнышоў. Дзве сястры А.В.Карніловіча жылі ў фальварку Бобрыкі Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ. Сакратар Таварыства злучаных славянаў І.І.Іваноў у 1812–1815 г. служыў пашталёнам у Ваўкавыскай паштовай экспедыцыі і Гродзенскай паштовай канторы. М.С.Лунін у 1822–1824 г. служыў у Ружанах і Слуцку ротмістрам Польскага ўланскага палка. Бацька В.Я.Галяміна служыў правіянцкім чыноўнікам у Гродне, сам дзекабрыст быў тут у 1831 г., пад час падаўлення Лістападаўскага паўстання. М.М.Мураўёў быў віцебскім віцэ-губернатарам (1826–1828), магілёўскім (1828–1831) і гродзенскім (1831–1835 г.) губернатарам. А.А.Быстрыцкі пасяліўся пасля амністыі 1856 г. у Магілёве. А.Л.Кажэўнікаў з 1856 па 1862 г. быў упраўляючым Гродзенскай палаты дзяржаўных маёмасцяў, а ў 1862–1864 г. – мінскім губернатарам. М.І.Пушчын у 1865–1869 г. быў камендантам Бабруйскай крэпасці.

У Беларусі ішло фарміраванне поглядаў дзекабрыстаў. Больш за 30 дзекабрыстаў пабывалі тут у перыяд вайны 1812 г. і замежных паходаў 1813-1814 г. Сярод іх – М.С.Лунін, В.Л.Давыдаў, М.А.Фанвізін, С.І.Мураўёў-Апостал, В.І.Враніцкі, В.І.Штэйнгель, А.З. Мураўёў, А.Г.Няпенін, С.Г.Валконскі, М.Ф.Арлоў і інш. Зіму 1814–1815 г. правёў у Нясвіжы К.Ф.Рылееў. З чэрвеня 1821 па ліпень 1822 г. у перыяд так званага «італьянскага паходу» гвардыі на тэрыторыі Беларусі пабывалі каля 30 будучых дзекабрыстаў: А.А.Бястужаў-Марлінскі, А.Я.Разэн, М.М.Мураўёў, І.Д.Якушкін, М.І.Пушчын, А.В.Поджыа і інш. Мікіта Мураўёў напісаў у гэты час віцебска-мінскі варыянт канстытуцыі.

У Магілёўскім штабе 1-й рускай арміі ў перыяд 1815–1830 г. служылі А.А.Авенарыўс, У.І.Гурка, М.А.Загарэцкі, П.І.Калошын, У.М.Ліхараў, А.М.Міклашэўскі, А.І.Чаркасаў.

У верасні 1817 г. дзекабрысты склалі «маскоўскую змову», мэтаю якой было забойства Аляксандра І. Адной з прычынаў змовы было абяцанне імператара палякам аднавіць Рэч Паспалітую пад сваім кіраваннем у межах 1772 г., далучыўшы да Каралеўства Польскага землі Беларусі і Правабярэжнай Украіны. Забойства імператара ў выглядзе дуэлі паміж ім і Якушкіным не адбылося, бо тайнае таварыства не змагло б надалей выкарыстаць гэта ў сваіх далейшых планах пераўтварэнняў у Расіі.

Наступная спроба паўстання звязана з «бабруйскай задумай» 1823 г., калі ў Бабруйскай крэпасці размяшчалася 9-я дывізія 3-га пяхотнага корпуса І-й рускай арміі. Задумалі план С.І.Мураўёў-Апостал і М.П.Бястужаў-Румін, кіраўнікі Васількаўскай управы Паўднёвага таварыства. Да іх далучыліся І.Павала-Швяйкоўскі і В.Нораў. Выступіць павінны былі чатыры палкі, у якіх служылі названыя дзекабрысты: Чарнігаўскі, Палтаўскі, Алексапольскі пяхотныя і 13-ы Егерскі. Аўтары плана мелі намер падняць палкі ў час царскага агляду войск. Яны вырашылі з дапамогаю маскоўскіх дзекабрыстаў ноччу арыштаваць імператара, прымусіць яго падпісаць адрачэнне і трымаць пад вартай. Разлічвалі, што адначасова паўстануць палкі, якія адразу ж пойдуць на Маскву, далучаючы на шляху іншыя войскі. У крэпасці застанецца толькі гарнізон. Па «бабруйскай задуме» выступленне ў Бабруйскай цытадэлі было б сігналам для паўстання не толькі ў Маскве, але таксама ў Пецярбурзе і ў 2-й арміі. «Бабруйская задума» не была ажыццёўлена, але яна прымусіла спазнаць неабходнасць сувязі паўстання ў правінцыі з цэнтрам, аб'яднання двух рэвалюцыйных таварыстваў (Паўночнага і Паўднёвага) і выпрацоўкі сумеснага плана дзейнасці.

У 1825 г. была створана Магілёўская ўправа (або паўуправа) Паўночнага таварыства. Яе ініцыятарам быў Міхаіл Нарышкін, палкоўнік Таруцінскага пяхотнага палка, стварэннем займаліся прынятыя ім у таварыства ад'ютанты галоўнакамандуючага 1-й арміі граф У.А. Мусін-Пушкін і П.П.Цітоў. Ва ўправу таксама ўвайшлі служачыя па кватэрмайстарскай частцы А.М.Гвоздзеў і А.А.Жамчужнікаў, ад'ютант галоўнакамандуючага Ф.Л.Брэверн. Іх мэтаю было пашырэнне патаемнага таварыства, нейтралізацыя штаба 1-й арміі пад час паўстання дзекабрыстаў. Аднак сваёй ролі ў 1825 г. яны не адыгралі, нічога не прадпрынялі.

Пасля паўстання збег у Каралеўства Польскае праз тэрыторыю Беларусі В.К.Кюхельбекер, а ў Брэст-Літоўску быў затрыманы ў 1826 г. «дзекабрыст без снежня» П.Я.Чаадаеў.

Апошняе рэха дзекабрысцкага руху прагучала таксама ў Беларусі. У пачатку лютага 1826 г. новы камандзір Палтаўскага палка Лявіцкі-Лазніцкі праводзіў агляд у Бабруйскай крэпасці. С.Трусаў агаліў шпагу, выбег наперад 1-га батальёна і сказаў прамову, у якой «поносил государя императора и всю августейшую фамилию и взывал батальон на бунт и называл государя тираном...». Гэтае выступленне было чарговым звяном у сістэме паўднёвага паўстання. Трусаў і яго паплечнік Я.М.Троцкі былі асуджаны на крэпасныя працы ў Бабруйскую крэпасць.

Не адыграўшы пазітыўнай ролі ў руху дзекабрыстаў, Бабруйская крэпасць стала для некаторых сяброў патаемных таварыстваў месцам зняволення. У «турме на Бярэзіне» ўтрымліваліся дзекабрысты: І.Г.Бурцаў (03 – 19.07.1826), М.А.Бадзіска (21.07.1826 – 21.07.1831), В.С.Нораў (12.10.1827 – 03.1835), В.А.Дзіваў (12.10.1827 – 27.12.1839), Д.Ф.Кейзер (07.1826 – ?), А.К.Берсцель (21.07.1826 – 07.1827), Я.І.Апостал-Кегіч (6 месяцаў), А.М.Гвоздзеў (4 месяцы 1827), С.П.Трусаў (26.02.1826 – ?), Е.М.Троцкі (1 год). За ўдзел у паўстанні Чарнігаўскага палка ў казематах крэпасці знаходзіліся на працягу 6 месяцаў А.П.Мяшчэрскі, А.Д.Белялюбскі, У.М.Рыбакоўскі, В.Я.Кандыроў.

Па загаду галоўнакамандуючага 1-й арміі Ф.Сакена ад 18.(30).01.1826 г. у Магілёве працавала ваенна-судовая камісія па справах дзекабрыстаў – удзельнікаў паўстання Чарнігаўскага палка (Е.І.Апостал-Кегіч, А.Д.Белялюбскі, А.А.Быстрыцкі, А.С.Вайніловіч, В.Я.Кандыроў, А.Е.Мазалеўскі, К.К.Маеўскі, А.П.Мяшчэрскі, В.М.Пецін, У.М.Рыбакоўскі, В.М.Салаўёў, В.В.Сізінеўскі, І.І.Сухінаў), «падазроных ва ўдзеле ў мецяжы» (Д.А.Малчанаў, Лебедзеў, А.Ф.Фурман), а таксама па справах забітых у час паўстання (І.І.Мураўёў-Апостал, М.А.Шчыпіла) і застрэліўшагася А.Д.Кузьміна.

Беларусь знайшла сваё месца ў канстытуцыйных праектах дзекабрыстаў. П.І.Пестэль лічыў, што ўсходнія беларускія землі павінны ўвайсці ў склад «единой и неделимой» Расійскай дзяржавы, а «малы народ» – беларусы – у склад вялікарускага народа, маючы пры гэтым усе палітычныя правы пры веданні рускай мовы; Віленская, Гродзенская, Мінская губ. маглі адыйсці да Польшчы (магчыма, у выніку рэферэндума); яўрэяў прапаноўвалася выселіць на збор-

ны пункт, узброіць, дапамагчы войскам, каб у Азіяцкай Турцыі яны стварылі сваю Яўрэйскую дзяржаву. Па канстытуцыі М.Мураўёва была б створана федэрацыя «Славяна-Роская імперыя», у складзе якой лічыліся Заходняя дзяржава (сталіца – Вільня) і Дняпроўская (Смаленск). Дзяржавы не з'яўляліся самастойнымі краінамі, былі залежнымі правінцыямі, а таму федэрацыя па сутнасці была ўнітарнай дзяржаваю.

*Літ.:* Букчин С.В. К мечам рванулись наши руки... – Минск, 1985; Воронков И.А. Польские тайные общества в Литве и Белоруссии в конце XVIII в и в первом 30-летии XIX в. // Исторические записки. – 1957. Т. 6; Нечкина М.В. Движение декабристов. Т. 1–2. – М., 1955; Ольшанский П.Н. Декабристы и польское национально-освободительное движение. – М., 1959; Швед В.В. Беларускія старонкі гісторыі дзекабрыстаў. – Мінск, 1998; Яго ж. Падзеі і постаці гродзенскай даўніны. – Гродна, 1995; Яго ж. Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.). – Гродна, 2001.

**ДЭМАКРАТЫЧНАЕ ТАВАРЫСТВА.** Існавала ў 1836–1838 г. у Віленскай медыцынска-хірургічнай акадэміі. Створана дзецьмі уніяцкіх светароў Ф.Савічам і Ф.Зданевічам. Яны хацелі «адрадзіць сярод віленскага студэнцтва традыцыі філарэтаў, абудзіць у ім дух А.Міцкевіча і Т.Зана». У склад таварыства ўваходзілі не толькі студэнты, але і выхадцы з разначыннага асяроддзя і дробнай шляхты. Яны вялі агітацыю сярод маладых рамеснікаў, напрыклад, Рапчынскі прадставіў, «хто яны ёсць, кім могуць і кім павінны быць».

У праграмных палажэннях «Дэмакратычнага таварыства» было патрабаванне права народаў на нацыянальную самастойнасць: «Усе нацыі роўныя, і ніхто не павінен адчуваць нянавісць адзін да аднаго, нягледзячы нават на нацыянальныя адрозненні, на тое, рускі ён, паляк ці яўрэй, што сама нават асаблівасць веравызнання не павінна дзяліць людзей». Сябры таварыства былі праціўнікамі распальвання нацыянальнай адасобленасці і адстойвалі ідэю рэвалюцыйнага саюза братніх народаў. Прыкладам братэрства, аб'яднаўшага беларусаў, палякаў, рускіх, яўрэяў, было само таварыства, якое, дарэчы, мела заклік «За нашу і вашу свабоду!». Сяброўства народаў – адна з галоўных тэмаў вершаў Савіча. Захаваўся адзін з іх пад назваю «Дзе ж тое шчасце падзелася». Трэба дадаць, што Савіч быў беларусам-пінчуком. Ёсць думка, што з яго Ян Баршчэўскі «спісаў» вобраз лекара Саматніцкага для «Шляхціца Завальні...». Блізкія знаёмыя Савіча браты Рэніер, Галамбеўскі, Дэмбіцкі збіралі беларускі

фальклор. Аніцэнт Рэніер у 1862 г. складаў пасля смерці У.Сыракомлі бібліяграфічнае апісанне яго кнігазбору. Меў сувязь з таварыствам Р.Падбярэскі, бо ў 1836 г. жыў у Вільні некалькі месяцаў, а потым пераехаў у Маскву. Яго пасля следства над сябрамі «Дэмакратычнага таварыства» ўзялі пад сакрэтны нагляд.

*Літ.:* Мархель У. Крыніцы памяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа. – Мінск: Маст. літ., 1990. – С. 13; Мохнач Н.Н. Идейная борьба в Белоруссии в 30-40-е годы XIX в. – Мінск: Наука и техника, 1971. – С. 33, 89; Мошковский К. Рукопись в тюрме. Гл. 2. Очерк духа Виленской академии от учреждения оной до 1839 г. // Русский архив. – 1909. – № 4. – С. 554; Пракошына К.С. Савіч Францішак // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыкл. давед. – Мінск: БелЭн, 1995. – С. 544; Смирнов А.Ф. Революционные кружки в Белоруссии и Литве в 30-х годах XIX в. // Исторические записки. – М., 1961. – Т. 69. – С. 199-200; Хаўстовіч М. Паэт і казачнік з азёрнага краю // Баршчэўскі Я. Выбраныя творы. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. – С. 26; Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. – Мінск: Вышэйшая школа, 1975. Т. 1. – С. 68-69.

**ПАТРЫЯТЫЧНАЕ ТАВАРЫСТВА, Нацыянальнае патрыятычнае таварыства –** тайная арганізацыя, створаная на аснове раней існуючага «Нацыянальнага масонства», дзейнічала ў 1821–1826 г. на тэрыторыі Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны з мэтаю адраджэння Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Польская даследчыца Дылангова сцвярджае, што назва «П.т.» не ўжывалася членамі арганізацыі і не сустракаецца ў дакументах, а ўзнікла ў час следства ў 1826-1827. Арганізацыя называлася ў перыяд існавання адным словам «таварыства». Афіцыйнай датай стварэння арганізацыі лічыцца 1 мая 1821, калі ў Бялянскім лесе пад Варшаваю сабраліся кіраўнікі «Нацыянальнага масонства» В.Лукасінскі, Н.Умінскі, І.Прандзінскі. Статут П.т. складаўся з 4 раздзелаў: «Найвышэйшая ўлада», «Аб правінцыях», «Аб акругах», «Аб стварэнні гмін» – усяго 44 параграфы ў захаваўшайся копіі, але даследчык Ш.Аскеназі лічыць, што яна адрозніваецца ад арыгінала і што паміж статутам і яго выкананнем існавала розніца. Паводле Статута, найвышэйшай уладай у П.т. з'яўляўся Цэнтральны камітэт, які складаўся з 7 чалавек: старшыні, намесніка, падскарбія, сакратара, трох членаў (маёр В.Лукасінскі, п/п Вержбаловіч, памешчык Л.Сабанскі, літаратар Мараўскі і інш.), якія збіраліся 1 раз у квартал для слухання справаздачаў старшынь правінцыяў і збору складак. П.т. падзялялася на 7 правінцыяў: Каралеўства Польскае, Вялікае княства Пазнанскае

з Калішскім ваяводствам, Галіцыя, Літва, Валынь, Кракаўская рэспубліка, Польскае войска. Кожная правінцыя павінна была ствараецца з 3 акругаў, упраўляцца правінцыяльным камітэтам з 5 чалавек (старшыня, дырэктар, падскарбі, сакратар, член), у абавязкі якіх уваходзіла заслухоўваць справаздачы акруговых камітэтаў, збіраць ад іх складкі, пашыраць таварыства. Акругі мелі ад 3 да 9 гмінаў, акруговы камітэт складаўся з 3 чалавек (старшыня, падскарбі, сакратар). Павінна была існаваць найстражайшая канспірацыя – аб вышэйстаячым начальніку ведаў толькі падначалены яму старшыня. Для стварэння правінцыі на тэрыторыі Літвы і Беларусі ЦК накіраваў палкоўніка А.Аборскага. Літоўская правінцыя (Віленская, Гродзенская, Мінская губерні, Беластоцкая вобласць) была арганізавана ў маі 1821 у час Свентаянскіх кантрактаў. У лесе пад Вільнам сабраліся каля 15 чал. (браты Ю. і Ст.Гружэўскія, Ст. і С.Мацкевічы, М.Ромер, Ст.Солтан, Б.Мікуліч, І.Белазор, Струміла, Білевіч і інш.), якія прынялі прысягу П.т. На другім сходзе пад Вільнам, на Паплавах, былі прыняты ў тайнае таварыства маршалак шляхты ковенскай І.Завіша, А.Пацэй, ген. граф К.Прозар. У правінцыяльны камітэт увайшлі князь К.Радзівіл, І.Вайніловіч, памешчык К.Новамейскі, граф А.Солтан. Старшынямі гмін сталі Завіша, Білевіч, Ю.Гружэўскі, М.Ромер і інш. У 1822 г. у П.т. быў прыняты лідар віленскай моладзі Т.Зан. Асноўную ўвагу ў сваёй дзейнасці Літоўская правінцыя павінна была звярнуць на асобны Літоўскі корпус і арсенал зброі ў Вільні. Па сведчаннях І.Прандзінскага, дзейнасць П.т. заключалася «ў прыняцці новых сяброў, прычым неасцярожна, без выбару, а сябры ў сваю чаргу абыякава адносіліся да сваіх абавязкаў у таварыстве». П.т. налічвала каля 150 членаў. Да следства было прыцягнута 128, з іх – 90 членаў з заходніх губерняў, у тым ліку з літоўскіх (беларускіх) губерняў – 36. У маі 1822 пасля даносу А.Шнэйдера ў Варшаве былі арыштаваны кіраўнікі П.т. Членамі ЦК сталі больш памяркоўныя прадстаўнікі шляхты: падпалкоўнік С.Кржыжаноўскі, А.Пліхта, В.Гжымала, якія накіравалі дзейнасць не на пашырэнне сваіх шэрагаў, а на ўмацаванне існуючага становішча. Дзейнасць Літоўскай правінцыі з мая 1822 да 1823 практычна зышла на нуль, але пасля наладжвання сувязі з новым складам ЦК ізноў актывізавалася. У 1824-1825 П.т. правяло перагаворы з Паўднёвым таварыствам дзекабрыстаў аб сумеснай дзейнасці на ўмове перадачы беларускіх зямель будучай польскай дзяржаве, на што атрымалі згоду. Сувязі з дзекабрыстамі падтрымлівалі кн. А.Ябланоўскі, А.С.Градзецкі, ген.-маёр граф А.Хадкевіч, губернскі маршалак граф Г.Ф.Олізар, А.Чаркоўскі і інш. У 1826 следства па спра-

ве дзекабрыстаў выявіла існаванне П.т., пачаліся арышты. Палякаў-членаў арганізацыі судзіў Сенат Каралеўства Польскага, падданых Расіі, у тым ліку беларусаў – 5-ы дэпартамент расійскага Сената. 27 членаў П.т., выкрытых у сувязях з дзекабрыстамі, сядзелі ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Сярод іх з Гродзенскай і Віленскай губерняў: Ромер, Ю.Гружэўскі, Ян Ходзька, Струміла, Прозар, Завіша, Білевіч, Навамейскі, Вагнер. Прыгаворы расійскага Сената былі суровыя: Яблаunion ўскага асудзілі на 20 гадоў катаргі, але Мікалай I замяніў яе на пасяленне ў Казані, Машінскага – на 15 гадоў катаргі і наступнае пасяленне, Ромера – на 5 гадоў і пасяленне, Ходзьку – на 4 гады і пасяленне, Гружэўскага – на 5 гадоў і пасяленне і г. д. Польскі Сенат вынес дэманстрацыйна мяккі прыгавор (1828).

*Кр.:* Pamientniki generala Ignacego Pradzinskiego. – Krakyw, 1909. – T. 1; Lukasinski. Pamientniki. – W-wa, 1960.

*Літ.:* Воронков И.А. Польские тайные общества в Литве и Белоруссии в конце XVIII – первом 30-летии XIX в. //Исторические записки. – 1957. – Т. 60. – С. 285–303; Ольшанский И. Декабристы и польское национально-освободительное движение. – М., 1959; Askenazy Sz.Lukasinski. – W-wa, 1908. – T. 2.; Dylangowa H. Towarzystwo Patriotyczne i sad sejmowy. 1821–1829. – W-wa, 1970.

**ПРАМЯНІСТЫЯ, ТАВАРЫСТВА СЯБРОЎ КАРЫСНАЙ ЗАБАВЫ** – існуючая ў красавіку–чэрвені 1820 г. сярод віленскай студэнцкай моладзі легальная арганізацыя маральна-асветніцкай і палітычнай накіраванасці, створаная філаматам Т.Занам (Архіпрамяністы, Архі). П. павінны былі стаць «ахоўным шчытом» тайнага Таварыства філаматаў, «свайго роду сцяной, аб якую разаб’юцца ўдары, калі яны будуць калі-небудзь на нас абрушаны» (Т.Зан). Дзейнасць П. нагадвае функцыянаванне школы Піфагора. Тэорыя прамяністасці Зана абапіралася на тэорыі аб магнетызме, якія распаўсюджваў праз свой часопіс Е.Ляхніцкі, і на вучэнне С.Марэшаля аб прыродзе маральных з’яў. Паводле Зана, «кожны чалавек выдзяляе праменчыкі для дакладнага і прыгожага свайго аб’яднання душы з целам і творыць вакол сябе атмасферу шырокую ці вузкую, большую ці меншую, прыхільную ці агідную». Шубраўцу К.Контрыму Зан гаварыў: «Усе сілы, якія вядуць да добрага, называем прамяністасцю, да дурнога – распустай». Статут, «Пятнаццаць правілаў паводзінаў для моладзі, якая належыць Таварыству сяброў карыснай забавы», напісаў Ю.Яжоўскі. Яго абмеркавалі на маёўцы 29 мая, і 3 чэрвеня рэктар Віленскага універсітэта Ш.Малеўскі

зацвердзіў. Па Статуту мэтай П. было далучэнне моладзі да навукі, дабрадзейнасці, прыстойнасці, разважлівасці, добрых паводзін, сяброўства, узаемадапамогі. Як успамінаў прамяністы К.Качкоўскі, «праца, стараннае і сумленнае выкананне сваіх абавязкаў, маральныя паводзіны і ўзаемная павага да сябе, нарэшце, пастаянная падтрымка роднай мовы, літаратуры і гісторыі і ў цэлым усіх навук, наколькі магчыма, па-польску і сумесная дзейнасць па найшыракаму развіццю ў краі асветы». За афіцыйна зацверджанымі маральнымі правіламі хаваўся патрыятычны характар П. VII правіла абвяшчала: «Калі адчуеш прыхільнасць да айчыннай зямлі, дык можаш быць упэўнены, што зрабіў вялікі крок на шляху ўдасканальвання свайго сэрца». У VIII правіле гаварылася: «Прыхільнасць да айчыннай зямлі заключаецца ў тым, каб жадаць дабра сваім суайчыннікам рознага стану і ўсяму народу навогул, захоўваць карысныя звычаі сваіх бацькоў, любіць прыродную мову і вывучаць яе, мець у памяці гонар і подзвігі продкаў і наследаваць ім па меры сваіх сілаў і стану». Думкі аб адраджэнні Польшчы праявіліся ў створаных П. песнях, вершах, прозе, праграмных сачыненнях: харальная песня А.Міцкевіча «Гэй, радасцю вочы блішчаць!», «Прамяністы ямб» і «Пытанні прамяністага» Т.Зана, «Малітва прамяністага» М.Рукевіча. П. збіралі свае бібліятэкі з кнігаў патрыятычнага зместу, абменьваліся імі для чытання, перапісвалі і вучылі напамяць патрыятычныя вершы і працы. П. дапамагалі слабейшым студэнтам у вучобе, бедным – уладкавацца на працу гувернёрамі, рэпітытарамі або збіралі ахвяраванні для хуткай грашовай дапамогі. Гучны рэзананс мелі маёўкі П., якія адбыліся 19 красавіка, 18 і 29 мая, 11 чэрвеня ў ваколіцах Вільні (Пагулянцы, Паплавах, Грыбішках). Дабіраліся туды да ўсхода сонца, з розных пунктаў збору, групамі па 20–30 чал., каб не звярнуць увагі паліцыі. На маёўках чыталі свае вершы і прозу, выступалі з прамовамі, спявалі нацыянальныя песні, гралі ў розныя гульні (карты і більярд былі забаронены), у перапынках пілі малако (спіртныя напіткі забаронены) з белым хлебам або свежымі пірагамі. Дадому вярталіся вечарам. Філаматы, якія ўдзельнічалі ў маёўках, пазнавалі моладзь, а «шчырых і адкрытых» прыцягвалі ў свае шэрагі. П. былі вядомы не толькі ў Вільні, але ва ўсіх вакольных губернскіх і павятовых гарадах. Даследчык Б.Ліманоўскі лічыць, што ўплыў П. распаўсюджваўся на вучнёўскую моладзь «да ваколіц Себежа на Белай Русі, а з іншага боку да Крэмянца і Беластока». Колькасць П. дасягала, па розных дадзеных, 200–300 чал. (каля 33 % віленскіх студэнтаў). Яны падзяляліся на 7 аддзяленняў, або ваяводстваў (па колькасці коле-

раў вясёлкі – зялёнае, амарантавае, белае, блакітнае і г. д.) са сваімі канцылярыямі і чыноўнікамі: вялікі маршалак сачыў за парадкам на пасяджэннях і абвяшчаў прыгаворы, маршалак надворны закупляў на маёўкі харчаванне, падскарбі збіраў складкі, шамбеляны разносілі распараджэнні Архі, былі таксама стольнікі, лоўчыя, ваяводы і інш. чыны былой Рэчы Паспалітай. Распаўсюджванне П. выклікала ў кансерватыўных грамадзянаў, бацькоў студэнтаў, рэакцыйнай часткі прафесараў універсітэта і светароў нараканні, якія прывялі да забароны таварыства з боку рэктара: ён забараніў маёўкі і адабраў Статут. Пасля канікулаў студэнты павінны былі даць падпіску аб непрыналежнасці да П. У кастрычніку 30–40 былых П. увайшлі ў Таварыства філарэтаў. У 1822 г. па даносу прафесара матэматыкі Вырвіча пачалося першае следства па справе П. Следчы камітэт адрапартаваў А.Чартарыйскаму так, як ён хацеў: ніякага тайнага таварыства не існавала, а было дазволенае рэктарам. За Т.Занам, Т.Лазінскім, А.Міцкевічам быў усталяваны нагляд. Пад час следства 1823 г. П. ізноў прадсталі перад камісіяй. Філаматы і філарэты выкарысталі легальнасць П. для таго, каб паказаць непалітычны характар сваіх арганізацыяў і тым самым змякчыць прыгавор.

*Кр.:* Czarnocki M. Krotka wiadomosc o tajnych towarzystwach uczniow Uniwiersytetu Wilienskiego az do ich rozwi№zania w r. 1824 // Rocznik T-wa przyjaciol nauk w Wilnie. – 1907. – T. 1. – S. 1–38; Domeyko I. Filareci i filomaci // Z filareckiego swiata /Wyd. H.Moњжicki. – W., 1924. – S. 77–105; Korespondencja filomatow (1817–1823). / Wyb. i opr. M.Zielinska. – W., 1989. – S. 96, 102–105, 110, 111, 118, 121; Wspomnienia z papierow pozostalych po sp. K.Kaczkowskim general–sztabslekarzu wojsk polskich / Ulozyl T. – O.Orzechowski. – Lwow, 1876. – T. 1.

*Літ.* К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодёжи в 1819–1823 гг. – Варшава, 1898; Ланда С.С. У истоков «Оды к юности» // Литература славянских народов. – Вып. 1. Адам Мицкевич. К столетию со дня смерти: Сб. статей. – М., 1956. – С. 5–64; Шолкович С.В. О тайных обществах в учебных заведениях Северо- Западного края при князе А.Чарторийском // Памятники новой русской истории. – СПб., 1872. – Т. 2. – С. 103–177; Limanowski B. Historia demokracji polskiej. – W., 1957. – T. 1; Skowronek J. Mlodziez polska i jej organizacje w ruchu narodowym: 1795–1864. – W., 1994.

**ТАВАРЫСТВА АМАТАРАЎ НАВУК**, або ***Навуковае, Навучальнае*** – патаемная арганізацыя, заснаваная ў пачатку 1820 г. ся-

род вучняў шостага класа Свіслацкай гімназіі. Створана пад уплывам В.Гельтмана, выдаўцы «Варшаўскай дэкады» – органа Саюза вольных палякаў. У лісце да брата Юзэфа (07.01.1820), які вучыўся ў гімназіі, ён прыслаў праект статута арганізацыі (7 раздзелаў з 30 параграфаў), у якім вызначаліся мэта, абавязкі і правы сяброў і начальнікаў таварыства, парадак і прадмет пасяджэнняў. Мэта таварыства заключалася ў тым, каб «сумеснымі сваімі працамі ўдасканальваць айчынную мову і памнажаць творы польскага красамоўя». На следстве старшыня таварыства Д.Шлаеўскі прызнаўся, што ў прамовах і сачыненнях сяброў «ўтрымліваліся патрыятычныя думкі ў польскім духу, успаміны аб слаўных мужах былой Польшчы, намовы быць падобнымі да іх на славу Айчыне...». Сябры ТАН падтрымлівалі ідэю адраджэння Польшчы ў межах 1772 г. Сябры таварыства падзяляліся на: кандыдатаў, сапраўдных сяброў, сяброў-карэспандэнтаў, ганаровых сяброў. Кандыдаты павінны былі як мага больш бываць на пасяджэннях, каб добра падрыхтавацца да выканання абавязкаў сапраўднага сябра. Апошні абавязаны быў напісаць адзін твор у тыдзень, збіраць і даводзіць да ведама літаратурныя навіны, прысутнічаць на пасяджэннях. Сябрамі-карэспандэнтамі лічыліся тыя сапраўдныя сябры, якія выбылі з гімназіі; яны павінны былі напісаць 1 твор на працягу квартала, перапісвацца з сябрамі і пры знаходжанні ў Свіслачы бываць на пасяджэннях. Ганаровыя сябры садзейнічалі дзеянням таварыства сваімі парадамі і павучаннямі. Усяго вядома 15 сяброў таварыства, якіх узначаліў старшыня Д.Шлаеўскі, сакратаром быў выбраны Р.Вашчыловіч. Заканчэнне 6-га класа (апошняга), відаць, прывяло да самароспуску ТАН, хаця ёсць меркаванне, што яно існавала да арышта В.Гельтмана (1821).

*Крын.:* К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодёжи в 1819 – 1823 гг./ Издал Ф.Вержбовский. – Варшава, 1898.

*Літ.:* Таляронак С.В. Тайныя свіслацкія гурткі «Навуковы» і «Маральны» (1819-1820) //Весці АНБ. Серыя грамадскіх навук. – 1994. – № 3. – С. 56–63; Шолкович С.В. О тайных обществах в учебных заведениях Северо-Западного края при князе А.А.Чарторийском// Памятники русской истории /Ред. В.Кашпирёв. Т. II. – СПб., 1872.

**ТАВАРЫСТВА ВАЕННЫХ СЯБРОЎ** — рэвалюцыйная арганізацыя дзекабрысцкага тыпу, створаная летам 1825 г. у Літоўскім асобным корпусе, раскватараваным на тэрыторыі Гродзенскай губ.

Сваімі мэтамі яна была падобна да ранніх дзекабрысцкіх таварыстваў (Саюза вызвалення або Саюза благадзенства). Таварыства ваенных сяброў было арганізавана па ініцыятыве былога філамата Міхаіла Іванавіча Рукевіча. Актыўную ролю адыгралі капітан Літоўскага піянернага батальёна Канстанцін Густававіч Ігельстром і яго стрыечны брат, паручнік гэтага ж батальёну Аляксандр Іванавіч Вягелін. Начальнікам (прэзідэнтам) таварыства стаў падпаручнік Нясвіжскага карабінернага палка Пётр Іванавіч Гофман. Першую ступень таварыства, яго камітэт, склалі пяць ваенных: радавы А.М.Угрычыч-Трэбінскі, падпаручнік Самагіцкага грэнадзёрскага палка Э.А.Пятроўскі і тры вышэйназваныя. Усе яны павінны былі распаўсюджваць тайнае таварыства, сачыць за яго бяспекай і канспірацыяй, не шкадуючы моцы і сродкаў, «кахання, сяброўства і самога сваяцтва» і жыцця. Другая ступень («Таварыства згоды») складалася з грамадскіх асобаў: канцылярыст Беластоцкага галоўнага суда Л.І.Вронскі, служачы Беластоцкага дваранскага схода А.М.Грынявіцкі, шляхціц І.С.Высоцкі, настаўнік гімназіі Ф.В.Ардынскі. Яны займаліся «асветаю, паляпшеннем ума і сэрца», павінны былі мець прыкладныя паводзіны згодна з «Маральнымі меркаваннямі», прынятымі таварыствам. Член «Таварыства згоды» таксама захоўваў канспірацыю і ахвяраваў сваё жыццё на справу патаемнай арганізацыі. Трэцяй ступенню «Ваенных сяброў» стала былое самастойнае таварыства вучняў Беластоцкай гімназіі «Заране». Яе члены Л.І.Вронскі (начальнік), Ф.Баркоўскі, К.В.Ардынскі, А.Д.Яневіч мелі наступныя абавязкі: «асвета разума, паляпшэнне сэрца і ўмацаванне цела... абавязаны практыкавацца ў гімнастычных занятках, такіх як: страляць у цэль, фехтаваць, ездзіць вярхом і іншае». Сябры кожнай з трох ступеняў мелі сваю клятву, збіралі бібліятэку, рабілі грашовыя «складкі» (звычайныя, добраахвотныя, надзвычайныя) і выконвалі «Маральныя меркаванні». Статут (Правілы) «Ваенных сяброў» быў зацверджаны ў канцы чэрвеня 1825 года. Мэтаю таварыства лічылася «асвета сябе і іншых, узаемная дапамога і дабро агульнае» (са слоў Угрычыча-Трэбінскага). На следстве Гофман скажа, што ў будучым «таварыства гэтае ператворана было бы да іншых мэтаў». Пятроўскі на следстве пакажа больш акрэслена: «Вольнасць». Тады пад гэтым словам разумелі барацьбу супраць самадзяржаўя, прыгоннага права, палітычнай бяспраўнасці і г. д.

Таварыства «Ваенных сяброў» знаходзілася на стадыі фарміравання, калі было вымушана выступіць, выкарыстоўваючы раптоўную смерць Аляксандра І. Дваццаць чацвёртага снежня Літоўскі піянерны батальён, фурштацкая і пантонная каманды пастроіліся ў

карэ ў м. Браньск пад Беластокам. У наяўнасці былі 1 020 чалавек. Прысяга новаму імператару Мікалаю І была сарвана. Ваенныя сябры спрабавалі падняць на паўстанне Самагіцкі, Беластоцкі і Луцкі палкі, але ім гэта не ўдалося. *25* снежня батальён прыняў прысягу, як даносіў начальнік штаба корпуса М.С.Вельямінаў, «найлепшым парадкам». Следчая камісія з 21 студзеня 1826 г. на працягу 9 месяцаў дапрасіла ў палацу Браніцкіх звыш 140 чалавек. У 1827 г. Вягелін, Рукевіч, Ігельстром былі асуджаны на 10 гадоў катаржных працаў у Сібіры з далейшым там пасяленнем. На 5 гадоў катаргі і пасяленне ў Сібіры выслалі Грынявіцкага, Вронскага, Высоцкага, двух братоў Ардынскіх. У арыштанцкія роты Бабруйскай крэпасці былі прыгавораны: Гофман, Пятроўскі, М.Ф.Вільканец, Ваяховіч – кожны на 6 месяцаў; Баркоўскі і Яневіч – на 4 месяцы; Угрычыч-Трэбінскі – на 5 гадоў.

*Літ.:* Швед В.В. Беларускія старонкі гісторыі дзекабрыстаў. – Мінск: БелНДІДІАС, 1998. – С. 40–43; Швед В.В Літоўскі асобны корпус // ЭГБ. – Мінск: БелЭн, 1997. – Т. 4. – С. 386; Швед В.В. З дзекабрыстамі праз Беларусь // Беларусь. – 1990. – № 12. – С. 22-23; Швед В.В. Дзекабрысты на Шчучыншчыне // Шчучыншчына: Мінулае і сучаснае. – Ліда, 1997. – С. 87–89; Швед В.В. Літоўскага піянернага батальёна выступленне 1825 // ЭГБ. – Мінск: БелЭн, 1997. – Т. 4. – С. 384.

**ТАВАРЫСТВА ЗЛУЧАНЫХ СЛАВЯНАЎ** – патаемная дзекабрысцкая арганізацыя, створаная ў Наваград-Валынску афіцэрамі П. і А.Барысавымі, а таксама сасланым сябрам «Таварыства вольных палякаў», масонам Ю.К.Люблінскім у пачатку 1823 г. на аснове былога таварыства «Сяброў прыроды». У ТЗС уваходзілі ў асноўным маламаёмасныя дваране, якія часам не мелі ні зямлі, ні сялян і жылі за кошт свайго жалавання. Усяго было болей за 50 сяброў, сярод якіхаднымі з першых уступілі асобы, звязаныя з Беларуссю – І.І.Гарбачэўскі і І.І.Іваноў (сакратар таварыства). Уступаючыя прыносілі клятву на мячэ, якая была складзена з улікам вопыту карбанарскіх клятваў: «для вызвалення сябе ад тыранства і для вяртання свабоды, такой каштоўнай для роду чалавечага». Згодна з праграмнымі дакументамі («Катэхізісам», «Клятвенным абяцаннем») ТЗС выступала паслядоўным праціўнікам прыгоннага права («Не жадай мець раба, калі сам рабом быць не хочаш») і для выкупу сялянаў выдзеліла частку грошаў са сваёй грамадскай сумы. Сябры таварыства адмоўна адносіліся да саслоўнага ладу і самадзяржаўя, выказваліся за саслоўную роўнасць, «вольнасць жыцця»,

«свабоду», ліквідацыю «самаўладдзя» і ўвядзенне «дэмакратычнага прадстаўнічага праўлення». «Славяне» былі ўтапічнымі праціўнікамі багацця: «Не жадай больш таго, што маеш, і будзеш незалежным». Дабіцца ўмоў для выканання сацыяльных рэформаў ТЗС збіралася шляхам узброенага паўстання, у якім будзе ўдзельнічаць і народ. Яны праводзілі агітацыю сярод салдатаў, вырашылі стварыць вясковыя вучылішчы, каб уплываць на палітычную актыўнасць сялянаў. Сваёй ідэалогіяй сябры ТЗС набліжаліся да рэвалюцыйнасці дэмакратаў-разначынцаў. Галоўнай мэтай ТЗС было аб'яднанне ўсіх славянскіх плямёнаў і некаторых суседніх народаў (Расія, Польшча, Багемія, Маравія, Венгрыя з Трансільваніяй, Сербія, Малдавія, Валахія, Далмацыя, Краацыя) у адну фэдэратыўную рэспубліку. Гэта вызваліла б з феадальна-прыгонніцкіх путаў вытворчыя сілы жыццяздольных славянскіх народаў, а прыналежнасць «усеславянскай федэрацыі» пяці мораў (Чорнага, Белага, Балтыйскага і Адрыятычнага) склала бы спрыяльныя ўмовы для развіцця прамысловасці і гандлю. Восенню 1825 г. у ТЗС наспеў унутраны крызіс і ішла падрыхтоўка рэарганізацыі. Пасля пяці сумесных пасяджэнняў «славянаў» і «паўднёвікаў» у жніўні-верасні ў Ляшчынскім лагеры адбылося па прапанове С.І.Мураўёва-Апостала і М.П.Бястужава-Руміна аб'яднанне ТЗС з Паўднёвым таварыствам на аснове апошняга. Фармальна ТЗС перастала існаваць, бо з яго былі створаны дзве ўправы: адну склалі артылерысты, другую пехацінцы. Пасрэднікамі паміж Славянскімі ўправамі і Паўднёвым таварыствам сталі І.І.Гарбачэўскі і М.М.Спірыдаў. Не меней за 12 «славянаў» запісаліся ў атрад царазабойцаў, які склаў М.П.Бястужаў-Румін. 26 сяброў ТЗС у 1826 г. былі прыгаворваны Вярхоўным крымінальным судом па справе дзекабрыстаў.

*Крын.:* Восстание декабристов. Материалы. Т. 5. – М.-Л., 1926; Горбачевский И.И. Записки. Письма. – М., 1963.

*Літ.:* Нечкина.М.В.Общество соединённых славян. – М.-Л., 1927; Яе ж. Движение декабристов. Т. 2. – М., 1955; Швед В.В. Беларускія старонкі гісторыі дзекабрыстаў. – Мінск, 1998.

**ТАВАРЫСТВА ПАДХАРУНЖЫХ,** ***змова Высоцкага*** – патаемная арганізацыя, заснаваная па ініцыятыве падпаручніка П.-Я.Высоцкага ў варшаўскай Школе Падхарунжых Пяхоты 15-16.12.1828 г. Ва ўстаноўчым пасяджэнні ўдзельнічалі К.Каршніцкі, К.Махнацкі, С.Панінскі, С.Ціхоўскі, А.Ласкі, К.Пашкевіч, Ю.Гуроўскі, Ю.Дабравольскі. Дзень заснавання выбраны з нагоды дня імянінаў маёра В.Лукасінскага – главы Нацыянальнага масонства,

пасаджанага ў турму, прызнанага падхарунжымі сваім духоўным папярэднікам. Уступаючыя давалі прысягу «прыкласці ўсе намаганні, пасвяціць жыццё, калі гэта будзе патрэбна, для абароны згвалчанай канстытуцыі». Мэтай ТП была падрыхтоўка ўзброенага паўстання сіламі войска, якое потым перадасць уладу «людзям больш мудрым», аўтарытэтным і лепш падрыхтаваным да кіраўніцтва краінай, заслужаных у барацьбе за яе незалежнасць. ТП падтрымлівала сувязь з сеймавай апазіцыяй (калішанамі і іншымі) праз паслоў Т.Мараўскага, Г.Малахоўскага (абодва – сябры Патрыятычнага таварыства), Ф.Тжцінскага. Мела кантакты з І.Лялевелем, Ю.-У.Нямцэвічам, блізкім з А.-Е.Чартарыйскім. Першы раз ТП планавала арганізаваць паўстанне ў сакавіку, другі раз – 20.05.1829 г., пад час каранацыі Мікалая І. Абодва планы не былі здзейснены, бо не падтрыманы «духоўнымі праваднікамі народа». З гэтага часу наладжаны кантакты з групай Ю.Заліўскага. Да лета 1830 г. актыўнасць сяброў ТП знізілася. Са жніўня пачалася фарміравацца структура больш разгалінаванага таварыства, у якое ўступалі не толькі падхарунжыя, але і студэнты, інтэлігенцыя. Да кастрычніка секцыі былі ў большасці варшаўскіх палкоў пяхоты, батальёне сапёраў, артылерыйскіх батарэях, зімовай Школе Артылерыі, Варшаўскім універсітэце (гурткі М.Швейзэра, Н.Шыманскага, Я.Барткоўскага). Са студэнтаў, журналістаў і літаратараў, звязаных з рэдакцыямі «Польскага Кур'ера» і «Агульнай Газеты», быў створаны гурток Л.Набеляка. Агульная колькасць сяброў складала каля 200 малодшых афіцэраў. Слабасцямі ТП былі адсутнасць адзінага кіраўніцтва і саперніцтва паміж начальнікамі секцыяў. Складзены ў гэты час план паўстання прадугледжваў забойства цэсарэвіча Канстанціна Паўлавіча, дэзарганізацыю і разбраенне рускага войска ў Варшаве і нейтралізацыю польскіх генералаў, верных цэсарэвічу. У сувязі з пачаўшымі арыштамі студэнтаў і некаторых падхарунжых, зменай міжнародных абставінаў (падрыхтоўка рускай інтэрвенцыі з удзелам польскай арміі ў Бельгію) было вырашана паскорыць ажыццяўленне плана. Першапачаткова прызначаны дзень 10 снежня быў заменены на 29 лістапада на пасяджэнні сяброў ТП Ю.Заліўскага, П.-Я.Высоцкага, К.Бранікоўскага, Л.Набеляка, С.Гашчынскага, К.Шлегеля, якое адбылося 27 лістапада. Пасля паўстання самараспусцілася.

*Літ.:* Bielecki R. Belwederczycy i podchoranzowie. – W., 1989; Tokarz W. Sprzysiezenie Wysockiego i Noc listopadowa. – W., 1925.

**ТАВАРЫСТВА СЯБРОЎ, «Таварыства гонару» –** патаемная вайсковая арганізацыя філаматцкага тыпу, існаваўшая ў 1822–

1826 г. у часцях асобнага Літоўскага корпуса. Заснавана штабс-ротмістрам А.Хэлміцкім і паручнікам Ю.Валодзька ў м. Дзярэчын сярод афіцэраў Валынскага ўланскага палка. У ТС уваходзілі паручнікі 29-й конна-артылерыйскай роты Герловіч і Літоўскага ўланскага палка Валодзька-2, таго ж палка разжалаваны з карнетаў у радавыя Э.Ратыньскі, карнет Татарскага ўланскага палка Ястржэмскі і іншыя – усяго каля 25 чалавек. Сакратаром ТС быў Касаржэўскі. Статут, ці «Правілы сяброў», напісалі заснавальнікі. Адпаведна яму структура ТС была дзвюхступеннай, ніжэйшая захавала масонскі рытуал прыёму новых сяброў: яны давалі клятву на перакрэшчаных шаблях не раскрываць тайну таварыства. Пад час першага следства над удзельнікамі ТС зімою 1826 г., якое праводзіў камандзір брыгады генерал-маёр Г.Ігельстром, бацька дзекабрыста К.Г.Ігельстрома, удалося ліквідаваць паперы. Гэта дазволіла пад час другога следства ў ваенна-судовай камісіі пры корпуснай кватэры ў жніўні 1826 г. зняць з таварыства абвінавачванні ў палітычнай дзейнасці і падкрэсліць свае манархічныя сімпатыі, палітычную лаяльнасць і благанадзейнасць. Згодна з напісаным Хэлміцкім для следства Статутам (12 артыкулаў) галоўнымі абавязкамі сяброў таварыства былі вернасць імператару, выкананне загадаў начальства і распараджэнняў урада, адхіленне сяброў ад дрэнных учынкаў і звычак, добрыя адносіны да падначаленых ім салдатаў, умацаванне сяброўства паміж афіцэрамі і ахова гонару іншага, як свайго, удасканальванне сябе шляхам напісання сатырычных твораў, з якімі трэба выступіць на пасяджэнні таварыства. У верасні 1826 г. усе арыштаваныя сябры былі вызвалены «за недахопам улік». Але аб палітычным характары дзейнасці сведчаць кантакты ТС: з масонамі ложы «Вузел еднасці на Усходзе Навагрудка», братамі якой былі 9 сяброў; з філаматамі праз юнкера Д.Пясецкага і А.Міцкевіча; з «Ваеннымі сябрамі» праз А.Хэлміцкага-Ю.Валодзьку і К.Ігельстрома-А.Вягеліна, а таксама праз карнета Ю.Маслоўскага. Пад час выступлення Літоўскага піянернага батальёна К.Ігельстром спадзяваўся на падтрымку палкоў 2-й брыгады, дзе дзейнічала ТС.

*Літ-ра:* Ланда С.С. У истоков «Оды к юности» // Литература славянских народов. Вып. 1. Адам Мицкевич. К столетию со дня смерти: Сб. статей. – М., 1956; Landa S. Mickiewicz i tajny Zwiazek Przyjaciol // Kwartalnik Instituta Polsko-Radzieckiego. – 1956. – № 1. – S. 179–200.

**ТАВАРЫСТВА ШУБРАЎЦАЎ** – арганізацыя, якая ў 1817–1822 г. дзейнічала ў Вільні з дазволу мясцовай улады. Заснавальні-

камі таварыства былі, па словах рускага гісторыка асветы С.Бархатцава, «паплечнікі Чартарыйскага па справе апалячвання Паўночна-Заходняга краю» прафесар хіміі, філасаф Енджэй Снядэцкі; доктар філасофіі і медыцыны, прафесар Якаў Шымкевіч (ён быў першым, а Снядэцкі – другім прэзідэнтам); сакратар Віленскага універсітэта, загадчык бібліятэкі і супрацоўнік універсітэцкага выдавецтва К.Кантрым. Апошні разам са студэнтам М.Балінскім напісалі статут таварыства, які меў 16 параграфаў. Звернем увагу на два з іх: у першым гаварылася, што добра зразумелае каханне да Айчыны – гэта не ўсхваленне ўсяго свайго, кроўнага, а і крытыка недахопаў, каб выправіць іх; у чацвёртым быў запісаны абавязак сяброў таварыства ўзяць сабе імя нейкай выдатнай асобы з гісторыі ВКЛ і падрыхтаваць пра яе артыкул для сатырычнага выдання «Wiadomosci Brukowe» («Вулічныя навіны»).

Гэта быў орган таварыства, якое спачатку і збіралася для яго выпуску і распаўсюджвання, а пазней мела яўную і патаемную мэты. Адкрыта шубраўцы выступалі ў сваіх артыкулах (за 6 гадоў вышла 287 нумароў) супраць заганаў у жыцці грамадства, заклікалі да асветы, любові, да прыстойнага жыцця. Гэтым яны хацелі, як піша Бархатцаў, «ачысціць і ажывіць у яго (грамадстве. – В.Ш.) усведамленні старыя польскія ідэалы і адрадзіць імкненне да іх, прымірыць варагуючыя па якіх-небудзь прычынах польскія элементы ў краі і зрабіць іх паміж сабой салідарнымі, а галоўнае – узбудзіць у іх патрэбу палітычнай і гістарычна-польскай адукацыі, каб праз гэта зрабіць іх потым нявольнымі саўдзельнікамі ў пачынаючымся патрыятычным руху». Але не трэба перабольшваць «польскасць» шубраўцаў. У 147 нумары «Вулічных навінаў» быў змешчаны артыкул аб «Варшаўскім сябры», які надаслаў ім ліст, дзе між іншым пісаў: «Праўда, іншы раз нават вашы прыхільнікі скардзяцца, што для палякаў вы пішаце па-кітайску, што яны не могуць разумець вас. Вы пішаце для Літвы, а не для Кароны. Вы менш клапоціцеся аб тым, ці зразумее вас Варшава, абы толькі зразумелі вас Вільна і Літва...». Шубраўцы імкнуліся да адраджэння Літоўска-Польскай канфедэрацыі з палітычнай аўтаноміяй Літвы.

*Літ.:* Бархотцев С. Из истории Виленского учебного округа // Русский архив. – 1874. – Т. 1. – № 5. – Стб. 1149–1262; Tretiak J. Mlodosc Mickiewicza (1798–1824): Zycie i poezya. T. 1. – Petersburg, 1898. – S. 59-60, 66–68.

**ФІЛАМАТЫ** – таварыства, створанае сярод студэнтаў Віленскага універсітэта. Спачатку ў 1806 г. студэнт універсітэта І. Ляле-

вель і ад'юнкт К. Кантрым у 1806 стварылі адкрытае таварыства, якое імкнулася да шырокага апавяшчэння аб сваёй дзейнасці і было, як піша польскі даследчык Трацяк, «аздоблена найвялікшымі свяцілямі навукі». У 1816 г. вучні Ляляевеля аднавілі таварыства. Па сведчанню Ф.Яжоўскага, ён, А.Міцкевіч, Т.Зан, А.Петрашкевіч, «маючы блізкія паміж сабой зносіны, разважаючы аб навуках, пісьменніках, кнігах, арганізавалі даволі цесную кампанію, або таварыства». Гэта пацвярджаюць і паказанні Міцкевіча. Канчатковае афармленне ў самастойную тайную арганізацыю адбылося ў кастрычніку 1817 г.

Можна сказаць, што з гэтага часу пачалася філамацкая эпоха ў развіцці патаемных і паўпатаемных арганізацый на тэрыторыі Беларусі і Літвы, бо ад філаматаў зыходзіла ініцыятыва аб іх стварэнні, яны аказвалі ўплыў на характар дзейнасці больш дзесяці вучнёўскіх, студэнцкіх і нават ваенных гурткоў і таварыстваў. Іх аб'ядноўвала мэта – барацьба за нацыянальнае адраджэнне, а таксама тактыка дзеянняў: каб прыдаць філаматычнаму руху ў вачах непрысвечаных «нявінны выгляд», была прыдумана «ідэя дзвюх мэтаў». Для адных – вывучэнне навукаў і дапамога ў гэтым іншым, выхоўванне дабрадзейнасці і брацкага кахання, заняцце літаратурай, рамёствамі і мастацтвамі, распаўсюджванне адукацыі ў грамадстве. Такая «адкрытая» мэта, па словах Ф.Малеўскага, будзе прыцягваць любога дабрамыснага чалавека, які наўрад ці здагадаецца, што гэта пачатковы пункт вялікіх і смелых намераў. Для кіраўніцтва і справадзейных членаў адкрываецца «патаемная» мэта: адраджэнне гуманных адносінаў у грамадстве, ліквідацыя прыгоннага права, аднаўленне Рэчы Паспалітай з захаваннем аўтаноміі Літвы.

На ліцвінскі характар філаматаў і створаных імі таварыстваў (філарэтаў, прамяністых, заранаў і інш.) указваў імперскі камісар М.Навасільцаў. У сваім рапарце Канстанціну Паўлавічу ён заўважыў, што допыты філаматаў і філарэтаў «ясно обнаружили, что под словом приверженность к своему краю разумелась не приверженность к Российской империи вообще, но только к губерниям, составляющим Виленский учебный округ». Другі факт, які падкрэслівае ліцвінскасць таварыстваў, асобы заснавальнікаў. Імі сталі: А.Міцкевіч з Навагрудка, Т.Зан з Маладзечна, А.Петрашкевіч з Мінскай губ. Ля вытокаў арганізацыі быў і Я.Чачот з Гродзенскай губ. Трэці факт – з арыштаваных 108 філаматаў і філарэтаў, па дадзеных на 1822 г., было з Мінскай губ. – 22 чал., з Гродзенскай губ. – 25, з Беластоцкай вобл. Гродзенскай губ. – 7, з Вілен. губ. – 27. Па іншых дадзеных: з Мінскай губ. было 33 філаматы і філарэты, з

Гродзенскай губ. – 28, з Магілёўскай – 5. Такім чынам, ад 81 да 104 чалавек было ліцвінскага (беларускага) паходжання.

Слушна пісала А.Віткоўска, што ў сцянах Віленскага універсітэта сустрэлася моладзь, выхаваная на беларускай рэгіянальнай культуры «herbowego gminu» (простанароддзя), «аб'ядnaная ў Вільні, у мурах адной вучэбнай установы, адчула сябе «адзінствам моцным», упаўнаважаным да захоўвання сваёй рэгіянальнай асаблівасці. Нават больш. Літоўская рэгіянальнасць стала асабліва актыўнай часткай іх свядомасці, іх спосабу бачання сябе. Суправаджае ім яна таксама няўстанна, як цвярозае разуменне грамадскай сітуацыі і пазіцыя ў жыцці, якую бацькі не падаравалі і якую трэба здабыць самому». Сваю «Літву, бацькоўскі край» увасаблялі філаматы і філарэты ў сваіх літаратурных творах, асабліва А.Міцкевіч, Я.Чачот, Т.Зан, А.Петрашкевіч.

Удзельнікі філамацкага руху спрабавалі вывучаць свой край пад час канікул. Была падрыхтавана і без дазволу ўлад надрукавана ў Віленскай базыліянскай друкарні інструкцыя «Геаграфічнае апісанне». Яна раздавалася ў 1821 г. філарэтам для вывучэння і статыстычнага апісання сваіх парафіяў па такіх пытаннях, як месцазнаходжанне населенага пункта, яго прастора і паверхня, шляхі, рэкі, каналы, клімат, стан насельніцтва, развіццё эканомікі, маральны стан, норавы, звычаі, матэрыяльная і духоўная культура.

*Літ.:* Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 4. – Минск: Наука и техника, 1979. – С. 270-271; К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823 гг. / Ф.Вержбовский. – Варшава, 1898. – С. 81–84; Мохнач Н.Н. Идейная борьба в Белоруссии в 30-40-е годы XIX в. – Минск: Наука и техника, 1971. – С. 26; Цвірка К. Паданне пра філаматаў, або Доля аднаго пакалення // Філаматы і філарэты. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. – С. 7–32; Швед В.В. Падзеі і постаці Гродзенскай даўніны. – Гродна, 1995. – С. 126–136; Tretiak J. Miodoњж Mickiewicza (1798–1824): Zycie i poezya. T. 1. – Petersburg, 1898. – S. 59–60, 66–68; Moњжicki H. Ze stosunkyw wilenskich w okresie 1816–1823 // Z filareckiego swiata: Zbior wspomnien z lat 1816–1824. – W-wa, 1924. – S. 7; Witkowska A. Mickewicz. Slowo i czyn. – W-wa, 1975. – 320s.

**ФІЛАРЭТЫ** – таварыства віленскіх студэнтаў, якое пачало сваю гісторыю з верасня 1822 г., калі Т.Зан разам з Ф.Малеўскім напісалі статут таварыства. 30–40 былых прамяністых склалі аснову, а потым далучыліся іншыя. Колькасць усіх падаецца розная: па

матэрыялах следства – 166 чал., па ўспамінах І.Лабойкі – 215 чал., па паказаннях паліцыі і па дадзеных гісторыка У.Ігнатоўскага – 300 чал. Усе сябры падзяляліся на 4 аддзелы адпаведна 4 факультэтам універсітэта, а таксама на саюзы. Адміністрацыя таварыства была вышэйшай і ніжэйшай. Аб мэце філарэтаў гаварылася ў першым параграфе статута: «Узаемная дапамога ў патрэбе, у авалоданні ведамі і ўмацаванні маральнасці, каб кожны з карысцю мог быць выкарыстаны на дзяржаўнай службе...». Але вось што казаў у адной са сваіх прамоваў С.Макавецкі: «Палітычныя падзеі і Урад, пад якім цяпер знаходзімся, ясна даказвае нам, што цеснае сяброўства і злучэнне юнакоў у адзін саюз ёсць неабходнасць, каб пры выпадку падаць сяброўскую руку і, злучаючы руку з рукой, вярнуць Айчыне былое яе існаванне». Гэты ж змест і ў вершы Я.Янкоўскага, прачытаны на імянінах М.Маліноўскага: «Калі неапантаная сквапнасць дзікіх суседзяў выкрала ў нас Айчыну і цяжкія аковы наклала на храбры Богам каханы народ, дык усемагутны валадар нябёс, каб аслабіць нашу долю, стварыў новае племя старажытных сарматаў. Вы, браты, складаеце гэтае племя, вам прадвечная мудрасць».

Патрыятычны характар таварыства філарэтаў даказваюць наступныя факты. Статут патрабаваў ад усіх уступаючых падпісаць прысягу-абяцанне «словам паляка». Патрыятычныя заклікі, узбуджэнне польскай нацыянальнасці і любові да былой Айчыны гучалі ў вершах, сачыненнях і прамовах філарэтаў. Яны чыталі кнігі па польскай гісторыі (напрыклад, Ю.Нямцэвіча, С.Сташыца, Г.Калантая, Ф.Чапскага, Ф.Макульскага). Захоўвалася патаемнасць сходаў філарэтаў, кожны абяцаў: «...Ні перад нікім аб існаванні і аб заняццях таварыства абвяшчаць не буду...».

У пачатку 1821 г. было прынята рашэнне аб рэарганізацыі таварыства. Жадаючыя маглі ўнесці свае прапановы. Кіраўніцтва падвергласся крытыцы за ўзурпацыю ўлады, ізаляванасць ад астатніх сяброў, за вялікія навуковыя абавязкі. У пачатку мая 1822 г. Т.Зан вырашыў спыніць існаванне таварыства. Для гэтага былі аб'ектыўныя прычыны: частка студэнтаў скончыла універсітэт, частка ахладзела да філарэцкіх абавязкаў, выязджаў з Вільні сам Зан, выйшаў указ аб закрыцці масонскіх і іншых патаемных таварystваў, узмацніўся нагляд паліцыі за віленчанамі ў сувязі з падрыхтоўкай царскага агляду гвардыі. Зан напісаў 7 экзэмпляраў акта аб закрыцці таварыства і запрасіў да сябе праваднікоў, якім даручыў сабраць пасяджэнні ўсіх саюзаў у адзін час і абвясціць аб закрыцці таварыства. З усіх былі сабраны падпіскі з абавязацельствам захаваць яго існаванне ў таямніцы. Гэтыя паперы разам з актамі і пратаколамі

пасяджэнняў Зан спаліў. У снежні 1822 г. філарэты аднавіліся ў новай якасці – як блакітныя філадэльфісты і праіснавалі да кастрычніка 1823 г.

*Літ.:* Ігнатоўскі У.М. Гісторыя Беларусі ў XIX-пачатку XX стст. – Менск, 1925. – С. 36; К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодёжи в 1819 – 1823 гг. / Ф.Вержбовский. – Варшава, 1898. – С. 24–26, 38, 41, 49, 57; Шолкович С. Польская пропаганда в учебных заведениях Северо-Западного края // Сборник статей, разъясняющих польское дело по отношению к Западной России / Сост. С.Шолкович. – Вильна, 1885. Вып. 1. – С. 123, 129, 260, 265–267; Archiwum filomatyw / Wyd. J.Czubek. – Cz. 2, t. 2. – S. 376–377, 403; Fiszman. S. Wspomnienia Iwana Lobojki o procese filoretyw // Kwartalnik Instytutu Polsko–Radzieckiego. – 1953. – № 3. – S. 30.

# ЗМЕСТ

Даведачнае выданне

**Швед** Вячаслаў Вітальевіч

МАСОНЫ І ЛОЖЫ НА ЗЕМЛЯХ БЕЛАРУСІ
(КАНЕЦ XVIII – ПЕРШАЯ ЧВЭРЦЬ XIX СТ.)

Біябібліяграфічны слоўнік

Рэдактар Н.П. Дудко
Камп'ютарная вёрстка: І.П. Зімніцкая
Вокладка: В.В.Канчуга

Здадзена ў набор 17.08.2006. Падпісана да друку 04.01.2007.
Фармат 60x84/16. Папера афсетная.
Друк RISO. Гарнітура Таймс.
Ум.друк.арк. 16,27. Ул.-выд.арк. 16,93. Тыраж 250 экз. Заказ .

Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны
універсітэт імя Янкі Купалы».
ЛВ № 02330/0133257 ад 30.04.2004. Вул. Пушкіна, 39, 230012, Гродна.

Надрукавана на тэхніцы выдавецкага цэнтра
Установы адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны
універсітэт імя Янкі Купалы».
ЛП № 02330/0056882 ад 30.04.2004. Вул. Пушкіна, 39, 230012, Гродна.